# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(730) ВЕРАСЕНЬ, 2014**

**Выдаецца з 1953 года**

**9**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Выдавецкі дом «Звязда»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

*Святлана ДЗЯНІСАВА*

# БРАМА Ў ПАЛЕССЕ. АРТЫКУЛ-ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ І СЁННЯ

***Або «Званы ў прадоннях азёр-2», але гэта ўжо занадта саманадзейна і досыць рызыкоўна.***



***Для тых, хто чытае гэтыя радкі і ані не разумее, у чым тут справа, тлумачу: «Званамі ў прадоннях азёр» назваў свой артыкул-падарожжа па Палессі самы знакаміты аўтар «Маладосці» ўсіх часоў Уладзімір Караткевіч.***

Падарожжа тое ладзілася ўлетку 1969 года (выязджалі з Мінска на самым пачатку «ласкавага чэрвеня», як пісаў Уладзімір Сямёнавіч, якога я, з дазволу чытача, далей буду згадваць больш лаканічна, але не менш паважліва. — **У. С.**), артыкул друкаваўся ў № 12 за той жа 1969 год і меў, мяркуючы па ўспамінах самых розных людзей, вельмі вялікі рэзананс. Ведаю, прынамсі, што У. С. надта ж прасіў рэдакцыю нічога ў тым сваім тэксце не правіць і не скарачаць. «Стары, вельмі прашу, — маліў ён, звяртаючыся да галоўрэда Асіпенкі («стары» — любімы зварот У. С. да сяброў і ўвогуле паважаных ім людзей), — вельмі прашу, не праўце. Лепш зусім не друкуйце». Надрукавалі. Але Асіпенка ўсё ж падстрахаваў сябе і аўтара: «выкасіў» з таго тэксту цэлы абзац недзе ў канцы. Падумаў так: мо Караткевіч не заўважыць.



*«І пайшла рака».*
*І няма нават персідскай княжны, якую можна было б дзеля ўзняцця настрою ўтапіць.*

А Караткевіч заўважыў. Адбылося, уласна кажучы, тое, што адны, людзі практычныя і нават, я б сказала, заземленыя, называюць звычайным збегам абставін, другія, натуры грунтоўныя і збольшага рамантычныя, — «торжеством справедливости», трэція, не мною названыя інтуітамі, ірацыяналамі і містыкамі, сыходзячы з пазіцый свайго светапогляду, — промыслам Божым.

Караткевіч заўважыў, што няма абзаца, забегшы ў рэдакцыю выпадкова, перад самай здачай нумара ў друк, і дзяжурная па яго просьбе ласкава вярнула кавалачак тэксту на месца, палічыўшы, што яго «выкасілі» выключна ад перастрахоўкі — баючыся, што месца не хопіць. Месца якраз хапала, па нумары дзяжурыла чароўная Вера Палтаран, і, такім чынам, атрымалася па-караткевічаўску.

Той артыкул вельмі тады хвалілі — за смеласць, праўдзівасць, аб'ектыўнасць паказу сучаснага Палесся… Сцісла кажучы — за праблемнасць. Пасля і разбілі яго ўшчэнт — за тое самае. І ўсё праз вернуты абзац. «Да якой пары «Маладосць» будзе дапускаць такія ляпы!» — крычалі тыя, каму дазволена было так крычаць. «Ды судзіць іх трэба, вось што!» — пагражалі тыя, ад каго і трэба было чакаць пагроз. «Во-во, дзесяць гадоў аўтару, дзесяць рэдактару — і перастануць тады памыляцца», — згаджаючыся, падлічвалі тыя, хто не баяўся такое падлічваць. Кажучы карацей, гэта было крута.

Чытаеш артыкул сёння — і быццам нічога асабліва вострага не заўважаеш. Так, прайшло сорак пяць гадоў. Пытанні, сама пастаноўка якіх тады выглядала як чалавечы доўг і грамадзянскі подзвіг, страцілі рэзкасць за іншымі, куды больш надзённымі, і хоць, здавалася б, і сёння яны актуальныя, але… неяк не так баляць. Ды і караткевічаўскай разняволенай манерай пісання, выкарыстанай у тым артыкуле, сёння мала хто можа ўразіцца. У літаратурныя часопісы, што праўда, і па-ранейшаму пішуць не так, як Караткевіч прапаноўваў і, значыць, завяшчаў, — усё баяцца выбіцца з нейкай старой, яшчэ да У. С. укатанай каляіны, усё ўзіраюцца ў стыль папярэднікаў — як у нешта некае, вялікае і непарушнае, усё трымаюцца нечага такога, чаго трымацца, сказаць па праўдзе, азначае не развівацца, а целяпацца…

Так, як пісаў Караткевіч, пішуць цяпер звычайныя блогеры. Ну, не ўсе, канечне. Хапае і сярод іх «фаблазаў і прудомаў». Але тыя, чые думкі даспадобы галоўрэдам папулярных глянцавых старонак, пішуць прыкладна так. Не, вы не тое падумалі: я не збіраюся тут дапісацца да таго, што Караткевіч звычайны блогер ці што сёння яго б друкаваў глянец (друкаваў бы, між іншым, чаму не?!). Мой артыкул — не калька з караткевічаўскага, але абапірацца на яго я, безумоўна, буду.

Бо…



*Куры заведуюць лаўкай.*

Па-першае, мы прысвячаем гэты нумар Палессю (то бок, маем на мэце ўзгадаць, што, як сам У. С. пісаў, «і за Гомлем людзі е»), па-другое — самому У. С., які сорак пяць гадоў таму зрабіў «Маладосці» такі слаўненькі падарунак.

## I. ПАЧАТАК ЛАСКАВАГА ЛІПЕНЯ

У. С. піша: «На самым пачатку ласкавага чэрвеня званы паклікалі з Мінска адразу трох чалавек», называючы сябе («ваш пакорлівы слуга»), Валянціна Ждановіча («фоталетапісец вылазкі») і аднаго мастацтвазнаўцу (чыё імя — як мастацтвазнаўцы — нікому цяпер не вядома), які мусіў, што праўда, далучыцца пазней, «недзе ў Мазыры», бо найперш яму карцела адведаць іншыя званы — браслаўскія. Узбраеннем падарожнікаў былі фотаапарат, заплечнікі, вуды і мужнасць. Апошняе пры такім папярэднім паходным камплекце ў падарожжы на такую адлегласць я асабіста назвала б іначай — геройствам. «Абедзьве журналісткі, якія павінны былі ўваходзіць у нашу групу, у апошні момант адмовіліся ехаць, спасылаючыся на больш-менш аб'ектыўныя прычыны», — піша У. С. далей, узводзячы большменшаб'ектыўнапрычыннасць у ранг «таямніцы жаночай душы». Ну, няхай сабе.

Што мы маем сёння?

Клікалі хутчэй не званы, а званочкі. З'яўляючыся прыхільніцай даўніны і ўсялякай сакральнасці, аўтарка гэтага артыкула тым не менш яшчэ і аматарка свету раслін, і *campanula persicifolia* з гэтай прычыны



*Шаша, катушкі саломы пры ёй, раскіданыя ў мазаічнай выпадковасці па залацістым полі, і пасярод гэтага ўсяго — верталёт.*



*Чацвёрты ўдзельнік экспедыцыі, персоне якога прысвечана асобная частка аповеду.*

гучыць для яе не менш прыцягальна, чым *campana*, адліты *in campo*. Тым больш што так з гэтымі *campana-campanula* ўсё пераплецена, што першыя некалі ў полі адліваліся і ад таго такую назву маюць, а другія ў полі растуць ды яшчэ раз на год — у ноч на Івана Купалу — звіняць, быццам першыя, падарожжа ж, пра якое пішу, якраз і захапіла тую самую купалаўскую ноч. Гэта раз. Па-другое, выправіцца з Мінска на Палессе сёлета меліся не трое, як тады, а трошкі шырэйшы склад, ды не як Караткевіч (спачатку «да Гомля» паветраным лайнерам, пасля да Давыд-Гарадка параходам), а… на веласіпедах і… зараз напішу дзіўную рэч, але гэта, хутчэй за ўсё, магло быць праўдай. Я, калі дазволіце, заяўлю пра гэта ціхенька, амаль шэптам: каманда, якая збіралася паўтарыць шлях Караткевіча, намервалася выкарыстоўваць сяды-тады, не часта, сякія-такія прыёмчыкі левітацыі. Кажу гэта ўпэўнена, бо адзін з той няспраўджанай каманды, авантажна-эпатажны Віця Лупасін (нешта яго з Караткевічам зводзіць) дапісваў якраз першую частку свайго рамана «Белая інтуіцыя», ну і, знаходзячыся ў тэме, скарыстацца тэарэтычнымі дасягненнямі сусветнага розуму на практыцы запраста мог бы. Але не адбылося…



*«Яны цвілі шалёна над морам разнатраўя».*



*Вясёлы фларыстычны draw-well-danse.*



*Разнымі налічнікамі на вокнах выхваляецца ледзь не кожная хата.*

У падарожжа за недахопам адважных выправіліся проста «бывалыя»: капітан каманды, ён жа кіроўца, ён жа спадарожнік аўтара па жыцці ва ўсёй яго паэзіі і прозе, — з вудамі, лодкай, палаткай, халадзільнікам, газавай пліткай, ботамі, коўдрай, падушкай, рыдлёўкай, стулам, сталом, кацялком, закладзенымі ва ўсе магчымыя адсекі вялікага зграбнага шэрага шатла (Караткевіч назваў параход, на якім плыў, маленечкай акуратнай шкарлупінай); аўтарка гэтага артыкула — з фотаапаратам і дыктафонам, блакнотам, каструляй, патэльняй і… вось не паспела набыць такі кубак у бобкі, як у Караткевіча); яшчэ адзін удзельнік — Арчыбальд: балбатун, прыдумшчык і махляр з амбіцыямі, звычайным навігатарам не ўласцівымі (але паколькі звычайныя навігатары не носяць такіх прэтэнцыёзных імёнаў, як у нашага, то і няма чаго крытыкаваць). І не «недзе ў Мазыры», але акурат побач, а дакладней, у ваколіцах вёскі Касцюковічы далучыўся да нас чацвёрты ўдзельнік экспедыцыі, персоне якога варта прысвяціць асобную частку аповеду, што я і зраблю, назваўшы яе «Кот, дзяжурны наадварот» і размясціўшы, згодна з храналогіяй падарожжа, трошкі ніжэй.

## II. АДНЫМ СЛОВАМ — КАЗАЗАЕЎКА

«…І адразу пайшла рака — піша Караткевіч. — … І пайшлі рудыя жалязняковыя вапняковыя берагі з гнёздамі берагавак… І свінцовая, як восенню, вада б’ецца аб іх». Далей — пра баладную журбу, што просіцца ў сэрца. І што няма персідскай княжны, якую можна было б дзеля ўзняцця настрою ўтапіць.

У нас — не пайшла, а пабегла — дарога. І аблокі над ёю — такія пухнатыя і белыя, што… хочацца марожанага. І проста так, без дай прычыны, ці толькі ад загаданага жадання — пра марожанае, — пры самай дарозе, знянацку, раптоўна — быццам замак-прывід, што згубіўся ў прасторы і часе, быццам дзіўны міраж пасярод кукурузнага мора, — кафэ «Александрыт». «Адчынена 24 гадзіны». Карацей, агульнавядомыя паказкі аб нашым дрэнным прыдарожным сэрвісе, дзя-

куй Богу, ператвараюцца ў міф. Ці гэта спрацоўвае левітацыя?.. Цікавую рэч заўважыў мой спадарожнік: чым далей ад сталіцы, тым даўжэй вечарамі адчынены крамы. Гэта вельмі выручала нас з вяршкамі, якія нават у паходных умовах не пераставалі быць абавязковай часткай вячэрняй кавы, але скісалі нашмат раней, чым паспявалі дарэшты выкарыстацца. Што да аблокаў, то трэба было б тут успомніць, як Караткевіч назваў Палессе «каласальным рэзервуарам, з якога нараджаюцца аблокі і дажджы». Такія вось рамантычныя аблокі…

Едзем далей. Каму няма чаго рабіць, той вывучае карту на прадмет лінгвістычна-геаграфічных цікавостак. Вось вёска Гомель. Не горад, а вёска. Як аказалася. Вось Перасвятое, што значыць, не іначай, святое-святое, святей не бывае, святейшае. Вось Марс і Пуцяводная Зорка. Вось Ніжнія Жары і Новы Барсук. «Назвы палескіх вёсак — музыка ў ціхім сэрцы», — піша У. С., спасылаючыся на Акулінкі, Стрэльск і Навасёлкі. Няўжо гэта можа ўражваць?..

Вёска Акцябр! «Крама прадукцыі ўласнай вытворчасці». Шыльда такая. Дамы з чырвонай цэглы, старой архітэктуры. Наступная вёска — Чырвоны Акцябр. Далей — Камунар. Спрэс камунізм нейкі. Пераязджаем мяжу Гомельскага раёна: вёска Бальшавік. Далібог, Гомельшчына — самая камуністычная зямля. Відавочна. Молат, Серп… Гэта ўсё назвы вёсак такія. Стаўбун, Пагост… Прыбыткі, Радзеева, Райск, Рэкорд. Паміж некаторымі назвамі замест косак хочацца працяжнікі ставіць. Або нават вектары. Авангард, Перадзелка, Пустая Града. Музыка ў сэрцы? Паслядоўнасць і логіка!

Чаплін, Дублін, Дварэц, Казазаеўка… Казазаеўка! Каза і зайка. Ды гэта ж проста казка нейкая: пра зайку, яго лубяную хатку і казу-дзеразу, што «за тры грошы куплена, паўбока луплена». «Тупу-тупу нагамі, укалю цябе рагамі, ножкамі затапчу, хвосцікам замяту»… Ад шматгадзіннага сядзення на адным месцы і пазірання ў шкло чаго не ўспомніцца!

Калі адарвацца ад карты і перанесціся зрокам на відарысы абапал дарогі, то казка і там — і зноў пра казу. Мая любімая жывёліна дала назву значнай колькасці Гомельскіх вёсак: Казазаеўка, Козье, Козенкі




*«Багрец и золото» — сімвал усяго практычна-паэтычнага, гаспадарчага і рамантычнага. Караблі-камбайны «Палессе» — прадукцыя «Гомсельмаш».*



*Нават груду смецця ці заraснікі крапівы і лапухоў можна зняць так цудоўна, натуральна і жывапісна, што... Карацей, тут рай для мастакоў.*



*Франтоны аздоблены так, што імітуюць наяўнасць балконаў. Амаль у кожнай хаты такі франтон.*



*Гэты дом тут не адзіны так размаляваны,*
*але гэта — класная альтэрнатыва бутэлькавым пластыкавым самаробкам.*

і нават (сюрпрыз!) Казярогі. Няўжо там адны Казярогі?

Козы пасвяцца пры дарогах і спагадна трасуць барадамі: «У добры шлях». Кажуць, між іншым, што самыя малочныя козы — самыя недарэчныя знешне: адно вуха павінна быць карацей за другое. І рогі трэба, каб былі загнутыя — крыва і смешна. Як па мне, дык яны, козы, усе такія… Караткевіч, між іншым, таксама пра рогі пісаў. Толькі ласіныя. Маўляў, першы спосаб утапіцца — гэта прывязаць ласіны рог на галаву і «паспрабаваць пераплысці хаця б Проню ля яе вытокаў». Што ён усё то некага топіць, то сам топіцца! Гэта яму так адкрылася Палессе — «тым, што тры ласі пераплывалі Сож… Як багі, як стрэлы, як дэльфіны». Нам Палессе адкрывалася інакш. Паважна сядзелі на лавачцы куры. Адна, праўда, рудая з чорным хвастом, цыбатая, стаяла, апусціўшы галаву: любавалася сваімі дужа зграбнымі лапамі. І вось ты скажы: на Міншчыне на лавачках ужо і бабулькі не сядзяць (як тое было несумненным парадкам у маім, прынамсі, дзяцінстве), а тут — куры заведуюць лаўкай.

Разнымі налічнікамі на вокнах выхваляецца ледзь не кожная хата. Глядзяцца яны часам так, што для дакладнага, падрабязнага іх апісання дастаткова аднаго слова: карункава. Ну, і клічнік паставіць. Увогуле, тут свае трэнды. Тры акны на вуліцу ў адным доме завешаны шэрай паўпразрыстай матэрыяй у вялікія белыя гарошкі. Прыеду дадому — абавязкова так зраблю. Вось дом шакаладнага колеру — і цёмна-зялёныя «фальбоны» на вокнах. Хто скажа, што гэтыя колеры не спалучаюцца, той проста не ведае законаў колераў Палесся. У частцы «ГеаБатаніка» я раскажу пра цімус і цымус, тады ж вы даведаецеся і пра законна тамтэйшыя колеры.

Вось дом з бярвенняў. Такіх тут шмат. І зноў карычневы, і зноў з разнымі налічнікамі. Вароты ў многіх дварах з двухскатнымі дахамі, некаторыя нават з разнымі «падзорнікамі». Франтоны аздоблены так (сканструяваны і пафарбаваны), што імітуюць наяўнасць балконаў. Амаль у кожнай хаты такі франтон. На некаторых сустракаюцца разныя галубкі. А пры Караткевічу ва ўсіх франтонах «было сонца раскінута прамянямі, падобнае на рамонак». Зайздросціць ці не? Не буду, бо і я такія бачыла: у дзяцінстве, кожнае лета, як ездзіла да дзеда-палешука на Століншчыну.

Далей У. С. распавядае пра кветкавае мора пры тых сонцам пазначаных хатах. Такое пахкае мора, што хаты, маўляў, ажно заходзяцца ад водару — «як рымляне на

оргіі у Нерона». У нас пры дарозе ад кветак заходзяцца студні — як зубы ад думкі пра ледзяную ваду. Вось студня, распісаная сланечнікамі. Далей — студня з бэзам. З ружамі, з бавоўнай, з кукурузай… Вясёлы фларыстычны *draw-well-danse*.

Вось крыж пры дарозе, узяты ў кола, упрыгожаны кветкамі і ручніком. Белым-белым, у кветачкі з нітак. Ручная работа.

За Касцюкоўкаю — палітра агародаў: плантацыя памідораў змяняецца на цыбульную, тая зноў саступае метраж памідорам, далей ідзе морква, за ёю капуста… На Міншчыне так не бывае. Бачылі недзе кукурузнае поле, радочкі якога не паралельныя дарозе і не перпендыкулярныя, а «дыяганальныя» — пад сорак пяць градусаў. Што прымусіла так пасеяць?

— Вёска выглядае дрэнна, нічога не аднаўляецца, — кажа мой спадарожнік прама мне ў дыктафон, на які я запісваю ўражанні.

— Не, мне здаецца, што гэта не дрэнны выгляд, а вельмі мілы факт, — адказваю. У тым сэнсе, што калі нешта не аднаўляецца тут, дык не таму, што не хапае сродкаў, а таму, што мясцовы люд не хоча хоць якога «аднаўлення». — Яны, я думаю, знарок трымаюцца за такія вось дахі, якія таксама трэба было б сфатаграфава-а-аць, пачака-а-ай, не праязджа-а-ай!

Праехаў. Дах, зарослы хмелем. Караткевічаўскае «зялёнае трапятанне».

— Вёска Пакалюбічы. Бачыш? Пакуль любяць! Вось! Таму што яны любяць усё старое, таму што ім гэта дарага.

Па меншай меры, мне так хочацца — каб яны з даўнейшымі традыцыямі і пракаветным светапоглядам не разлучаліся. Не патрэбен ім ніякі жалезабетон, інакш, дальбог, пакрыўджуся, як амаль пакрыўдзіўся спадарожнік У. С. у тым падарожжы Ждановіч. Цытую: «На пясчаных адхонах, пад дрэвамі, навенечкія домікі, крытыя шыферам. Падобныя, бадай, да ўсіх новых хат на Беларусі і таму, як красамоўна выказаўся Валянцін, — “не фантан!”» Чыталі, чэрці, Караткевіча, паслухаліся!

У многіх гэтых куточках можна наздымаць такое, што варта пасля выкарыстоўваць як самыя прыгожыя застаўкі на працоўны стол камп’ютара. І нават груду смеццяці зараснікі крапівы і лапухоў можна зняць так цудоўна, натуральна і жывапісна, што... Карацей, тут рай для мастакоў. Аблокі тым часам ужо ніякае не марожанае. Кучавыя, нізкія, з блакітнымі адценнямі. Колькі іх, тых адценняў?! Можна вывучаць: класіфікаваць, рэгістраваць... Шкада толькі, што я не Караткевіч, а мой фотапрыбор — далёка не Ждановіч. *C’est la vie*.

*Вароты веткаўскага музея.*







**III. ПРАКІСЕЛЬ**

Гэта ж, здаецца, Караткевіч распавядаў пра колішнія корчмы. Быццам, раз яны ставіліся на кожныя пяць вёрст, дык, значыць, да неба адлегласць меншая, бо іначай па дарозе (да Бога, напэўна) віднеліся б корчмы. Раней казалі «ад вехі да вехі», укладаючы ў выраз зусім іншы, не такі, як сёння, сэнс: ад карчмы да карчмы, літаральна. Вехі — верставыя слупы — пазначаліся спецыяльнымі знакамі: пук саломы азначаў, што ў бліжняй карчме падаецца піва, вянцом пазначалі, дзе пояць віном, крыжам — дзе мёдам пітным, на «чаборах» настоеным. А цяпер незразумела не толькі тое, якой кавай цябе будуць паіць у бліжэйшым месцы… Хаця чаму не — зразумела: найбольш распаўсюджаны варыянт — «тры ў адным», з пакеціка. Незразумела іншае: колькі дакладна яшчэ давядзецца ехаць, каб паесці, нарэшце, проста свайго, седзячы на лавачцы за столікам у лесе пры дарозе. Ніякіх указальнікаў, і ехаць «ад вехі да вехі» нешта надта доўга даводзіцца. Ужо нават Арчыбальд прыцціх: таксама, мабыць, голад адчувае. Бяру свае словы пра прыдарожны сервіс назад: калі ёсць над чым працаваць, то няхай працуюць.

«Чароды на нізкіх берагах, — У. С. піша. — Што яны думаюць, сочачы за намі і раняючы сытую сліну». Ды нічога яны пра нас не думаюць, хаця б з той простай прычыны, што сыты галоднаму не таварыш. Калі ў іх сліна ад сытасці, то ў нас усё наадварот выходзіць. Навыварат, я б сказала. Вось жытнёвае поле — і рэклама «Гомсельмаш» на шчыце. Класнае супадзенне. А мо і наўмысна менавіта тут гэты шчыт усталяваны. Бо едзеш і бачыш, як плывуць па залатым моры барвовыя караблі з залатым жа надпісам па «ватэрлініі». «Багрец и золото» — сімвал усяго практычна-паэтычнага, гаспадарчага і рамантычнага. Караблі-камбайны «Палессе» — прадукцыя «Гомсельмаш». Але вось што здаецца мне дзіўным. Зёлкі збіраць пры дарозе не раяць, чаму ж тады булкі, пячэнне і пернікі растуць літаральна ля самай шашы? Зёлкі мы ўжываем калі-нікалі, а хлеб — кожны дзень Божы. Парадоксы быцця. Або вось пасвіцца, прывязаная да слупа, адзінокая, самотная карова. Скубе траву пры дарозе. Што ў такім разе ў яе малацэ? Недзе раней, колькі дзён да гэтага, бачылі статак рагатых («тавар», калі па-палеску) пры самай дарозе, а побач — зноў-такі рэкламны шчыт. Што, як вы думаеце, на ім напісана? «Экомол». Шкада, што не сфатаграфавала. Пры гэтым у нас існуюць фермы круглагадовага безвыгульнага ўтрымання кароў. У тым сэнсе, што яны не ходзяць ніколі на пашу, іх задача — жаваць на месцы і аддаваць малако ў шкляныя калідоры-ручайкі. Здавалася б, вось яно, экалагічна бездакорнае. Але так хіба? Трава ж для гэтых кароў усё роўна звонку расла. І хутчэй за ўсё — пры дарозе. Успомнілася караткевічаўскае з таго артыкула: «Як быццам справа ў шыльдзе, а не ў справе».

Увогуле, падарожжа гэта поўніцца для нас нестандарціцай спалучэнняў. Недзе, ужо не памятаю дзе, бачыла шыльду: «Цырульня “Он і Она”. Вось менавіта «Он» і менавіта «Она», і паміж — менавіта «і» з кропачкай. Маўляў, паміж імі ўсе кропкі расстаўлены. Тут або «ах, як гэта рамантычна!», або простая практычнасць у дзеянні. Арыгінальная канстатацыя самага звычайнага факта: кім бы яны ні былі, гэтыя Он і Она, дык хоць яны і Он і Она, але злучае іх — беларускае. Ну вельмі патрыятычная шыльда. Галоўнае, чэсная: адпавядае аб'ектыўнай рэальнасці.

Яшчэ з неспалучальнага. Як быццам. Уявіце: шаша, катушкі саломы пры ёй, раскіданыя ў мазаічнай выпадковасці па залацістым полі, і пасярод гэтага ўсяго — верталёт. Стаміўся лятаць, небарака, прысеў адпачыць, бы тая страказа на травінку. Нездарма ж яны і цёзкі — гелікоптары.

Сверху крутится пропеллер,
Есть колеса, тормоза,
Ну, а если приглядеться,
Вылитая стрекоза.





Або вось яшчэ: едзеш па шашы — і раптам вышкі. Нафтавыя. Таксама, як той верталёт, пасярод поля і поруч з саламянымі катушкамі. Золата пасярод золата.

…Зноў прад вачыма карта. І не стамляецца, дражніцца ўнутры чарвяк, якога трэба замарыць. Калі ўжо той грыбок пры дарозе? Вёска Пракісель. І карта туды ж.

## IV. «Я Ж НЕ ТАКАЯ ЎЖО ПЕРАПЯЧАЙКА» (СМАЧНАЯ РАЗМОВА З БАБАЙ ЗІНАЙ)

— Вой, Светка! Я ж не такая ўжо перапячайка, як ты думаеш.

— А хто гэта — перапячайка?

— Перапячайка — ета каторая ўсе ўмее пекці, кажа, усе знае, як гатовіць. Я не спасобна гатовіць.

— А конікі ў вас смачна ўдаюцца.

— Учыняць на дражджах етыя конікі трэба. Учыніць на сыроватцы, кажа, на кефіры добра, але і дрожджы трэба.

— Яйкі, цукар — трэба?

— Укусней тады будзе. І вумясіць, як падойдуць. А ляпіць — што ў каго, кажа, е: хто з макам лепіць, хто з канфетамі. Для маку ў нас была спецыяльная ступка: яго трэба патаўкці і расцерці. Трошкі змачыць, каб ён добра тоўкся, ды сахару ў яго, дык ён тады ліпкі. А хтось са згушчонкай любіць. Ляпілі з канфетамі «падушачкамі», калісь такія купляліся. Як падойдуць, да вумясіць, дак на пару гатаваць трэба. Тады каструлю стаўляем з кіпятком на газ і марляй абвязваем. А каб марля не патанула ў кіпяток, дык зверху зашчапляем. Яна як нацянута, дык штук мо дзесяць на яе ляжа. І накрываць абязацельна. І пераварочваць трэба. А як ямачкі па тых коніках пайшлі, то ўжо гатовыя. Здымай





*Кот, дзяжурны наадварот.*

ды другія заложвай. Тады зноў. Парціямі. Гатовыя ў каструлю кідаюць, растапляюць масла, паліваюць і ў духоўку, каб гарачанькія былі. І падавай ужо… Пекла я і лейкі, пекла я і чырвы.

— Што за лейкі?

— Лейкі? Як та сказаць?.. Стакан мукі, пачак маргарына, стакан сахара, п'яць яіц, трошкі вудкі, каб крохкія булі. Ну і разбоўтаць так, як на смятану. Форма ў мяне такая була. Як вафельная. Ды трэба цупкая бумага. Калісь у мяне була рысавацельная цятрадзь. Дык пакуль гарачыя, то трэба скруціць у лейку, у бумагу. Дзве мінуты – і яна ўжо застыла, і з бумагі вумай.

«Макі» на гэта сказалі б паблажліва: «Вафельный рожок».

— А чырвы?

— Мясі, кажа, цеста. Тое самае цеста. Таўставатае, кажа, як на каржы. Форма дзеліцца на п'яць ці што чырваў. Яны тоненька там дзеляцца і іх трэба разламваць. І красівыя такія палучаюцца. Тоўстыя, як еты во дранік.

Якраз елі дранікі: з бульбы і кабачка.

— Квасоўку буквальна заўчора варыла. Вішань на квасоўку місачка була.

— Гэта салодкае?

— Насыплеш сахару, дык будзе салодка. Я наліла вады, закіпела вада, памула рыс, насыпала рысу, зварыўся рыс і вішні насыпала. Усё. Вішні тыя разварыліся, кажа, розавенькая тая квасоўка стала. Насып сахару ды еш. Як суп налівай у талерку. Можна так і з пшана замест рысу. З грэчкай не ідзёт. Вот гэта называецца квасоўка.

— А ядуць гарачай ці халоднай?

— Цёплай таксама можна.

Супы-баршчы: з капусты, з бурака, шчаўлёвы. «Абычны» суп – гэта булён. Вараная бульба — салонікі.

— Хто кажа картошка, хто кажа салонікі. Я, кажа, наварыла салонікаў. Ета ж цяпер газ, а калісь не було ж гэтых газоў, а на вуліцы пазбіраюцца, распаляць агонь ды стаўляюць у чыгунчыках кажды сам сабе, па чарзе, усе ўжо тыя салонікі нясуць варыць…

— А як ваша вёска называецца?

— Ліствін.

## V. КОТ, ДЗЯЖУРНЫ НААДВАРОТ

У Караткевіча рыба тлустая, а захады шафранавыя. Ён чапляецца да «Лады», называючы яе бессмяротнай, як усялякая выпушчаная мільённым тыражом пошасць, нахабнай, як хам у Луўры, навязлівай, як свіння, што кладзе на стол ногі, а таксама апафеозам дрэннага густу, сабачым трызненнем, прыстанкам дубовых галоў. Вось што значыць дрэнны настрой і няўдалы першы радок.

«*П-под жел-лезный звон коль-чу-ги*. Я сам люблю кальчугі, — нездарма гісторык, — піша У. С. — толькі не папяровыя і не пластмасавыя». Ну, правільна. Гэта як «прафесіяналы сваёй справы»: калі ўжо прафесіянал ты ў нейкай справе, то яна дакладна табе не чужая, што тут удакладняць? Але ж пішуць. Пісакі. Таму і правільна, што няма такой прафесіі — пісьменнік. Усе ведаюць, што «Тытанік» будавалі якраз прафесіяналы. А вось аматар Ной стварыў каўчэг. Вы каштавалі торт пад назвай «Вечерний закат»? Вось і я кажу. А торт, што цікава, смачны. Кожная справа, як піша У. С., мае два бакі.

У той вечар мы доўга шукалі месца, дзе можна было б размясціцца на начлег і правесці наступны дзень. Нас увесь час супра-

ваджала Прыпяць, месца мы шукалі пры ёй, але Прыпяць была «не тая». «Амаль невераемная шырыня ўладна рухалася некуды» — не пра яе гэта. Парослыя берагі без подступаў — не задавальнялі. Масты да большменш добрых (па словах мясцовых жыхароў) месцаў то адсутнічалі, то былі аварыйнымі. Трохтонны шатл, загружаны пад самае нельга, вядома, не праедзе там, дзе праслізне «звычайная легкавушка», нават калі адзін з тых, хто ў ім едзе, будзе ўвесь час лапатаць: «Продолжайте движение». Хопіць, што ўжо з гадзіну прасядзелі ў лесе без аніякай надзеі на дапамогу, узбіўшыся «пузам» на нейкую, каб яе качкі тапталі, калдобіну. «І праўда, на які д'ябал вайна, ды яшчэ ў дадатак да кепскай эстрады», як пісаў Караткевіч, у камплект да «Лады» наслухаўшыся ад мужыкоў пра вайну, палітыку і Гітлера, у якога «хаця б разложыстыя вусы былі, а то… яціт тваю пад носам». Я, між іншым, вяду да таго, што мужыкі мужыкамі, Гітлер Гітлерам, а як жанчына скажа, так і будзе. У вёсцы Касцюковічы зноў без аніякай надзеі звяртаемся да трох бабак ля помнічка вайскоўцам, што палеглі ў вайну: як, маўляў, бабулькі, да рэчкі праехаць. «Можна і сюдэю, — кажуць, махаючы рукамі, — можна і тудэю, але сюдэю не едзьце, бо даджы прайшлі, то разнесла, няможна». От адкуль вясковай жанчыне ведаць, дзе разнесла дарогу, а дзе не, дзе можна праехаць, а дзе няможна? Паехалі «тудэю» — і выехалі!

І нас ужо, як аказалася, чакалі.

Ён выйшаў насустрач, як пан гаспадар. Сеў паважна на бервяно паміж лугам і рэчкай, пры самай дарозе. Агледзеў з гэтага свайго месца нашы рэчы, якія мы ўжо паспелі часткова выгрузіць з машыны, з відавочным адабрэннем хітнуў галавою, прадставіўся: «Уяў!». Выліты лукаморскапушкінскі Кот вучоны — не хапала яму толькі ланцуга і разложыстага дуба. Еў з намі грэцкую кашу, частаваўся злоўленай намі рыбай, хадзіў след у след — у машыну, да рэчкі, па кветкі, спаў у «калідорчыку» нашай палаткі на пледзіку. Ён, галоўнае, не назаляў, як звычайна каты, нічога ў нас не выпрошваў і нікуды шкадліва не лез. Калі праз дзень мы здымаліся з месца, ён спаў. І так шкада было яго будзіць, так балюча чакаць расставання… А ён… Ён спакойна сабе спаў на «сваім» пледзіку ў «калідорчыку» нашай палаткі да апошняга імгнення — аж пакуль не накрыла яго шаўковым намётам, калі вымалі з зямлі штырочкі. Тады паважна выбраўся і… проста перастаў звяртаць на нас увагу. Як быццам нас і не было на гэтым ягоным беразе рэчкі Прыпяць паблізу вёскі Касцюковічы недалёка ад Мазыра. Кот, дзяжурны наадварот, без аніякіх эмоцый, як штатны адміністратар, выпісаў нас з «нумароў». «Дзяжурны наадварот» — гэта я прыдумала, каб адлюстраваць, што не ён да нас прыбіўся, а мы былі яго дзяжурнымі гаспадарамі.

## VI. ГЕАБАТАНІКА

«Яны цвілі шалёна над морам разнатраўя». Караткевіч пра касачы, беларускія архідэі.

Прыспаўшы ката, я неяк вырашыла ненадоўга адлучыцца ад нашага лагера, каб бліжэй і падрабязней азнаёміцца з мясцовай флорай. Брала толькі тыя расліны, якіх на Міншчыне не сустракала. Набрала букет, перавязала ружовай стужкай, сфатаграфавала і была радасная.



*Наконт знакамітага Веткаўскага музея — адно слова: захапляе.*

Ідучы назад, задумалася. Андрэй Федарэнка, што родам прыблізна адсюль, пісаў, што ажно да трыццаці двух гадоў, з'яўляючыся «вясковым чалавекам, беларусам», не ведаў, як выглядае чабор. Мы ж таго чабору, памятаючы, што на Купалле зёлкі набываюць асаблівую моц, набралі — якраз на федарэнкаўскай Мазыршчыне — «як на ўсю зіму насушыць». Што цікава, тамтэйшы чабор мае не тутэйшы (гэта я пра свой рэгіён) колер — больш яскравы: не сціплабэзавы з ухілам у шызы блакіт, а святочнаружовы, як сама радасць.

Зрэшты, уся флора Палесся буяе менавіта радаснымі фарбамі. Едзеш лесам, вырубкаю, а здаецца, што па казачным лузе перамяшчаешся, а не толькі мінаеш івалгавы Hypericum perforatum ды малінавы Epilobium angustifolium, зверабой ды іванчай. Сціплыя на колер тут толькі лішайнікі ды мхі, але гэтым, згодна з іх батанічным статусам, якраз і трэба так выглядаць. Іх колеры я б увогуле назвала высакароднымі. Галоўнае — вельмі шмат іх тут, гэтых мхоў і лішайнікаў. Як і ліянаў, якія спавіваюць ствалы лясных палескіх дрэў аж да самых «каленяў» і «талій», чым канчаткова ўпэўніваюць: «Ты ў казцы».

Ну, пра тое, што чабор на лаціне цімус і гарбатка з яго ўзімку — самы цымус, і пісаць, як я цяпер падумала, не варта.

У. С. піша, што расянка круглалістая, Drosera rotundifolia, якую ён тут, на Палессі, знайшоў (і ў лацінскай назве якой — пісаў бы адразу па-беларуску! — зрабіў ажно чатыры памылкі), дужа дапамагае ад няшчаснага кахання. Але сам, маўляў, не правяраў.

## VII. ВЕТКА

На веткаўскіх могілках на кожнай магіле на крыж павязаны ручнік. Заўважаем гэта па дарозе, «мімаездам» (ад «мімаходзь»), бо вельмі кідаецца ў вочы.

Дом па адрасе Батракова, 26 распісны: паміж вокнамі першага паверху — вясновая рэчка, летні лес, асенняя алея да царквы, зімовая замалёўка з канём. Гэты дом тут не адзіны так размаляваны, але гэта — класная альтэрнатыва бутэлькавым пластыкавым самаробкам. І галоўнае, драўляным ды бляшаным буслам, якія пры жывых чырвонаногіх узведзены ў нас у нейкі культ, пра якi напісаць бы тут так, як Караткевіч пра тую «Ладу». Яго ж словамі: «Калі на кожнай палескай хаце ляскае дзюбай жывы, вольны бусел, абліты барвай захаду», то навошта штучныя? «Фу!»

Наконт знакамітага Веткаўскага музея — адно слова: захапляе. Але пасля кожнага музея ў мяне адно і тое ж павісае ў думках пытанне: чаму сувеніры — абавязкова магніты і кубкі (прычым, апошнія часцей за ўсё выкананыя так, што рукі б паадбіваць тым, хто іх выконваў)? Чаму нехта, хто згодна з занятай пасадай павінен дбаць пра мяне як пра турыста, упэўнены, што мне хочацца менавітаў магнітаў? Што я такая ўся спрэс неарыгінальная, што толькі і думаю, як бы зрабіць са свайго халадзільніка абразчык масавага памяшальніцтва? Асабіста мне ў Веткаўскім музеі спадабаліся: 1) вароты разныя драўляныя; 2) косткі лічыльныя ў фігурнай рамачцы; 3) распісны блакітны чайнічак; 4) самаробная паштовачка; 5) медныя вагі на ланцугах; 6) драўляная маслабойка; 7) рама фатаграфічная, з акна зробленая; 8) шкаф з карункавым франтонам чырвонага дрэва; 9) паліца з самаварамі розных фасонаў; 10) крэсла з каванай спінкай; 11) грамафон; 12) гадзіннік насценны; 13) жырандоля; 14) старадрукі. Вось гэта ўсё, без адзінага выключэння, выкананае ў мініяцюры (з дрэва, пластыку, гліны, паперы, саломы, металу, яечных шкарлупак…) я хацела б мець у сябе на памяць аб гэтай слаўнай паездцы. Няўжо незразумела?!..

## VIII. ЗАЎТРА БУДЗЕ ДЗЕНЬ

«Ад сонца бляха купалоў зазалацілася… Вечар ясны. Сонца сядае чыста. Заўтра будзе добры сонечны дзень. Камары таўкуць. Будуць яшчэ тысячы сонечных дзён. Будзе сонца». Я хацела напісаць нешта падобнае, а пасля, седзячы ля палаткі, адбіваючыся ад камароў і пазіраючы на купалы царквы, падумала: а навошта? Калі ўжо без мяне напісана. Вечар ясны. Сонца сядае чыста. Заўтра будзе добры сонечны дзень. Камары таўкуць — і няхай таўкуць: будуць яшчэ тысячы сонечных дзён з той нагоды…

Вікторыя ЗАХАРАВА

# ПАЛЕСКІ НАПРАМАК




***Дабірацца сюды з Мінска, не маючы ўласнага транспарту, даволі доўга і не надта зручна. Але, акунуўшыся, нарэшце, з гарадскога тлуму ў мудрую, спакойную цішыню бясконцых дуброў і медытатыўны настрой велічнай Прыпяці, удыхнуўшы на поўныя грудзі чысцюткае, напоўненае сонцам і хвояй, напоенае даждждом і водарам нябачных зёлак паветра, разумееш: гэта сустрэча вартая чакання, колькі заўгодна доўгага.***






*На прасторах Прыпяці.*

Калі вы натура паэтычная і ўзнёсла-рамантычная, у галаве міжволі ўсплывуць вершаваныя ды песенныя радкі — «Журавы на Палессе ляцяць», пра чараўніцу Алесю... Альбо вось гэта, з Яўгеніі Янішчыц: «Прыедзь у край мой ціхі, тут продкаў галасы, тут белыя буслiхі і мудрыя лясы. Хапае на Палессі і сонца, і вады. І што ні двор, то песня, што вёска — то сады...» Дый нават калі прыгожае пісьменства вашай душы не блізкае, вандроўка па прасторах Нацыянальнага парку «Прыпяцкі» (не істотна нават — у вагончыках па сафары-парку, на цеплаходзе па рацэ або наўпрост пешшу па экасцежках) пакіне не толькі безліч новых уражанняў і дзясяткі мегабайт фотаздымкаў, але і самыя цёплыя ўспаміны ў сэрцы. Магчымыя таксама «пабочныя эфекты» ў выглядзе паляпшэння сну-апетыту і заспакаення нервовай сістэмы — тут жа амаль незаўважна адпачываюць і душа, і цела. Але давайце пра ўсё па парадку.

## АД ПРАДЗЕДАЎ, СПАКОН ВЯКОЎ…

45 гадоў таму, у мінулым не тое што стагоддзі — тысячагоддзі — быў заснаваны Прыпяцкі дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік. Размясціўся ён у паўднёва-заходняй частцы Гомельскай вобласці, пасярод Палескай нізіны, нібы расшытай блакітнымі ніткамі Прыпяццю і яе «дочкамі», рэкамі Убарцю і Сцвігай з іх шматлікімі рукаўчыкамі ды прытокамі.

Запаведнік меўся перадусім захаваць у першапачатковым выглядзе ўнікальны ландшафт, характэрны для поўдня Беларусі. Але з цягам часу стала відавочна, што толькі прыродаахоўнай і навуковай дзейнасці недастаткова, бо прыпяцкае Палессе — жывы арганізм, які трэба не кансерваваць, а развіваць. А значыць, неабходна засвойваць і гаспадарчы, і турыстычны, і экалагічны накірункі. У 1996 годзе запаведнік быў пераўтвораны ў нацыянальны парк.

Можна было б напісаць, што тут адразу закіпела праца, як грыбы, выраслі паляўнічыя домікі і гасцініцы, валам павалілі турысты з розных краін, — але гэта будзе няпраўдай. Бо працаваць палешукі (абсалютная большасць адміністрацыі Нацыянальнага парку «Прыпяцкі», уключаючы генеральнага дырэктара Сцяпана Бамбізу, — ураджэнцы тутэйшых мясцін) узяліся без мітусні і прыспешвання, адказна і грунтоўна: крок за крокам, участак за ўчасткам. Вынік, як кажуць, навідавоку: калі ў 2004 годзе ў парку прымаў гасцей усяго адзін турыстычны комплекс «Дарашэвічы» на 60 месцаў, то цяпер у наведвальнікаў самы шырокі выбар на любы густ і кашалёк: аддаленая ад «цывілізацыі» база «Хлупінская буда» з 4 домікаўкатэджаў, драўляны катэдж «Сосны», адметны не толькі размяшчэннем, але і шыкоўным аздабленнем, і нацыянальнай кухняй, а таксама размешчаны ў лясным масіве, на беразе багатага рыбай возера катэдж «Чарацянка», плюс раскіданы па «рыбных» месцах шэраг невялічкіх гасцявых домікаў, альбо, наадварот, размешчаная ў самым што ні ёсць цэнтры падзей трохзоркавая гасцініца «Над Прыпяццю» з нумарамі ад «люксавых» да стандартных, з саўнай, басейнам і рэстаранам, трэнажорнай залай, більярдам і боўлінгам, або новенькая, адчыненая толькі сёлета ў красавіку, гасцініца «Тураў+», не пакідаючы сцены якой можна атрымаць ежу як матэрыяльную (у гасцінічнай кавярні), так і духоўную (тут месціцца вялікі музей прыроды, які папярэдне знаёміць турыстаў з флорай і фаўнай Прыпяцкага Палесся).

Тое ж датычыцца турыстычных напрацовак: насуперак прадказанням скептыкаў, у «Прыпяцкі» з ахвотай едуць не толькі замежнікі па каштоўныя паляўнічыя трафеі, але і турысты з краін-суседзяў па СНД, а таксама суайчыннікі. Германія, Італія, Вялікабрытанія, Ізраіль, Расія, Украіна, Польшча, Беларусь... Турыстычная геаграфія наведвальнікаў «Прыпяцкага» самая шырокая. І мэты ва ўсіх самыя розныя: адны прыязджаюць выключна па адпачынак і новыя ўражанні ў тур выхаднага дня, другіх вабіць паляўнічы або рыбалоўны імпэт, трэція, захопленыя навуковай і даследчай дзейнасцю, з радасцю далучаюцца да арніталагічных тураў і экамаршрутаў, чацвёртыя




*Атэль «Над Прыпяццю» ў Ляскавічах.*




*Новая гасцініца ў Тураве.*

ў літаральным сэнсе дакранаюцца да дзікай прыроды ў натуральным асяродку падчас фотасафары.

## НЕ ГЛЫБІНКА, А ГЛЫБІНЯ

Безумоўна, усіх без выключэння вабіць Яе Вялікасць Прыпяць — плывеш ты на ціхаходных «Ласі», «Зубры» або «Кірыле Тураўскім», адным з трох мясцовых цеплаходаў, альбо імкліва праносішся па «палескай амазонцы» на маторным катары, вяслуеш на лодцы або проста нетаропка гуляеш уздоўж берага — Прыпяць, у глыбокіх сініх вачах якой адлюстроўваецца неба да самых зор, зачароўвае кожнага па-свойму. Нават калі вы не запомніце паловы назваў птушак і рыб, якіх з аднолькавым матчыным клопатам корміць гэта рака, яе задуменнасць і сіла, нейкая касмічная мудрасць застануцца ў памяці дакладна. Як не забудзецца і 800(!)-гадовы цар-дуб — адно са старэйшых і самых буйных дрэваў Прыпяцкага Палесся, у параўнанні з 36-метровай вышынёй якога маладзейшыя, 300- і 200-гадовыя дубы, здаюцца несур'ёзнымі «падлеткамі». І нават невялікая экскурсія па Музеі прыроды дасць унікальную магчымасць адначасова ўбачыць найбагацейшы жывёльны і раслінны (і нават падводны) свет Прыпяцкага Палесся, зазірнуць на падворкі палешукоў і крыху бліжэй пазнаёміцца з тыповымі для гэтых мясцінаў рамёствамі і промысламі, напрыклад, ткацтвам, ганчарствам, саломапляценнем, архаічным бортніцтвам, ды яшчэ

і здзейсніць «інтэрактыўнае» падарожжа з варагаў у грэкі! Толькі не спяшайцеся асягнуць неабсяжнае за кароткі адрэзак часу — у глыбіні Прыпяцкага Палесся можна ўглядацца бясконца, таму лепш вярнуцца сюды зноў. Тым больш, да лета, хутчэй за ўсё, шмат што пераменіцца — з'явяцца новыя маршруты і адметнасці, адкрыюцца турыстычныя аб'екты і будуць выдадзеныя фотаальбомы і навуковыя работы. Ды што там — нават сама Прыпяць год за годам незаўважна мяняе сваё рэчышча, а ў выніку «перасоўваецца» часам на дзясяткі метраў.

Помніцца, героі знакамітага савецкага кінафільма «Брыльянтавая рука» ўзгадвалі, што Парыж — горад кантрастаў. Паселішчам палешукоў, натуральна, да Парыжу далёка, але на кантрасты і разнастайнасць тутэйшыя мясціны таксама багатыя. Каб у гэтым пераканацца, варта пабываць тут некалькі разоў. Прыкладам, у красавіку-маі, калі падчас веснавой паводкі рачныя берагі раптам «разбягаюцца», ператвараючы тыпова палескія краявіды ў маляўнічую беларускую Амазонію з непралазнымі «джунглямі» хмызняку, і ў верасні-кастрычніку, калі з пажаўцелых лясных абшараў даносіцца гулкі роў прыгажуноў-аленяў, які добра чутны ўвечары панад ракой. Альбо ўзімку, калі рыжыя шубкі казуль так добра бачныя на заснежаных прасторах у сафары-парку, і калі пасля доўгай прагулкі па казачных зімовых сцежках так утульна сядзіцца ў гасцявым доміку за вячэрай і бяседай. Альбо на выходныя пасярод лета — сям'ёй ці сяброўскай кампаніяй, каб спалучыць адпачынак на прыродзе з экскурсіямі па знакамітых мясцінах блізкага старажытнага Турава і ўласна па нацыянальным парку, або, скажам, з рыбалкай. Мясцовыя егеры па сакрэце распавялі нам: у Прыпяці ловяцца такія шчупакі і ляшчы, што нават зусім не азартныя людзі раптам адкрываюць у сабе таленты заўзятага рыбака...

Зрэшты, у які час сюды ні наведайся, паездка атрымаецца насычанай і цікавай. Аднак асаблівая нагода для візіту у сярэдзіне верасня: у адміністрацыйным цэнтры нацыянальнага парку «Прыпяцкі», аграгарадку Ляскавічы, праходзіць фестываль этнакультурных традыцый «Покліч Палесся», які сёлета набыў статус міжнароднага.

## УСЕ — СВАЕ

Папярэднічала гэтаму маштабнаму святу этнаграфічная экспедыцыя «Летнік на Петрыкаўшчыне», у межах якой студэнты і выкладчыкі — спецыялісты ў галіне аўтэнтычнай народнай творчасці — наведалі 13 вёсак Петрыкаўскага раёна, дзе захаваліся старажытныя палескія традыцыі ў песенным і танцавальным мастацтве, у абрадах, святах і гульнях, у рамесніцтве. Пазней плануецца выданне сабраных падчас экспедыцыі матэрыялаў, што, на думку даследчыкаў, дазволіць захаваць і папулярызаваць унікальную гісторыка-культурную спадчыну прыпяцкага Палесся. Таксама ў межах фэсту ўпершыню прайшоў мастацкі пленэр «Зямля пад белымі крыламі» — шэраг гомельскіх мастакоў, загадзя аблюбаваўшы для працы найбольш маляўнічыя мясціны нацыянальнага парку, прадставілі ў выніку свае жывапісныя занатоўкі Прыпяцкага Палесся — такога, якім творцы яго ўбачылі і запомнілі гэтым летам. Наогул, на трэцім фестывалі шмат якія падзеі і мерапрыемствы зладжаны з прыстаўкай «упершыню»: упершыню прадстаўлена фотавыстава «Знакамітыя палешукі» пра выбітных ураджэнцаў тутэйшых мяцін, упершыню распрацаваны памятны знак «Ганаровы паляшук» і адмысловая паштовая марка, упершыню і выстава ручнікоў, якія вышывалі з любоўю і клопатам



*Шмат гадоў кіруе лайнерам капітан Андрэй Быкоўскі.*




(ды, вядома ж, з песнямі і прымаўкамі) майстрыхі з розных раёнаў, упершыню — сустрэчы маладых сем'яў у творчым і працоўным конкурсе, а сярод дзяўчат з розных краін упершыню вылучаецца першая «Палеская прыгажуня», таксама ўпершыню прэзентавана кніга — пераможца конкурсу Гомельскага аблвыканкама, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Кірыла Тураўскага «Вядзьмарка Палеская» В. Куліка.

Але квінтэсэнцыя свята — нядзеля 13 верасня, калі ў Ляскавічах сабраліся госці з іншых рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Расіі, Украіны, Малдовы, Балгарыі… Калі самы першы «Покліч Палесся» ў 2010 годзе сабраў прыкладна 5,5 тысяч гасцей і ўдзельнікаў, то мінулы фэст, які адбыўся ў 2012 годзе, — ужо больш як 10 тысяч. Прынамсі, арганізатары запэўніваюць, што рады бачыць усіх, незалежна ад колькасці прысутных, а праграма штогод абяцае быць настолькі насычанай і разнастайнай, што сумаваць проста не застаецца часу і магчымасцяў.

І разам з тым ужо традыцыйна свае ўменні тут дэманструюць творчыя калектывы, майстры і рамеснікі з 8 раёнаў Гомельскай вобласці (Ельскага, Жыткавіцкага, Калінкавіцкага, Лельчыцкага, Мазырскага, Нараўлянскага, Петрыкаўскага, Хойніцкага) і трох раёнаў Брэстчыны (Лунінецкага, Пінскага, Столінскага), а таксама калектыў Нацыянальнага парку «Прыпяцкі». Уласна, у гэтым і заключаецца адна з найважнейшых задач фестывалю — спалучыць сучасныя творчыя тэндэнцыі і старажытныя традыцыі, не адмаўляючы першым і не нашкодзіўшы другім; не толькі захаваць, але і папулярызаваць аўтэнтычную культуру Палесся, якая знітоўвае грамадзян адразу некалькіх краін старадаўнімі, але ад таго не менш трывалымі ніткамі духоўнай еднасці.

…Прыгажосць Палесся не кідкая, не адчайна яркая, бы экзатычныя насельнікі джунгляў Амазонкі ара і туканы, ад якіх не адвесці вачэй. Яна спакойная, ледзь улоўная, стрыманая, бы непрыкметная на першы погляд кнігаўка, і сціплая, як чырвонакніжны кулік-марадунка, помнік якому ўсталяваны на цэнтральнай плошчы Турава. Яна замілоўвае спакваля — і тым не менш, аднойчы патрапіўшы ў сэрца, застанецца ў ім назаўжды шчымлівай пяшчотай. Гэтаксама і палешукі. Гарадскому чалавеку, які «рассякае» аддаленую вёску праездам на Маскву, месцічы з акна аўто могуць падацца пахмурнымі і замкнёнымі. Але варта пабыць тут дзень, і не толькі за тлумнымі размовамі, а найлепш за сумесным заняткам, — і палешукі раскрыюцца зусім з іншага боку, як прыветныя і гасцінныя гаспадары, дасціпныя апавядальнікі і ўмельцы шмат чаго дзівоснага рабіць рукамі. Калі пашанцуе, у Дарашэвічах ці Брынёве вам распавядуць і пра пана Кіневіча, які быў не проста землеўладальнікам, а руплівым гаспадаром і ў пэўных маштабах нават рэфарматарам гэтых вёсак, раскрыюць некаторыя хітрыкі цяслярскага або ганчарнага майстэрства, раскажуць такія захапляльныя паляўнічыя ды рыбацкія байкі, што хоць ты заўтра фільм здымай, на зайздрасць Галівуду. А мо і заспяваюць сёе-тое — на той асаблівай, сакавітай і жывой «паляшуцкай мове», смак якой не перадасі ніякай транскрыпцыяй. Трэба хоць аднойчы пачуць яе жывцом, і потым толькі ўражана сядзець з адкрытым ротам — слухаў бы і слухаў! «Што е, то е, — з прытоенай усмешкай пагаджаюцца мясцовыя кабеты. — Прыідзэтэ на свято, мы шчэ не так запяемо!».

***Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА***

# СЦЯПАН БАМБІЗА: «ІМКНЁМСЯ ПРЫЦЯГВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ»



***Пра тое, чым прыцягальнае беларускае Палессе і чым адметны сёлетні фестываль «Кліч Палесся», гутарым з генеральным дырэктарам Нацыянальнага парку «Прыпяцкі» Сцяпанам БАМБІЗАМ.***

— Правядзенне фестывалю ў міжнародным маштабе — адзін з пунктаў Дзяржаўнай праграмы па развіцці Прыпяцкага Палесся на 2010—2015 гады. Яго мэта — не толькі падкрэсліць самабытнасць і ўнікальнасць рэгіёна ў культурных і этнічных адносінах, але і прыцягнуць у гэты куточак Палесся інвестараў і турыстаў. Калі ўзгадаць адносна недалёкую гісторыю, 90-я гады мінулага стагоддзя, Палессе ў той час ператваралася ў закінуты край: у людзей было адчуванне непатрэбнасці. Вось тады Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка наведаў гэтыя мясціны і пабачыў на свае вочы патэнцыял краю. Паступова ў дзяржаве стаў наводзіцца парадак, пачалі адраджацца прамысловыя цэнтры, а потым і Палессе. У першую чаргу перад намі была пастаўлена задача прывесці ў парадак прыродаахоўныя тэрыторыі, чым мы і займаемся. А потым прыйшоў час падумаць пра святы і адраджэнне традыцый. Для нас жа аднолькава важна захаваць і ўнікальны прыродны комплекс, і мясцовыя традыцыі. А падтрымка кіраўніка дзяржавы надала нам сіл і энергіі, таму мы з энтузіязмам пачалі гэтую справу. Бабулькі і дзяўчаты сёння рыхтуюць да свята свае строі, іх твары свецяцца. Яны заклікаюць усіх прыйсці і паспрабаваць прысмакі, якія нагатавалі. Гэта свята для людзей робіцца.

**— Ці павялічылася апошнім часам колькасць наведвальнікаў парку, у тым ліку замежных? Што прываблівае тых,**



*Тут размясціўся музей прыроды.*

**хто прыязджае на Прыпяць papaляваць і адпачыць?**

— Паляўнічая гаспадарка ў Нацыянальным парку — гэта асобная галіна. У нас сэрвіс на ўзроўні сучасных паляўнічых гаспадарак Еўропы. Мы працуем на будучыню — завезлі вялікую колькасць аленяў. Для паляўнічых прадастаўляем трафеі, задавальняем усе запыты і патрэбы. Да нас прыязджае шмат еўрапейцаў, і яны пакідаюць тут немалую капейку, за апошнія пяць гадоў павялічылася колькасць расіян. Усіх прываблівае не толькі прыгажосць прыроды, але і высокая арганізаванасць, парадак, гарантыя, што адпачынак пройдзе на высокім узроўні. Дарэчы, з Масквы сюды можна дабрацца за 8—10 гадзін.

## Правядзенне фестывалю ў міжнародным маштабе — адзін з пунктаў Дзяржаўнай праграмы па развіцці Прыпяцкага Палесся

**— Як развіваецца водны турызм на Прыпяці?**

— Унікальны прыродны комплекс, які фарміруе рака Прыпяць, адзіны ў Еўропе. Толькі рэкі Сібіры могуць параўноўвацца па прыгажосці і магутнасці з нашай ракой. Калі падымаешся на паветраным шары або верталёце над Прыпяццю, бачыш пойму, тысячы рачулак, старыцы, затокі, пратокі, балаты, лясныя астраўкі... Падчас паводкі ўсё гэта аб'ядноўваецца ў адзіную прастору, у старадаўнія часы названую Герадотавым морам. Вось тады разумееш веліч магутнай Прыпяці... Яе ж можна параўноўваць з самымі знакамітымі сусветнымі прыроднымі комплексамі: з Нілам ці Амазонкай. Нездарма ў кнізе «300 самых унікальных месцаў на Зямлі» ёсць і Нацыянальны парк «Прыпяцкі». У нас вялікія магчымасці развіваць водны турызм. Тут можна пакатацца і на цеплаходах, на маторных і драўляных лодках, — як каму падабаецца. Мы займаемся не толькі прагулкамі па Прыпяці, але і перавозкамі па вадзе. Гэта перспек-

тыўны напрамак. Не абавязкова ехаць у паўднёва-ўсходнюю Азію, каб пабачыць унікальную прыроду. Прыгажосць ёсць і ў нас. І я ўсіх заклікаю яе пабачыць. Мы прадстаўляем Нацыянальны парк «Прыпяцкі» на розных выставах як у Беларусі, Расіі, так і ў Еўропе — імкнёмся прыцягваць людзей. Між іншым, чым больш свет ахоплівае глабалізацыя і навукова-тэхнічны прагрэс, тым большы інтарэс людзей да прыроды, да сваіх вытокаў і каранёў.

**— Як працуе музей прыроды Нацыянальнага парку «Прыпяцкі»? Чым ён здзіўляе наведвальнікаў?**

— Наяўнасць музея прыроды — абавязковы атрыбут усіх нацыянальных паркаў. Наш музей прыроды — самы малады, але таму і лепшы ў Беларусі, бо мы ўлічылі найноўшыя тэндэнцыі і тэхналогіі. У музеі прадстаўлена не толькі прырода краю, але і быт, мясцовыя рамёствы палешукоў. Адна з галоўных задач — экалагічнае выхаванне насельніцтва і асабліва дзяцей. Як толькі пачынаюцца летнія канікулы, да нас адразу ж накіроўваюцца на экскурсіі школьнікі. За дзень мы прымаем да 800—1000 чалавек. У нас ёсць магчымасць паказваць дыяграмы, фільмы, слайды, чытаць лекцыі... Гэта справа вельмі патрэбная, і мы абавязаны ёй займацца.

## Унікальны прыродны комплекс, які фарміруе рака Прыпяць, адзіны ў Еўропе. Толькі рэкі Сібіры могуць параўноўвацца па прыгажосці і магутнасці з нашай ракой

**— Раскажыце пра фотавыставу «Зачараванне Палесся». Работы якіх фотамастакоў можна будзе ўбачыць?**

— У канцы жніўня ў Беларусі завяршыўся фотапленэр Беларускага грамадскага аб’яднання «Фотамастацтва» ў межах міжнароднага фотапраекта «Увага: усмешачку!». У ім прынялі ўдзел 16 фатографаў з Беларусі, Украіны, Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Малдовы. За 7 дзён беларускія і замежныя



*Блакітная дарога Прыпяці.*

## Паляўнічая гаспадарка ў Нацыянальным парку — гэта асобная галіна. У нас сэрвіс на ўзроўні сучасных паляўнічых гаспадарак Еўропы

фатографы ўбачылі каларыт беларускага жыцця, у тым ліку наведалі Нацыянальны парк «Прыпяцкі». Мы плануем разам са знакамітым беларускім фотамастаком Сяргеем Плыткевічам паказаць некаторыя работы у межах фотавыстаў нашага фестывалю. Спадзяюся, што яны потым застануцца ў нашым музеі прыроды, дзе ёсць спецыяльная зала для гэтых мэт. Чым больш жывеш на свеце, тым больш захапляешся прыродай. У мяне такая магчымасць ёсць. Канешне, ёсць жаданне зафіксаваць і паказаць усім гэтую прыгажосць. Менавіта таму на фотавыставе будуць прадстаўлены і мае работы.

**— Сцяпан Мікалаевіч, вы тут, у Нацыянальным парку «Прыпяцкі», ведаеце не тое што кожны куток, а кожнага звера «ў твар». І вас яшчэ шмат што здзіўляе?**

— А як не здзіўляцца, калі выбіраешся пасля цяжкага працоўнага дня на прыроду і столькі цудаў бачыш! Нядаўна назіраў з вышкі, як на паляне два зайца гулялі між сабой. Потым бачу — яны насцярожыліся і пачалі глядзець у адзін бок, туды, адкуль да іх падкрадвалася лісіца. Адзін адразу збег, а другі, калі лісіца да яго кінулася, ад яе пабег па паляне. Ліса спынілася і пайшла назад, заяц да яе павярнуўся і некалькі разоў хлопнуў лапамі і такі гук выдаў: «Хохохо». Лісіца развярнулася і давай даганяць зайца. Ён зноў па кругу ад яе бяжыць. Не дагнала, хоць ён доўга з ёй так дражніўся і выклікаў гульню. Такіх цудаў можна шмат тут пабачыць. У прыродзе гарманічна ўсё, звяры адно аднаго добра разумеюць і могуць дамовіцца — у адрозненне ад некаторых людзей.

**— Фестываль «Кліч Палесся» змяніў фармат і стаў міжнародным. Якімі разынкамі будзеце здзіўляць?**

— Сёлета пройдзе трэці фестываль «Кліч Палесся», які цяпер атрымаў статус міжнароднага, а значыць, вырас яго маштаб. Сёлета да нас прыязджае вялікая колькасць замежных гасцей: калектывы з Расіі, Украны, Сербіі, Польшчы, Малдавіі... Чакаем прадстаўнікоў з Кітая. З кожным годам фестываль поўніцца новымі мерапрыемствамі. Сёлета ў Ляскавічах упершыню адбудзецца ўручэнне памятнага знака «Ганаровы паляшук», гашэнне паштовай маркі. Плануецца правядзенне конкурсу «Прыгажуня Палесся», фотавыставы «Славутыя палешукі», конкурсу маладой сям'і і свята ручніка... Гэты вялізны праект нам дапамагаў увасобіць у жыццё цэлы шэраг прадпрыемстваў Беларусі. Асноўнымі арганізатарамі фестывалю выступаюць Брэсцкі і Гомельскі аблвыканкамы, Міністэрствы культуры, сельскай гаспадаркі і харчавання, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, інфармацыі, а таксама ААТ «Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод» і ААТ «Белаграпрамбанк». Галоўная мэта фестывалю — захаванне і папулярызацыя этнакультурных традыцый Палесся, вывучэнне і падтрымка гісторыка-культурнай спадчыны ўнікальнага рэгіёна, а таксама ўмацаванне творчых сувязей жыхароў палескага памежжа суседніх краін, стварэнне спрыяльных умоў для развіцця турызму. Сам фестываль — гэта цуд. Усё, што робіцца на кожным падворку, на кожным конкурсе — гэта цуд, звязаны з народам і яго традыцыямі. Гэта такая радасць для простых людзей!

*Гутарыла Ірына АСТАШКЕВІЧ,*
*фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА*



*Таццяна ПЯТРОЎСКАЯ*

# ПАЭТЫЧНЫЯ МАРШРУТЫ ГОРАДА ГОМЕЛЯ

У апошні час і ў адукацыйных, і ў літаратурных колах даволі часта гаворыцца пра тое, якую сучасную літаратуру павінны дзеці вывучаць у школах, па якіх прынцыпах могуць адбірацца творы сучаснікаў. Многія даводзяць, што ў першую чаргу трэба знаёміцца з лакальнай літаратурай, творамі сваіх землякоў. Меркаванне спрэчнае, бо такая літаратура не заўсёды можа адпавядаць адукацыйным задачам і ўвогуле вызначацца высокай якасцю. З другога боку, менавіта лакальнасць літаратуры можа актуалізаваць цікавасць да яе. Часта вучні не разумеюць цяжкіх метафар, не «дацягваюць» да ідэі, але набліжаюцца да твора пры ўзгадванні знаёмых мясцін. І атрымліваецца, што аўтар ужо не нейкі «дзядзька» з партрэта над дошкай, а свой, з такімі ж пачуццямі і думкамі, вучыўся у суседняй школе, кахаў мясцовую прыгажуню і набываў для яе кветкі каля гарадскога рынку.

Лакальная паэзія пачынаецца з уласнай ідэнтыфікацыі, пазначэннем сваёй радзімы. Гораду Гомелю прысвечана шмат вершаў, падобных і непадобных, масцітых і не вельмі вядомых аўтараў. Але менавіта па гэтых вершах можна лёгка распачаць своеасаблівую філалагічную экскурсію па горадзе па розных маршрутах на свой густ.

**Маршрут № 1. Гераічны.** Менавіта з Гомеля пачынаецца вызваленне Беларусі ад нямецкіх захопнікаў. Гераічная памяць тут на кожным кроку: у назвах вуліц, у помніках, у шыльдах на будынках, у музеях. Ёсць яна і ў вершах, часцей за ўсё ў гомельскіх паэтаў старэйшага пакалення. Думаецца, верш Міхася Болсуна «У вызваленым горадзе» з'яўляецца лірычным апісаннем стану горада пасля вызвалення.

Ляжаў у коме дымны Гомель,
Бы цяжка зранены салдат.
І чуўся ветру сумны гоман
Сярод руін дамоў і хат.

Іх каміны — патухлай свечкай,
Як зла фашыстаў напамін.
І стаў вайне рахунак вечным:
Забіты бацька, муж і сын...
Дзяды, бабулі, з імі дзеці
Салдат страчалі баявых.
Гасцінцам лепшым быў на свеце
Сухарык чэрствы для малых.
І парк стары над кручай Сожа
Глядзеў з надзеяй у ваду:
Адбудаваць мы горад зможам,
Бо ў нас жыве стварэння дух... [57]

Атмасфера верша далёкая ад святочнага настрою, але абсалютна даставерная. Метафара «ляжаў у коме» падыходзіць да горада, у якім была знішчана большая частка будынкаў, а знакаміты гомельскі парк мог бы стаць удалым інтэр'ерам для фільмаў жахаў. Узгадваюцца ў вершы і вялікія чалавечыя страты: сапраўды, у Гомелі засталося 14 тысяч чалавек са 150 тысяч. Нядзіўна, што тую самую надзею і дух стварэння аўтар знаходзіць у вадзе, у рацэ Сож. Гомель не раз руйнавалі, шмат чаго змянялася, а людзі каля гэтай ракі жылі і будаваліся. Гісторыю помніка Вялікай Айчыннай вайны — танка на Плошчы вызвалення — удала распавядае Эдуард Лякерман («Славім горад»), не забываючы назваць і імёны герояў; яшчэ адну маляўнічую панараму горада падчас вызвалення стварае Мікола Старчанка («Дзве даты»), спрабуючы максімальна трапіць у мінулае.

**Маршрут № 2. Гістарычны.** Вядома, паэты-гамяльчане не маглі абысці гістарычнае мінулае свайго горада. Іх увага скіравана

на гісторыю паходжання назвы горада і яго заснавання. Версій паходжання назвы шмат, але паэты аблюбавалі папулярную ў савецкія гады. Легенда пра тое, як плытагоны, засцерагаючыся ад мелкага дна на Сожы, крычалі: «Го! Мель!», адлюстравана ў вершах і Святаслава Крупенькі («З гісторыі роднага горада»), і Эдуарда Акуліна («Гомель»). Апошні арганічна звязвае ў вершы час і прастору:

Там, дзе хваля цалуе водмель,
дзе аеру па пахі тоні,
рыбакі пракрычалі: «Го-мель!»
так, што рэха чуваць і сёння.
Яго вецер па хвалях гоніць,
яно ў грудзі прычалаў б'ецца.
Чайка згубіць на лёце:
«Го-мель!»,
і адчайна той крык сарвецца [1; 52].

Гісторыя заснавання горада ў вершы Крупенькі гістарычна абгрунтаваная. Згадкі пра правадыра Радзіма і племені радзімічаў ёсць нават у «Аповесці мінулых гадоў». Наяўнасць ў вершы сюжэта і раскрыццё яго праз дыялог набліжае верш паэта да балады:

Тут рыба проста у вадзе кішыць,
У цёмных нетрах рысі і мядзведзі…
Глядзі, Радзім, тут добра будзем жыць,
Нікуды больш адсюль мы не паедзем! [1; 62]

**Маршрут № 3. Лірычна-рамантычны.** Для многіх паэтаў Гомель — перш за ўсё малая радзіма, з якой звязаны ўспаміны маладосці. Майстэрскімі штрыхамі імпрэсіяністаў малюе свой горад Віктар Ярац («Гомельскі вечар»):

Полымем белым успыхне чаромха над рэчкай,
цветам захмеліць густым салаўіныя сэрцы.
Зоры над Гомелем голле гайдае, як вечнасць.
Вечар за днём зачыняе нячутныя дзверы
і дзверцы [1; 59].

Вельмі часта разам з прыемнымі ўспамінамі прыходзіць усведамленне немагчымасці «вярнуць усё», сумная настальгія. У вершы Леаніда Муштэнкі «Над горадам дождж ідзе» такую ўспаміназнішчальную функцыю выконвае дождж:

Усё яшчэ мо пераменіцца,
І заўтра будзе іншы дзень.
Ды дождж над Гомлем і над Беліцай
Аж вечнасць цэлую ідзе... [1; 66]

Дарэчы, у гэтым вершы, як і ў вершы Міхася Башлакова «У залатых лясах за Навабеліцай», узгадваецца гістарычна важны для Гомеля раён — Навабеліца. Статус яго не раз мяняўся: ад вёскі на некалькі двароў да павятовага горада, ад вёскі да паўнавартаснага гарадскога раёна. Зразумела, чаму Навабеліца прываблівае лірычна настроеных паэтаў: раён захаваў своеасаблівую спрадвечнасць, ён не сапсаваны сучаснасцю.

Я знаю, што жыццё ўсё ж пераменіцца
І ўсе мае грахі прабачыш ты…
У залатых лясах за Навабеліцай
Зрываюцца і падаюць лісты [1; 67].

Шмат гомельскіх паэтаў прызнаваліся ў любові да ўласнага горада, кожны засяроджваў сваю ўвагу на розных рэчах і падзеях. Але такія вершы перш за ўсё аб'ядноўвае шчырасць, патрыятызм без пафасу. Бо што такое ўвогуле патрыятызм? Гэта любоў да таго месца, у якім жывеш, абсалютна канкрэтным і рэальным, увага да падзей і людзей гэтага горада. Менавіта патрыятызм вершаў пра родны горад — самы зразумелы і няштучны.

**ЛІТАРАТУРА**

1. «Город древний над кручами Сожа», Гомель, «Барк», 2010 г.

2. Макушников, О. Гомель с древнейших времён до конца XVIII века: историко-краеведческий очерк. — Гомель: ЦНТИ, 2002. — 243 с.



# UBI BENE IBI PATRIA*
# *ДЗЕ ДОБРА, ТАМ І РАДЗІМА

***(…проста аўтарка, практыкантка Алеся Нікіфарава, усім сваім працам, мастацкім і не толькі, дае лацінскія назвы. Або французскія. Навошта? Папытаемся пра гэта некалі, калі будзем браць у яе інтэрв’ю.)***

***Аўтар удзячная лёсу за сустрэчу з Надзеяй Арыфулінай. Вясёлы чалавек, па венах якога цячэ столькі дабра, жыццярадаснасці і хітрасці, што можна рабіць пераліванне жыватворнай крыві ўсім, хто жыве ў нястачы. Напэўна, продкамі Надзі былі лісы.***

— Мяне завуць Надзея Арыфуліна. Я нарадзілася ў Гомелі і жыла сабе спакойна, пакуль мама не вырашыла паспрабаваць пераехаць у Штаты. На гэтым этапе ўзнікала шмат праблем, да прыкладу, англійскую мову яна ведала не лепш, чым звычайны сярэдні школьнік. Тым не менш, гэтая мара як заслужанае права на адпачынак. І вось мама з’ехала.

Я шэсць гадоў пражыла з бабуляй, а потым жыла адна.

І зноў жа, жыла сабе спакойна, пакуль таксама не вырашыла паехаць у Амерыку. Ехаць было не страшна: ведаеш, я ехала да мамы! Калі б нешта не спадабалася, шлях назад ніхто камянямі не завальваў.

**Людзі Амерыкі**. Людзі выдатныя. Я вучуся ў каледжы на псіхолага, пачала навучанне яшчэ ў Беларусі, разбірацца ў людзях мне падабаецца.

Я, калі шчыра, ніколі не сябравала з дзяўчынкамі як след. А тут пасябравала з дзвюма. Два абсалютна розныя чалавекі, але абедзве такія чароўныя! Наіўныя, не заўсёды разумеюць сарказм. Абсалютна простыя!

Сябравала я і з вядомымі людзьмі, напрыклад, з відэа-блогерам і супэрмадэллю. Яны добра трымаюць марку, калі трэба стварыць ўражанне, але з імі цяжка сябраваць. Нават адпаведныя позы прымаюць падчас размовы, каб выглядаць добра. У іх заўсёды галава павернутая да люстэрак, вітрын.



**Вучоба**. Так, вучуся на псіхолага. Наконт моўнага бар’ера перажываць не даводзіцца: сядзіш на лекцыях, слухаеш, можаш нічога не разумець нават, затое потым прыходзіш дадому, скачваеш лекцыю з усімі малюнкамі, графікамі, тэрмінамі і разбіраешся.

**Першы дзень і забавы**. Я люблю фатаграфаваць. У Амерыцы мае фатаграфіі любяць, усё-такі я частка Еўропы, ды і мастацтва ўсім тут даспадобы. Пастаянна прапануюць заплаціць за здымкі.

Што мне падабаецца ў Нью-Ёрку, дык гэта натоўп. Заўсёды павінны быць марнасць, людзі, прабіраючыся праз якіх ты можаш крыкнуць: «Гэй!» Памятаю, як упершыню ступіла на тэрыторыю Нью-Ёрка.

Я жыву ў Бронксе, дзе не ўбачыш людзей у касцюмах, шалёнага Манхэтэна, бруднага метро. Бронкс — спальны раён з невысокімі спакойнымі будынкамі і маленькімі крамамі. І вось я прыехала, гэтыя віды пачынаюць прасціracца перад вачыма, а я разгублена пытаюся ў мамы: «Мам, а дзе?..» Ці бачыла жахі ў сваім раёне? О! Мне часам кажуць сябры: «Едзь дадому крыху раней, схавай валасы, прыкінься хлопцам, бяжы!» Але гэта ўсё жарты.

Праз некаторы час я спазнала ўсе грані гэтага горада.

Да прыкладу, кожную пятніцу я хаджу на Happy Hour. Гэта адкрытая вечарынка ў школе праграмавання, дзе алкаголь бясплатны. Каго можна сустрэць на гэтай вечарыне? Студэнтаў і, што дзіўна для Беларусі, прафесараў. У іх і гадзіны вольнай няма, акрамя гэтай пятніцы! Забаўляючыся на гэтай вечарынцы, яны могуць паралельна размаўляць ці праводзіць урокі анлайн. Так што супаставіць вучобу і забавы нескладана.

Я не вялікі аматар хадзіць па клубах. Затое памятаю вечарыну ў прыватным доме з басейнам. Справа да вандалізму, вядома, не даходзіла, але я пракацілася на інвалідным крэсле некалькі кіламетраў.

**Ежа**. Дзіўна, але ў Гомелі я ела бургеры пастаянна. А ў Амерыцы вельмі хутка адвыкла ад фаст-фуду. Я пераехала і схуднела. Мама адразу ж сказала: «Цяпер ты будзеш есці хатнюю ежу!»

У Нью-Ёрку шмат рускіх крамаў. Аліўе, чарнаморскія вафелькі. А ежа ў рэстаранах чароўная! Калі гэта італьянская кухня, то гэта італьянская кухня. Вядома, вялікая колькасць людзей сілкуюцца бургерамі, але часцей за ўсё гэта занятыя людзі, якія столькі бегаюць за дзень, што такое харчаванне ім даравальна. Калі табе не падабаецца нейкая частка амерыканскага жыцця, можна не звяртацца да яе.

**Мары і перспектывы**. О, амерыканская мара! Тут усё магчыма! Хочаш нешта рабіць — рабі. Мне часам здаецца, што ўсім усё роўна, што ты робіш. Амерыка з’есць усё, таму і рабіць можна што заўгодна, пакуль гэта легальна, вядома. Галоўнае — не закрануць чыіх-небудзь межаў.

Людзі ў метро, дарэчы, пастаянна спяваюць, прытанцоўваюць.

**Галоўная думка**. Я лічу сябе даволі паспяховым чалавекам, людзі ў Амерыцы цягнуцца да мяне. Можна сказаць, што маё жыццё такое, якое яно ёсць, шмат у чым таму, што я — беларуска. Мне здаецца, людзі добра ацэньваюць нашы беларускія якасці.

* * *

**Аўтар вельмі ўдзячная Надзеі Арыфулінай і за мноства неверагодных гісторый. Менавіта яна паказала мне, што можна мець дзве Радзімы і што ўсе людзі — браты. Гісторыя са слоў Надзі.**

## УСЁ СВАЁ НАШУ З САБОЙ

*Змрок згусціўся. Хмары пагрозліва павіслі на небасхіле і рыхтаваліся выпусціць дзёрзкі, адважны дождж. Але я гэтага не заўважала, седзячы ў сваёй новай кватэры і, нібы загіпнатызаваная, глядзела на маленькую жарынку.*

*Менавіта зараз успамінаецца мне чамусьці бацька, гэткі ж гламаздаваты, як і мой дзед. Колькі сябе памятаю, заўсёды быў ён трошкі нязграбным і няўклюдным, але гэта ж не перакрэслівала яго іншыя якасці: мяккасардэчнасць, пякучую прагу дапамагчы ў любы момант і шчырасць. Мабыць, я б усё аддала ў гэты момант, каб толькі зноў апынуцца ў Беларусі. У агародчыку маёй беларускай дачы ў правым кутку чырванела парэчка ды гусцілася каля плоту мята. Прыемна было адарваць лісцік, пашараваць яго пальцамі і ўдыхнуць празмерна ўцешны пах. І каго хвалявала, што ад яго прарэзлівасці можна пачаць бясконца чхаць?*

*Можа, цяпер я сумую, але ўсё сваё, напрыклад, добрыя ўспаміны, я нашу з сабой. Іх яскравасць заўсёды знаходзіць водгук у маім сэрцы.*

*Так, не пачнеш па-сапраўднаму шанаваць нешта, пакуль гэта не страціш.*

*Запісала Алеся **НІКІФАРАВА***

# ДЗЯЎЧЫНА З РАГАЧОВА, ЯКАЯ ЗРАБІЛА САЙТ ПРА МІНСК



***Марыля Шлык — асоба надта цікавая. Глядзіце самі: дзяўчына з чароўнай усмешкай, якая піша вершы, дасканала ведае французскую мову і працуе ў сферы дабрачыннасці. Да таго ж, гэта шчырая патрыётка і нястомны генератар творчых ідэй, здольная заразіць уласным энтузіязмам каго заўгодна. Шчасце, што ідэі Марылі рэалізуюцца: у сусветнай павуціне нядаўна з'явіўся плён яе крэатыўнасці — партал place.by, на якім у арыгінальнай форме прадстаўлены найцікавейшыя месцы нашай сталіцы. Карысная штука, улічваючы, што далёка не кожны мінчук можа пахваліцца грунтоўнымі ведамі пра родны горад і зацікавіць ім, напрыклад, гасцей з-за мяжы. Цікава, што родам Марыля з Рагачова. Пагутарым з гэтай таленавітай дачкой Гомельшчыны пра яе дзейнасць на карысць Мінска.***

**— Раскажы, як з'явілася ідэя стварэння парталу place.by.**

— Я даўно цікавілася, хоць і неглыбока, некаторымі фактамі пра Мінск, чытала ў інтэрнэце гісторыі і легенды пра яго. Аднойчы ў цэнтральнай кнігарні набыла кнігу, дзе сцісла распавядаюцца розныя цікавосткі пра Мінск, і прачытала яе на адным дыханні. Даведалася шмат новага пра месцы, міма якіх кожны дзень хаджу: напрыклад, звон каля Чырвонага касцёла, аказваецца, адліты ў Японіі ў памяць аб ядзерных катастрофах, а ў скверыку каля галоўнага корпусу БДУ сабраны скульптуры нашых знакамітых культурных дзеячоў. Вядома, Мінск — гэта не Барселона і не Рым, але ў ім ёсць месцы, якія трэба любіць. Калі распавесці гісторыю месца, то нават будучы простым, яно можа стаць нечым незвычайным для наведвальнікаў. Я гэтую кніжку разрэкламавала сваім сябрам, і ўсім яна спадабалася. Я тады зразумела: мінчукам цікава чытаць пра свой горад, але матэрыял трэба падаваць у простай форме. Так у мяне з'явілася ідэя зрабіць сайт пра Мінск, дзе інфармацыя будзе выкладзеная менавіта такім чынам.

**— І якім жа чынам place.by падае звесткі пра Мінск?**

— Калі я вандравала ў Львоў, то дзесьці пабачыла наступную рэч: топ-10 лепшых месцаў горада ў розных катэгорыях: «рамантычнае», «кавярні», «храмы»... Такі прынцып лёг у аснову нашага праекта, толькі я ўзяла не топ-10, а топ-5. Я пыталася ў сяброў і ў сяброў сяброў пра тое, якія месцы ў Мінску ім падабаюцца, і прасіла напісаць пра іх тэксты. Даволі шмат людзей адгукнулася. Я склала папярэднія спісы аб'ектаў для кожнай катэгорыі, але заўсёды давала права выбару: «Калі ў спісе няма вашага ўлюбёнага месца, то пазначайце і апісвайце яго». У працэсе я сама даведалася шмат цікавага: напрыклад, калі рабіла катэгорыю «месцы з фаст-фудам», асабліва карысную для замежнікаў, якія шукаюць, дзе хутка паесці. Я ніколі не задумвалася пра тое, што чабурэкі — гэта, як сказаў адзін хлопец, помнік савецкаму фаст-фуду. У нас на Валадарскага ёсць чабурэчная, у якой з 1980-х—1990-х гадоў не змяняецца атмасфера. Гэтае месца любяць карэнныя мінчукі і замежнікі. Адна дзяўчынка пажадала напісаць у катэгорыю «паркі» пра Сэндайскі сквер, аб якім я дагэтуль не чула. Гэты скверык быў пабудава-



ны ў гонар беларуска-японскіх адносін. Там цвіце сакура, ёсць некалькі камянёў і статуй з Японіі. Сэндайскі сквэрык зусім невялічкі, але, калі прывесці туды замежніка, ён зацікавіцца. Бо, здавалася б, што Беларусь злучае з Японіяй? А вось, калі ласка, цэлы сквэрык ёсць! Калі з французамі гуляла па сталіцы, іх захапляла тое, што Мінск — горад кантрастаў. Паказвала ім помнік Феліксу Дзяржынскаму і пры гэтым узгадвала, што зусім непадалёк знаходзіцца помнік заснавальніку Чырвонага Крыжа, французу Анры Дзюнону, першаму лаўрэату Нобелеўскай прэміі міру. Французы шчыра дзівіліся наяўнасці ў нас гэтага помніка. Палякі ў сваю чаргу былі ўражаныя помнікам Яну Паўлу II. Такім чынам, мы склалі топ-5 у шматлікіх катэгорыях: паркі, кавярні, рамантычныя месцы, стары Мінск, новы Мінск, клубы і гэтак далей. Працаваць было цяжка, бо праект ствараўся на чыстым энтузіязме. Складана было збіраць і апрацоўваць матэрыял. Для сайта пісалі розныя людзі з рознымі характарамі, таму падыход неаднабаковы. Без дапамогі я б не справілася. Вельмі хочацца падзякаваць праекту «МаеСэнс», які падтрымаў маю задуму, Машы Чараковай, якая нарадзілася ў Беларусі, а пасля з’ехала з сям’ёй у Галандыю і вярнулася дадому працаваць па праграме ААН. Маша дапамагала мне з ідэямі: яна верыла і верыць, што ў Беларусі можна рабіць шмат цікавага. Таксама дзякуй фатографам, асабліва майму сябру Сяргею Ільіну, які зрабіў амаль усе фатаздымкі; дзякуй шматлікім перакладчыкам на беларускую: іх знайшлася цэлая «банда» дзякуючы Насці Кухарэнка, арганізатару СЭТ — Студэнцкага этнаграфічнага таварыства; дзякуй сябрам і сябрам сяброў, якія перакладалі на англійскую. Як бачыце, гэта быў народны праект пад маім кіраўніцтвам. У перспектыве ў нас ёсць ідэя зрабіць паштоўкі з выявамі Мінска, а таксама мапу лепшых месцаў сталіцы.

**— Ці папулярны сайт? Ці часта ты чуеш водгукі пра яго і якія гэта водгукі?**

— Мы «запусціліся» ў канцы траўня — пачатку чэрвеня. На мой погляд, пакуль недастаткова рэкламы, трэба актыўней прасоўваць праект у інтэрнэце. Я ведаю, што пра запуск сайта напісалі некаторыя выданні, што людзі наведваюць яго. Замежнікі мне пішуць пра тое, што раяць яго сваім сябрам. Беларусы таксама цікавяцца і задаюць пытанні. Справа ідзе, але з цягам часу, я спадзяюся, яна будзе яшчэ больш разварочвацца. Замежнікам трэба паказаць, што Мінск — гэта частка Еўропы, якая можа пахваліцца не толькі спадчынай савецкага мінулага, што ў нас ёсць і прыгожыя храмы, і цікавыя легенды. Большасць з гасцей, трапляючы сюды ўпершыню, са здзіўленнем усклікаюць: «О! А ў вас тут як у Еўропе! Не такая ўжо і адсталая краіна!» А мне хацелася б, каб яны яшчэ там, у сябе дома, ведалі, што мы — не адсталая краіна. Я ўдзельнічаю ў праекце каўч-сёрфінг і цяпер заўсёды даю замежнікам спасылку на place.by. Многія бяруць наш топ-5 за аснову маршруту сваёй экскурсіі. Я бачу, такім чынам, што гэта была недарэмная праца.

**— Што ты можаш вылучыць з таго, пра што даведалася падчас працы над праектам?**

— Адзін хлопец, удзельнік праекта «МаеСэнс», пажадаў напісаць пра так званы чырвоны дворык, што знаходзіцца на вуліцы Рэвалюцыйнай. Шмат хто бачыў браму, якая вядзе у гэты дворык, але мала хто заходзіў унутр. Хлопец той апісаў чырвоны дворык проста шэдэўральна: бачна, што гэта сапраўды ягонае любімае месца. Адной з умоў, дарэчы, было пісаць толькі пра любімае. Месца ж гэтае вельмі атмасфернае і рамантычнае: туды можна прыйсці з дзяўчынай на першы пацалунак, улетку там праходзяць паказы фільмаў і ладзяцца выставы карцін маладых мастакоў, прэзентуюцца зборнікі вершаў… У такім невялічкім месцы, аказваецца, столькі ўсяго адбываецца. Калі да

мяне прыязджалі французы, я вырашыла іх туды звадзіць. Зразумела, у Францыі такіх мілых маленькіх дворыкаў безліч, але я ім столькі распавяла, што яны былі ўражаныя раней, чым мы зайшлі туды. У гэтым дворыку можна пабачыць графіці, што для Мінска не вельмі характэрна. Французам у выніку вельмі спадабалася.

Адна дзяўчынка напісала для сайта пра маленькую Эйфелеву вежу, што знаходзіцца ў адным з мінскіх двароў. Першапачаткова яна была зроблена як падстаўка для кветак. Потым заўважылі, што на яе сталі часта прыходзіць паглядзець. Тады кветкі знялі, засталася толькі сама вежа. Неаднаразова ў сецiве я бачыла фотаздымкі людзей з беларускай Эйфелевай вежай на далоні. Яшчэ адно цікавае месца, якое варта наведаць, — забудова ў Кунцаўшчыне ў стылі кіслотнага ракако. Аналагаў у Беларусі больш няма. Існуе легенда, што ў Беларусь патаемна прыязджала аўтарка Гары Потэра і наведвала гэтае месца. На адным з дамоў ёсць вывеска «Хогвартс», у доме змяшчаецца дзіцячы адукацыйны цэнтр. То бок, у нас ёсць свой «Хогвартс» — замежнікам гэта таксама цікава і яны з задавальненнем фоткаюць шыльду.

**— Пагаворым пра твае стасункі з Мінскам. Адкуль у цябе такая любоў да яго? Бо сама ты родам з Рагачова…**

— Я шмат вандравала, у асноўным па Заходняй Еўропе. Аднойчы сябры ў мяне спыталі: «Які горад у цябе самы любімы?» Я адказала: «Рагачоў, канешне!» І ніколі не буду думаць інакш, дзе б ні жыла. Канешне, ён не такі, якім я яго памятаю з дзяцінства. Але гэта мая радзіма і радзіма маіх славутых землякоў. Я заўсёды прыгадваю, што «Каласы пад сярпом тваім» пісаліся ў Рагачове. Я вельмі яго люблю і ніколі ад яго не адмоўлюся. Сем год я пражыла ў Мінску, у асноўным яны прыпалі на вучобу ва ўніверсітэце. Але Мінскам стала асабліва цікавіцца, калі пачала працаваць. Мінск для мяне таксама стаў родным. Гэта твар краіны. Дзякуючы каўч-сёрфінгу я калісьці адкрыла для сябе альтэрнатыўныя экскурсіі. Напрыклад, у Кракаве безліч цікавага, што можна паглядзець, але там ёсць і нефармальныя экскурсіі, якія даюць магчымасць разглядаць не толькі гістарычныя забудовы ці помнікі, а і нешта такое, што вокам адразу



не пабачыш. Я падумала: «У нашым Мінску таксама нешта ёсць!» Лічу абавязкам кожнага дзяліцца часткай сваёй краіны з іншымі.

**— Ці не хацела б ты стварыць падобны праект пра Рагачоў?**

— Так, пра Рагачоў ёсць што распавесці. Караткевіч, мастак Анатоль Каплан, які стаў знакамітым на ўвесь свет, згушчонка (*смяецца*)… Я б хацела пачаць з простага — рабіць паштоўкі з краявідамі старога Рагачова. Ён старэйшы за Маскву — быў заснаваны ў 1142 г., уваходзіў у ВКЛ. У нас быў нават тэатр, дзе выступаў Шаляпін. Але ў кніжках пра Рагачоў звычайна на адной ці дзвюх старонках змяшчаюцца факты з дарэвалюцыйнай гісторыі, а асноўную частку займае савецкі час. Я пайшла да гісторыкаў пытацца, дзе шукаць страчаны час. Аказалася, што ў кніжках не знайсці: трэба капацца ў архівах. Адзін гісторык даў мне кантакт хлопца, які таксама цікавіўся гісторыяй Рагачова. У гэтага хлопца ёсць шмат здымкаў горада мінулых часоў. Я хачу на падставе гэтых здымкаў зрабіць паштоўкі. На жаль, у маленькіх гарадах людзі не заўсёды разумеюць, што ёсць нешта каштоўнае ў месцы, дзе яны жывуць. У рагачоўцаў таксама няма яскравай патрыятычнай рыскі, як, напрыклад, у майго сябра з Навагрудка, які быццам народжаны з пачуццём любові да свайго горада. У жыхароў Навагрудка ёсць Міцкевіч, у жыхароў Віцебска — Шагал, а ў нас хаця б той жа Караткевіч. Хай нарадзіўся ён у Оршы, жыццё яго вельмі моцна звязана з Рагачовам. Але людзі ў нас не падрыхтаваныя да ўсведамлення сваёй культурнай спадчыны. Спадзяюся, гэта калі-небудзь зменіцца. Я ж буду старацца гэтаму паспрыяць.

*Гутарыла Тамара САРАЧЫНСКАЯ.*

Марыля ШЛЫК

# ЦЫДУЛКА БОГУ



***Марыля Шлык нарадзілася 25 красавіка 1989 года ў Рагачове. Любіць падарожжы, французскую мову і доўгія размовы з цёплымі людзьмі. За ўсё і заўсёды дзякуе Богу, маці, бацьку і сябрам.***

* * *

Няхай на хвіліну супыніцца час —
І быццам мы кружымся ў танцы апошнім,
І быццам няма перашкодаў у нас,
І пільна у вочы ўзіраецца кожны.

Няхай мы у залі ў прыгожым адзенні,
Музыкі чаруюць пяшчотнай гульнёй.
І мы, быццам гукі, дыханне, імгненне...
І я побач з Вамі, Вы побач са мной.

Трымценне у сэрцы, званочкі, лілеі...
Няхай на хвіліну супыніцца час —
І вось ужо хутка адчыняцца дзверы,
І я назаўжды закахаюся ў Вас.

* * *

Я не любіла белы снег,
Бо ты па ім калісь сыходзіў…
Бо ты па ім мяне праводзіў…
Я чула твой прыгожы смех.

Я не любіла першых кветак,
Бо ты збіраў мне іх штодня,
Бо ты штодня крычаў «Вясна!»,
У парках баль дарыў сусвету.

Я не любіла летніх промняў,
Бо ты спяваў аддана сонцу,
Бо ты кранаў душу бясконца
Адной прыгожай, дзіўнай мрояй.

Я не любіла жоўтых лісцяў,
Бо мы рабілі з іх вянкі,
Бо снілі ўвосень сон такі…
Бо мы у снах жылі калісьці…

Я не любіла белы снег,
Бо ты калісь па ім сыходзіў…
Ты назаўжды мяне праводзіў.
Апошні раз ты чуў мой смех.

**МЯЖА**

Усё супынілася,
Дайшло да нейкай мяжы,
Ценю.
Усё перастала ўсміхацца
І дыхаць радасцю,
Надзеяй.
Мне здаецца, што душа
Запоўнена нашмат менш,
Чым мае кішэні.
А ўсё астатняе нязначна:
Хто я? Для чаго я?
Дзе я?
…усё супынілася.
Я больш не адчуваю
Жыцця.
Хтосьці кагосьці кахае,
Хтосьці кагосьці сустрэне
Зноў.
А мне ўсё роўна —
Маё сэрца не вытрымлівае
Жыцця.
Але у мяне ёсць Бог.
І гэта мяжа
Жывога.

## ЦЫДУЛКА

кранаемся адзін аднога
самотай
стомай
трывогай
кранаемся ўспамінамі
крыўдай
тугой
нязбыўнымі
марамі
сненнямі
доўгімі днямі
галовамі
сэрцамі
выпрабаваннямі
кранаемся адзін аднога
самотай
стомай
трывогай
…і кожны
наш дотык —
цыдулка
Богу.



*Сяргей БАЛАХОНАЎ*

# БЕЗ СТА ГАДОЎ НА РАЗГАДКУ



***Сяргей Балахонаў нарадзіўся 24 красавіка 1977 года ў вёсцы Свацілавічы Веткаўскага раёна. Празаік, паэт, музыка, блогер, гісторык па адукацыі. Аўтар кніг прозы «Імя грушы» (2005) і «Зямля пад крыламі Фенікса» (2012).***

**1**

Гледачы не маглі стрымацца ад узрушаных крыкаў, падтрымліваючы сваіх фаварытак у заплыве вольным стылем на тысячу пяцьсот метраў. Пераважную большасць прысутных складалі не проста аматары гэтага віду спорту, а так ці інакш знаёмыя з удзельніцамі спаборніцтваў. Таму глядацкая ўзрушанасць дасягала вельмі высокага градуса. Плыўчыхі імкліва рухаліся па дарожках басейна. Ці не кожная з іх разлічвала на перамогу. Неўзабаве пасля старту вызначыліся рэальныя прэтэндэнткі на першае месца. З трыбунаў грымелі акурат два імені: Света і Насця. Яны здолелі пайсці ў адрыў ад сваіх суперніц. Плылі, не адстаючы адна ад адной і яўна не збіраючыся саступаць. Тое, што трыбуны равуць, яны чулі. Але для іх гэта гучала толькі як водгулле накшталт далёкага рэха. Дзяўчыны былі засяроджаныя на заплыве, намагаліся не зважаць на воклічы прыхільнікаў. Нават найменшая ўвага, звернутая не ў той бок, магла фатальна адбіцца на выніках.

І вось апошнія сто метраў. Напружанне ўзрастала. Крыкі гледачоў не сціхалі. Света і Насця па-ранейшаму плылі ўпоравень. Здавалася, што толькі цуд зможа раптоўным чынам змяніць гэтае становішча. Але цуду не адбылося — дзяўчаты фінішавалі амаль адначасна. Каб высветліць рэальнага пераможцу, суддзі мусілі звяртацца да здымкаў фотафінішу. І пакуль трыбуны наўзахват выгуквалі імёны стомленых і крыху збянтэжаных дзяўчат, суддзям даводзілася вырашаць, хто ж з дзвюх плыўчых атрымае першае месца. Урэшце праз рэпрадуктары было абвешчана, што пераможцам спаборніцтва стала Святлана Даброўская. Гледачы прывіталі яе авацыямі. Дзяўчына радасна ўсміхнулася, выкрыкнула «дзякуй» і памахала рукой прыхільнікам. Яе суперніца тым часам пачувалася вельмі ніякавата. Так, яна заняла другое месца. Прычына для радасці, здаецца, і была. Аднак усмешка на твары Насці Навіцкай (такім было прозвішча другой прэтэндэнткі на перамогу) выглядала нейкай скамечанай, не дужа натуральнай. Дый адкуль тут узяцца натуральнасці, калі да пераможнага месца плыўчысе не

хапіла ўсяго некалькі сотых долі секунды! Да таго ж было вядома, што па выніках спаборніцтваў на прэстыжны турнір у Нямеччыне паедзе толькі заваёўніца першага месца. Крыўдна да слёз. Насця, тым не менш, старалася стрымаць позыў да плачу. У той жа час Света на слёзы не скупілася. Але ж, ведама, гэта былі слёзы радасці.

Спаборніцтвы скончыліся. Неўзабаве плыўчыхі выйшлі на вуліцу. Большасць гледачоў паспела разбрысціся па сваіх справах. І толькі лічаныя адзінкі чакалі сваіх фаварытак. Даброўская, усміхаючыся, выйшла з будынку басейна. Яе ўсмешка заззяла яшчэ больш, калі дзяўчына згледзела свайго хлопца. Той стаяў непадалёк ад выхаду з вялікім букетам ружаў. «Вунь твой Арцём. Шанцуе ж табе, Светка», — без пільнай патрэбы заўважыла адна з плыўчых. У голасе адчуваліся мала прыхаваныя ноткі зайздрасці. Света пакрочыла насустрач хлопцу, які цёплым пяшчотным позіркам лавіў кожны яе рух. Праз імгненне вусны дзяўчыны і яе сябра з'ядналіся ў непрацяглым, але жарсным пацалунку. Гэта не засталося па-за ўвагай іншых дзяўчат. «Воў-воў, каханачкі, лягчэй трохі», — паўжартам выгукнуў нехта з іх. Групка выбухнула задзірыстым смехам, хваля якога міжволі накрыла і рамантычную пару. «Зайздросці моўчкі!» — кінула ў адказ пераможца, трымаючыся жартаўлівага тону. Хлопец ніяк на гэты абмен рэплікамі не адрэагаваў. Ён павіншаваў сваю дзяўчыну з пераможным першым месцам і ўручыў ёй кветкі. Тая ласкава абняла яго, але праз секунду яе чамусь перасмыкнула, і яна рэзка адхінулася.

— Што здарылася? — не разумеючы прычын для гэтага, спытаў Арцём.

— Нічога. Але… — збянтэжана прамармытала дзяўчына.

— Што — «але»? — не сунімаўся сябар.

— Мне здалося, што нехта за намі назірае збоку, — патлумачыла яна.

— Ну, гэта магчыма, — усміхнуўся ён. — Нехта з тваіх таварышак ці, можа, які заўзятар загледзеўся.

— Магчыма, — яна згодна хітнула галавой. — Проста я адчула сябе вельмі няўтульна. Нібыта мяне няшчадна свідруюць позіркам.

Яны разам агледзеліся. Нічога падазронага не прыкмячалася. Калі сапраўды нехта і кінуў на іх благім вокам, то ён паспеў сысці. Зрэшты, назіраць маглі і з вокнаў бліжэйшага да басейна шматпавярховіка. Не жадаючы разважаць на гэтую тэму, пара рушыла на аўтобусны прыпынак.

У дарозе Свету прыспела тэлефанаванне. Званіў яе тата. Ад сябе і ад мамы павіншаваў з перамогай, адразу ж патлумачыў, што пра гэта пачулі ў навінах мясцовай радыёстанцыі. Адначасова пашкадаваў пра тое, што не давялося самому прысутнічаць на даччыным трыумфе. Ён разам з жонкай акурат збіраўся ў паездку. Меркавалі на пару дзён з'ехаць у Вільню, каб вырашыць там пэўныя бізнес-пытанні, а заадно і трошкі развеяцца. Даведаўшыся, што дачушка ідзе не адна, тата не прамінуў запрасіць Арцёма ў госці. Каго-каго, а Цёму ў сям'і Даброўскіх ведалі даўно, давяралі яму і ўспрымалі няйнакш як будучага зяця. Такая думка задавальняла ўсіх. Хаця сам хлопец іншым разам саромеўся гэтага даверу.

Як толькі пара з'явілася ў кватэры Даброўскіх, мама Светы паспяшалася накрыць на стол. Чарговыя віншаванні па-свойску перапляліся з зычаннямі «Смачна есці!». Дзеці, а толькі так іх тут і называлі, паглыналі смачны чырвоны боршч і слухалі, што ім кажуць дарослыя. Тыя ўжо былі гатовыя да ад'езду і аддавалі апошнія наказы. Паводзіць сябе прыстойна. Не забываць харчавацца. І ўсё такое гэтакае. Потым Свеціны бацькі замоўклі, замілавана паглядзелі на дзяцей і пачалі развітвацца, просячы не праводзіць. Тата нахіліўся да Арцёма і нешта прашаптаў яму на вуха. Хлопец міжволі пачырванеў, ажно па колеры мог скласці канкурэнцыю згаданаму баршчу. Відаць, бацькі здагадваліся, што паміж іх дачкою і яе сябрам нешта

большае, чым проста сяброўства. Мужчына пахлопаў яго па плячы. Пасля кароткага развітання «радакі» сышлі. Дзяўчына і яе сябар хвілін пяць сядзелі за сталом, думаючы, ці варта пераходзіць да катлет з макаронамі. Урэшце перамагло зусім іншае жаданне.

**2**

Наступным ранкам спяшацца не было куды. Субота ёсць субота. А па суботах Света трэніровак не мела. Арцёму ж трэба было ісці на трэніроўку па баскетболу. Але гэта яшчэ толькі ўдзень. Здавалася, што ў гэтай пары мелася дастаткова шмат часу, каб пабыць разам. Дзяўчына паводзіла сябе так, як мусіла б сябе паводзіць клапатлівая закаханая гаспадыня. На сняданак яна згатавала амлет з сырам, падсмажыла тосты, зрабіла кавы з малаком. Сябар, калі б і не любіў чагосьць з гэтага, усё адно б аблізаў пальчыкі. За ноч добра згаладаўся. Дый крыўдзіць каханую дзяўчыну ніяк не жадаў.

Праглынуўшы сняданак, з кубкамі недапітай яшчэ кавы хлопец і дзяўчына скіраваліся да камп'ютара. Света зайшла ў інтэрнэт і пасунула клавіятуру да Арцёма.

— Давай, Казімірчык, адчыняй «кантакцік», — прамовіла яна, называючы хлопца па прозвішчы.

Той пасміхнуўся, перайшоў на адпаведную старонку вядомай сацыяльнай сеткі і ўвёў належныя дадзеныя.

— Зараз мы пабачым, колькі табе дзевак тут панапісвала ды фотачак «налайкала», — жартаўліва заўважыла Даброўская, пазіраючы на манітор.

— Ой, ды ўсе ведаюць, што мы з табой сустракаемся, дык даўно перасталі і пісаць, і «лайкаць». Хіба толькі па справах якіх могуць звярнуцца. А так не, — з усмешкай адрэагаваў баскетбаліст.

І сапраўды на ягонай старонцы панавала поўная цішыня. Ніводнага новага паведамлення. Ніводнага каментара на сцяне. Ніводнага новага «лайка» ў фотаальбомах. Хлопец пераможна зірнуў на сяброўку і сказаў:

— А вось у цябе там зараз будзе «стопяццот» паведамленняў, куча «коментаў», дый «лайкаў» як дроў у лесе.

— Ну, што ўжо зробіш, — сціпла адказала тая, цягнучы клавіятуру на сябе.

Арцём меў рацыю. Але збольшага толькі таму, што Свеце на яе старонку прыйшло шмат віншаванняў з нагоды перамогі ў спаборніцтвах. Праўда, сярод прыватных паведамленняў знайшліся і два, на якія баскетбаліст звярнуў асаблівую ўвагу.

— Зноў табе дарослыя мужыкі пішуць? — стараючыся казаць бадзёра, спытаўся ён, хаця ўнутры ўжо кіпеў.

— Ай, кінь ты раўнаваць! — гарэзліва выгукнула плыўчыха і злёгку тыцнула яго кулачком у плячо.

Ён зрабіў выгляд, быццам пажартаваў. Святлана ўзялася чытаць паведамленні ад тых, каго каханы назваў дарослымі мужыкамі. Папраўдзе аднаму было 30, а другому 25 гадоў. Першы — яе настаўнік гісторыі. Другі — фатограф, з якім пазнаёмілася ў сацыяльнай сетцы. Яна патлумачыла гэта Арцёму.

— І што пішуць? — стрымана ўдакладніў ён, каб крый божа зноў не засведчыць перад дзяўчынай сваю рэўнасць.

— Гісторык турбуецца, што я шмат прапусціла, — стала пераказваць змест паведамлення яна. — Пытаецца, ці не маю сёння часу і жадання, каб адпрацаваць хаця б

пару параграфаў. Ён клёвы дзядзька. З разуменнем ставіцца да вучнёўскіх праблем. Так… Факультатыў сёння з гадзіны да дзвюх. Можа, і сапраўды падысці?

— Як сабе хочаш. Але ты наўрад ці зараз здолееш дзве тэмы вывучыць, — скептычна прамовіў сябар.

— Ну, там пабачым, — як нічога ніякага выдала Света, пераходзячы да паведамлення ад фатографа.

Той прапаноўваў ёй зладзіць фотасесію ў яго хатняй студыі. Да таго ж, у самы бліжэйшы час. Гэта напружыла Арцёма. Сяброўка ведала фатографа ўсяго пару тыдняў і толькі завочна. Ніколі не бачыла яго жыўцом. Агульных знаёмых, якія маглі б нешта расказаць пра яго, у іх не было. Хлопец падцягнуў клавіятуру ў свой бок, перайшоў на старонку фатографа і адразу ж саркастычна чмыхнуў.

— Нікас Сулімаў? Гэта яго так сапраўды завуць? — удакладніў ён у дзяўчыны.

— А бог яго ведае, — паціснула яна плячыма. — Здаецца, што на ўсіх здымках, якія ён выкладае ў сябе на старонцы, стаіць акурат такі подпіс.

Казімірчык паспяшаўся зайсці ў фотаальбомы Сулімава. Стаў наўздагад адкрываць некаторыя з іх і хуценька пераглядаць змешчаныя там фатаграфіі. Звонку было цяжка зразумець, што так турбавала хлопца. Урэшце ён выдаў заўвагу:

— Нешта ў яго мадэлькі ўсе аднатыпныя. Падобныя між сабой.

Дуброўская паматляла галавой, даючы зразумець, што яна не ў курсе гэтага і нават ніколі не задумвалася. Сябар жа насамрэч толькі бегла пазіраў на твары сфатаграфаваных Нікасам дзяўчат. Яго заклапочанасць палягала ў іншым — ён спрабаваў высветліць, ці не робіць фатограф адмысловых фотасесій у жанры ню. Аднак, колькі яму ні давялося пераглядзець альбомаў (і пры гэтым удаваць абыякавасць!), усе адлюстраваныя на здымках мадэлі былі апранутымі.

— Ну, дык ты пойдзеш да яго? — закрываючы чарговы выпадковы альбом, удакладніў Арцём.

— Хочацца схадзіць, — зусім па-дзіцячы вымавіла дзяўчына. — Ён хоць нармальныя фоткі зробіць. А то што ў мяне тут…

Усё выглядала на тое, што ў дзяўчыны яшчэ не мінула эйфарыя ад перамогі на спаборніцтвах, якая перапляталася са зразумелым дзявочым жаданнем пакрасавацца. Пагатоў, работы фатографа выглядалі прафесійна, і можна было чакаць выразных, насычаных эмоцыямі, здымкаў.

— Ясна, — як мага больш нейтральна адрэагаваў баскетбаліст і тут жа дадаў яшчэ адно пытанне: — А да гісторыка таксама пойдзеш? Ён, дарэчы, зараз онлайн з тэлефона.

— Напішы, што я прыйду а трынаццатай гадзіне, каб проста паразмаўляць, — каб даць сябру лішні раз адчуць сябе гаспадаром становішча і збіць чарговую кепска прыхаваную хвалю рэўнасці, папрасіла Света.

Ён так і зрабіў, сапраўды адчуўшы ад гэтага пэўную палёгку. Настаўнік адказаў вельмі хутка, напісаўшы: «Прыходзь. Буду чакаць». Дзяўчына ўсміхнулася, быццам не проста прачытала адказ, а ўбачыла перад сабой настаўніка. Арцём скасавурыўся на яе і задаў чарговыя пытанні, нібыта ад пустое цікаўнасці:

— Як яго хаця б завуць, гэта твайго клёвага дзядзьку? І чаму ён падпісаны як «Horacio Oliveira»?

— Ён Віктар Андрэевіч. А нік сабе ўзяў па імені героя свайго любімага рамана, — растлумачыла плыўчыха і зноў, нібы няўзнак, адзначыла: — Ён сапраўды клёвы. Увойдзе ў становішча.

Апошняя фраза кальнула хлопца, і ён нават збіраўся на гэта кінуць нешта з’едлівае. Але сяброўка, своечасова адчуўшы гэта, прыгарнула яго да сябе і закрыла яму рот пацалункам.

Пацалунак прыкметна разняволіў атмасферу. Толькі пасля гэтага Даброўская адказала фатографу. Пагадзілася на фотасесію, напісаўшы, што можа завітаць да яго сёння ж а чатырнаццатай гадзіне. Той неўзабаве кінуў ёй свой хатні адрас і спасылку на «гугл мапс» з дакладнымі каардынатамі яго дома. Выявілася, што гэта катэдж, які мясціўся ў прыватным сектары за пяць прыпынкаў ад школы. На спадарожнікавых здымках картаў «гугл мапс» можна было разгледзець нават дахоўку, якой быў укрыты яго дом. Дзяўчына адказала, што ўсё зразумела, і разам з тым на радасць свайго хлопца выставіла ўмову: ніякіх здымкаў з «галізной» ці нават намёкаў на іх. Сулімаў запэўніў, што шануе закон, што не стаў бы прасіць нічога падобнага ў непаўналетняй дзяўчыны і бла-бла-бла. Давялося паверыць яму на слова.

— Я заеду туды пасля трэніроўкі і забяру цябе, — не прапанаваў, а паставіў сяброўку перад фактам Арцём. — Спадзяюся, вы ўправіцеся там да пяці вечара.

— Я так сама на гэта спадзяюся, — у чарговы раз усміхнулася Света. — Зараз напішу яму, што ты пад'едзеш.

— Ай, не трэба, — запратэставаў хлопец. — Абыдзецца пан Нікас без тваіх лішніх справаздач.

— Які ж ты ўсё-ткі раўнівы, — не хаваючы ўсмешкі, паўшчувала яго дзяўчына.

Плыўчыха закрыла старонку сацыяльнай сеткі, устала з крэсла і кранулася рукой рукі свайго любага баскетбаліста. Той таксама падняўся са свайго нацепленага месцайка.

— Ведаеш, — какетліва шаптала дзяўчына. — І да майго факультатыву, і да тваёй трэніроўкі яшчэ ёсць час. А гэта значыць, што мы можам…

Яна не змагла дагаварыць, бо яе перабіў гук мабільнага тэлефона. Званіла Насця Навіцкая. Света адразу ж прыняла выклік і ўжо на мігі патлумачыла хлопцу, з кім яна зараз мае размаўляць. Учарашняя суперніца прасіла сустрэцца. Арцём, пачуўшы гэта, прашаптаў: «Ды адпраў ты яе к чорту. Што ёй там яшчэ трэба?» Але сяброўка адмахнулася ад ягоных словаў. Яна выслухала нешматслоўную канкурэнтку і пагадзілася на сустрэчу з ёй, хаця тая толкам не патлумачыла нагоду. Сустрэцца запланавалі каля школы. Але дакладны час не прызначылі. Навіцкая яшчэ не ведала, калі ёй будзе зручней — да гадзіны ці пасля дзвюх. Дамовіліся, што яна патэлефануе Даброўскай у раёне полудня і ўдакладніць. «Ты толькі ўлічы, што я доўга не змагу з табой размаўляць», — папярэдзіла Святлана. Насця адказала, што не бачыць у гэтым праблемы.

Калі гутарка скончылася, Казімірчык стаў папікаць сяброўку за тое, што пагадзілася на гэтую сустрэчу. Ён быў перакананы, што не да чаго добрага яна не прывядзе. Казаў, што размова канкурэнтак абавязкова перарасце ў спрэчку пра вынік учарашніх спаборніцтваў. Даброўская паабяцала, што сваркі не дапусціць, і пацягнула хлопца да сябе.

### 3

Па дарозе на трэніроўку Арцём толькі і думаў, што пра свае адносіны са Светай. Сустракацца пачалі яшчэ тады, калі абодва вучыліся ў дзявятым класе. Мінула ўжо больш за два гады. Здавалася, што за такі час можна было расставіць і ўсе кропкі над «і», і пры жаданні нават птушкі над «ў». Ува многім яно так і было. Падлеткавая закаханасць перарасла ў палкае юнацкае каханне. І з першага погляду ўсё выглядала вельмі добра. Толькі парасткі рэўнасці з боку хлопца іншым разам за імгненне ператвараліся ў сапраўдную дуброву. Так, дзяўчына вельмі хутка ўтаймоўвала прыступы яго рэўнасці, але само пытанне нябачна прысутнічала.

Думкі пра рэўнасць і спадарожныя ёй рэчы зніклі, як толькі Арцём узяў мяч. Трэнер пашыхтаваў хлапцоў і абвясціў задачу на сёння, адразу адзначыўшы, што час трэніроўкі зацягнецца хвілін на трыццаць. Праз колькі дзён павінен быў адбыцца нечарговы таварыскі матч з расіянамі, і трэнеру хацелася трохі падшліфаваць гульню сваіх выхаванцаў. Казімірчык злёгку захваляваўся — было зразумела, што не зможа забраць сяброўку ад фатографа ва ўмоўлены час. Але ўзрасці гэтаму хваляванню не было калі. Пачалася размінка. Баскетбалісты камбінавалі розныя віды бегу — бег з захлістам, скрыжаваны бег. Рабілі паскарэнні. Потым былі практыкаванні на расцяжку. Каманда сядала на падлозе ў кола, выцягваючы пэўныя групы цягліц. Хто рукі цягнуў, хто ногі. Потым мяняліся. Рабілі гэта вельмі зладжана.

Пасля практыкаваліся ў вядзенні мяча правай і левай рукамі, вялі па два мячы, пераводзілі пад нагой, за спінай. Адпрацоўвалі кідкі, у тым ліку штрафныя і трохачковыя. Арцём па трохачковых кідках выявіўся найбольш удалым, заслужана атрымаўшы мянушку Снайпер. Добрыя вынікі цешылі хлопцава самалюбства. Настрой добра прыўзняўся. Працаваць у пары, робячы так званыя «абгульванні», было ўжо значна прасцей. Разам з самым падрыхтаваным таварышам па камандзе — капітанам — Казімірчык рухаўся ад аднаго краю залы да супрацьлеглага кальца. Пазней каманда падзялілася на тройкі, якія зноў жа адпрацоўвалі перадачы, але па значна больш складанай схеме. Гэта вымагала гранічнай уважлівасці. Думаць пра нешта яшчэ, апроч трэніроўкі, папросту не выпадала. Хаця цень нядаўніх думак усё яшчэ трымцеў у галаве. Калі ж пачалося шліфаванне гульнявых стратэгій і камбінацый, за якім пайшла ўласна гульня на два кальцы, ад таго ценю і найменшага знаку не засталося.

Трэніроўка атрымалася добрай і насычанай. Трэнер падзякаваў хлапцам, і тыя пацягнуліся ў распранальню. Арцём імгненна згадаў пра сваё спазненне і вырашыў патэлефанаваць Свеце, думаючы, што на яго мабільніку будуць прапушчаныя званкі ад яе. Прапушчаных званкоў не было. Хлопец таропка выбраў нумар Даброўскай у спісе нядаўніх тэлефанаванняў і пачуў са слухаўкі толькі тое, што абанент недасяжны. Такі паварот яго крыху ўзрушыў. Ён паспешліва прыняў душ, пераапрануўся, яшчэ пару разоў бясплённа паспрабаваў дазваніцца да каханай і подбегам накіраваўся на вуліцу. Шпаркай хадой дайшоў да прыпынку і ўскочыў у аўтобус — каб даехаць да прыватнага сектара, дзе жыў Нікас Сулімаў. Аўтобус ехаў надзвычай павольна, дый яшчэ спыняўся каля кожнага светлафора, патрапіўшы у «чырвоную хвалю». Казімірчык злаваўся і ўшчуваў сябе за тое, што не паехаў маршруткай. Зайшоў з тэлефона ў «кантакт», каб зірнуць, калі там апошні раз была Света. На яе старонцы было пазначана: «Была тут сёння а 14:00», а побач красавалася маленькая выява тэлефоннай слухаўкі. «Значыць, заходзіла якраз пасля факультатыву», — разважыў баскетбаліст, нават не звярнуўшы асаблівай увагі на тое, што з’явілася новае пасланне ад яго колішняй дзяўчыны: маўляў, сумуе па ім. Адно толькі чмыхнуў і выйшаў з інтэрнэту.

Дом фатографа знайшоўся без цяжкасцяў. Гэта быў тыповы катэдж на два паверхі, крыты чырвонай дахоўкай. Яго агароджваў высокі плот з белае цэглы. Арцём ні секунды не вагаўся і націснуў на кнопку дамафона адразу ж, як апынуўся каля брамкі. Яму без маруджання, нічога не спытаўшы, адчынілі дзверы. Хлопец ступіў на двор. Сулімаў сустрэў яго здзіўленай усмешкай і прамовіў:

— О, ды я цябе ведаю! Ты сябар Святланы. Бачыў цябе ў «кантакце». Заходзь, не саромейся. Жадаеш сфатаграфавацца?

— Не. Дзякуй. Я хачу забраць Свету і паехаць дадому, — адказаў Казімірчык, міжволі азіраючы падворак. У вочы тут жа кінулася фотакамера на штатыве і пры-

стасаванні для асвятлення. Трохі воддаль у плеценым крэсле сядзела дзяўчына. Казімірчык быў перакананы, што гэта яго сяброўка. Але не мог зразумець, чаму яна ніяк не адрэагавала на яго з'яўленне. Перш, чым Нікас, які расплыўся ў незразумелай баскетбалісту ўсмешцы, паспеў адкрыць рот, Арцём рушыў да дзяўчыны.

— Я разумею, што ў цябе фотасесія, — гаварыў ён, ідучы. — Але ж навошта мабільнік адключаць? Не паверыш, але я за цябе хваляваўся.

— Што? — здзіўлена перапытала тая і засмяялася. — Я не твая сяброўка. Ты пераблытаў.

Яе твар зблізу аказаўся значна менш падобным, чым за секунды перад тым.

— Упс. Памылачка выйшла. Прабачце, — збянтэжыўся Арцём, агаломшаны падабенствам мадэлькі да сваёй каханай.

— Нічога страшнага, — весела выгукнула тая.

Гэтая блытаніна яе яўна пацешыла.

— Святлана была тут, але гадзіны паўтары таму з'ехала, — таксама пасміхаючыся, патлумачыў гаспадар. — Калі хочаш, я магу табе паказаць на камеры здымкі з ёю. Там і час пазначаны.

— Ну, давайце, — усё яшчэ збянтэжана прамармытаў хлопец.

Фатограф наблізіўся да камеры, настроіў яе на патрэбны рэжым і выбраў здымкі.

— Вось глядзі, — звярнуўся ён да госця. — Гэта першы здымак з яе сённяшняй фотасесіі. І вось бачыш час? 15:03. А гэта… — ён трохі пагартаў захаваныя на карце памяці фатаграфіі. — Гэта апошні здымак. І час. 16:20. А сышла яна адсюль без малага а сямнаццатай гадзіне.

Казімірчык яшчэ раз паглядзеў на здымкі ды на час і не ўстрымаўся ад пытання:

— А што гэта за сукенка на ёй? Яна ж да вас у іншай вопратцы паехала.

— Ой, гэта вельмі проста. У мяне тут ёсць касцюмерка. Кожная мадэль пры жаданні можа выбраць сабе той строй, які ўпадабае. Твая дзяўчына ўпадабала якраз гэтую сукенку, — дадаў яснасці Нікас і спачувальна пацікавіўся: — Святлана не адказвае на твае званкі?

Арцёму не хацелася жаліцца фактычна незнаёмаму чалавеку. Таму ён адказаў вельмі коратка:

— Тыпу таго.

Сказаў і зазбіраўся сыходзіць.

— А яна, дарэчы, перад развітаннем камусь званіла, — нечакана паведаміў Сулімаў.

— Каму? — не прамінуў удакладніць хлопец.

— Я не ведаю, — развёў рукамі фатограф. — Але чуў, як яна называла нейкае іспанскае ці італьянскае імя або прозвішча. І абяцала некуды прыехаць, каб управіцца за гадзіну. Ну, так я гэта запомніў.

Казімірчык аж скалануўся ад пачутага.

— Ці не Алівейра? — спытаў ён, узгадаўшы «нікнэйм» настаўніка гісторыі.

— Напэўна. Дакладна я не згадаю, — адказаў Нікас, прабачальна гледзячы на яшчэ больш збянтэжанага юнака.

Арцём паспешліва развітаўся і пакінуў падворак. Яго калаціла ад злосці і неўразумення. У галаве не ўкладвалася тое, што Даброўская магла прызначыць нейкую дадатковую сустрэчу свайму настаўніку. Але ж з таго, што расказаў фатограф, акурат гэта і вынікала. Баскетбаліст ускочыў у маршрутку, якая ехала ў цэнтр. Па дарозе ён яшчэ раз паспрабаваў патэлефанаваць сяброўцы. Гэтым разам не толькі на

мабільны, але і на хатні тэлефон. Безвынікова. Едучы ў мікрааўтобусе, кіроўца якога на ўсю гучнасць уключыў песню «Уладзімірскі цэнтрал», хлопец думаў-разважаў, як знайсці Віктара Андрэевіча. Нічога лепшага за тое, каб завітаць у школу, ён не прыдумаў. Так, быў вечар суботы, і верагоднасць таго, што настаўнік затрымаўся на працы, выглядала дужа мізэрнай. Дый калі той сапраўды меў вечаровую сустрэчу са Светай, то шукаць яго менавіта ў школе магло быць цалкам бессэнсоўным заняткам. Але іншай зачэпкі ў хлопца не было.

Казімірчык узбег на школьны ганак і шмыгнуў у вестыбюль. З дзясятак школьнікаў тоўпілася вакол тэніснага стала, уважліва сочачы за гульнёй.

— Малады чалавек, вы куды? — спыталася ў Арцёма жанчына з вахты. — У спартыўную залу ці на харэаграфію?

— Мне б настаўніка гісторыі пабачыць, Віктара Андрэевіча, — не стаў таіць ён.

— Дык Знайдзёнаў ужо сышоў. Спазніліся вы, малады чалавек, — паведаміла тая.

«Дзяўчына прыйшла, і ён паляцеў», — пачуўся за спінай перашэпт малых, які суправаджаўся хіхіканнем. Баскетбаліст рэзка павярнуўся да іх і пацікавіўся, што за дзяўчына завітала да гісторыка. Малыя адно пацiснулі плячыма і сказалі, што не ведаюць, працягваючы пры гэтым усміхацца. Іх кароткі дыялог заспеў яшчэ адзін школьнік, які толькі-толькі паспеў зайсці ў вестыбюль.

— Гэта вы пра гісторыка «распрагаеце»? — бойка ўдакладніў ён і, атрымаўшы дадатны адказ, стаў з імпэтам распавядаць: — Я яго толькі што бачыў у скверыку. Ён там прагульваецца. Але не адзін. З нейкай дзяўчынай. Ходзяць там такія ўсмешлівыя, адно аднаму нешта расказваюць.

— Хопіць ужо настаўнікам косткі перамываць! — не вытрывала жанчына з вахты. — Якая вам справа, з кім ён там ходзіць!

Арцём падняў абедзве рукі на ўзроўні шыі далонямі вонкі, дэманструючы тым самым міралюбівы жэст заспакаення. Між тым унутры ў яго ўсё кіпела і віравала. Каму-каму, а яму вельмі хацелася ведаць, з кім насамрэч шпацыруе тутэйшы настаўнік гісторыі.

Віктара Андрэевіча ён ведаў толькі па фатаграфіях у сацыяльнай сетцы. Але спадзяваўся, што здолее пазнаць, не зважаючы на лёгкія прыцемкі. У скверы было даволі шмат людзей, і многія з іх прагульваліся парамі. Казімірчык кідаў позіркі то на адну пару, то на другую, то на трэцюю. Нікога, хто б нагадваў Свету ці яе настаўніка, ён не знайшоў. Трушком абег увесь сквер, але адшукаць іх так і не здолеў. «Няўжо паспелі сысці? Ці мо ў якую кавярню завіталі?» — пра сябе разважаў ён. Бліжэйшая кавярня стаяла пасярод скверыка. Баскетбаліст стрымгалоў рушыў да яе і літаральна ўскочыў у дзверы. Маленечкая зала была цалкам запоўненая наведвальнікамі. І перш, чым адміністратар падышла да ўзрушанага хлопца, той паспеў разгледзець усіх і выбегчы на двор, бо патрэбных асоб не выявіў. Наступнай яго мэтай стаў суседні рэстаран. Метрдатэль сустрэла яго амаль на самым парозе і паведаміла, што вольных месцаў няма.

— Але, калі вы пачакаеце, то магчыма… — пачала яна, ды Арцём яе перабіў.

— Тут павінны быць мае сябры, — з натужнай усмешкай прамовіў ён.

Метрдатэль з разуменнем кіўнула галавой і прапусціла наведвальніка ў залу.

Пахла піцай і іншымі прысмакамі. Хлопец усвядоміў, што паспеў выгаладацца, і міжволі каўтаў сліну. Ён хадзіў між столікамі і кідаў асцярожныя позіркі на тых, хто сядзеў за імі і адпачываў. Асцярожныя, бо можна было натрапіць на такіх наведвальнікаў, якія падобнай цікавасці не зразумелі б. Лішніх непаразуменняў Казімірчык не хацеў. Дайшоўшы да канца залы, нібы да кальца на баскетбольнай пляцоўцы, ён

нарэшце ўбачыў знаёмы мужчынскі твар. Віктар Андрэевіч задаволена паглынаў востры італьянскі пірог, усміхаючыся сваёй спадарожніцы. Яна сядзела спінай да астатняй часткі залы, і яе твару баскетбаліст разгледзець не мог. Зрэшты, яму гэта і не было патрэбна. І прычоска, блузка, якія былі добра бачныя яму, казалі самі за сябе. Света! Сэрца забілася ў шалёным тэмпе. Не было сэнсу марудзіць. Арцём наблізіўся да іх століка і гучна вымавіў:

— Буркуеце, галубочкі?

**4**

Настаўнік недаўменна зірнуў на хлопца, хутка пазнаўшы, хто стаіць перад ім.

— Што за клопат, Арцёме? — адказаў ён пытаннем, стараючыся прамаўляць як мага больш нейтральным тонам.

Дзяўчына, якая сядзела з гісторыкам, азірнулася. Хлопец, які толькі-толькі раскрыў рот, каб выдаць пэўнага зместу тыраду, асекся і замоўк. За столікам з Віктарам Андрэевічам сядзела не Света. Яна ні кропелькі не была на яе падобная, дый выглядала старэйшай гадоў на восем.

— Прабачце, — выціснуў ён з сябе і зусім роспачна дадаў: — Мая Света знікла.

— Што значыць знікла? — у момант пазмрачнеўшы, спытаў настаўнік і падсунуў баскетбалісту зэдлік, каб той не размаўляў стоячы.

Казімірчык, наколькі мог, грунтоўна расказаў пра ўсё, што адбылося за апошнія суткі — ад перамогі Даброўскай да яе фотасесіі ў Сулімава.

— І ты падумаў, што яна пасля фотасесіі пайшла на сустрэчу са мной? — здзівіўся Віктар Андрэевіч і тут жа звярнуўся да сваёй спадарожніцы: — Бачыце, Аксаначка, якое ўражанне яшчэ можа скласці Знайдзёнаў у юнацкім асяроддзі.

Спадарожніца гісторыка ўсміхнулася і выказала меркаванне, што Арцём проста лішне перахваляваўся і прыдумаў здарэнне, якога, магчыма, і не было. Хлопца гэта абурыла, але ён абачліва прамаўчаў.

— Ты не крыўдуй, — папрасіў Віктар Андрэевіч. — Тут трэба разабрацца. А вось гэтая прыўкрасная дзяўчына, якую завуць Аксана Мількавец, умее разбірацца ў заблытаных справах.

— У міліцыі ці пракуратуры працуеце? — выказаў здагадку хлопец і, прыняўшы яе за слушную, адцяў: — Я хачу знайсці Свету без міліцыі. Бо калі яе тата дазнаецца, што я не змог у яго адсутнасць усцерагчы дачку, то мне будзе гамон.

— Будзем спадзявацца, што ў міліцыю звяртацца не прыйдзецца, — прамовіў настаўнік. — А Аксана насамрэч мая каляжанка. Заблытаная справа, якую яна разгадала, адбылася гадоў сто таму ў нашым горадзе. Яна гэтаму сваю дыпломную работу прысвяціла.

Дзяўчына зноў усміхнулася, з какетлівай сарамяжнасцю махнула рукой і з удаваным скепсісам прамовіла:

— Ой, знайшлі ўжо з мяне дэтэктыва. Звычайная дыпломная праца.

— Не зусім звычайная. У аднаго гаспадара ў пачатку XX стагоддзя раптоўна прапала сто рублёў. Шукалі тады ўсе, хто толькі мог, але так і не знайшлі. А Аксана на аснове гэтага здарэння гісторыю цэлага гарадскога раёна таго часу раскапала! — захапленню настаўніка не было межаў.

Казімірчык не вельмі хацеў усё гэта слухаць.

— Я сюды не байкі стогадовай даўніны вывучаць прыйшоў, — трошкі завёўся ён.

Пара гісторыкаў пастаралася яго суцішыць.

— Ты дарма злуеш, хлопча, — звярнуўся да яго Знайдзёнаў. — Калі Аксана, расклаўшы факты па палічках, здолела раскрыць злачынства дарэвалюцыйных часоў, то з тваім гэтым здарэннем разбярэцца тым больш.

— А адкуль вы ведаеце, што ваша каляжанка разблытала ўсё правільна? Лагічная пабудова можа выглядаць бездакорна, але на практыцы пры гэтым не спрацоўваць, — нечакана выдаў Арцём. — Вось мы сваёй баскетбольнай камандай выбудоўваем пэўную стратэгію гульні на аснове таго, што мы ведаем пра нашых праціўнікаў. У думках і на словах усё атрымліваецца цудоўна, проста цукерачка. Але прыходзіць гульня, і стратэгія рассыпаецца, быццам картачны домік, а мы прайграем з дзікім лікам.

— Бывае і так, — уражана выслухаўшы развагі юнака, згадзілася Мількавец. — Але з маім дыпломным праектам ёсць пэўная закавыка. Усе высновы па тым крадзяжы цалкам пацвердзіліся пазней. Тут драўляны дом тых часоў знеслі, і рабочыя знайшлі старыя паперы. А між іншага і дзённік аднаго з гараджан пачатку XX стагоддзя, якога я і вылічыла. Дзённікавыя запісы ўсё пацвердзілі. Гэта называецца гісторыя паўсядзённасці. Я працягваю займацца ёй ужо ў аспірантуры. Іншым разам даводзіцца разгадваць і іншыя загадкі таго часу. Думаю, што разам мы зможам разгадаць, што ж здарылася са Святланай. Так што, знойдзем мы тваю сяброўку.

Яна хацела сказаць «жывой ці мёртвай», але ўчасна спахапілася і ўстрымалася ад прафесійнага цынізму гісторыка. Віктар Міхайлавіч заўважыў, што іх суразмоўца змагаецца са спакусай не глядзець на ежу. Нічога яму не кажучы, настаўнік паклікаў афіцыянтку і замовіў тое, што можна было б хутка прынесці. Хлопец пачаў быў пратэставаць, але яго пераканалі, што частавацца, калі запрашаюць, не грэх. Неўзабаве перад ім стаяла піяла грыбнога супу з локшынай, салата з гародніны, апетытны кавалак мяса з запечанай бульбай.

— Італьянская кухня такая італьянская, — жартаўліва адзначыла аспірантка.

— Ты, хлопча, налягай на ежу, а мы тут раскладзем карты, — адправіў неабходны імпульс Знайдзёнаў.

Юнак прыняўся за суп. Мількавец дастала вялікі нататнік, адгарнула чыстую старонку, каб сцісла фіксаваць версіі, якія яна збіралася вылучыць. Згодна з першай версіяй Даброўская не знікла, а проста апынулася за межамі дасяжнасці з прычыны таго, што не можа пазваніць, бо батарэя мабільніка разрадзілася. Баскетбаліст адмоўна паматляў галавой і паведаміў, што яна ў такім разе змагла б знайсці спосаб звязацца.

— Папрасіла б у каго-небудзь тэлефон. Такое ўжо было некалькі разоў, — згадаў Казімірчык.

— Тады версія нумар два. Ад мяне асабіста, — уклініўся настаўнік. — Ты, хлопча, наўмысна пажартаваў наконт знікнення сваёй сяброўкі, каб падысці да нас і пабалакаць з такой красуняй, як адна мая знаёмая аспірантка.

Аксана засмяялася і скрозь смех заявіла, што версія адразу ж здымаецца як некампетэнтная і антынавуковая. Гэты пасаж трошкі развесяліў Арцёма, і ён ледзьве не назваў настаўніка пікап-майстрам 80-га ўзроўню. Аспірантка выдала сустрэчную версію, звяртаючыся да Казімірчыка:

— Дапусцім, што хлусіць наш дарагі Віктар Андрэевіч. Дапусцім, што гэта ён на самой справе выкраў і схаваў тваю сяброўку. Але ў які час ён гэта мог зрабіць? Яўна не ў час факультатыву, бо твая любімая плыўчыха пасля яго засвяцілася ў фатографа. А пасля фотасесіі ў школе яе не бачылі. А па-за школай сустрэцца з нашым панам настаўнікам яна таксама ўвечары не магла, бо са школьнага вестыбюля і да гэтага рэстаранчыка яго суправаджала я.

— Пры ўмове, што вы не хлусіце, каб пакрыць хлусню пана настаўніка, — урэзаў штучку хлопец на той жа хвалі развагаў.

— О, ты з-пад каня-скакуна падковы адрываеш, — з посмешкай адрэагавала Мількавец. — Так, магчыма хлушу і я. Але прамежак часу між школьным ганкам, скверыкам і рэстаранчыкам настолькі мізэрны, што нават, калі бы мы і хацелі некуды запраторыць тваю любінятку, то наўрад ці б змаглі.

Арцём моўчкі згадзіўся і спытаў, ці можа хлусіць фатограф.

— А ў чым менавіта ён мог схлусіць? — задумалася аспірантка. — Святлана ў яго была. Ты бачыў здымкі. Спецыяльна на Алівейра ён неківаў, ты сам пра гэта дадумаў. Ці мо падазраеш, што Святлана з нейкай прычыны магла застацца ў яго?

Юнак пацiснуў плячыма i сказаў:

— Гэты Нікас трошкі дзіўны. Манерны такі. Ці што… Але мне здалося, што ён быў шчыры ў сваіх словах.

— Тады наступная версія… — Аксана на імгненне замялася, але ўсё ж агучыла: — Няшчаснае здарэнне па дарозе ад фатографа.

Хлопец цяжка ўздыхнуў. Яму складана было нават думаць пра тое, што яго сяброўка магла трапіць пад колы аўтамабіля ці зваліцца ў якую-небудзь траншэю. Апошніх ён, дарэчы, шмат бачыў, пакуль ішоў да катэджа фатографа і назад. Настаўнік, які пэўны час адно назіраў за гаворкай, выцяг з сумкі планшэт і зайшоў на гарадскі сайт, паглядзеў, якія здарэнні адбыліся ў горадзе за апошнія гадзіны. Нічога, што магло хоць неяк нагадваць пра Даброўскую, там не было. Настаўнік агучыў гэта і дадаў:

— Але, на жаль, гэта пакуль не дае стопрацэнтнай гарантыі.

Казімірчык пацікавіўся ў аспіранткі, ці ёсць у яе яшчэ якая-небудзь версія.

— Так, — сказала яна. — Ты казаў, што яе бацькі з'ехалі на пару дзён у Літву, у тым ліку і па бізнес-справах яе таты. А што, калі знікненне Светы звязана з татавым бізнесам?

— Ой, блін… — ніякавата прашаптаў хлопец. — Я нават не падумаў пра гэта. Яно ж можа быць самым рэальным…

— У дадзеным выпадку не можа, — заўважыў настаўнік, гледзячы на гадзіннік. — Часу мінула ладна ўжо. Калі б выкралі і схавалі, то ўжо б не прамінулі звязацца з яе бацькам і заявіць пра сябе. Не сталі б чакаць, пакуль ён у Беларусь вернецца. А калі б яны звязаліся з ім, то бацька Светы пазваніў бы табе ўжо.

У гэты самы момант у юнака зайграў мабільнік. Ён зірнуў на экран і жахнуўся: тэлефанаваў акурат тата каханай. Паведаміў пра гэта суразмоўцам і націснуў «прыняць выклік».

— Алё, Цёма, як вы там? Нешта не магу да Свеціка дазваніцца, — гучала з дынаміка тэлефона.

— Усё добра, — сабраў волю ў кулак Арцём. — Проста батарэя ў яе мабільніку здохла.

— Ясна. Перадай ёй трубку.

Баскетбаліст зрабіў вялікія вочы, мімікай просячы дапамогі. Настаўнік склаў пальцамі трохкутнік, намякаючы на знак, які звычайна малююць на дзвярах жаночай прыбіральні.

— А яна якраз у дамскі пакой выйшла, — учапіўся хлопец за падказку.

— Дык вы у кабаку якім заселі?

— Так. У піцэрыі.

— Гуляйце, але не загульвайцеся. Перадавай Свеціку прывітанні ад мяне і ад мамы.

— Добра. Прыемнага адпачынку.

Казімірчык уздыхнуў з такой палёгкай, нібыта толькі што скончыў разгружаць шматтонныя кантэйнеры. Палёгку спараджалі дзве думкі: першая — адкрут яго галавы пераносіцца на няпэўны час, другая — Свету не выкралі.

Час ішоў, а плёну з вылучаных версій не было анізвання. Мількавец пацікавілася, ці не забыў хлопец чаго расказаць? Той адразу ж хлопнуў сабе далонню па лбе, згадаўшы Насцю Навіцкую і яе жаданне сустрэцца са Светай удзень.

— Праўда, я не ведаю, ці адбылася іх сустрэча, а калі адбылася, то ў які час, — прызнаўся ён.

— Света прыйшла да мяне ў гуморы, — адразу ж зазначыў Віктар Андрэевіч. — Усміхалася. Хвалілася перамогай. Пра Навіцкую зусім нічога не казала.

— Я перакананы ў адным: калі яны сустрэліся, то між імі абавязкова разгарэлася б сварка, — запэўніў юнак, агучыўшы сваё ранейшае меркаванне.

— Ой! — абурана усклікнуў настаўнік. — Ну, колькі на белым свеце дзевак і колькі між імі сварак! Падумаеш, Навіцкая пакрыўдзілася за паражэнне ў спаборніцтвах. Якія могуць быць крыўды? Гэта ж спорт, дзетка! Цябе абагналі на сотую долі секунды? Значыць, лепш трэніравацца трэба, каб абганялі не цябе, а ты сама абганяла ўсіх. Не думаю, што гэтая Насця замешаная ў цёмнай справе. Які сэнс у гэтым? Перамогу ж не вернеш ужо!

— О, сэнс тут якраз можа быць у празе помсты, — не пагадзілася з ім аспірантка. — Згадайце гучную справу «прынцэсы тусоўкі». Што «прынцэса» зрабіла са сваёй канкурэнткай? Кінула ў падмосце, дзе тая памерла ад пераахаладжэння.

— Ну, дык то калі было! У часы «перабудовы». Свет жа на месцы не стаіць, — не здаваўся Знайдзёнаў.

— Не стаіць. У нечым ён нават горшым стаў, — пракаментавала яго словы Мількавец, але каб не саскокваць канчаткова на іншую тэму, удакладніла ў юнака: — Які у Насці мог быць матыў?

— Яна хацела перамагчы і ехаць у Нямеччыну. Нібыта там мог быць добры кантракт, — адказаў той.

— А калі Света павінна была пацвердзіць свой ад’езд? — не спынялася Аксана.

— Перамогай пацвердзіла, — ухмыльнуўся Арцём. — Праўда, заўтра ўвечары ў палацы водных відаў спорту будуць узнагароджваць плыўцоў нашага горада. Дык вось перад ёй Света павінна падпісаць сія-тыя паперы.

— А калі яна не з’явіцца?

— Тады яе права на паездку анулююць. Я не ведаю, адкуль у іх там такія жорсткія правілы. Але нібыта ўсё менавіта так.

— Ну, вось вам і чыстай вады матыў, — рэзюмавала Мількавец.

— Ды няўжо юная амбітная спартсменка, якая хоча збудаваць сабе добрую кар’еру, сапраўды стане апускацца да такога! — Віктар Андрэевіч усё адно заставаўся пры ўласным поглядзе.

— Да якога такога? Я ж не кажу, што Насця, цьху-цьху, забіла Свету. Яна магла яе проста нейтралізаваць і трымаць недзе, каб тая не здолела заўтра трапіць на падпісанне дакументаў…

— Стойце, — Казімірчыка прабіла на новую здагадку. — Каб нейтралізаваць, неабавязкова біць па галаве ці накідаць наручнікі на запясці. Можна добра прававіць час побач з чалавекам, а назаўтра гэтаму чалавеку будзе так кепска, што аж свет перастане быць мілым! Не кажучы ўжо пра нейкі там палац водных відаў спорту.

— Напаіць? Ці падсыпаць слабіцельнае або яшчэ нешта ў пітво? — падхапіла яго развагі аспірантка.

— Так, — пацвердзіў ён правільны напрамак разваг Аксаны: — Дык вось, а што калі ў размове па тэлефоне, якую міжволі пачуў Нікас, Света згадвала не Алівейра, а нейкую збольшага падобную назву рэстарана ці рэст-клуба?

— І ты думаеш, што гламурны фатограф не ведае назваў тутэйшых спажыўных месцаў? — усумніўся Знайдзёнаў.

— Калі гэткая ўстанова толькі-толькі адкрылася, то можа і не ведаць, — падтрымала хлопца аспірантка. — Напрыклад, я падобных назваў не чула, але акрамя справаў стогадовай даўніны клубна-рэстаранным жыццём цікаўлюся.

Баскетбаліст зірнуў на яе з непрыхаванай павагай. Настаўнік скарыстаўся пошукавікам і сапраўды — у новым мікраараёне пару тыдняў таму адкрыўся забаўляльны комплекс з назвай «Алівер».

Мікраараён быў зусім не наводшыбе, а даволі блізка ад цэнтра. Аднак дабрацца да яго грамадскім транспартам было трохі складана. Арцём агучыў пытанне: імчаць у забаўляльны комплекс, давяраючы нічым не падмацаваным высновам, ці адразу шукаць Навіцкую як такую? І так, і так можна было памыліцца, дый змарнаваць час. Вырашылі ўсё ж ехаць у «Алівер». «Як-ніяк падобную назву, калі верыць Сулімаву, агучвала Света. А значыць, дзяўчына можа быць якраз там», — падвёў рысу Віктар Андрэевіч. Разлічыўшыся з рэстаранам, тройка рушыла да выхада. Аксана прапанавала скарыстацца яе аўто, куды праз хвіліну ўсе шчасна загрузіліся.

## 5

У дарозе шукальнікі не спынялі сваіх разважанняў.

Хлопец наракаў, што не ўзяў раней нумар тэлефона Насці.

— У «кантакціку» ёй не напішаш, — скептычна прамовіў ён.

— А калі проста на яе старонку зайсці? — ухілілася Мількавец, не зводзячы вачэй з дарогі. — Можа, там і тэлефон пазначаны ці яшчэ нешта цікавае знойдзецца. Гэта ж сацыяльная сетка, трэба ёй карыстацца не толькі для таго, каб баламутлівыя статусы ставіць. *«Калі табе плююць у спіну, значыць, ты ідзеш наперадзе»*. Зрэшты, іншым разам і па статусе можна пра штосьці даведацца.

Казімірчык выйшаў у сеціва праз мабільнік, а Знайдзёнаў зноў скарыстаўся планшэтам. Хутка знайшлі патрэбную старонку. Насця Навіцкая ўсміхалася з аватаркі, якую паставіла тры тыдні таму. Тэлефонных нумароў на старонцы не знайшлося. Свежых фотаздымкаў з якой-небудзь гулянкі не было. Статус быў зусім нейтральным. Прынамсі, ні на што асаблівае не намякаў: «Не бойся марудзіць, бойся спыніцца». Адзінае, што дакладна можна было сказаць пра яе сённяшні дзень — сацыяльную сетку апошні раз Насця наведала зусім нядаўна. Прыблізна тады, калі Арцём паглынаў грыбны суп з локшынай. Ён перайшоў на старонку каханай. Там нічога не змянілася. Час яе апошняга заходу заставаўся ранейшым.

Настаўнік між тым прыступіў да больш уважлівага вывучэння папярэдніх допісаў і каментароў на «сцяне» Навіцкай. Менш, чым за суткі, яна асабіста змясціла з дзясятак карцінак і песень. Гісторык меркаваў, што гэта мусілі б быць нейкія тужлівыя выявы і меланхалічныя трэкі — як вынік перажывання паразы. Аднак усё было чыста наадварот. Пра саму паразу дзяўчына напісала досыць завуалявана для старонніх людзей, але цалкам празрыста для тых, хто ў курсе:

«Сотая долі секунды — і твае мары разбіваюцца ўшчэнт». Пад гэтым запісам стаяў адзін каментар з сумным смайлікам: «Вось яна і ў цябе забрала мару». Пакінула нейкая дзяўчына. Знайдзёнаў перайшоў на яе старонку. У вочы адразу кінуўся вычварны статус: «Я лялька вуду, плакаць не буду, але ніколі цябе не забуду». Падобнымі цытатамі поўнілася «сцяна». Сярод падпісак былі групы «Я не сцерва — гэта нервы», «Гэта пафас? — Гэта пофіг!», «Скроенае сэрца кінутай дзяўчыны»… У апошнім допісе на «сцяне» была цытата: «Ты проста быў часцінкаю мяне…» і фатаграфія хлопца з баскетбольным мячом. Віктар Андрэевіч не тое, каб не даў веры сваім вачам, але на ўсялякі выпадак адкрыў здымак у арыгінальным памеры. Сумневаў не заставалася — на фатаграфіі быў Казімірчык. У ранейшых допісах таксама былі фоткі і калажы з ім. Мужчына зірнуў на імя і прозвішча гэтай дзівачкі і спытаў у юнака:

— Хто такая Каця Беланосава?

— Мая былая дзяўчына, — у момант пачырванеўшы, прызнаўся той, і насцярожана ўдакладніў: — А што такое?

— А вось што! Па-беларуску гэта называецца «кляты сорам», — выгукнуў ён, перадаючы планшэт. — Як вам рэўнасць кінутай дзяўчыны ў якасці матыву?

Аксана хутка ўлавіла сэнс чарговага адкрыцця.

— Ды мы з ёй усяго пару месяцаў сустракаліся, калі вучыліся ў дзявятым класе. Столькі часу прайшло, а яна ўсё ў сваіх фантазіях лётае, — паспяшаўся выгаварыцца Арцём, каб толькі ў спадарожнікаў не склалася ўражанне, быццам ён мае з гэтай «лялькай вуду» нешта агульнае.

Знайдзёнаў забраў назад планшэт і хутка прагледзеў больш даўнія допісы на «сцяне». І вось «пост» двухтыднёвай даўніны прымусіў яго нават прысвіснуць. Там красаваў супольны здымак Беланосавай і Навіцкай. Яны стаялі ў абдымку на фоне барнай стойкі і задзірыста ўсміхаліся, працуючы на аб'ектыў. Фота суправаджалася надпісам: «Мммм, «Алівер»! Было класна. Трэба паўтарыць!».

— Гэта Насця з ёй? — без патрэбы ўдакладніў настаўнік.

Юнака аж двойчы перасмыкнула — спачатку ад нечаканага пытання, а потым ад убачанага на экране. Адказваць было лішнім. Гісторык зрабіўся сур'ёзным.

— Я вельмі хачу спадзявацца, — з каменным тварам мовіў ён, — што зараз мы ўбачым іх утраіх. І Насцю, і Кацю, і тваю Свету. Хочацца верыць, што яны змаглі паразумецца і проста загулялі.

Аксана рэзка націснула на тормаз, каб не стукнуцца з грузавічком, які раптоўна выехаў з-пад біг-борда.

— Ці ж ён зусім аслеп? Ці проста правілаў дарожнага руху не ведае? — абуралася яна, ледзь не вымавіўшы тых словаў, якія не пасуюць мілай аспірантцы.

— А што яму? Яму абы хутчэй. На адзін шчыт новы біг-борд з напарнікам павесілі, цяпер да іншага спяшаюцца. Ваўка ногі кормяць, — разважыў хлопец, якога добра страсянула.

— Каб толькі гэты воўк не накарміў багіню смерці чалавечымі ахвярамі, — незадаволена выдала Аксана.

— А што там на біг-бордзе было? — нібыта нічога і не адбылося, спытаўся настаўнік.

— Напэўна, нейкая сацыяльная рэклама, — выказаў меркаванне Арцём. — Я не звярнуў увагі. Там, здаецца, здымак з дзяўчынай і нейкі надпіс. Нешта тыпу: «Мая новая фраза да цябе будзе…». А што далей, не ўспомню.

Мількавец, усё яшчэ злавалася і падтрымліваць гутарку на завязаную тэму не стала.

**6**

Забаўляльны комплекс атакавала мноства наведвальнікаў. Усё-ткі ж быў суботні вечар, які пачынаў хіліцца да ночы. У «Аліверы» меўся з дзясятак аўтаномных бараў, рэстаранаў і адна вялікая дыскатэчная зала. Пра гэтую акалічнасць тройца шукальнікаў неяк і не падумала. Адныя спяшаліся ў сушы-бар, другія на дыскатэку ў стылі зомбі-апакаліпсісу, трэціх цікавілі іншыя забаўкі, кшталту гоў-гоў танцаў. Стоячы на ганку комплексу, Аксана, Арцём і Віктар Андрэевіч акурат назіралі плынь вясёлых наведвальнікаў апранутых пад зомбі. Коратка параіўшыся, шукальнікі рушылі да дзвярэй. Збіраліся абходзіць усе ўстановы комплексу ў спадзеве, што дзе-небудзь пашанцуе знайсці Навіцкую і Беланосаву. «Абы яны толькі ў зомбі не былі апранутыя», — падумаў баскетбаліст. На шчасце, ісці далёка не давялося. З дзяўчатамі сутыкнуліся ў дзвярах. Тыя адразу ж пазналі Казімірчыка. Здзівіліся і яму, і ягонай кампаніі. Каця нават войкнула. Давялося ім хутка задаваць пытанні. Яны выслухалі і пагадзіліся адысці ўбок, каб паразмаўляць без сведкаў.

Хлопец адразу ж запытаўся ў Насці пра яе сустрэчу са Светай. Тая ахвотна і даволі роўна патлумачыла, што яны бачыліся пасля дзвюх гадзін дня ў прысадах каля школы. Сказала, што спрабавала ўгаварыць Даброўскую адмовіцца ад паездкі ў Нямеччыну.

— Я рэальна заслужыла гэтую паездку, — запэўнівала Насця, агучваючы сваю крыўду. — Я шмат трэніравалася. Прыклала столькі намаганняў, каб дасягнуць высокіх вынікаў. Па сутнасці, я ўвесь год працавала на перамогу ва ўчарашніх спаборніцтвах. А Свеце заўжды ўсё давалася лягчэй. Яна часта перамагала, нібыта гуляючы. Дый увогуле ёй заўсёды больш шанцуе.

— І калі яна адмовілася, ты вырашыла зрабіць ёй нешта кепскае? — не стаў хаваць сваіх падазрэнняў юнак. — Разам з Кацяй вы некуды яе завабілі і там…

— Гэта не смешна. Перастань так жартаваць, — папрасіла плыўчыха, састроіўшы вельмі сур'ёзную міну.

— А што я павінен казаць! Мая дзяўчына знікла без звестак! Ніхто нічога не ведае! Ніхто ні ў чым не вінаваты! А Светы, як не было, так і няма! — усхадзіўся Арцём, ажно Віктару Андрэевічу прыйшлося торгаць яго за рукаў. Яго крык справе нічым дапамагчы не мог, а толькі прыцягваў увагу староннніх людзей. Пара амапаўцаў, якія стаялі каля іншага краю будынка, ужо скіравалі свае позіркі на іх. Але юнак сцішыўся, і тыя адразу згубілі інтарэс.

— Мы паразмаўлялі са Светай. Але яна так і не сказала ні «так», ні «не», — працягвала Навіцкая. — Яна сказала, што параіцца з табой. Маўляў, паездка выдатная, але ехаць туды проста дзеля самой паездкі сэнсу мала, бо заключаць там кантракты яна вялікага жадання не мае. А ўсё чаму? А ўсё таму, што не хоча губляць цябе. Яна абяцала пазваніць мне сёння ўвечары. Але не пазваніла. Калі шчыра, пачуўшы ад яе ўсё гэта, я расчулілася. Я не чакала ад яе такога разумення і такіх адэкватных паводзін. Нават расказала ёй, што мы з Кацяй завіснем сёння ў «Аліверы».

Здзіўленню Казімірчыка не было межаў. Яго спадарожнікі таксама здзівіліся нямала. Хлопец, быццам не верачы, што паміж Светай і Насцяй не было сваркі, а між Насцяй і Кацяй змовы, звярнуўся да апошняй:

— А ты чаго мне сёння пісала?

— Па ціхай журбе, — выціснула яна з сябе, хаваючы вочы, чым нагадала прысаромленую шкадлівую котку.

Дзяўчаты кляліся і божкаліся, што ўвечары Даброўскай не бачылі, а пагатоў шкоды ёй ніякай не чынілі. Беланосава нават заплакала. Доказаў іх недатычнасці да

знікнення Даброўскай не было аніякіх, але шукальнікі фармальна выкраслілі абедзвюх са спісу падазраваных. Ім наказалі на прамілы бог нідзе нічога пра знікненне Светы не балбатаць, а то, як наўмысна падкрэсліў Знайдзёнаў, *«шчэ невядома, як усё ета дзела павернецца»*.

**7**

Цяпер засталіся толькі два варыянты. Або шукаць навіны пра няшчасныя здарэнні, або звярнуцца да асобы апошняга вядомага сведкі. Сайт здарэнняў утрымліваў новыя зводкі, але Святлана ў ніводнай з іх не фігуравала. Сталі наноў абмяркоўваць фатографа. Атрымлівалася, што ён быў ці не апошнім, хто дакладна бачыў зніклую. Па сутнасці, Сулімаў стаў адпраўным пунктам большасці далейшых лагічных пабудоў і Арцёма, і Аксаны. Прасцей кажучы, усё скокі пачаліся менавіта ад яго аповеду. Паўстала пытанне: а што, калі ён прыдурваўся? Нельга было скідваць з рахункаў версію, што ён прыдумаў, нібыта падслуханае ў Светы прозвішча, каб наўмысна пусціць Арцёма ілжывай каляінай. Гэтым Нікас кідаў цень на настаўніка. Але ці закладваў ён у свой ход двухсэнсоўнасць, ці так атрымалася праз збег абставін — пра гэта ніхто меркаваць не браўся.

Следам ішло наступнае пытанне — ці мае фатограф дачыненне да знікнення Даброўскай. Матываў для выкрадання не праглядалася. Шукальнікі на нейкі час замоўклі ў роздуме. І раптам настаўнік схапіўся за галаву і звярнуўся да баскетбаліста:

— Ты казаў, што пераблытаў яго чарговую мадэльку са Святланай. Яны такія падобныя?

— Здалёк нават вельмі падобныя. Дый зблізку падабенства ёсць, — прызнаўся юнак.

— Ясна. А ты альбомы з мадэлькамі на яго старонцы глядзеў?

— Глядзеў. Я яшчэ Свеце тады сказаў. Там жа ўсе мадэлі аднатыпныя… — сказаў Казімірчык, на імгненне асекся, даўмеўшыся да сутнасці, і потым працягнуў: — Ды яны ж там усе чыста падобныя на Свету!

— Вось! — літаральна выкрыкнуў Віктар Андрэевіч. — Ён фатаграфуе дзяўчын, падобных адна на адну. Гэта ўжо нагадвае не проста захапленне, але пэўную манію. А што калі разам з фатаграфіямі Нікас калекцыянуе і саміх мадэлек?

— Калі ты маеш на ўвазе серыйныя забойствы, — скептычна выдала Аксана, — то гэтага не можа быць: пра гэта б даўно не толькі ведаў увесь горад, але і цэлая краіна стаяла б на вушах. Дый і не было б тады серыі гэтых здымкаў у інтэрнэце.

— Я не пра забойствы, — запярэчыў настаўнік. — Я пра калекцыю яго… гмм, так бы мовіць, *блізкасці* з мадэлькамі. Сфатаграфаваў адну — *зблізіўся*. Сфатаграфаваў другую — *зблізіўся*. Ну, і так далей.

— І ўсё ж для сэксуальна заклапочанага свяціць такія калекцыі-фотасесіі было б занадта небяспечна. Ці мала розных дамарослых дэтэктываў у «кантакце» сядзіць? — трохі падумаўшы, адцеміла Мількавец.

— Але ж з альбомаў нічога такога і не вынікае. Здымкі прыгожыя і строгія. Без фрывольнасцяў, — канстатаваў настаўнік.

— Бо для фрывольнасцяў ён знаходзіць іншы час! — гнеўна гыркнуў хлопец. — Трэба тэрмінова ехаць туды і прыдзірліва пагаманіць з гэтым тыпам. Я збяру сваіх сяброў па баскетболе і па гульні ў «Схватку». Калі спатрэбіцца, то возьмем штурмам гэты чортаў катэдж!

Такая рашучая заява спужала спадарожнікаў.

— Толькі незаконнага пранікнення ў прыватныя ўладанні нам яшчэ не хапала! — абурылася Аксана, шукаючы падтрымкі ў калегі.

— Я люблю прыгоды, але ж быць Андрэем Беларэцкім не жадаю, — настаўнік адхрысціўся ад словаў Арцёма, згадаўшы героя «Дзікага палявання караля Стаха». — Давай мы паедзем да Нікаса, і я адзін паспрабую з ім паразмаўляць.

— А які з гэтага будзе толк? Ён вам пасмяецца ў твар. Ці зноў пад дурня закосіць. Трэба прабірацца ў катэдж, каб адшукаць там Свету. Калі вы не хочаце мне ў гэтым дапамагаць, то я не пакрыўджуся. Вы і так многа для мяне зрабілі.

— Не, Арцёме, мы цябе не кінем, — запэўніў настаўнік. — Можа, да сённяшняга дня ў Сулімава ўсё было гладка. Дзяўчаты пагаджаліся. А вось наша Святлана адмовіла, і ў фатографа перамкнула клемы. Ну, ці не можа такое быць? Яна сказала яму «не», а ён яе за гэта ў пакоі зачыніў. Так што Бог з ёй, з рэпутацыяй. Калі мы выратуем дзяўчыну, то пераможцаў не асудзяць.

— Гэта пафас? — саркастычна ўдакладніла аспірантка.

— Гэта пофіг, — не стрымаўся ён выдаць у адказ, усміхаючыся адно куточкамі вуснаў.

**8**

Хлопец і дзяўчына, знаёмыя баскетбаліста, сталыя ўдзельнікі «Схваткі», падышлі да падворка катэджа Сулімава. Яны павінны былі нештачка інсцэніраваць і тым самым апынуцца ў катэджы. Потым мусілі б дзейнічаць па абставінах і патэлефанаваць астатнім, калі здабудуць хоць нейкую інфармацыю. Знаёмцы тут былі патрэбныя толькі з-за таго, што Віктара Андрэевіча і Аксану фатограф мог ведаць у твар, дзякуючы здымкам у сацыяльнай сетцы.

Хлопец націснуў кнопку дамафона. Пэўны час на гэта не было ніякай рэакцыі. Праз дарогу пад шатамі дрэва стаялі Казімірчык, Знайдзёнаў, Мількавец, а таксама два сябры Казімірчыка. Усе пільна прыглядаліся да дзвярэй. На выпадак няўдачы яны збіраліся задзейнічаць дадатковы план. Прынамсі, на гэта разлічваў Арцём. Аднак у дамафоне пачуўся зусім не сонны, але яўна незадаволены голас гаспадара. Хлопец прыняўся удаваць заклапочанага маладога мужа, жонка якога вось-вось павінна нарадзіць. Нікас параіў або не жартаваць так, або выклікаць хуткую. Дзяўчына тут жа пачала лямантаваць, ствараючы падабенства крыку. Яе напарнік адначасова з гэтым паспеў крыкнуць у дамафон, што тэлефоны разрадзіліся, а далей ісці проста немагчыма. Фатограф паабяцаў выклікаць хуткую дапамогу, але хлопец зноў жа паспеў уплішчыць фразу: «Але тады мая жонка рызыкуе нарадзіць проста на асфальце». Гаспадар здаўся. Хлопец і «цяжарная» дзяўчына зайшлі ў дзверы, што аўтаматычна адамкнуліся.

Час пасля таго, як пара знікла ў зеўры дзвярэй, імгненна запаволіўся. Калі ж мінула пятнаццаць доўгіх хвілін, а ад «маладой сямейнай пары» не паступіла ніякага сігналу, Казімірчык пачаў дужа нервавацца. Намякаў на тое, што прыспеў час караскацца праз агароджу, імчаць у катэдж і вызваляць не толькі Свету, але і сяброў па «Схватцы». Настаўнік раіў пакуль не гарачкаваць. «Ды што не гарачкаваць! — усхадзіўся Казімірчык. — Можа, ён іх ужо на рамяні крамсае! А мы тут сядзім». У гэты час азваўся яго мабільнік. Званіў акурат «малады муж»: «Света тут. Здаецца, што ўсё ў парадку. О, божа! Неее…». Званок перарваўся. Арцём ашалела залыпаў вачыма і паспрабаваў перазваніць. Абанент ужо быў недасяжным. Баскетбаліст узрушыўся да

неймавернасці. Стрымаць яго было ўжо немагчыма. Ні Віктар Андрэевіч, ні Аксана не маглі на яго паўплываць. Юнак настроіўся на рашучы крок. Разам з дружбакамі-баскетбалістамі ён перабег вузкую вуліцу. Яны спыніліся каля цаглянага плота. Сябры спрытна падсадзілі Казімірчыка ўгору. Потым адзін падсадзіў другога. Таму ж, хто застаўся, першыя дапамаглі ўскараскацца. Знайдзёнаў і Мількавец толькі падышлі да плота, як баскетбалісты разам скокнулі ў двор. Як толькі тыя апынуліся на падворку, запаліліся два пражэктары. Яны свяцілі хлопцам у твары. Пачуўся выразны камандны голас, і аднекуль павыбягалі ўзброеныя аўтаматамі людзі ў камуфляжнай форме ды балаклавамі на тварах. Яны змусілі юнакоў пакласці рукі за галаву, развярнулі да сцяны і абшукалі. Яшчэ двое падобных бамбізаў пад рулямі аўтаматаў прывялі на падворак настаўніка і аспірантку. Усіх агаломшаных такой сустрэчай «гасцей», акром «сямейнай пары», пашыхтавалі. У святле пражэктараў з'явіўся Сулімаў. Ён ішоў з развальцай у хадзе, трымаючы келіх з шампанскім.

— Ну, што, рабяткі? — п'яным голасам звярнуўся ён да пашыхтаваных. — Хочаце сказаць, што я не здолеў вас падмануць?

— Мы цябе вылічылі! Табе капцы! Зараз міліцыя прыедзе! — пракрычаў яму на гэта Арцём, спрабуючы блефаваць.

— Не прыедзе. Не хлусі, — катэгарычна не паверыў гаспадар катэджа. — Час на тое, каб падумаць над вашым лёсам, у мяне ёсць. І ведаеце да чаго я зараз больш за ўсё схіляюся? Я схіляюся да банальнага масавага забойства. Можа, не адразу ўсіх. А па чарзе.

— Куды ты дзенеш столькі трупаў, Гітлер местачковы? — з яўным выклікам настаўнік задаў цалкам рэзоннае пытанне.

У спіну яму адразу тыцнулі дулам аўтамата.

— Ты не перажывай, педагог-наватар, — ашчэрыўся падабенствам усмешкі фатограф і прыклаў два пальцы сабе пад нос, імітуючы гітлераўскія вусікі. — Усіх дзенем туды, куды трэба. З той «сямейнай парай» вас сямёра. Траіх мы застрэлім і затрамбуем у багажнік аўтамабіля тваёй мілай спадарожніцы. Астатніх заб'ем бейсбольнымі бітамі і пасадзім у салон усё таго ж аўтамабіля. Разам з пісталетамі, якімі будуць забітыя першыя тры. Адбіткі пальцаў і ўсё такое. Потым мы скінем гэтую прыўкрасную машынку з якога-небудзь моста. Можам і падпаліць загадзя. А там няхай шаноўная міліцыя разбіраецца.

— Чаму сямёра? А дзе Света? — спытаў Арцём.

— Света застанецца са мной, — рэзка адцяў Нікас, але пасля глытку шампанскага і наўмыснай імітацыі роздуму, дадаў: — Карацей, вось што я надумаў. Ты ж яўна хочаш пабыць са сваёй дзяўчынкай яшчэ хоць трохі. Вось гэта я магу табе паабяцаць. Але пры пэўнай умове.

— Якой? — пацікавіўся Казімірчык, чакаючы нейкага куцельства.

— Ты параможаш мяне ў кідках мяча ў баскетбольнае кальцо, — урачыстым тонам абвясціў Сулімаў.

Баскетбалісты міжволі пераглянуліся. Віктар Андрэевіч зірнуў на Аксану, мімікай даючы зразумець, што прадбачыць нейкую «дзічыну» у тым, што прапаноўваў прамоўца. І сапраўды, доказ гэтаму абазначыўся адразу ж. Арцём паспрабаваў удакладніць, што ды як. На гэта ён атрымаў вельмі жорсткае тлумачэнне:

— Кідаем па тры мячы. Калі ты выйграеш, то пабачышся са Светай. Калі будзе нічыя, ты пабачышся з ёй праз вакно. Калі выйграю я, то цябе прыстрэляць самым першым. Калі ты зараз адмовішся ад гульні, то будзе застрэлены адзін з тваіх сяброў. Калі і пасля гэтага ты не захочаш гуляць, застрэляць другога. Ну, а наступных, калі ты так і не саспееш да гульні, затаўкуць бітамі, як я і абяцаў раней.

Усе, каго трымалі пад дуламі аўтаматаў, паглядзелі на Арцёма. Пастаўлены перад выбарам юнак не ведаў, як сябе паводзіць і што рабіць.

— А іншых умоваў няма? Я не магу распараджацца жыццямі іншых людзей, — урэшце азваўся ён, з нянавісцю гледзячы на Сулімава

— Не трэба сабе лесціць, малы, — нядобра ўсміхнуўся той. — Жыццямі ў кожным разе тут распараджаюся я. Так што…

— Дазвольце мне замест Цёмы пакідаць мячы ў кальцо, — раптоўна выклікаўся адзін з яго сяброў — капітан іх баскетбольнай каманды.

— О! Якое пахвальнае імкненне! — выгукнуў фатограф. — Я магу гэта дазволіць. Але тады ў разе тваёй перамогі ці нічыі на Свету будзеш глядзець ты сам, а не твой дружбак Цёма.

Пашыхтаваныя былі ў ступары. Усё здавалася нерэальным, быццам гэта сон ці трызненне. Нікому не хацелася верыць, што праз нейкі час яны могуць стаць ахвярамі дзікунскай бойні. Паплечнік капітана каманды не вытрымаў. Ён рэзка павярнуўся, адной рукой ухапіўся за аўтамат, а другой паспрабаваў ударыць свайго «канваіра». Той, аднак, спрытна, адскочыў да плота, ператоргнуў замок аўтамата і рашуча скіраваў яго на парушальніка спакою.

— Вось такога рабіць не трэба, — папярэдзіў Нікас. — На першы раз дарую, але ведайце, што потым адразу будзе «бах-бах».

У гэты момант з мансарды праз увесь падворак пралегла чырвоная палоска лазернага прыцэла.

Казімірчык прабачальна зірнуў на таварышаў па няшчасці і папрасіў у гаспадара прынесці баскетбольныя мячы. Той натужна засмяяўся, ухваляючы такое рашэнне. Успыхнуў яшчэ адзін пражэктар, прамень якога быў скіраваны на іншую частку падворка. Там акурат стаяў слуп з баскетбольным кошыкам. З дому выйшаў чарговы граміла з прыхаваным пад маскай тварам. Абедзве яго рукі былі занятыя сеткамі з мячамі. Ён расставіў іх па розныя бакі ад пункта, з якога меркавалася здзяйсняць кідкі. Фатограф на правах гаспадара даў Арцёму мажлівасць пачаць гэты двубой першым. Хлопец дастаў мяч. Падышоў на вызначаную лінію, глянуў на кальцо і зрабіў маланкавы кідок. Мяч дасканала трапіў у кошык. Настала чарга Сулімава. Пазіраючы з ухмылкай на суперніка, ён слепа кінуў мяч у бок кальца. Кідок атрымаўся трапным. Наступныя кідкі былі паспяховымі ў абодвух. Калі дайшла чарга да трэцяга (і апошняга) кідка, Арцём зразумеў, што ўзяты ім мяч мае зрушаны цэнтр цяжкасці. Ён паведаміў пра гэта Нікасу. Той і слухаць нічога не стаў: маўляў, мячыкі ўсе новыя, а што ў адным з іх раптам выявіўся брак, дык тое зусім не ягоны клопат. У хлопца не было сумневаў, што бракаваны мяч яму падсунулі наўмысна. Казімірчык яшчэ раз узважыў яго ў руках, злёгку падкінуў і злавіў. Спрабаваў разлічыць, як ён будзе ляцець. У гэтым вельмі лёгка можна было памыліцца. Максімальна сканцэнтраваўся і зрабіў кідок. Мяч ударыўся зверху аб вобад кальца, падскочыў, ударыўся аб шчыт, зваліўся назад на вобад, а ўжо адтуль трапіў у кошак. Баскетбаліст трыумфаваў. Хтосьці ўздыхнуў з палёгкай. Гаспадар дома працягваў ухмыляцца, быццам трэці закінуты канкурэнтам мяч мала што значыў. Ён падступіўся да лініі, трохі памарудзіў і ўрэшце шпурнуў мяч. Траекторыя палёту была заведама пройгрышнай. Мяч стукнуўся ў бок вобада і адскочыў. Фатограф прайграў.

— Мае віншаванні, — з нязводным крыўляннем вымавіў ён. — Ну, што? Ты хочаш бачыць Святлану?

— Так. Вы ж абяцалі.

— Я абяцаў. Мая тэрыторыя — мае правілы. Хачу прызначаю, а хачу змяняю, — нахабна заявіў Сулімаў.

Палоска лазернага прыцэла перамясцілася на Казімірчыка. Знайдзёнаў, улавіўшы гэты момант, рэзка скочыў, каб захінуць юнака ад стрэлу. Тады стрэл і прагучаў. Дакладней, гэта быў хлапок. Мількавец ускрыкнула. А вось хлопцы здзіўлена пераглянуліся, і з вуснаў збянтэжанага капітана сарвалася безадраснае пытанне: «Ружжо для пейнтбола?» Арцём зірнуў на спіну настаўніка. Там сапраўды красавала пляма ад фарбы. Баскетбаліст недаўменна паглядзеў на Нікаса. У тое самае імгненне ўвесь падворак асвяціўся ліхтарамі. А прамяні пражэктараў скіраваліся на тую яго частку, якая дагэтуль знаходзілася ў поўнай цемры. Праз секунду уверх паляцелі ракеты феерверку. Дзякуючы святлу, можна было ўбачыць вялікі плакат, які быў прымацаваны над агароджай. На плакаце была фатаграфія Даброўскай, якая іранічна ўсміхалася. Ніжэй красаваў надпіс: «Мая сціплая просьба да цябе: “Кінь мяне раўнаваць, мілы!”». Знайдзёнаў, убачыўшы гэта, стаў гучна смяяцца. Меркаваў, што ўсё зразумеў. «Як жа ж ты не здагадалася першай? Тут жа гісторыя блізкая да тваёй любімай гісторыі са сторублёўкай пачатку XX стагоддзя», — усмешліва заўважыў ён аспірантцы. Тая таксама ўсміхнулася і чыста па-сяброўску дала яму лёгкага плескача па плячы. Ён пераняў яе руку і пацягнуў да сябе, каб заключыць у абдымкі. Аксана не дужа супраціўлялася гэтаму. Грамілы паскідвалі маскі і форму, дзякуючы спецыфічнасці якой яны, уласна, грамілами і здаваліся. Сярод іх нечакана аб’явілася і парачка «схваткаўцаў». Казімірчык глядзеў на ўсё гэта з разяўленым ротам і акругленымі вачыма. Ён ніяк не мог зразумець, што адбываецца. На вялікім балконе зайграла жывая музыка. З катэджа выйшла Света ў прыгожай белай сукенцы. Яна ўсміхалася дакладна так, як і на плакаце. Іранічнасці ва ўсмешцы Сулімава было яшчэ больш, а яго твар ззяў прыязнасцю.

— Ты будзеш мяне раўнаваць? — спытала Даброўская ў свайго хлопца.

— Дык гэта ўсё ты сама зладзіла? — спытаў наўзаем ён.

— У нечым сама. У нечым з дапамогай Нікаса. Ён вельмі добры актор. Тваіх сяброў па «Схватцы» пераканалі дапамагчы ўжо тут, — гаварыла дзяўчына, гледзячы яму проста ў вочы. — Але ты не адказаў на маё пытанне.

— Хочаш сказаць, што ўвесь цырк быў разыграны толькі для таго, каб змусіць мяне перастаць раўнаваць?

— Так. Ты ж слепнеш, калі раўнуеш, — не злосна, з роспаччу ў голасе мовіла Света. — Напрыклад, сёння ты мяне тут ужо бачыў. Але варта было мне сказаць, што я — гэта не я, як ты паверыў.

— Ты сапраўды не была падобнай на сябе, — стаў апраўдвацца юнак.

— Так. Быў грым. Праўда, сутнасці гэта не змяняе, — дзяўчына па-ранейшаму не зводзіла вачэй з раўнівага сябра. — Гульня, ці як ты сказаў — цырк, магла б і не адбыцца, калі б ты быў больш уважлівым. Але рэўнасць засціла табе вочы, і гульня мусіла працягнуцца. Ты нават не заўважыў, што па дарозе некалькі разоў бачыў білборды з маёй фатаграфіяй… Гэты ход з «сацыяльнай рэкламай» прыдумаў Нікас.

— А хто аплаціў? І хто яшчэ быў свядомым удзельнікам тваёй гульні? Ці толькі мяне трымалі за сляпое шчанятка? — спытаў баскетбаліст, не наважваючыся зрабіць адзін крок наперад.

— Аплаціў тата, — тлумачыла Даброўская. — Я падбіла яго на гэта. Ён мог бы мне зрабіць добры падарунак з нагоды заканчэння школы. Але я вырашыла, што прыцягненне тваёй увагі для мяне значыць болей. Усе ж астатнія — і Віктар Андрэевіч, і яго нявеста, і Насця з Кацяй не былі ў курсе.

Арцём збянтэжана азірнуўся на пару гісторыкаў і недаверліва ўдакладніў:

— Дык вы жаніх і нявеста?

— Так, — на двуспеў адказалі яны, стоячы ў абдымку.

— Вось бачыш, ты столькі часу сёння прабавіўся ў іх кампаніі, і нічога такога не ўгледзеў, — заўважыла плыўчыха.

— Ды я быў падбіты тваім знікненнем! — з роспаччу прамовіў баскетбаліст. — Мне было не да назіранняў. А ўвогуле, навошта было ўсё гэта ладзіць? Няўжо ты не магла проста ўзяць і паразмаўляць са мной пра гэта? Чаму спатрэбілася цэлая гульня?

— Ты ж ведаеш, што простая размова не да чаго б не прывяла. Колькі мы з табой пра гэта гаварылі раней? І чым яно ўсё заканчвалася? Я ўжо не ведала, як табе яшчэ можна было патлумачыць, каб ты, нарэшце, разумеў, што я кахаю толькі цябе і нікога іншага. Што раўнаваць мяне да каго б там ні было папросту не варта. Вось дзеля гэтага я ўсё і распачала.

Збоку нешта шчоўкнула. Казімірчык павярнуў галаву і кінуў позірк на фатографа. Той зноў стаяў з фанабэрыстым тварам, а ў руцэ трымаў пісталет, скіраваны на Арцёма.

— Ну, досыць ужо. «Свіданка» завяршылася, — па-нахабніцку звярнуўся гаспадар дома да хлопца і дзяўчыны. — Цяпер прыспеў час развітацца.

Усё прысутныя вырачылі вочы, не разумеючы, што дзеецца. Сулімаў выпраставў руку, у якой трымаў пісталет, і націснуў на курок. Стрэлу не адбылося. З пісталетнага дула выскачыў стракаты сцяжок з яркім надпісам «BANG!». Нікас ціха засмяяўся, а следам за ім засмяялася Света. Гэты момант з пісталетам таксама быў часткай іх гульні.

— Паслухай, малы, — прамаўляў фатограф да Казімірчыка. — Яна цябе яшчэ доўга павінна ўпрошваць? Павер мне, не многія жанчыны адважыліся б на падобную авантуру дзеля любімага чалавека. А ты ўсё не верыш і манежышся.

Хлопец упершыню за ўвесь час знаходжання на падворку ўсміхнуўся. Ён павярнуўся тварам да Светы і сказаў ёй:

— Маім адказам на тваю сціплую просьбу будзе: «Больш ніякай рэўнасці!»

— Даўно б так, — адказала яна, засвяціўшыся чароўнай усмешкай.

Закаханыя, нарэшце, абняліся і пацалаваліся. Прысутныя ажно адарылі іх воплескамі і радаснымі воклічамі. Арцём, на секунду адарваўшыся ад сваёй дзяўчыны, спытаў у Аксаны:

— Дык, а хто тую сторублёўку ўсё ж скраў?

— Самы час для такіх пытанняў, — падшпіліў юнака настаўнік.

— Ды ніхто яе не краў, — аспірантка з ахвотай узялася за тлумачэнне. — Гаспадар сам пераклаў яе ў іншае месца, а потым забыўся. Падняў шум на палову горада. А калі знайшоў, то нікому гаварыць не стаў. Пасаромеўся.

— Добра, што Света не пасаромелася пагаварыць, — усцешана заўважыў хлопец. — А то яшчэ сто гадоў да разгадкі я не дацягнуў бы.

— Дацягнуў бы з боскай дапамогаю і сілай кахання, — адказала яму на гэта дзяўчына.

Новыя воплескі прысутных не змусілі сябе доўга чакаць.



Наста КУДАСАВА

# ПААБАПАЛ РАЗЛУКІ

* * *

у калысцы пляча сплыла
і забыла пра бераг.
зор, як вечнасці, — дазяла
ветах жменяй адмераў.
зорны тук — дармавая сыць
галадранцам самоты,
толькі б не перасталі плыць
плеч хупавыя флоты...

**ПЛЯЧО**

Плячом палячы, прытулі аж датуль,
пакуль не пачнецца віна,
прадыхай ратункам у скронь-слепату мне,
што я не адна, не адна.
хай збудзецца ўсё, што так страшна назваць,
што цепліцца ў гронках-руках,
пакуль я сплываю ў пляча твайго завадзь—
шчаслівы пакорлівы птах...

**ПОЛАЯ**

полымем поле выжата,
болем — выжыта.
горыч-камяк піжмавы,
віны вы ж мае!
быў жа ўраджай споведзяў,
вырай споднiх дзён...
выпаленая полымем,
іду — полая.

**ЛІПАВЫ**

адскавытала, і струны асіплі,
і на ўвесь выдых — падранак песенны.



***Наста Кудасава нарадзілася 25 мая 1984 года ў Рагачове. Ёй падабаюцца свет, рэлігіі, мовы і тое, што ўсе людзі розныя. Аўтар кніг вершаў «Лісце маіх рук» і «Рыбы». Творы перакладаліся на рускую і балгарскую мовы.***

помняцца толькі пяшчота і ліпень,
іншае намертва болем знесена.
быццам ні крыўдаў, ні жалю, а так...
нейкая блазанка ў горле ўсхліпвае...
лета прыйшло — шарлатан-мастак! —
з водарам нашага шчасця — ліпавым.

**АДЛЕГЛАСЦЬ**

*расстояние* — козыр прыстойных.
застылая постаць асолі на беразе
іншасвету.

*расстояние* — гэта стаяць паабапал
разлукі,
расстаўленымі расставаннем
на месцы сваіх адзінотаў.

а што мне рабіць з нашай адлегласцю?

кіламетры пустых узмакрэлых прасцінаў
і мы —
так адлеглыя адно ад аднаго,
на такую цябененамацвальную далечыню,
бы адкладзеныя лёсам
на потым.

**ДАЛЬ**

даль расцягваецца ў дай
з кожным кіламетрам жылаў,
памяць цела — злая здань,
карніца
тым, што любілі,
верніца шчымлівых дзён,
катавальных ранкаў служка,
успамінавым рыззём
набіваецца ў падушку...

* * *

узняцца на гару пляча
і ў барадзе тваёй заблытацца,
схаваць увесь зямны адчай
у непрамоўленае «злітуйся»,
каб разгадаць, што толькі тут,
табе прыліплая да шыі,
я разумею свет як цуд
і спасцігаю ўсе вяршыні.

**ВЫБАР**

ад бязмор'я гэта змора,
зрывы сухажыццяў,
ночы шчэрацца бяззора
вусцішнымі жрыцамі,
нас павыкідаў на бераг —
сумнавокіх рыбаў —
непасільны, непамерны
чалавечы выбар.

**ПАТОП**

боль, памножаны на ноль,
не зраўняецца ні з чым.
быў бы ў сэрцы дзейсны ной —
і той
не здолеў бы ўцячы.
хай жа не жыве ніхто:
ні сініца, ні асёл.
будзь, бязлітасны патоп!
нішчы маё ўсё!

* * *

***Рысі ў сініх лясах асінавых.***
А. СЫС

Рысі ў сініх лясах асінавых
пазіраюць вачыма дзікімі.
Еду я чалавекаспынам,
і нікому не Эўрыдыка,

толькі лес мне ў Арфеі просіцца,
клён далонькмі ільне ўкаханымі.
Дрэваверніца, сцежканосіца —
расшпіліла наросхрыст раны,

вецер дзьме ў мой адчай нялечаны,
кліча жыць на прасторы любыя…
І сядаюць шчыглы на плечы мне,
і ўсміхаюцца на ўсе дзюбы.

## ЯГАДНАЯ МОЎЧ

журавінавы ваўчыцын
верш табе дашлю,
хай табе ў чужыне сніцца
пушчаў нашых шлюб.
хай ад роспачы ратуе
ягадная моўч,
помні пра мяне лясную
і дадому кроч...

## КАРОЛЬ

каб віхуры ды залевы
нас не гналі ў спіну,
стала б табе каралевай,
нарадзіла б сына.

каб даверыў маім ласкам
ты сваё бяссонне,
я б табе, бы ясну краску,
вырасціла доню.

хай гады гараць, як трэскі, —
я цябе, мой дайны,
абняла б па-каралеўску
ў каралеўскай спальні.

быў бы мужам шчодрародым,
быў бы другам вольным,
каб нам бог суліў пагоду,
каб ты быў кароль мой.

## КАЛЫХАНКІ ДЛЯ ДЗЕТАК

### Для Ягора

Спі, мой верны, мой маленькі рыцар!
Спіць на кухні булачка з карыцай,
Спяць у норках бурыя лісіцы,
Хвосцікі паклаўшы пад шчаку.
Спяць цукеркі ў залатых абгортках,
Спі і ты, пакуль не звялі зоркі,
Спі, зямны мой сыне, спі, Ягорка,
Спі, а я твой сон пасцерагу...

### Для Машы

Спі, дачушка, ночка ўжо імгліцца,
спіць жучок салодка на былінцы,
Дзесьці едуць мірыяды прынцаў
Да цябе, і кожны — на кані.
Спіць стракозка, спяць пчала і вусень,
Спяць усе дзяўчынкі Беларусі,
Спі і ты, чароўная Маруся,
Спі, мая харошая, засні...



*Ніна ШКЛЯРАВА*

# БЛАЖЭННАЯ



***Ніна Шклярава нарадзілася 10 снежня 1947 года ў вёсцы Пракопаўка Гомельскага раёна. Кіруе школай маладога літаратара пры Гомельскім абласным Палацы творчасці дзяцей і моладзі. У нумар прадставіла ўрывак з недапісанай аповесці.***

**1**

**СКРЫНЯ**

*(Да цёткі нанач. Нечаканая знаходка. Пра дзеда Сямёна і яго жонку. Вандалы. Неапалімая купіна. Малітва дзяўчынкі. Ваўкалак).*

Ветах месяца заглядваў сваім рогам у шыбіну, бы тая карова з-за вугла. Ісці на вуліцу не хацелася. Заснежана і сцюдзёна, хоць і сціхла завіруха яшчэ ўчора, познім вечарам. Праз шырму з другога пакоя чуўся мерны храп. Гэля, пазяхаючы, сунула босыя ногі ў цётчыны буркі, нацягнула вязаную камізэльку і падалася ў сенцы. Намацала клямку, адкрыла процілеглыя дзверы, ступіла на парог. Калісьці тут быў «дзядзінец», так называла старую хату прадзедаў з акалічнымі забудовамі цётка Параска.Так-так, дзядзінец, а не дзяцінец… Цяперака, справа ад Гэлі, было пустое месца для парасяці, крыку воддаль — стойла для каровы Зоркі… «Му-у-у!» — пазвала тая дзяўчынку. Відаць, пазнала, не забылася, хто вадзіў яе на сакавітыя кундалькі летам. Сёлетняй восенню Гэля стала першакласніцай.

Дзяўчо зрабіла крокі два ўперад, затым два ўлева, прысела і падняла карункі прасторнай начнушкі. Бліснулі ў прыцемку голыя ногі, затым з-пад іх баўна папаўзла цякоміна, пранікаючы ў халодны земляны дол. Карова яшчэ разок няўпэўнена мукнула, але падымацца з нагрэтай уласным целам саломы не стала. Над ёй, на тоўстай сваі, неахвотна завуркаталі куры. Гэля падхапілася, хуценька падалася назад, да дзвярэй. Зачапілася за нейкую дзеравяку, пахіснулася, схапіўшыся за вугал скрыні, што аказаўся пад рукой. Цяпер справа ад яе было акно, з якога падала халоднае святло ад сумётаў на пограбе, што насупраць. Высвеціўся бялюткі, нібы здань, Гэлін тварык. Ды і на двары пачало залчэць, а на тварыку сутонелі цікаўныя вачаняты, што ўтаропіліся на нейкія літары на дашаку: Х В. Пальцы самі ляглі на засаўку ў клямцы, адсунулі яе. Рукі ўхапіліся за вечка, адкінулі да сцяны. Зверху ляжала нейкае друхло: з’едзеная моллю кваці-

стая гаруска, кашуля-вышыванка з іржавым гаплікам і адарваным рукавом, засыня ад жырандолі, а пад ёй — палінялы вахлец, пусты гаманец, ды нейкая скамечаная насоўка… Не, здаецца, не скамечаная, а завязаная ў вузельчык. Дзяўчынка спрытненька адкалупала сваімі пазногцікамі вузел хусцінкі, развязала яе. І аж войкнула. На яе зіхоткімі пырскамі глядзела брошка. Нейкі момант Гэля заслупенілася на яе, затым паклала ў кішэню вязанай апранахі. Плаўна апусціла вечка скрыні… Хомар раставаў у цішы, нібы напаўняючы яе дымам. Гэля хуценька шмыгнула за парог, мільганула цераз сенцы, прасунула галаву ў хату і, не адпускаючы ручкі дзвярэй, прыкрыла іх.

— Не спіцца табе? — буркнула сонная цётка. — Яшчэ нават пеўні не кукарэкалі!

А тыя, быццам пачуўшы яе, навыперадкі загаласілі па розных кутках ваколіцы. Самы басавіты быў певень цёткі Параскі. Пэўна ж, запявала! Яму азваўся тоненькі задзірысты галасок суседскага пеўніка і, як снежны ком, пакаціўся разам з другімі адгалоскамі над вёскай ажно да самых Ведзерак.

— Трэ ўставаць… — выплыла з-за шырмы цётка і закруціла куксу на галаве. — Ты што, да ветру бегала? Казала ж, вядро ў кутку, каля вілачніку…

— Ай, ванець будзе, — сказала Гэля, схаваўшыся пад коўдру.

— Не будзе, калі вынесеш…

— Смешная гэта цётка, — разважала дзяўчынка, — сходзі сама і выносіць не трэба…

Але спаць расхацелася. У вачах стаялі зіхоткі ад знойдзенай брошкі. Чыя гэта цацка? Цётчына? Сказаць ёй ці не?

Яна чула, як адчыніліся дзверы, як азвалася пустая даёнка… Пэўна, цётка вывела Зорку ў сенцы.

— Зараз сырадоем паіць будзе, — лянiва пацягнулася дзяўчо пад цёплай коўдрай.

…Сонечны праменьчык ушчаміўся ў вугал адкрытай форткі, слізгануў па сцяне, заглянуў на прыпечак, за якім жвава скакаў агонь, юркнуў на печ і спыніўся на вейцы дзяўчынкі. Заварушыліся вусны, крануліся ўверх бровы і раскрыліся вачаняты, але тут жа зажмурыліся ад сонца. Гэля падхапілася, нібы праспала нешта важнае… З палёгкай уздыхнула, спусціла ногі з чарэні: не, сёння нядзеля, у школу ісці не трэба. Маці адпусціла яе начаваць да бацькавай сястры. Летам дзяўчынка прападала тут, балазе побач, адразу за кундалькамі — рэчка. Кундалькі — за гародамі. Якіх толькі кветак там не было! Жоўтая лотаць, бэзавыя і ружовыя званочкі, рамонкі, блакіцістыя незабудкі, чырвоныя «часікі», зязюльчыны слёзкі… Нават зімой занудзілася, папрасілася да цёткі на выхадныя… Некалі яе бацькі жылі таксама тут, а цяперака ў новай хаце, на другім канцы вёскі, бліжэй да шашы.

Дзяўчо мякка каўзанула з печы на грубку, адтуль на драўляную падлогу, засланую даматканымі дыванамі ў палоску. Адкінула рукой русявую пасму са шчакі і сунула руку ў кішэню камізэлькі… Брошка! Як быццам толькі што раскрылася чароўная кветка. У цэнтры, на залатых вусіках, успыхвалі тры празрыстыя кропелькі, адсвечвалі ў чатырох буйных камянях-пялёстках. На сонцы яны ззялі, іскрылі, пераліваліся. У Гэлі аж перахапіла дых!

У сенцах пачуліся крокі, у прыадчыненыя дзверы прасунулася цётка. У руках — паўнюткія вёдры з вадою. Яны занялі сваё месца тут жа, на лаўцы каля акна.

— Гэта ты адчыняла скрыню? — спыталася Параска. — Клямка адсунута… Чаго стаіш басанож?

Гэля ад нечаканасці разгубілася і сціснула знаходку ў жмені так, што тая ўпілася ў пальцы.

— Так, гэта я ў цемры спатыкнулася і наляцела на яе. — А што гэта тамака за літары, на самым вуглу вечка?

— Гэта мой дзед пакінуў напамін. Х В. — Хрыстос Васкрэсе! Хоць і быў дзякам у царкве, але рэзаў па дрэве, як пяром пісаў. Колькі абразкоў было ім аздоблена!

— Дзед Сямён? Той, што згарэў? — Гэля абулася ў свае цёмна-сінія боцікі.

— Так, — захлюпала носам цётка, прысеўшы на лаўку ля вёдраў з вадою. Дзяўчынка прымасцілася на ўслончыку насупраць. — Вось толькі гэтая скрыня і ўцалела, ды ікона «Неапалімая купіна», што над ёю вісела. Усё астатняе — наспрах! А затым і Багародзіца прапала. Куды падзелася, нікому не сказала.

— Ага, я чула.

— Тады пра гэта ўся вёска гудзела. Нейкія «вандалы» падпалілі. Спаймалі, у турме зараз. Аказаўся — гальцяй нейкі з горада. Пачуў аднойчы байку за шклянкай гарэлкі пра дзяка, у доме якога ёсць брылянты ды хвамільны срэбны посуд. І прачнуўся кат у ім. Кажуць, што ваўкалакі родзічамі могуць прыкінуцца, вось як! Адзін такі племяшом Сямёнавай жонкі назваўся. Камяні нейкія шукаў, брылянты… Прыдумаў жа, хлус смаркаты! Бабка Анiся хоць і шляхеткай сябе звала, але нічогенька за душой, апроч кашулі ды бліскучай сушпілкі на ёй, падобнай на язьмін. Дык мае пацеркі не горш былі, хіба што не так зіхцелі, бо чырвоныя, як буракі, але ж на шыі гарна сядзелі!

— А дзе яны цяпер? — загарэліся вочы ў пляменніцы.

— Ото ж, добра, што напомніла. У маёй шафе. Зараз! Параска знікла за шырмай, пакалупалася там і задаволена пасміхаючыся вынесла адтуль нізку бліскучых каменьчыкаў. Надзела на дзявочую шыю: «Насі!»

— Ой, як прыгожа! — заскакала Гэля перад люстэркам, што вісела на сцяне.

— Ты самая лепшая цётка на свеце! — і павісла у той на шыі.

— Хопіць, задушыш!

Задаволеная жанчына зняла з жэрдкі, што вісела ўздоўж печы, цадзілку з марлі, паклала зверху на гліняны глечык і стала цадзіць малако.

— Я ж не бабка Анiся. Як ні прасіла даць сушпілку хаця б прымераць на сукню, ды дзе там! Як не чула, бо з прыветам! Глядзець было весела: прышпіліць толькі, калі па цеатрах у горад ездзіла. Дзетак нашых, бач ты, вучыла гаварыць, як немцы. Скажа слоўца па іхняму, дык быццам квактуха ў сенцах! Шанцуе ёй, памерла раней дзеда, не бачыла яго абгарэлага. Чорны, як галавешка…

— Як галавешка?! — спалохана перапытала Гэлька.

— Ат, не слухай дурную! Калі па праўдзе — пляткую. Сама не бачыла, міліцыя не пусціла.

Цётка наліла кубак сырадою, працягнула пляменніцы: «Пасмакуй». Гэля ўзяла, адпіла палову, аблізала вусны, паставіла кубак на стол.

— А вось сушпілка была залатая. Шкада, што згубілася. Анiся казала — хвамільная. Гэта значыць таксама шляхетнага роду. І ты, жэўжык мой, не наброда. Паслухмяная і ласкавая, і крамяная, і рухавая. А як смехам зальешся — шляхетка, і ўсё тут! А як жа іначай? Радуйся, дзіцятка, пакуль сэрцайка скача. Не насмяешся — не налыбішся! Мне табе, ясачка, нічога не шкада, ні пацерак, ні сушпілкі. А ў той скрыні адны дабіркі. Як адкрыла — галаву схіліла: ні шыла, ні мыла, ні жопу прыкрыць, ні рыла. Глядзець смешна, так і закрыла.

— Гаворыць, як сцішок чытае, — захапілася Гэлька.

Параска ўзяла недапіты кубак, паднесла да рота, ды так і застыла, здзівавана ўтаропіўшыся на Гэліну далоньку, на якой пераліваласяя ўсімі колерамі тая самая брошка-сушпілка! Кубак вываліўся з рукі, упаў і перакуліўся. Каля яго адразу, адкуль ні вазьміся, з’явіўся чорны кот і пачаў вылізваць малако. Але цётка не зварухнулася. І раптам у яе зноў прарэзаўся голас:

— А Божачка! — загаласіла яна. — Адкуль гэта?

І пералагнулася на кут з іконамі.

— Гэта было там, у хусцінцы… Гэля паказала рукой на сенцы і падалася да цёткі.

— Не! — спалохана замахала тая рукамі. — Ты знайшла, значыцца так і трэба. Яна твая.

Цётка куляй вылецела з хаты прама ў хлеў і адразу да скрыні. Гэлька за ёй. Не зважаючы на холад, абедзве жанчынкі нахіліліся над ёмішчам. У кут з сенам палядела гаруска, кашуля, засыня, вахлец, гаманец, насоўка… Затым паказалася цёплая і даволі прыглядная ватола. Гэля любіла ўкрывацца ватнай коўдрай зімой, але зараз увага яе была скіравана на дно скрыні. Там ляжала ікона. Цётка дрыжачымі рукамі падняла яе, павярнула да акна. На свет глядзеў лік Багародзіцы. Гэта і была яна, «Неапалімая Купіна». Цётка аберуч абняла яе, як роднае дзіця, як жывую істоту, апусцілася на калені і заплакала. Пацяклі слезы і па шчацэ дзяўчынкі.

Суцішаныя, прасветленыя, яны ўдваіх вярнуліся ў хату. Павесілі на кут Багародзіцу. Памаліліся. Гэля прытулілася да цёткі, абняла яе.

— Трэба любіць адно аднаго, пакуль жывыя, інакш можна не паспець, — нібы самой сабе сказала цётка. — Збірайся, пойдзем у царкву.

Гэля апранула сукенку, грэбнем расчасала валасы, што спадалі на плечы, заплялі ў касу, замацавала блакітнай стужкай, завязала на галаву хустку. Параска завярнула ў гаруску ікону. Паварушыла ў печы вуглі, зграбла іх вакол вялікага чугунка і прыкрыла засланку. Праз нейкую хвіліну былі на двары. Ад хаты да вуліцы вяла прачышчаная ад снегу сцежка —дарожка.

Царква стаяла недалёка, дамоў гэтак дзесяць прайсці. Зусім старэнькая, але ўцалелая і пры Саветах, і ў вайну. Ахоўвалася, як помнік. Але ж злодзеі разы тры абіралі яе. Адзін раз нават папаліся. Гэта былі нейкія гультаі з суседняга сяла. Пасля гэтага тут дзяжурыла міліцыя. А нядаўна, пасля рамонту, паставілі Раку з мошчамі святой. Гэля ніяк не магла запомніць, як яе завуць. Хацела перапытаць у цёткі, але не паспела — прыйшлі.

Людзей было даволі густа. Прыехалі з суседніх вёсак і нават з горада. Везлі сваіх блізкіх памаліцца, прыкласціся да мошчаў, папрасіць збавення ад хваробы. Кажуць, аберагала і дапамагала святая, калі малітва была шчырай, ад чыстага сэрца. Служба ўжо пачалася. Хто проста слухаў спеў псалмаў, а хто варушыў вуснамі, падпяваючы. Гэля паставілі свечкі перад абразамі. Цётка падышла да матушкі, якая стаяла за прылаўкам, дзе ляжалі кнігі, прасвіркі, свечкі, нешта сказала ёй на вуха і падала свой пакунак. Тая знікла за дзвярыма збоку. Затым вярнулася на месца ўжо без нічога і кіўнула цётцы галавой: «Чакайце!»

Служба заканчвалася, але ж Гэлька паспела акунуцца ў лёгкую плынь Божага слова, што ўздымала яе пад самы купал, туды, дзе яна адчувала сябе анёлкам. І раптам ёй стала дрэнна: за спіной пачулася нечае дыханне, да брыдоты агіднае і смярдзючае. Гэля рэзка павярнулася і сустрэлася з вачыма незнаёмца, ад якіх патыхала цемрай. Той павярнуўся і падаўся да выхаду. Дыхаць стала лягчэй. Гэля, нібы

ачнулася, агледзелася. Людзі па-ранейшаму стаялі і маліліся, усё як і заўсёды. Але трывога ўжо не пакідала дзяўчынку.

Пасля службы да іх падышоў бацюшка. Доўга пра нешта гаварыў з цёткай. Калі царква амаль апусцела і чарга да Ракі скончылася, бацюшка разам з манахам побач з ёй павесілі «Неапалімую купіну». Затым адамкнулі замочак і паднялі шкляное вечка. «Як і дзедава скрыня…» — падумалася Гэлі.

— Памаліцеся каля адкрытых мошчаў! — звярнуўся бацюшка да цёткі Параскі і паклаў руку на галаву дзяўчынкі, асяніў крыжом.

Яны засталіся адны. Сталі на калені і схіліліся ў малітве. Колькі часу прайшло, Гэля не заўважыла. Яна глядзела на лік Святой, на залатыя і срэбраныя пярсцёнкі з ланцужкамі, што віселі над ёй вакол іконы. Іх пакінулі людзі, якім трэба было толькі адно: здароўе і благаславенне… Перахрысцілася, дастала брошку, пагладзіла пальчыкам зіхоткія пялёсткі, затым ціхенька паклала ў Раку.

На вуліцы іх сустрэла яркае сонца. Снег іскрыўся і пераліваўся, як пырскі той сушпілкі, якая стала знакам цнатлівай душы дзявочай і яе зусім недзявочага розуму. І старая, і малая адчувалі ў душы тую раскошу, якая магла абагрэць увесь свет.

— Ой, цётачка! — не ўтрымалася дзяўчо, — мне так радасна, што хочацца кожнага стрэчнага абняць! — Гэля чмокнула Параску ў шчаку. — А ты таксама на сёмым небе?

— Як у Бога за пазухай!

Звінеў снег пад нагамі, сонца ў небе грала ўсімі колерамі вясёлкі, яго промні, нібы матылі, кружылі над галовамі прыхажан, азараючы іх светлым німбам.

І нават, калі з-за старой грушы, што стаяла каля хаты бабкі Гуранчыхі, вынырнуў насустрач той жа незнаёмец з чорнымі, як ноч, вачыма, настрой дзяўчынкі не сапсаваўся. Яна шчыра ўсміхнулася яму, але ў галаве міжволі мільганула думка: «Ваўкалак!»

## 2

## ШАПЯТУНКІ

(*Сёстрыны сакрэты. Яшчэ раз пра сушпілку. Прыданае для Гэлі*)

— Нарэшце! Ледзь дачакалася! — сустрэла іх маці ў сваёй белай кашулі-вышыванцы з тонкага палатна. — Распранайцеся. Гэля ў залу, за ўрокі!

— Ведаю, матулька! — падскочыла і чмокнула яе ў шчаку дачка. — Паглядзі, якія ў мяне пацеркі! Малая пакруцілася перад маці на аднойназе так, што бант выслізнуў з касы і адляцеў да самага прыпечка.

— Ды бачу, — задаволена ўсміхнулася маці, — раздзяваеш паціху… А мы з сястрой за іх некалі ледзь не пасварыліся, — яна перахрысціла дачушку, якая ціха прыкрывала за сабой дзверы.

— Успомніла, — Параска махнула рукой. Табе ж застаўся срэбны посуд.

— Цыс-с-с! — прыклала палец да рота сястра і паказала на дзверы ў залу, — Падорым ёй на вяселле, прыйдзе час.

— Дай Бог дажыць, — асяніла сябе Параска і плюхнулася на табурэтку. — Чаго стаіш? Сядай, Маша, а то ўпадзеш: сушпілка Анісіна знайшлася!

— Што ты кажаш! Яе ж укралі! «Неапалімую Купіну» таксама. Ты ж сама гэту слынь пусціла. — Маша разгублена села на лаўку каля акна, левай рукой налягла на стол пад абразамі.

— Я?! — здзівілася Параска.

— Ты мне галаву, Паша, не дуры. Скажаш, нарэшце, дзе сушпілка? Вытусаць з цябе ведамку ці што?

— Дзе, дзе? Там, дзе ёй ха-ра-шо-о! У царкве ўжо.

— Адкуль яна там узялася? Параска, не будзі ўва мне Сіліча!

Параска няспешна ўстала, адкрыла дзверы ў залу:

— Спытайся ў Гэлі. Можаш ганарыцца дачкой — уся ў Сямёна!

Па вачах дзяўчынкі было відаць, што яна чула іх размову.

— Матулечка! Ікона і сушпілка былі ў каморы, у дзедавай скрыні. І дзяўчынка ахвотна распавяла ёй пра свае прыгоды…

— Адурэлі! Кіно бясплатнае — манашка і першаклашка! А вы ведаеце, што сушпілка гэта — спракавечная, брыльянтавая!

Параска і Гэля разгублена паглядзелі адна на адну.

— Блажэнныя! — пляснула рукамі Маша. — Ой! Якія літары былі на скрыні? Х В? — вочы маладзіцы акругліліся, як гузікі.

— Ага. Хрыстос Васкрэсе… Сямён сам сказаў, — Параска не разумела, чаму гэта зацікавіла сястру.

— Аг-а-а!- перадражніла тая. — Блажэнная і ўсё тут!

— А што ён табе мог сказаць, Сямён наш? А то ты не ведаеш, што яны з Хрысцінай любілі адно аднаго!

— Ну і што? Маці расказвала. Але ж нават з вяскоўцаў наўрад ці хто скажа, што між імі нешта было. Хрысця — манашка… Людзям дапамагала. Лячыла іх. Ад бяды перасцярагала.

— А Сямёна не ўберагла. Відаць, абразы ёй былі даражэй.

— Пабойся Бога, яна ж родная сястра Анісі!

— Во-во, такая ж прышпіленая, як і яе сёстры.

— Х В — гэта Хрысціна Васяніцкая?! — разгублена прамовіла Параска.

— Ото ж і я пра тое…



*Дар'я ДАРОШКА*

# МЕСЯЦ ЗОРКУ АБДЫМАЕ



***Дар'я Дарошка нарадзілася 23 лютага 1977 года ў Гомелі. «Мізантроп-гуманіст», стараецца не суадносіцца з іншымі двухногімі, знаходзячыся ў стане «самотнічання». Любіць людзей з пачуццём гумару. Мае зборнік лірыкі «В начале».***

**ВЯРТАННЕ СОНЦА**

Верыцца-не верыцца —
Сон жыццём абернецца.
А Зямля ўсё круціцца,
У міжзор'і кружыцца —
Прывітанне сэрца шле
Сонцу наўздагон.

Скрозь аблокі лёгкія
Сонца жоўтавокае
пацалункі шчодрыя
І ўсмешкі добрыя
Промнікамі-птушкамі
У наш вяртае сон!

Здані цемнавокія,
Спуджаныя крокамі
Сонца ў сэрцы-скарбніцы,
На ўзыходзе раніцы
Паслухмяным воблачкам
Знікнуць з гарадоў.

Сон зямны не скончыцца,
Нават будзе множыцца —
Верыце, ці верыце? —
Пакі ўся не вернецца
У сэрца мармуровае
Першая любоў!

* * *

Жывыя мы жніўнямі,
Ліўнямі сінімі дыхаем мы.
Зоркамі з неба, міглівымі, верым мы, марым мы.
Сонцамі летнімі, чулымі, мілымі крочым мы.
За небасхілам схаванымі мроямі снім.

Шчасцімся ветрыкам і апельсінамі
рыжымі з рынка вакзальнага.
Цешымся берагам, белым сняжком
прыцярушаным.
І навальніцамі жоўта-мядовага колеру,
спелымі, спім…

* * *

Мінулыя звычкі, мінулыя рыскі,
Усё, што бруіла, — цяпер толькі нізка
Народжаных вершаў пра свет і жалобу.
І будуць камусьці яны даспадобы,
І будуць камусьці яны, як атрута —
Пранізлівым ветрам у восеньскі смутак.

* * *

Развітання стомлены сабака,
Што скуголіць вечна між людзьмі,
Чулых слоў  чакае, небарака,
Слоў спагады, ласкі, дабрыні.
Хвосцікам віхляе, ліжа рукі,
Заглядае ў вочы праз гады.
І смугою развітальнай мукі
Поўняцца дамы і гарады.

**ВЕЧАР**

На світанку ночы — на зыходзе дня —
Месячык пяшчотна цешыў кацяня:
Казытаў жывоцік, плямкі ўздоўж спіны,
Мармытаў ледзь чутна між аблокаў сны,
Баяў сон пра татку — добрага ката,
Размалёўваў казку ў колер малака.
Я сяброў частую цёплым малаком,
Запрашаю шчасце ў мой утульны дом!

**САМОТА**

Ніводнага гуку, ніводнага слова —
Накшталт адзіноты ў забытых замовах.
Ніводнага слова, ніводнага гуку,
Ніводнага позірка — цягнецца мука.
Здзяйсняецца кімсьці душы катаванне
Ад рання да скону, ад скону да рання.

**САПРАЎДНЫ МУЖЧЫНА!**

Месяц зорку абдымае
На прасціне неба сіняй.
Прыгажосць, аж дух займае!
Толькі хутка зорка згіне.
Будзе месяц у самоце
Цалаваць яе сястрычак —
Пагражаць іх зорнай цноце.
Месяц не мяняе звычак —
Сапраўдны мужчына!

**ЧАРОЎНАЕ КОЛА**

У светлым коле родных і сяброў
Утульна, цёпла, радасна і лёгка.
У карагодзе досвіткаў і сноў,
У танцы на паверхні свету крохкай
Яно абараняе ад зімы —
Ад ледзянога подыху навалы;
Ад груганоў унутранай турмы,
Што на пустэчы страху панавалі.
Чароўным колам агароджу свет:
Цяпер маёй любові дастаткова,
Каб ад зімы пазбавіць сто планет!
Мне дорыць сілы сонечнае кола
Маёй сям'і.



Анастасія КАЦЮРГІНА

# ПАЭМЫ-ПАЛІНДРОМЫ Ў ПАЭЗІІ ЖЫБУЛЯ

У літаратуразнаўстве паэма разам з баладай і байкай традыцыйна разглядаецца як адна з ліра-эпічных форм. Пры адноснай устойлівасці гэтага жанру заўважныя зрухі, мадыфікацыі паэмы асабліва прыкметна выявілі сябе ў пачатку — першай трэці XX стагоддзя (паэмы Янкі Купалы, Уладзіміра Дубоўкі). Трэба сказаць, што дадзены зменлівы працэс, а ён найбольш адчувальны на сучасным этапе развіцця айчыннай літаратуры, ніколі не адрозніваўся раўнамернасцю, тым самым часта выклікаючы неадназначныя ацэнкі яго навукоўцамі.

Т. Чабан пісала: «…склалася ўражанне, што апошнімі беларускімі паэмамі былі «Хамуціус» А. Куляшова і «Маўчанне травы» В. Зуёнка. А потым — дзесяцігоддзе «маўчання» паэмы, своеасаблівы крызіс жанру» [1, с. 191]. Такое крыху песімістычнае меркаванне ўдумлівай даследчыцы пра становішча і перспектывы развіцця жанру паэмы ў 70—80-я гады мінулага стагоддзя можа быць патлумачана словамі стваральніка і знаўцы ліра-эпасу М. Арочкі: «Атавізмам стаў не эпас сам па сабе, а традыцыйна састарэлае ўяўленне пра яго абавязковую жанравую прыроду» [2, с. 80]. Між тым жывая літаратурная практыка брала сваё. І працэс эвалюцыянавання буйнога ліра-эпічнага жанру станавіўся відавочным: «сучасны перыяд беларускай паэзіі паступова рабіўся ўсё больш паэмным, спрыяльным для вершаванай эпікі» [3, с. 246].

Спробы эксперыментатарства з жанрам паэмы, з яе зместам і формай у сучасным прыгожым пісьменстве скіравалі аўтараў да стварэння цікавых мадыфікацый. Так, вынікам жанрава-фармальных пошукаў Р. Барадуліна стала паэма «Слухаючы мора», жанравую спецыфіку якой аўтар вызначыў як «хваля-паэма»; яго ж «Смаргонская акадэмія» пазначана як «наравістая паэма».

Арыгінальнай падаецца жанравая спецыфіка паэм А. Разанава. А. Бельскі характарызуе творы пісьменніка як «свайго роду эксперыментальныя формы, для якіх аўтар яшчэ не шукае спецыяльнай жанравай пазнакі, але пэўнае канцэптуальнае аб'яднанне робіцца праз загаловак: «Паэма» плюс назоўнік у родным склоне» [4, с. 49]. Гаворка ідзе пра такія творы пісьменніка, як: «Паэма сланечніка», «Паэма рэха», іншыя.

Актыўныя пошукі ў жанры паэмы назіраюцца і ў творчасці прадстаўнікоў маладзейшага пакалення. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў, паэт, бард, а сёння яшчэ і галоўны рэдактар часопіса «Верасень» Э. Акулін жанр свайго твора «Шлях да Радзімы» вызначыў як акрапаэма. Удалай спробай стварыць адметную жанравую ліра-эпічную адзінку можна лічыць паэму ў манавершах «Такі час» літаратурнага крытыка і пісьменніцы А. Бязлепкінай. Што датычыцца аднаго з самых яркіх эксперыментатараў у айчыннай паэзіі апошняга часу В. Жыбуля, то ён звярнуўся да напісання сінтэзаванай формы паэмы — паэмы-паліндрома. Гэты жанр у мастацкай сістэме аўтара прадстаўляюць паэмы «Рогі гор», «Кацёл клёцак», «Палігон ног і лап».

У дадзеных творах даследчыкамі былі знойдзены прыкметы транслагізму. Даследчыцай А. Брадзіхінай даецца наступнае азначэнне гэтай эстэтычнай з'явы: «На думку стваральнікаў транслагізму С. Мінскевіча і А. Туровіча, гэта літаратурна-мастацкі метад, які «стварае (сэнсавыя, пачуццёвыя, абстрактныя...) лабірынты пранікнення скрозь бясконцамерны тунэльны тэкстасвет, дзе тунэлі безупынна то адчыня-

юцца, то зачыняюцца; спалучае асацыяцыямі розныя ўзроўні звышматэрыяльнасці». Так, усялякі збег літар абавязкова мае некалькі сэнсаў — калі не ў роднай, дык у іншых мовах. На гэтай падставе можна злучыць паміж сабой усе тэксты і мовы, што існуюць у свеце. У адрозненне ад фанетыка-асацыятыўнага пісьма, …мы маем справу не з моўным нігілізмам, а яго антыподам — моўным абсалютызмам. Большасць транслагічных тэкстаў па сваёй сутнасці з'яўляюцца паліндромамі, каламбурамі, шарадамі, анаграмамі ці творамі, зашыфраванымі іншымі спосабамі» [5, с. 131].

І ўсё ж нельга не пагадзіцца з тым, што так званыя транслагічныя тэксты — «гэта тэксты-патрыёты». «Замежніку, каб зразумець іх, трэба перакласці самога сябе ў семантычную прастору беларускай культуры» [5, с. 131], — адзначае Ю. Барысевіч. Віктар Жыбуль, асэнсоўваючы мэтазгоднасць напісання такога віду транслагічных твораў, як паліндром, піша: «На маю думку, магчымасць стварэння паліндромаў на пэўнай мове сведчыць аб пластычнасці гэтай мовы, яе графічнай і фанетычнай выразнасці, яе семантычных сродках» [5, с. 3].

У навуковай літаратуры сустракаюцца розныя дэфініцыі тэрміна «паліндром». У літаратуразнаўстве распаўсюджана даволі вузкае тлумачэнне дадзенага паняцця: «Паліндром, паліндрамон (palirn — 'назад', dromo — 'бег'; гэта значыць 'той, які бяжыць назад, вяртаецца', з грэч.) — фраза або верш, якія могуць чытацца (па літарах або па словах) спераду назад і ззаду наперад, пры гэтым захаваецца здавальняючы сэнс» [6, с. 536]. В. Рагойша падае такое тлумачэнне: «Паліндром (ад грэч. palindromos — які вяртаецца), пярэварацень, — літаратурны твор, радкі якога прачытваюцца не толькі злева направа, але і справа налева, захоўваючы той самы сэнс. Засноўваецца на паліндрамічных магчымасцях асобных слоў (*тут, боб*) ці выразаў (*бурт труб; Аліса касіла, а Ліза вазіла*)» [7, с. 167].

Варта ўдакладніць, што паліндром вядомы са старажытнасці і першапачаткова валодаў містычным арэолам (недзе да XIX стагоддзя). Пераломным момантам у асэнсаванні паліндрома стала з'яўленне ў рускай літаратуры «Перевертня» і «Разина» (В. Хлебнікаў). У беларускай літаратуры да паліндромнага верша першым звярнуўся С. Полацкі. Вядомы ягоны верш «Рак», напісаны на лацінскай мове. Пасля, амаль на працягу некалькіх стагоддзяў, да паліндромаў айчынныя аўтары не звярталіся. У XX стагоддзі вершы-паліндромы ствараў паэт-эмігрант Р. Крушына. Першым беларускамоўным паліндромам ў беларускай літаратуры лічыцца якраз яго твор «Я і лаза».

Даследчыкі адзначаюць, што працэс напісання якаснага вершаванага паліндрома патрабуе ад аўтара наяўнасці літаратурнага таленту, дасканалага валодання мовай і выключнага ведання яе фанетычнага ладу. Таму лічым мэтазгодным прааналізаваць паэмы-паліндромы Віктара Жыбуля на ўзроўні іх мовы і структурнай арганізацыі тэкстаў.

Паэмы-паліндромы Віктара Жыбуля «Рогі гор» (1996) і «Палігон ног і лап» (2001) даюць унікальны па аб'ёме матэрыял для аналізу. Так, тэкст першага з названых твораў складаецца з 242 аднарадковых паліндромаў. Наогул жа паэмы з'яўляюцца шматрадковымі паліндромамі. Частотнасць напісання беларускімі аўтарамі рыфмаваных паліндромаў невялікая. У тэксце паэмы «Рогі гор» сустракаюцца 26 пар рыфмаў, большасць з якіх мужчынскія, з націскам на апошнім складзе, недакладныя (*рагу — лукум, ката — матам, гоман — ран*). «Рогі гор» — першая беларуская паэма-паліндром, якая прынесла аўтару прызнанне і атрымала станоўчыя водгукі крытыкаў і літаратараў. Па словах Г. Кісліцынай, гэты твор Жыбуля — «беспрэцэдэнтны выпадак у гісторыі беларускай літаратуры, хоць падобныя творы ствараліся й раней, напрыклад Р. Крушынам. Паэма «Рогі гор» — не проста філалагічнае вышуканства ў эпоху панавання свабоднага верша, а й цвяроза-іранічны погляд на свет, паэтычны «дыягназ» рэчаіснасці. «Рогі гор» можна разглядаць як індывідуальны вынік калектыўных пошукаў нацыянальных гукасэнсаў і інтэрнацыянальных рытмавобразаў, якімі сёння захоплена амаль уся маладая паэзія» [8, с. 157].

У паэме «Палігон ног і лап» рыфмы пераважна дакладныя, мужчынскія і жано-

чыя (*асоба — жалоба, газ — раз, удар — жандар).* Заўважана выкарыстанне аўтарам гульнёвай паэтыкі. Напрыклад, у тэкстах сустракаюцца анаграмныя пары (*Саня Янасін — Сеня Янесін, каму — кум, кошт — шок)*, якія натуральна глядзяцца ў асобных паліндромах, таму што з'яўляюцца адной з рыс «пярэваратня». Але ў тэксце паэм анаграмныя пары знаходзяцца ў асобных паліндромах (*«**Ага**, логава голага! / Ага, **нага** пана паганага!»* [9, с. 52]).

Мова паэм схіляецца да лапідарнасці. Часта ў ёй пераважаюць кароткія лексіка-граматычныя формы (*«Рогі гор. / Рухі віхур. / Лёсы сёл…»* [10, с. 52]; *«Тут / або сам — асоба, / або — лажа, жалоба!»* [9, с. 43]), што з'яўляецца адной з характэрных асаблівасцей беларускага паліндрома. Своеасаблівым цэнтрам паліндромнай лапідарнасці з'яўляецца наяўнасць 4-5 гукаў у словаформе. Згодна з «законам абсарбацыі», прапанаваным рускім даследчыкам А. Бубновым [11, с. 63], з моўнай плыні выбіраюцца асобныя патрэбныя словаформы, якія звужаюць патэнцыяльныя магчымасці мовы пры перадачы аўтарскай думкі. Таму аўтар не пазбягае іншасказальнасці, ускладненай метафарызацыі мовы і сэнсавага боку твора, тэкст якога патрабуе «дэшыфроўкі»: (*«А пах / рамонкаў — акно мар — / закапаў…* [10, с. 57]; *Рогі гор — / гора дарог»* [10, с. 52]; *«О, бура ног, / курава — ліха пах, і лава рук!»* [9, с. 43]; *«Тэмп мэт! / Ура. буру бару!»* [9, с. 43]). Гэта абумоўлівае постмадэрнісцкую шматузроўневасць зместавай арганізацыі тэксту. Таксама адным з выдаткаў звужанасці выбару лексем і словаформ пры напісанні паліндромаў з'яўляецца «ламаны» вершаваны памер, які заўважны ва ўсіх тэкстах такога характару. Не выключэннем з'яўляюцца і паэмы Віктара Жыбуля.

Паліндромная кампазіцыя характарызуецца гукавой сіметрыяй і выпадкамі асіметрыі на розных узроўнях арганізацыі тэксту. Кампазіцыю паэм «Рогі гор» і «Палігон ног і лап» характарызуе літарная і гукавая сіметрычнасць (*«Атака ката / матам»* [10, с. 54]; *«Рогі гор»* [10, с. 52]), што дадае твору эстэтычнай вартасці. Разам з тым назіраюцца выпадкі асіметрыі ў выніку аглушэння зычных на канцы слова (*«Дом мод…»* [10, с. 59]; *«закапаў… А паказ»* [10, с. 57]), перастаноўкі націску (*«А ламачча мала»* [10, с. 53]; *«А во — дуба дала дабудова!»* [10, с. 53]; *«Атака драмала. Валіла валам арда ката»* [9, с. 43]; *«Мы жуду дужым»* [9, с. 43]). Асіметрыя абумоўлена абраным В. Жыбулем прынцыпам напісання паліндрома і адбору лексікі, згодна з якім словы ў адваротным парадку чытаюцца не па гуках, а па літарах. Трэба адзначыць, што «сіметрыя ў паліндроме вельмі нестабільная і не падпарадкоўваецца строгім законам. Кожны з аўтараў з улікам задач свайго сачынення сам для сябе вызначае такую ступень, прычым гэта адбываецца не непасрэдна, а апасродкавана праз вызначэнне аўтарам паняцця паліндрома» [11, с. 69]. Паэма «Рогі гор» і «Палігон ног і лап» — літарныя паліндромы, чым і абумоўлены выпадкі гукавой асіметрыі.

Паліндрамічная паэма «Палігон ног і лап» пазнейшая па часе напісання, таму мэтазгодна вызначыць яе адрозныя рысы ў параўнанні з першым ліра-эпічным творам пісьменніка «Рогі гор». Зрэшты, у шматлікіх інтэрв'ю сам аўтар прызнае паэму вучнёўскай, паколькі матэрыял, які склаў «Рогі гор», збіраўся не метадычна вывераны. Часам гэта былі асобныя словы і сказы, што пры напісанні твора «кіравалі» яго сюжэтам і ідэяй. Гэта найбольш паэма-роздум, сюжэт у ёй цьмяны. Нярэдка ў тэксце «падзейную» лінію перабіваюць «стыхійныя» разважанні.

«Палігон ног і лап» — твор з лагічна выбудаваным сюжэтным і дынамічным, адпаведным тэме, дзеяннем. У адрозненне ад паэмы «Рогі гор», ён складаецца з большай колькасці монапаліндромаў. Назіраецца ўзбагачэнне слоўнікавага запасу паэта-паліндраміста. Аўтар пазбягае немэтазгодных паўтораў словаформ, якія нярэдка перагружаюць сэнсавы бок паэмы. У тэксце паліндрома сустракаюцца ўласныя імёны, што ў натуральнай моўнай плыні не валодаюць здольнасцю чытацца аднолькава злева направа і справа налева. Але яны даволі ўдала ўжыты ў творы, што паказвае на ўзрастаючы прафесіяналізм

паліндраміста, яго выключнае валоданне мовай.

У творы заўважна ўяўная прысутнасць аўтара-саўдзельніка, які нярэдка звяртаецца да чытача (*«А гаду — самасуд, ага?»* [9, с. 43]; *«Розуму каму мінімум?»* [9, с. 43]), выяўляе сябе праз устаўныя канструкцыі, што ўказваюць на адпаведны эмацыянальны стан лірычнага героя (*«— От (хі!) ніхто / не здадзен / на ратны чын»* [9, с. 43]; *«Раз — / і няма! (Панна, памяні!)»* [9, с. 43] і інш.).

Нельга не заўважыць, як прыкметна ў Віктара Жыбуля ад твора да твора ўзмацняецца эпічны пачатак. Лірычны герой бярэ на сябе функцыю наратара. Іншы раз мова абцяжарваецца клічнымі сказамі, у сувязі з чым губляецца эфект «эмацыйнага выбуху» (*«Удар канакраду! / І багатага бі, / Ездавы! Разані, міна зарыва! / Дзе гонар? У бой!»* [9, с. 43]; *«Такім — і хімікат, / і лук! Кулі / авал — о, волава!»* [9, с. 43]).

Ліра-эпас аўтара характарызуе тэматычнае і ідэйнае багацце. Віктар Жыбуль аднолькава захапляльна распавядае, напрыклад, пра вайну і пра ежу. Да прыкладу, пацверджаннем таму, што творы «Палігон лап і ног» і «Кацёл клёцак» з'яўляецца паэмамі, выступае наяўнасць у іх сюжэтных ліній і кампазіцыі, вобраза лірычнага героя і персанажаў, рознага кшталту адступленняў.

Відавочна, што дзякуючы названым паэмам Жыбуля («Рогі гор», «Палігон ног і лап», «Кацёл клёцак» і іншым) гэты жанр засведчыў новыя структурныя і зместавыя магчымасці, адкрыў шматсэнсавасць, тэкставыя і падтэкставыя глыбіні і ўжо тым самым забяспечыў сваё заслужанае высокае месца ў айчынным вершаскладанні. Паліндром стаў адметным спосабам выказвання і паказу зваротнасці, абарачальнасці падзей, з'яў у часе і прасторы. Пастунова гэтая складаная мастацкая форма атрымлівае больш шырокае распаўсюджванне, умацоўваецца ў літаратурнай практыцы. Ствараюцца нерыфмаваныя і рыфмаваныя паліндромныя вершы, паэмы, драматычныя творы, невялікія апавяданні. І ўсё ж відавочна, што эвалюцыя паліндрома ў беларускай літаратуры яшчэ чакае свайго росквіту, аднолькава як і глыбокага даследавання.

**ЛІТАРАТУРА:**


1. Чабан, Т. Мара пра эпас / Т. Чабан // Полымя. — 1990 — № 4. — С. 194—200.
2. Арочка, М. Паэзія / М. Арочка, П. Дзюбайла, С. Лаўшук. На парозе 90-х: Літ. агляд. — Мінск, 1993. — С. 225—248
3. Бельскі, А. Вывучэнне творчасці пісьменнікаў: класікі і сучаснікі ў школе / А. Бельскі. — Мінск, 2005. — С. 325
4. Жыбуль, В. Што такое паліндромы? / Настаўніцкая газета. — 1997. — 5 лютага.
5. Брадзіхіна, А. В. Зместава-фармальныя пошукі сучаснай беларускай лірыкі: курс лекцый па спецкурсе для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вну / А. В. Брадзіхіна; М-ва адук. РБ, Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны. — Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 2006. — 140 с.
6. Гаспаров, М. Л. Краткая литературная энциклопедия / М. Л. Гаспаров. — М.: Советская энциклопедия, 1968. — 655 с.
7. Рагойша, В. П. Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці: для школьнікаў і абітурыентаў / В. П. Рагойша. — Мінск.: Нар. асвета, 2009. — 303 с.
8. Кісліцына, Г. М. Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы / Ганна Кісліцына. — Мн.: Логвінаў, 2006. — 205, [2] с. — (Другі фронт мастацтваў).
9. Жыбуль, В. Палігон ног і лап: Урыўкі з паліндромнай паэмы / В. Жыбуль // Першацвет. — 2001. — № 11. — с. 40—43
10. Тазік беларускі: Зб. вершаў / В В. Акудовіч, З. М. Вішнёў і інш.: — Мн.: «Бервіта», 1998. — 96 с.: іл.
11. Бубнов, А.В. Палиндромия: Самая объемная книга о русском палиндроме / А. В. Бубнов. — Курск: «Борей-арт», 1998. — 272 с.




Марыя КІРУШКІНА

# НАРАДЖЭННЕ АСАБІСТАЙ ГІСТОРЫІ

## *Філасофскі змест сучаснай жаночай паэзіі*

У літаратуразнаўстве спалучэнне слоў «жаночая паэзія» прэтэндуе на статус ідыёмы. Эстэтычныя арыентацыі жанчын-творцаў паказваюць іх схільнасць да вызначальнай дэманстрацыі ўласнатворчасці. У літаратуры гэта актуалізуецца наступным чынам:

- паэтызацыя мадэлі жаночай карціны свету;
- маркіраванасць тэксту пэўнымі сімваламі, ідэаламі жаночай суб'ектыўнасці;
- наяўнасць элементаў гендарнай тэорыі.

Беларуская жаночая паэзія на сучасным этапе арыентуецца на асэнсаванне маральна-этычных, філасофскіх праблем, разгляд якіх разам з аб'ектыўным адлюстраваннем рэчаіснасці немагчымы без даследавання прыватнага жыцця асобы, засяроджанасці на яе ўнутраным свеце. Матывы самоты, суму і адзіноты складаюць аснову мастацка-эстэтычнай сістэмы творцаў. Паэткі (А. Спрынчан, М. Вайцяшонак, М. Барадзіна, Л. Раманава і іншыя), акрамя прэзентацыі ідэалаў жаночай суб'ектыўнасці, мадэлююць адметныя вершатэксты, складнікам якіх з'яўляюцца элементы філасофскага пачатку. Спецыфіка сучаснай жаночай паэзіі — гэта стварэнне паэткамі ўласнай паэтычнай сістэмы.

З мэтай вызначэння дыферэнцыяльных адметнасцей сучаснай жаночай паэзіі мэтазгодна выкарыстоўваць наступныя аспекты літаратуразнаўчага аналізу, што звязаны з інтэрпрэтацыяй паняцця катэгорыі:

- значэнне паэтычнага твора заснавана на праўдзівасці каштоўнасцей;
- эмоцыі не маюць канцэптуальнага зместу;
- наяўнасць у тэксце філасофскіх паняццяў, што сведчаць аб існуючых гендарных стэрэатыпах.

Метапаэтычны маніфест сучаснай жаночай паэзіі — гэта абсалютызацыя філасофскіх катэгорый, стварэнне ўласнай гармоніі паміж светам лірычным і светам рэчаіснасці.

Рэфлексійны статус маюць такія паэтычныя тэксты, у якіх канцэпцыя аўтара разглядаецца пасродкам экспрэсіўнага выражэння думкі, спалучанага з пэўным ідэйна-эстэтычным досведам. Логіка разваг і жыццёвых перакананняў паэтак скандэнсавана ў мадэлі быцця. Паводле О. Вайнінгера, «трансцэндэнтальны суб'ект, або «Я» асобы існуе ў змесце свайго мыслення: усялякае быццё ёсць свядомасць». Таму прыярытэтнасць філасофскіх акцэнтаў у жаночай паэзіі найбольш звязана з адзначанай катэгорыяй. Быццё жанчыны адметнае: гэта спосаб існавання існага (любові, веры, прыгажосці) і форма яе жыццёвага досведу.

Інтэлектуальнае асэнсаванне катэгорыі быцця ў сучаснай жаночай паэзіі інтэгруецца ў літаратурны філасофскі кантэкст пасродкам актыўнага сцвярджэння паэткамі ідэй высокай духоўнасці і свайго жаночага «Я».

Шукаю сутву быцця
І сутву нябыту шукаю…
Каюся
і грашу…

У вышэй прыведзеных паэтычных радках сутнасць існавання А. Спрынчан знаходзіцца на мяжы граху і пакаяння, што сведчыць пра звышасабісты лад жыцця адносна аб'ектыўнай рэальнасці. У вершатворчасці паэткі разглядаецца суб'ектыўны свет асобы, адметнасць якога — у традыцыйна нязвыклым разуменні свайго мікракосмасу. Лірычная гераіня не пазбаўлена і ўзнаўляльнай матывацыі, бо дэманструе жыццёвую дзейнасць: «Шукаю тое / што яшчэ згублю / Сама сабе дапамагаю… / …губляць…»

У вершах А. Спрынчан рэалізуецца канцэпцыя «жыццятворчасці», якая апелюе да назвы паэтычнага зборніка «ЖываЯ».

Трывіяльныя адчуванні лірычнай гераіні арыентаваны на такія жыццёвыя праявы, якія пакідаюць надзею на гарманічнае існаванне асобы ў свеце:

Мне не бывае сумна,
ды сум бывае ад таго,
што не бывае
неба
ў небыцці.

У выніку ўмоўна-метафарычнае адчуванне быцця дазваляе А. Спрынчан стварыць свой сусвет у небыцці.

Светаадчуванне М. Вайцяшонак грунтуецца на дысгарманічным успрыманні «рэалій быцця». Такая рэпрэзентацыя асабістай духоўнай сферы залежыць ад неўпарадкаванага хаатычнага свету. На своеасаблівай метафізічнай тэрыторыі яе вершаў існуюць неаднародныя віды душэўнага стану індывідуума, сярод якіх — сузіранне, духоўны разлад і неспакой, жыццёвая мудрасць і выпрабаванні «без аніякай прагі / да бесклапотнага / жыцця». Рэалізаваная ў вершах катэгорыя быцця паэткі не толькі адлюстроўвае вечнае імкненне асобы да лагічнай завершанасці, але і дэманструе яе праблемна-зместавае існаванне ў свеце. Адсутнасць цэласнасці быцця тлумачыцца ідэяй наканаванасці: «ужо ведаеш, што не нап'ешся». У дадзеным выпадку жыццёвы досвед грунтуецца на эфекце вызначаных лёсам прыярытэтаў.

Для М. Вайцяшонак значэнне набывае катэгорыя маралі. Дамінаванне ідэі высокага духоўнага жыцця, паводле аўтара, нараджае асабісты закон маральных каштоўнасцей:

Нашу ў кішэні
З сабой
увесь час <…>
вось гэтыя словы:
зло ніколі
не можа быць
справядлівым.

Акрэсленыя светаадчуванні паэткі ўказваюць на дыдактычныя інтанацыі яе творчасці.

Універсальныя якасці катэгорыі маралі рэалізуюцца сучаснымі паэткамі праз веру ў Бога. У цэнтры ўвагі аўтараў — сутнасць Бога, сістэма пэўных уласцівасцей і вартасцей, якая інтэрпрэтуецца імі праз хрысціянскае прызнанне і элементы яго рэалізацыі ў паэтычным тэксце.

І. Багдановіч разважае пра моманты цяжкага раскаяння за памылкі зямнога жыцця. Сітуацыя экзістэнцыйнага стану асобы ў момант малітвы ілюструецца паэткай наступным чынам:

Наплакацца ўдосталь
за ўсё і за ўсіх,
прасіць прабачэння
правінаў у Бога…

Усведамленне боскага пачатку ва ўсіх дзеяннях вызначае асаблівую акцэнтуацыю эмацыянальна-пачуццёвай формы рэлігійнай свядомасці. У мастацкім мысленні І. Багдановіч пытанне пра боскую дапамогу — дамінантнае ў даследаванні заканамернасцей быцця.

У мастацка-эстэтычнай сістэме М. Барадзіной катэгорыя быцця — гэта і ёсць Бог. Паэтка шукае дасканаласці, гармоніі з неўтаймаваным макракосмасам, бо ён надзелены пакутамі і трызненнем. Абазначаны пошук накіраваны на тое, каб зліцца з вышэйшым абсалютам (з Богам), узнясціся над душэўнымі перажываннямі і смуткам, жыццём і смерцю. Вобраз Усявышняга спалучае ў сабе цэнтр быцця і абазначае новы фазісны пачатак у пазнанні свету лірычнай гераіняй, якая прамаўляе: «Я — размова з табой / Я — размова з табой / Не болей».

Аддаючы абсалютны прыярытэт Богу, для ажыццяўлення класічнага рэфлексійнага аналізу, то бок споведзі, лірычная гераіня павінна адчуваць адзіноту, бо ў іншым выпадку — эмацыйна-свабодная свядомасць асобы не будзе падрыхтавана да дыялогу з Творцам свету, які можа мець наступны вынік-просьбу: «акуніся ў мяне…»

Рэлігійныя матывы, дзе цэнтрам быцця ёсць Бог, увасоблены ў вершах Л. Раманавай: «Госпадзе / з-пад зямлі / над зямлёй <…> / Госпадзе / будзь са мной». Тэндэнцыя звароту да Усявышняга і да формы паэтычнай малітвы ператвараецца ў вершатэксце ў дзейсны сродак мастацкай выразнасці. Змястоўнасць, эмацыянальнасць вершаваных радкоў апелюе да адзінства ўласнай самаарганізацыі і ўмоўнага лірычнага сюжэта.

Свае адчуванні, хваляванні жанчынытворцы выяўляюць у выглядзе рэфлексійнай мастацкай формы. Такая трансфармацыя асабіста-таемнага свету дазваляе вылучыць у іх паэзіі матыў шляху — да сябе, да царквы, да Бога.

Паводле А. Спрынчан, чалавек павінен з кожным крокам свайго жыцця рухацца наперад. Шлях дадзены нам ад нараджэння, але

кожны здольны змяніць сябе і свой лёс. Гэта і падкрэслівае паэтка ў наступных вершаваных радках: «Лёсу майму стала цяжка / быць лініяй тонкай. / Захацелася раптам лёсу / адчуць сябе / шляхам шырокім». Сутнасць мастацкіх пошукаў А. Спрынчан уяўляе адлюстраванне яе духоўных патрабаванняў.

Мастацкі вобраз царквы ў вершы М. Вайцяшонак — гэта шлях да размовы з Богам, сімвал усяго боскага царства. Паэтка лічыць, што чалавек створаны Богам і напрыканцы жыцця ён прыходзіць да Бога. Адзіны шлях, што вызначаецца праз дыялектычнае адзінства цела і духу, на думку М. Вайцяшонак, наступны: «Накладаеш / крыжык / на грудзі / ідзеш / у царкву / невідушча / мінаючы / жабрака». Але прайсці па крузе быцця — гэта значыць сярод разнастайных жыццёвых дарог выбраць правільную мадэль руху — да ўніверсальнай боскай іерархіі.

У выніку, сучасная жаночая паэзія акцэнтуе ўвагу на духоўна-псіхалагічных, філасофскіх і рэлігійных феноменах, адносна якіх у вершах рэалізуецца сістэма падзей і рэчаў, што ўтрымлівае складанасць жаночага быцця і магчымасць яго тлумачэння.

Унутраны суб’ектыўны свет чалавека з усімі вектарамі яго існавання — ад неўсвядомленага да самасвядомасці — павінен складацца з катэгорый, арыентаваных на душэўную гармонію. У сучаснай жаночай паэзіі на ўзроўні вобразаў-настрояў (фларальных сімвалаў, атрыбутаў пачуццёвасці) рэалізавана катэгорыя кахання. Дадзеная катэгорыя ўзнікае ў прасторы ўзаемадзеяння супрацьлеглых пачаткаў — цялеснага і духоўнага.

Псіхічнае, цялеснае і індывідуальнае разглядаецца паэткамі ў межах унутранай гармоніі. Метафізічны змест дадзенай катэгорыі адлюстроўваецца ў вершах адносна спосаба выражэння лірычнага «Я» аўтара.

Вызначаецца новай эстэтычнай скіраванасцю, метафізічнасцю і адметнай паэтыкай паэзія Л. Сом. Катэгорыя кахання набывае наступны сэнс: «цялеснае» гарманіруе з альтэрнатыўным «духоўным», у выніку чаго нараджаецца «абсалютнае» (ідэальнае) каханне. Але ў свядомасці жанчыны пераўтвараецца ў каханне-расстанне. Л. Сом бачыць несуцяшальныя футурыстычныя вынікі кахання:

Ёсць ты і я, два светы, дзве душы,
Два розныя і родныя стварэнні.
І разам нам не быць, як ні пішы
Ты кнігу лёсу; не скрануць камені.

У вершах паэткі новая форма выражэння пачуцця абумоўліваецца стварэннем асабіста-інтымнага свету, у якім ёсць як сузіранне і любоў, так і душэўны спакой, расстанне.

У вершатворчасці А. Спрынчан паэтызуецца суб’ектыўны свет асобы, адметнасць якога — у традыцыйна-нязвыклым разуменні свайго мікракосмасу. Але асноўным парадоксам самасвядомасці індывіда з’яўляецца духоўнае сцвярджэнне сваёй сутнасці. Гэта тлумачыцца паэткай праз катэгорыю кахання, спалучаную з такімі характарыстыкамі быцця асобы, як смутак і душэўны неспакой. Таму ў вершах А. Спрынчан нараджаецца каханне-сум:

У лабірынце празрыстага суму
блукае маё каханне
і не шукае выйсця —
так шмат у жыцці суму,
так мала празрыстасці…

Арыентацыя на высокія духоўныя каштоўнасці разглядаецца паэткай як аргумент, пасродкам якога жанчына дазваляе сабе абсалютызаваць пачуццёвасць.

Каханне-адзінота прадстаўлена ў паэтычнай творчасці Д. Ліс. Светабачанне гераіні грунтуецца на сінтэтычным успрыманні рэалій. Шлях да «касмічнага» быцця — гэта прадбачанне жыцця, дзе мары і каштоўнасці не прагназуюцца: «Адзінота — мая незалежнасць? / Не пазбегнуць самоты / Ні табе, ні сабе / Не належыць / Неістотнасць / Нявечнасць / Вочы ў вочы / Ніколі з табой — / Не сустрэцца». Духоўна-сутнаснае разуменне рэчаіснасці і свядомасць жанчыны аналізуюцца паэткай паводле інтэграцыі «жаночага» (цялеснага) у іншыя эстэтычна абумоўленыя сферы жыцця — уласную незалежнасць і свабоду духу.

Сёння філасофскі змест жаночай паэзіі складаецца з катэгорый узаемазамяняльных: у пэўнай лірычнай сітуацыі каханне становіцца неабходным, экзістэнцыяльны сум замяшчаецца верай у Бога. Пачуццёвая прастора вершаў ілюструюецца сучаснымі паэткамі праз вызначэнне зместу катэгорыі быцця як выяўлення асабістай жаночай гісторыі.

Таццяна ПЯТРОЎСКАЯ

# САКРЭТ РАЗАНАЎСКАГА ВЕРСЭТА

Версэт адносіцца да тых жанраў, якія віртуозна манеўруюць паміж прозай і паэзіяй. І такое яго становішча тлумачыцца недавызначанымі адносінамі паміж паняццямі *паэзія* і *вершы*. Вершы звязаны з падзелам мастацкага тэксту на рытмічна суразмерныя адрэзкі. У большасці тлумачальных слоўнікаў сутнасць тэрміна *паэзія* прадстаўлена як вершатворная творчасць, мастацтва рытмічнай арганізацыі тэксту, гэта значыць, фактычна паэзія атаясамліваецца з вершамі. Аднак такое значэнне слова паэзія атрымала толькі ў другой палове XIX стагоддзя, раней паэзіяй называлася ўся мастацкая літаратура ў адрозненні ад немастацкай. І ў той жа час раней вершаваныя тэксты можна было сустрэць не толькі ў мастацкай літаратуры, але і ў навуцы. Такім чынам, навукоўцы маркіравалі свае тэксты як асабліва значныя. Гэта значыць, вершы — гэта толькі адна з форм паэзіі. А. Андрэеў у артыкуле «Аб асаблівасцях хайку і манавершаў у рускай паэзіі» прапаноўвае наступныя катэгорыі паэзіі:

1) паэзія ў вершах;
2) паэзія ў не-вершах;
3) не-паэзія ў вершах.

Бясспрэчна, версэты адносяцца да паэзіі ў не-вершах. Пакуль што сустрэць у літаратуразнаўчых слоўніках паняцце *версэт* даволі цяжка. Хаця паняцце «верш у прозе», чым фактычна і з'яўляецца версэт, знаёма амаль што кожнаму школьніку. Аднак двухзначнасць беларускага слова «верш» («стих» і «стихотворение») часта прыводзіць да непаразумення (верш у значэнні «стих» і проза — гэтыя два паняцці ўзаемна выключаюць адно другое; у І. Тургенева, заўважым, не «Стихи в прозе», а «Стихотворения в прозе»). У беларускай літаратуры версэт узнік на пачатку XX стагоддзя і адразу набыў рэфлексійнасць, філасофскую заглыбленасць і сацыяльную скіраванасць. У артыкуле «Беларуская літаратура ў 1909 г.» («Наша Ніва», 1910, 11 лют.) С. Палуян, супастаўляючы творчасць М. Багдановіча і Власта (В. Ластоўскага), пісаў: «У абодвух ёсць нешта супольнае, хоць адзін піша вершы, а другі — прозу. Але абодва яны паэты, бо абразкі Власта — гэта паэзія прозай». Гэты жанр дастаткова шырока прадстаўлены ў творчасці сучасных паэтаў. Аднак версэты Разанава ўяўляюць сабой цэлы свет: тут ёсць свая філасофія, свая сістэма сімвалаў і вобразаў. Адпаведна, не так ужо і лёгка растлумачыць, што такое разанаўскі версэт. Безумоўна, ахарактарызаваць яго немагчыма, а вось калі падабраць для характарыстыкі разанаўскага версэта як мінімум 15 слоў і размясціць іх у алфавітным парадку, атрымаецца наступнае:

**А антынамічнасць** Звязана са сталай дваістасцю светаадчування аўтара, частымі супастаўленнямі і супрацьпастаўленнямі. Падзел света, меч як сімвал гэтага падзелу, сярэдзіна некай адлегласці — усё ўказвае на існаванне двух супрацьлеглых, аднак раўнаважкіх бакоў.

**Б балада** Некаторыя версэты паэта больш набліжаны да балады — апавядання ў своеасаблівай паэтычнай форме (наколькі гэта магчыма ў нерыфмаваным вершы). Графічная афармленасць гэтых вершаў адбываецца па прынцыпу абзацаў у празаічным тэксце. Кожная страфа — асобная мікратэма. Так, у вершы «Ляснік Амелька» вылучаюцца чатыры страфы і кожная адпавядае асобнай кампазіцыйнай частцы: уступ — завязка дзеяння — кульмінацыя — развязка.

**В вандроўнік** Асноўны лірычны герой разанаўскага версэта. Шлях і вандроўнік на гэтым шляху, які ідзе з захаду на ўсход, ад кропкі А да кропкі Б, які шукае ісціну, — частыя матывы разанаўскага версэта.

**Г герметычнасць** Увогуле, версэты Разанава не для ўсіх. Часам іх трэба разгадваць, даваць уласныя інтэрпрэтацыі. Таму яны не разлічаны на масавага чытача, версэты разлічаны на чытача-інтэлектуала, чытача-аналітыка.

**Д двухкампанентная структура** Яе мае большасць версэтаў А. Разанава. Графічна гэта ўжо ніяк не адлюстравана, аднак у змесце вылучаюцца дзве часткі. Першая ўяўляе сабой нешта накшталт сюжэту (хаця часцей за ўсё ніякіх падзей няма), а другая — «расшыфроўка» першай. Атрымліваецца своеасаблівае іншасказанне, дастаткова складанае для разумення і насычанае сімваламі.

**З замова** Часта версэты Разанава маюць структуру замовы. Такая структура абумоўлена і прыёмам, уласцівым для ўсіх версэтаў, — паралелізмам. Мабыць, таму некаторыя даследчыкі называюць версэты замовамі, часта заснаванымі на паралелізмах.

**І іншасказальнасць** Разанаўскія версэты амаль заўсёды маюць сюжэт, які набліжае іх да прытчы. Аднак гэты сюжэт толькі на паверхні. Ён дапамагае схапіць тое, што прыхавана ўнутры.

**Л люстра** Адзін з вобразаў разанаўскіх версэтаў. Люстра дапамагае нам убачыць саміх сябе. Такім чынам, для чалавека, які шукае ісціну і сябе, люстра становіцца спосабам спасцігнуць ісціну. У версэце «Аскепкі» люстра ўказвае на разнастайнасць лірычнага героя, якая пры гэтым не выдзяляе яго сярод іншых, а, наадварот, далучае да кожнага, хто мае адносіны да таго ці іншага аблічча лірычнага героя.

**М маналагічнасць** Паэт не вядзе ні з кім палеміку, мабыць, таму паэзія яго спакойная, без лішніх эмоцый. Яго героі — воіны, вандроўнікі, дзівакі — жывуць толькі для адзінай мэты — пошукаў ісціны.

**М мяжа і бязмежжа** Мяжа ў версэтах Разанава — гэта тое, што звонку, тыя рэальныя перашкоды, якія чыніць яму свет, бязмежжа — гэта ўнутраны свет героя, яго бязмежныя магчымасці супрацьстаяць рэальнаму свету.

**Н нерухомасць** Гэта парадаксальная рыса вынікае хутчэй з суб'ектыўных уражанняў ад разанаўскіх версэтаў. Увесь рух у версэтах аўтара як быццам захаваны на фотаздымках, малюнках, дзе аўтар нам толькі апісвае функцыю кожнага прадмета.

**П парог** Парог у славянскай міфалогіі — месца, дзе захоўваюцца душы памерлых продкаў. У той жа час парог — гэта мяжа, зноў жа падзел свету на дзве часткі — свету агульнага і свету прыватнага.

**Р рэчы** У Разанава ёсць нават два вершы з назвамі «Рэчы». Рэчы сімвалізуюць рэчыўны неадушаўлёны свет. Аднак рэчы і чалавек у Разанава непарыўна звязаны. Чалавек жыве сярод рэчаў, чалавек валодае рэчамі. Таму і рэчы — гэта частка чалавека. Аднак і ў рэчаў, і ў чалавека адзін гаспадар і творца — Бог.

**С страла** З'яўляецца адным са сталых сімвалаў версэтаў Разанава. Страла — гэта палёт, спроба дасягнуць мэты. Палёт стралы сімвалізуе ўзыходжанне да неба. У Разанава стрэлы, пушчаныя з лука, азначаюць дзеянні, наступствы якіх нельга змяніць.

**У узбочына** Узнікае як сімвал у сувязі з іншым сімвалам — шляхам. Шлях уяўляецца сімвалам жыцця, руху, узбочына — месца для тых, хто гэты шлях пакінуў, адпаведна і рухацца не можа. Прыкладам такога версэта з'яўляецца верш «Гаворка Саша», у якім паэт распавядае пра чалавека, што сядзіць і глядзіць на дарогу. І не было б у гэтым нічога дзіўнага і «глыбокага», каб гэты чалавек не глядзеў на «дарогу жывых», з якой сам збочыў, каб застацца назаўсёды ў адным месцы і часе.

**Ф філасафічнасць** Рыса, бадай, самая відавочная ў творчасці паэта. Яго версэты ўвогуле знаходзяцца на мяжы літаратуры і філасофіі. Таму і характэрныя для паэзіі сугестыўнасць і эмацыянальнасць амаль адсутнічаюць у паэзіі Разанава.

**Ц цемра і святло** Цемра вельмі часта ўзгадваецца ў Разанава ў сувязі з мінулым, святло — у сувязі з будучым. Мінулае — гэта памерлыя продкі, іх душы, будучыня — гэта

белы ліст, на якім табе наканавана пакінуць свае сляды. Такім чынам, цемра — гэта смерць, святло — жыццё.

**Ш шлях** Самы папулярны сімвал разанаўскіх версэтаў. Шлях — гэта першым чынам знак жыцця і лёсу чалавека. Сімвалічны шлях надзяляецца і прасторавым, і часавым вымярэннем. Пачатак і канец шляху адзначаныя зменай стану: герой набывае нешта новае альбо папаўняе згубленае. Прыкладам гэтага факта з'яўляюцца народныя казкі. У шляху звычайна дзве крайнія кропкі. Неад'емнымі атрыбутамі шляху з'яўляюцца перашкоды (якія патрабуюць канцэнтрацыі волі і духоўных сіл). Шлях у гэтым сэнсе — гэта заўсёды шлях да цэнтра, да вышэйшых каштоўнасцяў. Шлях — таксама сімвал вучэння, закона. У Разанава шлях — гэта і рух з адной кропкі, нараджэння, да другой, смерці, шлях — гэта і рух да ісціны. Верш «На гэтай зямлі» ў гэтым сэнсе можна назваць абвяшчэннем жыццёвага крэда паэта. Дарога на захад ці на ўсход — адвечная праблема для нашай краіны, чые гістарычныя шляхі перапляліся і з адным, і з другім напрамкамі. Аднак сам паэт вырашае застацца на раздарожжы, бо ён сам сабе і Захад, і Усход, цэлы свет, і навошта шукаць іншай дарогі, калі тут, на роднай глебе, можна вырасціць дрэва. Гэта крэда сам паэт сцвердзіў сваёй творчасцю. Ён сам вынаходзіць жанры, і не толькі становіцца іх майстрам, а яшчэ і збірае паслядоўнікаў. Чым не плады ад дрэваў? Ды і сам паэт як асоба вылучаеца сталасцю і цэласнасцю. На пачатку перабудовы, галоснасці і дэмакратызацыі публічнага жыцця, калі паднялася цана таленту і незалежнасці думкі, Разанаў увайшоў у групу беларускіх пісьменнікаў, што ўвасаблялі маральны аўтарытэт літаратуры і незалежнасць суджэнняў пра яе здабыткі, хібы, слабасці.

**Э экалагічная тэма** ў паэзіі Разанава звязана з тэмай Чарнобыля. Прадстаўлена гэта тэма праз даволі традыцыйныя вобразы: пакінутай радзімы ў версэце «Стары горад», небяспечнага дажджу ў версэце «Лужыны». Сярод чарнобыльскіх версэтаў Разанава вылучаецца версэт «Прыкметы», у якім прыватная тэма катастрофы дарастае да больш глыбокай ідэі аб тым, што прырода мацней за свядомасць людзей, якія ўпэўнены ў пераможнасці радыяцыі.

Несумненна, пералік слоў-рыс разанаўскага версэта не заканчваецца на 15 словах. Аднак для кожнага яго чытача гэтае слова-рыса сваё, як і сваё адчуванне творчасці аўтара. На мой погляд, адна з самых прыцягальных рыс разанаўскага версэта — загадкавасць, якая прымушае ўваходзіць у стан, блізкі стану пад назвай «ісціна недзе побач». І сапраўды, гэтая ісціна няўлоўная, таму так цяжка пасля кожнага асэнсавання разанаўскага версэта паставіць кропку. Творчасць Разанава ўжо бясспрэчна можна аднесці да беларускай класікі, бо падтэкставасць была гарантыяй інтарэсу і папулярнасці ва ўсе часы.

**Літаратура**


1. Нефагина, Г. Л. Маргинальные стили в русской прозе XX в. [Текст] : / Славянская літаратура ў кантэксце сусветнай: Зб. дакл. нав. канф. Ч. 2.// Мн. : БДУ, 2000. С. 147—150.
2. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік [Тэкст] : / В. П. Рагойша // Мн.: Бел. навука, 2004. — 576 с.
3. Калеснік, У. Усё чалавечае: літ. партр., арт., нарысы [Тэкст] / У. Калеснік // Мн. : Маст. літ., 1993. — 381 с.
4.Разанаў, А. Версэты [Тэкст] : нізка вершаў / А. Разанаў // Дзеяслоў. — 2003. — № 28. — с. 78—89.
5. Разанаў, А. У горадзе валадарыць Рагвалод: вершаказы і пункціры. [Тэкст] : / А. Разанаў // Мн. : Маст. Літ., 1992. — 143 с.: іл.
6. Разанаў, А. Версэты [Тэкст] : нізка вершаў / А. Разанаў // ARCHE. — 2002. — № 1. — с. 67—80.




Настасся АНЦІМОНІК

# ПАЎНЕБА НА ЖЫЦЦЁ



Чым вызначаецца паэт? Словамі? Душой, схаванай у гэтых словах? Надзеямі і мроямі, з якіх вырасла гэтая душа? Кажуць, што кожны чалавек — таямніца. Тады паэт — таямніца таямніц. Толькі што ў ім першаснае: чалавечае ці паэтычнае? Можа падацца крыху недарэчным пытанне: а наколькі паэт чалавек? Магчыма, гэта зусім іншая істота? Вытканая прахалодным ветрам з сумесі зорнага пылу і першага снегу пад цікаўным поглядам сонца, загартаваная пругкім зялёным веццем над сцішанай вадой і пад кудлатым навальнічным небам, абабітая на чорнай зямлі нецярплівым дажджом, прымроеная стомленай птушкай падчас самага страшнага палявання…

Незвычайная цёмная глыбіня прарываецца з фотаздымкаў і карцін, на якіх застаўся Анатоль Сыс. Верагодна, той, хто ўжывую глядзеў у яго вочы, глядзеў у бездань; а той, хто чуў яго голас, чуў вечнасць. Такіх паэтаў, як Анатоль Сыс, што зоркі на прыцемкавым (ці світальным, каму як больш падабаецца) небе — можна лічыць па пальцах. Знакаміты ён не толькі на сваёй маленькай радзіме — у Гарошкаве Рэчыцкага раёна, але і на радзіме вялікай — зразумела, Беларусі. Зараз у вёсцы, дзе нарадзіўся паэт, яму стаіць помнік, у хаце зрабілі музей, а вершы Сыса кладуць на музыку маладыя беларускамоўныя гурты.

Працяты наскрозь сваёй краінай, Анатоль Сыс амаль кожны твор насычаў любоўю да яе, ён дыхаў ёю. Гараваў паэт, шукаў лепшай долі, станавіўся прарокам…

«У гэтай краіне не маю я дому.
Вось воблака — сяду і ў свет палячу
Над гэтай гаморай, над гэтым садомам.
Не грошай, не славы — я волі хачу».

З гэтымі вядомымі радкамі навальваецца столькі безвыходнасці і суму, што, здаецца, з іх можна стварыць сваё пакутнае мора.

Дастаткова знакамітая і такая страфа паэта:

«Беларусь мая, мая магіла,
з бел-чырвона-белага радна
ці кашулю мне на смерць пашыла?
Беларусь мая, мая магіла,
ты ж адна ў мяне, як ёсць адна».

Многія вершы, быццам уласная рука, што трымае пугу, б’юць па ўсіх светлых марах. Свядома. Бо паэт без мазахізму губляе шарм. Сыс не згубіў. Больш за тое, яго ўнікальнасць, што маланка: альбо адразу забівае, альбо ты яе не адчуеш, нават стоячы ў голым полі ў эпіцэнтры навальніцы. Яго радкі раптоўна абцяжарваюць цябе, і не выратуе ад гэткай навалы ўжо аніхто («няхай нас ратуе боль»).

Вершы Анатоля Сыса напоўнены балючымі выкрыкамі і свабодай. Шматлікія радкі метафарычна крываваяцца і вырываюцца з-пад прыгнёту аўтара, ён не можа ўтрымаць ні свой боль, ні прагнасць да волі. І гэта выключная вартасць для паэта. Некалькі год таму я, яшчэ мала знаёмая з творчасцю паэта, вучыла яго верш. Дагэтуль вельмі часта ў памяці ўсплывае: «…а вясновы снег пажухнуў. Часу — тры сняжынкі маю». Такія радкі — што кулі. А для чуллівага сэрца такая справа небяспечная. Апячэшся адзін раз — і ўжо не зможаш больш спыніцца. Гэтак можна сказаць пра паэзію Сыса.

Дарэчы, многім вядома «легенда» пра яго нараджэнне. Сцвярджаецца, што Сыс нарадзіўся, калі яго маці абгарэла пры выпадкова ўчыненым пажары ў дваццаць шостую кастрычніцкую ноч 1959 года («Але я вось нарадзіўся, / маці кажа: з прысаку. / Быццам Бог перахрысціўся / за зямную іскарку»). Напэўна, з таго часу агонь у нейкім сэнсе з'яўляецца сімвалам паэта. Ды і першы зборнік выйшаў пад назвай, якая мае непасрэднае дачыненне да гэтай стыхіі, — «Агмень» (1988). Праз год выйшла другая кніга — «Пан лес», і ў 2002 годзе — «Ягамосць». Больш прыжыццёвых зборнікаў у Сыса не было.

Анатоль Сыс хутка «згарэў». Пражыў ён 45 год, а пісаў з канца 1980-х і да сярэдзіны 1990-х. Але галоўнае ж якасць напісанага, да якой ніякіх прэтэнзій няма. Сыса ўжо пры жыцці называлі геніем, а сам паэт казаў, што ён сын Купалы і брат Багдановіча. Кажуць яшчэ, быццам ён прадчуваў сваю смерць, усведамляў: усё, што змог — ужо напісаў. Мусіць, словы паэта — лепшае тлумачэнне, калі адчуць іх:

> «Скажы мне, сівое сонца,
> мне жыць толькі да паўнеба?»

У творчасці Сыса вельмі часта сустракаюцца такія паняцці, як птушка (воля, незалежнасць, свабода), кроў (жыццё, смерць, боль), снег, вужы, паэт, сэрца і Беларусь. Прычым, асэнсаванне іх кожны раз арыгінальнае і трапнае — паэт не любіў паўтарацца.

# САКРАМЕНТАльны ГОМЕЛЬскі ПАЭТ СЯРГЕЙ САПОНЕНКА



**КАСТРЫЧНІЦКІ СОН**

*Цішыня настала ў доме,*
*на гадзінніках не май.*
*Дробны дождждык мые Гомель:*
*навальніц ужо няма.*

*Ноч клубіцца без прасвету.*
*Пуста ля стала майго.*
*Адляцела ў вырай лета —*
*не шукаю я яго.*

*Раптам чую шолах. Дзверы*
*адчыняюцца мае —*
*і, развеяўшы нявер'е,*
*лета побач паўстае.*

*Кажа: «Ці магу пагрэцца?*
*Мерзну на тых берагах.*
*Ты ж і сам, напэўна, мерзнеш*
*у каменных абцугах?..»*

***Сяргей САПОНЕНКА***

Багата пісьменнікаў ды паэтаў, беларусаў па паходжанні і нацыянальнасці, жыве з маленства альбо з даволі сталага ўзросту не ў Беларусі. Ці добра, што беларуская зямля такая шчодрая: раздае іншым краінам свой галоўны скарб — таленавітых людзей? А можа, і добра, бо французы, амерыканцы, аўстралійцы ды кітайцы даведваюцца пра Беларусь дзякуючы людзям, якія ўмеюць па-асабліваму ператвараць пачуцці і вопыт у словы.

І наўрад ці жыхары амерыканскага горада Сакрамэнта, што ў сонечнай Каліфорніі, ведалі б пра існаванне беларускага Гомеля, калі б аднойчы туды не пераехаў Сяргей Сапоненка.

Сяргей нарадзіўся ў Гомелі з дыягназам, што ставіць пад вялікае пытанне шчаслівую будучыню, — цяжкай формай ДЦП. Але ўзамен Бог падараваў яму ясны розум і паэтычны талент, які вызначыў ягоны лёс…

Сёння Сяргей Сапоненка з'яўляецца прызнаным паэтам. Ён сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Міжнароднай асацыяцыі публіцыстаў і пісьменнікаў, Міжнароднага Саюза пісьменнікаў і майстроў мастацтваў. Ён аўтар больш як дзвюх тысяч вершаў, якія друкуюцца па ўсім свеце: у Нямеччыне (выдавецтва «TITEL», двухтомны зборнік вершаў «Сердце на бумаге»), Нідэрландах (выдавецтва «DRTS», зборнік вершаў Роберта Макчэйна ў перакладзе Сяргея Сапоненкі), Францыі (выдавецтва «AFEL», зборнікі «Люблю» і «Журавлик бумажный»), Беларусі (зборнікі «Вера, надежда, любовь» і «Versus»), Украіне (першы том збору твораў Сяргея Сапоненкі), Вялікабрытаніі (выдавецтва «Альбион», зборнік «Я напою тебе»).

З 2008 года Сяргей жыве ў ЗША. Там жа ён ажаніўся з амерыканкай з украінскімі каранямі, і там жа з'явілася на свет іх дачка Даніэла…



***— Сяргей, вы памятаеце, калі напісалі свой першы верш? Чаму ці каму вы яго прысвяцілі?***

— Мой першы верш з’явіўся 17 кастрычніка 1996 года, праз месяц пасля таго, як я абзавёўся камп’ютарам (у снежні 1996 мне споўнілася 30). Я хацеў пісаць прозу, але атрымаліся вершы. З-за хваробы мне цяжка пісаць прозу, а кароткім вершам можна шмат сказаць. Мой першы верш быў пра веру ў Бога.

***— Калі выйшаў ваш першы зборнік паэзіі? Пра што ён распавядаў?***

— Гэта быў невялічкі зборнік пад назвай «Versus», выдадзены ў Гомелі ў 2000 годзе. У яго ўвайшлі вершы пра вяртанне да Бога пасля бадзяння па свеце. Менавіта таму і называецца «Versus», бо гэта лацінскае слова ў адным са значэнняў перакладаецца як «верш», а дзеяслоў vertere, ад якога і ўтварылася слова versus, значыць «вяртаць».

***— Колькі ўсяго вершаў у вашай паэтычнай скарбонцы? Пра што вы найбольш любіце рыфмавана распавядаць?***

— Я перастаў падлічваць колькасць напісаных мною вершаў. Іх дакладна больш за дзве тысячы. Я пішу на розныя тэмы, але пераважаюць рэлігійная і любоўная лірыка.

***— Калі паэты пішуць любоўную лірыку, тут пытанняў не ўзнікае, бо кожны перажывае каханне... А вось што датычыцца рэлігійнай тэматыкі, то рэдкі паэт звяртаецца да яе, не кожны ўзгадвае ў вершах Бога. Чаму для вас гэта тэма з’яўляецца такой важнай?***

— Калі я пачаў пісаць вершы, мне ўжо было 30 год. У гэтым узросце глядзіш на свет не так, як закаханы падлетак. Без любові да Бога нельга па-сапраўднаму любіць людзей.

***— На пачатку сваёй творчай дзейнасці вы складвалі вершы ў шуфлядку, ці пачалі адразу ж друкавацца?***

— Ужо ў 1997 годзе мае вершы амаль што адначасова надрукавалі ў часопісах «Беларусь» і «Першацвет», а таксама ў газеце «Гомельская праўда» і ў некаторых рэлігійных выданнях. А з 2000 года мяне пачалі друкаваць у выданнях Нямеччыны, Францыі, ЗША.

***— Ад каго вы атрымалі першую ўхвалу?***

— Першы мае вершы адзначыў Артур Вольскі (*беларускі пісьменнік, бацька музыкі Лявона Вольскага. — Заўв. рэд.*), і ягоныя словы мяне натхнілі. Ён сказаў, што ў мяне дар ад Бога, свежае светаўспрыманне.

***— Якую з атрыманых літаратурных узнагарод вы лічыце найбольш значнай?***

— Дыплом Міжнароднай асацыяцыі публіцыстаў і пісьменнікаў. Бо гэта свед-

чанне таго, што вядомыя літаратары высока ацанілі мае тэксты.

***— У вас ёсць свой сайт, які штогод наведваюць каля 40 тысяч чалавек. А ці ёсць зваротная сувязь з чытачамі?***

— Так, мой сайт існуе ўжо каля 14 год. І сувязь з чытачамі ёсць. Мне пішуць багата адкуль: з Аўстраліі, Новай Зеландыі, Канады, ЗША, Фінляндыі, Беларусі і іншых краін. Тэмы гэтых лістоў розныя: ад споведзі да прапаноў музыкаў і выдаўцоў аб супрацоўнітве.

***— Некаторыя вашыя вершы пакладзены на музыку, іх спяваюць. То бок, да вас звяртаюцца самі выканаўцы з просьбай выканаць песні на вашыя вершы?***

— Так. Літаральна ўчора да мяне ў чарговы раз звярнулася з такой просьбай маладая спявачка. Яна збіраецца запісваць новы альбом.

***— Паколькі вы ўжо 6 год жывяце ў Штатах, ці з'явіліся ў вас англамоўныя вершы?***

— Я думаю і пішу па-руску. Англійскую дрэнна засвоіў. Ды і ў Сакрамэнта, дзе жыву, 150 тысяч рускамоўных жыхароў. Тут існуе творчае аб'яднанне славянскіх літаратараў. І тут адбыліся тры мае творчыя вечарыны. Але ўсё ж 15 маіх вершаў пераклалі на англійскую мову.

***— Напэўна, вашае светаўспрыманне пасля пераезду ў ЗША змянілася. Тым больш у вас з'явілася асабістае мужчынскае шчасце — жонка, пасля дачка. Ці паўплывала гэта на вас як на паэта? Можа, амерыканскае жыццё прынесла вам больш натхнення?***

— Першыя чатыры гады пасля пераезду ў Амерыку я шмат пісаў пра каханне і веру. Пасля нараджэння дачкі я адчуў сябе больш сталым, але мае вершы засталіся на тым жа ўзроўні. Таму стаў пісаць менш. Не хачу заставацца юнаком у вершах.

***— Ёсць такое меркаванне, што паэт, як і мастак, павінен быць напаўгалодным, бедным, адчуваць пакуты — тады толькі ён можа тварыць па-сапраўднаму. Вы адчувалі і пакуты, і шчасце. Што можаце сказаць пра гэты стэрэатып? Якім павінны быць паэт?***

— Магчыма, гэта таксама адна з прычын, чаму я стаў менш пісаць. Натуральна, камфорт — вораг паэзіі. Паэт павінен заўсёды быць чымсьці незадаволеным: ці то ўласнымі вершамі, ці то станам грамадства, ці яшчэ чым...

***— Сяргей, у адным з інтэрв'ю вы казалі, што багата чытаеце, таму што хочаце знайсці адказ на пытанне: «Дзеля чаго ўся гэтая мітусня?» Вы знайшлі адказ?***

— Так. Сэнс жыцця ў духоўным росце, у падрыхтоўцы да вечнасці. Вечнасць наканавана ўсім, толькі каму якая. Я не буду сцвярджаць, што бандыт і забойца патрапяць у пекла, а добры чалавек — у рай. Бог бачыць кожнага чалавека. А людзям уласціва з цягам часу мяняцца.

***— Паколькі вы чалавек у літаратуры дасведчаны, не магу не папрасіць: парайце некалькі кніг, якія здольныя па-сапраўднаму насыціць душу і прасвятліць розум.***

— Для мяне галоўнае сілкаванне душы — Біблія. Яшчэ б параіў «Ганну Карэніну» Талстога, «Адрынутыя» Гюго, «Без дагмату» Сянкевіча.

***— Мой муж (таксама паэт) у адным са сваіх вершаў напісаў: «У Беларусі было шмат паэтаў. Ды толькі то паэты, а гэтыя сыны: Купала Янка — першы, Сыс Анатоль — другі...» А каго з беларускіх пісьменнікаў вы вызначаеце для сябе?***

— З юнацтва я зачытваўся Васілём Быкавым і Уладзімірам Караткевічам. Цяпер чытаю раман майго сябра, гамяльчаніна Анатоля Бароўскага, і мне вельмі падабаецца! Анатоль Сыс — выдатны беларускі паэт.

***— З якімі словамі вы б хацелі звярнуцца да вашых землякоў?***

— Дарагія гамяльчане, усміхайцеся, калі ласка! Калі ідзяце па горадзе, не глядзіце ў асфальт. Хаця б на імгненне ўзніміце погляд да неба — яно такое прыгожае, нават у пахмурны дзень! Хіба гэта не падстава падараваць усмешку сустрэчнаму мінаку? Бог любіць вас! Ён даў вам волю, а свабодныя людзі не могуць не радавацца. У Бібліі напісана: «Заўсёды радуйцеся!»

***Запісала Кацярына ЯРЫВАНОВІЧ***

Аляксандр ДРАБУШЭЎСКІ,
Галіна НЯЧАЕВА

ВЕТКАЎСКІ МУЗЕЙ СТАРАВЕРСТВА
І БЕЛАРУСКІХ ТРАДЫЦЫЙ
ІМЯ Ф. ШКЛЯРАВА

# СТАРАЖЫТНЫ ГЕАМЕТРЫЧНЫ ЧЫН ЗНАКАЎ

## *у археалагічных і этнаграфічных помніках памежжа Гомельшчыны—БранШчыны—Чарнігаўшчыны*

У некалькіх артыкулах і падрыхтаваных нашым музеем выданнях [Арнаменты Падняпроўя, 2004; Нячаева Г. Р., 2006; Драбушэўскі А. І., Нячаева Г. Р., 2008] мы ставілі пытанне пра збліжэнне дадзеных археалогіі і этнаграфіі, кожны раз паглыбляючы і ўдакладняючы тэму на падставе новых дадзеных. Мы параўноўвалі арнаменты на кераміцы эпохі бронзы (III—II тыс. да н. э.), на беларускай кераміцы, якая наўпрост мела дачыненне да ткацтва (прасніцы) ранняга жалезнага веку. Гэта час VII ст. да н. э. — I ст. н. э. Выявілі прысутнасць арнаментальнага чыну на старажытнарускіх тканінах, якія захаваліся ў смаленскіх курганах. Даследавалі разнастайнасць мадэляў культуры і касмалогіі на этнічных тканых ручніках усходу Беларусі і ў тым ліку Гомельскай вобласці, з нашага збору, які ўзнік экспедыцыйным шляхам. Прычым імкнуліся пазбегнуць агульнакультурных вядомых прыкладаў, разглядаць пытанні на рэгіянальным узроўні, беручы за падставу ўдзел і пераемнасць рэальных археалагічных культур у складанні традыцый памежжа Беларусі-Расіі-Украіны.

І старажытныя, і этнічныя артэфакты змяшчаюць знакі-сімвалы. Яны лічацца індаеўрапейскімі па паходжанні і адносяцца да *геаметрычнага чыну*, які склаўся ў своеасаблівы «сінтаксіс», як мяркуюць, у II—I тыс. да н. э. Аднак арнаментальныя і/або магічныя кампазіцыі з удзелам розных знакаў вядомыя і на больш ранніх помніках, у тым ліку і з Веткаўскага раёна.

У старажытнасці, верагодна, сістэма ромбаў звязвалася з вобразам зямлі, а розныя канфігурацыі ромба — з множнасцю «стадыяльных» вобразаў яе бостваў. Так, «раннеземляробчы культавы знак ромб з гаплікамі» «быў сімвалам маці-зямлі пладаноснай,



*Знак, які называецца Мядзведзь, заўсёды размяшчаецца бліжэй да краю кампазіцыі. КП 972-1.*



*Салярны знак, які завецца Хрэст кучаравы. КП 972-1.*



*Пара дзявочых знакаў. КП 1543-1.*




*Мал. 1. Геаметрычныя знакі эпох бронзы — сярэднявечча з Падняпроўя і сумежных тэрыторый. 1 — геаметрычныя фігуры на фрагментах узорных тканін са смаленскіх курганоў XI—XIII стст. (паводле М. Н. Левінсан-Нячаявай і Е. А. Шмідта); 2—5 — помнікі пачэпскага тыпу I—II стст. н. э. Падзясенне, Бранская вобл. (паводле А. К. Амброза і Ф. М. Завярняева); 6 — гарадзішча юхнаўскай культуры Тарфель, Бранская вобл. VII—III стст. да н. э. (паводле К. І. Гарунавай); 7—9 — помнікі эпохі ранняга жалеза Беларусі VII ст. да н. э. — I ст. н. э. (паводле А. І. Драбушэўскага, А. А. Мяцельскага і В. І. Шадыра); 10—13 — помнікі бандарыхінскага кола. Левабярэжная Украіна. XII—IX стст. да н. э. (паводле Ю. В. Буйнова); 14—22 — помнікі бронзавага веку паўднёвай Беларусі і Паўночнай Украіны III—II тыс. да н. э. (паводле І. І. Арцёменка і С. С. Беразанскай).*

знакам пладаноснага поля» [Амброз А. К., 1966, с. 22]. Сёння мы можам удакладніць і чалавечы аспект сэнсу гэтага знака. Гэта шчаслівы сімвал нараджэння. Змяшчэнне пары такіх знакаў на цэнтральнай паласе ручніка ў Няглюбцы мела вясельную сімволіку і заклікана было, відавочна, апекавацца над галоўнай мэтай шлюбу — над працягам роду і ўрадлівасцю ўвогуле. Можна разглядаць такі знак і на ментальным узроўні як спадкаемцу земляробчага кода па сённяшні дзень. Гэта знак поспеху, завяршэння, удалага выніку.

Варыянты косага крыжа вядомыя як мужчынскія сімвалы з эпохі бронзы. Іх разнавіднасці, у тым ліку і з гаплікамі на канцах, магчыма, нясуць «мужчынскі пачатак» у магіі ўрадлівасці. Семантыка знакаў складаная. Спалучэнне, напрыклад, супрацьлеглых вектараў разбурэння і множання вылічваецца шляхам узыходжання да міфалагемы святога шлюбу, да тэмы ўзворвання ды сяўбы поля і зачацця дзіцяці (параўнайце гэтую вобразную тэму ў вясельным беларускім фальклоры). Тэма косага крыжа прыводзіць да параўнання гэтага знака з прамым крыжам, да круцільнага і пераходнага моманту, да «пераходу», які здзяйсняецца ў касмалагічнай мадэлі: з адной зоны (нябеснай?) у іншую (зямную?). Таксама актуальная тэма памежнага стану, што пацвярджаецца найстаражытным звычаем менавіта косымі крыжамі пазначаць тэрыторыю. У гэтым сэнсе знак называлі «грань», ад чаго і «граніца». У народным мастацтве, рукадзеллі і рамястве такія знакі і канструкцыі ў нас называюць звычайна «козлікамі», (параўнайце: «к*о*злы»). Але вобраз казы, казла як духа ўрадлівасці нівы прасочваецца ў абрадавым, танцавальным і фальклорным кантэксце нашых месцаў дастаткова адназначна. Як транспарт богаграмаўніка (у нас Пяруна, а ён і з'яўляецца на міфалагічным узроўні нябесным богам-айцом, апладняльнікам зямлі (у нас Маці-Сырой-Зямлі), пара казлоў вядомая ад часоў нашых індаеўрапейскіх продкаў. На тэрыторыі Веткаўскага раёна, ва ўрочышчы Стрэліца, знаходзіўся і з 1960-х гг. раскопваўся археолагамі адзін з найбуйнейшых у Еўропе магільнікаў індаеўрапейцаў (мал. 1: 14—15). Пасудзіны з ромбамі і крыжамі вядомыя і тут.

Нам вядомыя і беларускія «ромбы з гаплікамі» і «крукі» на прасніцах ранняга жалезнага веку (мал. 1: 7—9). Яны сінхронныя познезарубінецкім помнікам, а менавіта знаходкам «пачэпскага тыпу», з верхняй Дзясны. Знакі нанесеныя ў І—ІІ стст. н. э. (мал. 1: 2—5). Размяшчэнне падобных знакаў на археалагічных артэфактах не носіць арнаментальнага характару, нагадваючы, хутчэй, магічнае нанясенне сімвалаў. Такім чынам, у І—ІІ стст. н. э. на дадзенай тэрыторыі гэты геаметрычны чын быў яшчэ жывы, а сімвалы «мелі адносіны да ідэалогіі». Далей знакі знікаюць з керамікі і для перыяду славянскіх плямёнаў там не вядомыя. Аднак, тое ж «неарнаментальнае», асіметрычнае нанясенне геаметрычных фігур знаходзім на фрагментах узорных тканін са смаленскіх курганоў XI—XIII стст. (мал. 1: 1). Мы не прасочваем тут лёс геаметрычных знакаў ва ўсходнеславянскай сярэднявечнай хрысціянскай культуры, хаця, відавочна, гэта значны паралельны шэраг іх развіцця.

Кажучы толькі пра гліну і тканіны, заўважым, што «раптоўна» геаметрычныя сімвалы ўзнікаюць на арнаментальных паясках беларускага посуду XVII—XVIII стст., прычым адбіткі асобных штампаў імкнуцца да паўтору асіметрычных груп знакаў. Магчыма, гэта ўплыў арнаментацыі тканых паяскоў, якімі абрадава апяразвалі пасудзіны, напрыклад, на вяселле.

Першапачатковы разгляд «геаметрычнага чыну» з керамікі жалезнага веку сёння можна значна паглыбіць па часе дзякуючы дадатковым матэрыялам, сярод іх і публікацыі, якія да нашых артыкулаў па аналізе паходжання мясцовага арнаменту не прыцягваліся. [Беразанская С. С., 1982; Буйноў Ю. В., 2006, с. 39—50]. Як мяркуе большасць даследчыкаў, бандарыхінская і лебядоўская культуры позняга бронзавага веку (XII—IX стст. да н. э.) мелі непасрэднае дачыненне да фарміравання юхнаўскіх старажытнасцеў эпохі ранняга жалезнага веку. Юхнаўская культура Падзясення, вядомая і на тэрыторыі Гомельскай вобласці, у сваю чаргу, адыграла важную ролю ў генезісе познезарубінецкіх помнікаў І—ІІ стст. н. э. пачэпскага тыпу. Інакш кажучы, прасочваецца генетычная лінія развіцця мясцовай сімволікі, пачынаючы ад эпохі бронзы да гістарычных славян. Дадзеная



*Вертыкальны ланцуг ромбаў можа сімвалізаваць чаргаванне пакаленняў. КП 1543-1.*



*Браны ручнік з падвойным узорам спалучае жаночыя сімвалы з дзявочымі. Дзямідаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пачатак XX стагоддзя. КП 1543-1.*

сімволіка вядомая ў эпоху ранняга жалеза на тэрыторыі Беларусі і ў Прыбалтыцы, што сведчыць пра іх вельмі старажытную агульную падаснову.

Дарэчы будзе ўжыць лінгвістычныя тэрміны для апісання назапашанага матэрыялу. Так, сума ўжыванняў геаметрычных знакаў для адной культуры (традыцыі) паказвае іх як *парадыгму*. Прымяненне розных знакаў адзінага геаметрычнага чыну на адным артэфакце, спалучэнне іх выступае як *сінтагма(ы)* і можа мець дачыненне да «выказвання». Характар гэтых «знакаспалучэнняў», хутчэй за ўсё, падобны да формы магічнага загавору, шырока распаўсюджанага як у старажытных помніках, так і ў абрадавым фальклоры. Пры параўнанні розначасовых помнікаў, якія маюць верагоднасць роднасці і спадчыннасці, такі парадыгматычны і сінтагматычны падыход дазваляе наблізіцца да сістэм «ідэалогіі», паказваючы іх дыяхранічнае развіццё праз «тэксты». Парадыгмы і сінтагмы знакаў помнікаў, якія параўноўваюцца, паказаныя ніжэй.

Больш раннія матэрыялы эпохі бронзы і бандарыхінскія «сінтагмы» засяроджаныя на апазіцыях косага крыжа і ромбаў без адросткаў, на супастаўленні такіх ромбаў, розных па запаўненні; Почап і Сінькава даюць на розных вырабах: 1) ромбы з адросткамі і 2) спалучэнні ромбаў з крукаватым ромбам. Аднак гаворка можа ісці як пра развіццё і спецыялізацыю арнаменту, так і пра рознае абрадавае прызначэнне яго кампазіцый, якія сустракаюцца адзінкава і не паказваюць сапраўдных парадыгмаў, страчаных і нязнойдзеных.

Так, супастаўленне з этнаграфічнымі ткацкімі традыцыямі паказвае, што ўсе віды знакаў ёсць у наяўнасці на ручніках і вопратцы, аднак размяшчаюцца там *у розных месцах* адной кампазіцыі альбо *на розных вырабах* адной традыцыі. Традыцыя змяняць ручнікі ў чырвоным куце па святах і сёння вылучае два календарныя перыяды: *вясновы* і *ўраджайны*. Яшчэ адзін шэраг тканых і вышытых прадметаў выяўляе дакладнае супрацьпастаўленне па «веснавым» і «ўраджайным» арнаменце: гэта жаночыя кашулі. Іх семантычная рэканструкцыя выяўляе розніцу ва ўнутранай структуры і запаўненні ромбаў. Так, існуюць: 1) цэлыя, не раскрыжаваныя ромбы і канцэнтрычныя ромбы з адросткамі (магчыма, цалінныя знакі, знакі зямлі неапрацаванай і вясновых дзявоцкіх абрадаў на дзікай прыродзе). Магчыма, шырокія парадыгмы такіх знакаў, сёння выяўленыя намі, могуць рэканструявацца як прыкметы дзявочых кашуль і знакаў сацыяльнаўзроставых ініцыяцый. Так ці інакш, гэтыя сімвалы цнатлівасці адрозніваюцца ад 2) ромбаў тыпу «засеянага поля», то бок, нівы. Усярэдзіне іх ёсць знак

косага крыжа і насення. Бываюць і тыя ж знакі, але з «адросткамі». Гэта магчымы сімвал вясновай фазы нівы: парасткаў або перыяду, калі колас выходзіць у «трубку» (абрадава гэта «Страла»). Магчымае разуменне гэтага перыяду як часу красавання («ніва красуе»), звязанага, у сваю чаргу, з зялёнымі святкамі, Троіцай, і больш старажытным язычніцкім імпульсам Русальнага тыдня. Нарэшце, сярод жаночых сімвалаў ёсць і ўзгаданыя намі вышэй крукаватыя ромбы ўраджаю (родаў). Апошнія мы схільныя асацыяваць з семантычнымі тэмамі жаночых кашуль. Такую ж апазіцыю знакаў уяўляюць сабой і абрусы, і галаўныя тканыя хусткі-наміткі. Гэты ж чын ва ўсёй цэласнасці разварочваецца і на тканым ручніку, які захаваў старажытныя знакі ў апошняе хрысціянскае тысячагоддзе дзякуючы яго ролі ў аздобе чырвонага кута (покуці). Аднак «шляхавы сэнс» ручніка як дарогі на неба, дыялогу з Богам і пытання-адказу левага і правага канцоў мае найстаражытны сэнс. Першае прад'яўленне ручніка ў чырвоным куце здзяйсняецца падчас вяселля. Так, у хату маці жаніха ўносіцца новая «праграма» працягу роду і магічнага ўздзеяння на ўсялякую ўрадлівасць.

Мы мяркуем, што менавіта так, праз цэласную сістэму абрадаў, захаваліся кампазіцыі арнаменту, прызначанага для *розных каляндарных цыклаў*, а таксама для абазначэння *ініцыяльных абазначэнняў* розных стадый жыцця жанчыны, прыпадобненай да зямлі.

Дзіўны прыклад абрадавай перадачы старажытных знакаў — ручнік з в. Дзямідаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Яго падвойны арнамент вытканы на адной і той жа тканіне, але мадэлюе абрадавае дзеянне — вясельную замену чыну ручнікоў: чырвоная па колеры кампазіцыя з чаргаваннем дзявочых і жаночых знакаў, але ў іншай арнаментальнай сістэме. Мы бачым увасабленне вясельнага дзеяння першага дня: ручнік маладой накідваецца па-над ручніком свякрухі. Чорна-чырвоны, хутчэй за ўсё, дэкаратыўны прыём; але сімволіка гэтай каляровай пары вельмі важная для абазначэння ўзросту. Важна таксама, што пасля вяселляў усіх дзяцей маці пераходзіла ў абрадава чысты ўзрост і зноўураўноўвалася з дзявоцкім станам.

Вядомае нам абрадавае суправаджэнне земляробчых перыядаў работ безумоўна было больш значным у старажытнасці. І сёння кажуць, што «зажынае» жыта Багародзіца (у іншым выпадку — «хатнік»). Таму абрадавая практыка і, у прыватнасці, геаметрычныя формы рытуальных «саламяных» аб'ектаў павінны звярнуць на сябе ўвагу даследчыка [Славянские древности, с. 231—232].

Паўтор косых крыжоў з падвойнымі крукамі (мал. 1: 11) знаходзім на гаршчку бандарыхінскай



*Браны ручнік. Гусавіца Буда-Кашалёўскага раёна. Старадаўнія знакі выбудаваны па вертыкалі. КП 1482-3.*



*Ручнік браны з рамбічнай сеткай, запоўненай мужчынскімі і дзявочымі знакамі ўрадлівасці. Зялёная Хвоя Веткаўскага раёна. 1930-я. КП 1337-1.*



*Узор Лапа і Кручча ўтрымлівае знакі квітнеючай нівы і ўраджаю. КП 972-1.*



*Цэнтральная паласа адведзена пад знакі ўраджаю і наогул усялякага нараджэння і поспеху. КП 972-1.*

культуры. Падвойнымі крукамі канчаецца ланцуг косых крыжоў — ромбаў з прасніцы днепра-дзвінскай культуры пачатку н. э. Падвойны крук можа мець суадносіны ва ўяўленнях пра «цар-колас», падвойны колас-спарыш, які валодае магічнымі ўласцівасцямі ў народнай культуры [Славянская мифология, с. 365]. Нанясенне гэтых знакаў можа быць веснавым, ураджайным, з удакладненнем просьбы: пра падвоеныя каласы. Косы крыж з патроенымі крукамі і патраеннем лініі самога крыжа (мал. 1: 10) знаходзіць абрадавую адпаведнасць у форме вырабу дажынкавага крыжа з чатырох пасмаў па тры каласкі ў кожнай (с. Стаўбун Веткаўскага раёна). Косы крыж у саставе складанай фігуры супастаўлены з косай свастыкай у шэрагу ўраджайных знакаў на тканіне XI—XIII стст. (мал. 1: 1). Дарэчы, дажынкавы крыж са Стаўбуна не дыферэнцуе накірунка сагнутага калосся і паказваецца то як свастыка, то як крукаваты косы крыж — «казёл».

На ўзорных тканінах ёсць адпаведнасць усім косым крыжам археалагічных артэфактаў. Простыя косыя крыжы на вырабах эпохі бронзы і на беларускіх прасніцах ранняга жалезнага веку — тыя ж, што на палосах арнаменту, набліжаных да пачатку кампазіцыі. Такі ручнік з Отара Чачэрскага раёна, які будуе далейшае развіццё кампазіцыі на «ўсяленні» гэтых крыжоў у знакі засеянага поля [Арнаменты Падняпроўя, с. 507, № 149]. Ім спецыяльна прысвечаны ручнік з Бабіч Чачэрскага раёна [Арнаменты Падняпроўя, с. 501, № 130]. Шэрагі косых крыжоў — на мярэжках кашуль і абрусаў. [Навуковыя запіскі Веткаўскага музея… ил. № 73]. Апрача таго, намі зафіксавана трохразовае нанясенне косага крыжа на дарогу альбо дно ракі пры выкліканні дажджу [Арнаменты Падняпроўя, с. 445, мал. 103]. Тут мы прыводзім ручнік з в. Зялёная Хвоя Веткаўскага раёна. Ён пабудаваны ў выглядзе найстаражытнай ідэаграмы засеянага поля — рамбічнай сеткі, якая прайшла ва ўраджайным значэнні праз шэраг культур аж да нашага часу. Гэты ручнік змясціў у вочкі нівы і знакі мужчынскай плоднасці — косыя крыжы, і дзявочыя ромбы з адросткамі, і

тэмы ўзворвання — засейванне поля-нівы, якое адбываецца на нашых вачах (ромбы перасякаюцца вялікімі косымі крыжамі і запаўняюцца знакамі насення).

Косыя крыжы з адзінкавымі крукамі — элемент кампазіцыі ручніка з Фёдараўкі Веткаўскага раёна. Яны выступаюць у вертыкальным ланцугу, чаргуючыся з ромбамі — знакамі засеянага поля (далей — «нівамі») [Арнаменты Падняпроўя, с. 470, № 39].

Косыя крыжы з падвойнымі крукамі чаргуюцца з глухімі ромбамі на мярэжках рытуальных кашуль — «сцэльніц» Няглюбскай традыцыі. Яны звязаныя з вясельным чынам, абазначаючы *пераходныя* моманты ў жыцці жанчыны — нявесты і свякрухі. Падобныя знакі ёсць і на ўзорных палосах-«калодках» дзявочых кашуль [Навуковыя запіскі Веткаўскага музея... іл. № 72, 80, 81]. Падвойныя крукі ўяўляюць фігуру «кучаравы казёл» у ручніках бабовіцкай традыцыі ўздоўж Іпуці і замацоўваюцца ва ўраджайным знаку бабовіцкай традыцыі па р. Покаці [Арнаменты Падняпроўя, № 294, 89, 95, 96].

Такім чынам, простыя косыя крыжы археалагічных кампазіцый адпавядаюць «пачатковым фразам» этнаграфічных тканін, акцэнтуючы мужчынскую, гранічную, ахоўную функцыю. Косыя крыжы з адным і падвойным крукам адпавядаюць аналагічным знакам «веснавой» прадукуючай семантыкі. Размяшчэнне іх на прасніцах ранняга жалезнага веку адпавядае «пачатковай» функцыі прадзення ў суме аперацый вырабу тканіны.

Гіпатэтычнае значэнне як трохкутніка, так і ромба — «знак зямлі» ўвогуле, «зямной цвержы», прычым просты ромб — «гэта сімвал жаночага пачатку ў прыродзе. У такім значэнні ён выступае ад палеаліту да нашых дзён» [Амброз А. К., 1966, с. 18, 22]. Аднак уваход трохкутнікаў і ромбаў у адну парадыгму (а ў кампазіцыі з с. Зубаўка — і ў адну сінтагму-«сказ»), як і рознае запаўненне абодвух знакаў, прадугледжвае не толькі ўспадкоўванне адзінага сэнсу (трохкутніка-ромба), але і развіццё яго ў адасобленых значэннях. Ромбы бандарыхінскіх помнікаў позняй бронзы за дзве тысячы гадоў да нашых ручнікоў уяўляюць сабой парадыгму: пустыя — косаштрыхаваныя — «нівы» — выкананыя ці запоўненыя кропкамі («зернавыя»). Апошнія прадстаўлены *ў ланцугу* на кераміцы бронзавага веку з тэрыторыі Веткаўскага раёна [Арнаменты Падняпроўя, с. 436, мал. 93] і ў Родным Краі-1. «Зерневы» ромб працягвае на сімвалічным узроўні семантыку больш ранніх сасудаў, цалкам пакрытых кропкавым арнаментам [Березанская С.С., 1982, рис.18: 12]. Сімволіка поўнага цалкам адпавядае суцэльнаму ланцугу «зерневых» ромбаў, пры тым, што гэтыя фігуры ідуць па верхняй частцы сасудаў. Спалучэнне патройнага косага круkаватага крыжа і «поўнага» ромба таксама можа мець прадукуючы сэнс, адпаведны падблюднай песні «на багацце»: «Ещё ищет Никола неполного… Ещё хочет Никола дополнити…» [Успенский Б.А., 1982, с. 72]. Хрысціянскі «спадкаемца» язычніцкага Вялеса, адказнага за сырое зерне і золата, цалкам можа працягваць глыбінную магічную «фразу». Пара знакаў нагадвае і пра звычай класці дажынкавы крыж у сявалку з зернем, дадаючы пры пасеве зерне з крыжа да пасяўнога.

Параўнанне трохкутнікаў і ромбаў, выкананых кропкамі ў выглядзе «гронак» з контурнымі «зерневымі» ромбамі (мал. 1: 10, 13, 15), звяртае нашу ўвагу на стыхійнасць «невымеранага», напрыклад, вобразы множнасці — кроплі дажджу, насенне, гронкі ягад. Старажытнай з'яўляецца аналогія «дождж — насенне» ў звычаі выклікаць дождж, сыплючы ў калодзеж «незлічоныя» зярняткі дзікага («глухога») маку. У контурным «зерневым» ромбе актуалізуецца характэрнае для ромба-зямлі-жанчыны значэнне ёмістасці, ёмішча, «месца». Шэраг абрадавых аб'ектаў рэалізуюць адну і тую ж думку пра вяртанне боскай «незлічонасці» зерню сабранага ўраджаю: сасуды і сявалкі з зернем у абрадах; вядомыя з антычнасці абрады «усязернія»; увогуле, рытуальныя кашы радзільнага, вясельнага, пахавальнага і ўраджайнага цыклаў… Спалучэнне пустога і «зерневага» ромбаў у цэнтральнай паласе арнаменту на гаршчку з Зубраўкі (мал. 1: 17) паміж архаічных косаштрыхаваных трохкутнікаў можа перадаваць просьбу пра належнае запаўненне пустога.

Характэрныя для бронзавага веку косаштрыхаваныя трохкутнікі. У культавым мініяцюрным сасудзе іх шэраг стварае «брамы» ў

«ніжні свет» (мал. 1: 19). Часам сіметрычнае размяшчэнне па абодвух баках «дарожкі» імкнецца да сумы верхняга і ніжняга трохкутнікаў, як ромбу, толькі падзеленаму гэтай мяжой. Чыны працягваюць сваё жыццё і ў бандарыхінскіх артэфактах, і ў Юхнаўскай культуры, прычым у апошняй даследчык прасочвае іх «жаночую» семантыку [Левенок В. П., 1963, с. 87]. Яны ж — у вертыкальным варыянце — у кампазіцыі з Сінькава. У кампазіцыях з Зубраўкі малыя трохкутнікі-«дахі» ляжаць на паласе ўгары, уніз жа развіваюцца вялікія трохкутнікі з розным запаўненнем, што паказвае захаванне альбо развіццё адмысловага сэнсу. Палавінкі рамбічных фігур, а затым іх поўныя формы ў асноўных палосах кампазіцыі — самая характэрная рыса ручнікоў Бабіцкай традыцыі [Арнаменты Падняпроўя, с. 487, № 90 и далее]. Гарызантальныя палосы-паяскі (па тэрміналогіі ткачоў, «калодкі» і «дарожкі») ад старажытнейшых часоў выступаюць межамі ярусаў свету, знаходзячы працяг у асновах кампазіцыі арнаменту. Яна можа ўспадкоўваць і семантычныя патэнцыі: трохкутнік з «нябеснай мяжы», звернуты ўніз, сімвалізуе нябесны пачатак урадлівасці, адваротны яму — зямны. У аналагічнай пазіцыі (верхняя паласа) на ручніках адлюстроўваюцца знакі і іх «дзеянні» пачатку (спалучэнні мужчынскіх і жаночых знакаў, насення і г.д., уключаючы і знакі вады, агню).

Палавінныя ланцугі, трохкутнікі як часткі ўраджайных знакаў-ромбаў — характэрная рыса кампазіцыі вышывак уздоўж *спалучальных* швоў у вопратцы. Аналіз складу знакаў выяўляе тут перавагу хтанічных сімвалаў. Гэта цалкам характэрна, калі лічыць тоеснай сімволіку швоў і дарог «раскосаў і раскрэсаў», бо і ў тканіне, і на мясцовасці мы маем дачыненне да «разадранага», да парушэння цэласнасці, да актывізацыі хтанічнага пачатку свету і наступных аперацый «аб’яднання», да звароту да знакаў прадстаўнікоў гэтага хтанічнага, уключаючы і якасць палавіннага, няцэлага, косага і крывога (напрыклад, зігзаг).

Такім чынам, усе гэтыя вельмі архаічныя рысы маглі адносіцца і да косаштрыхаваных трохкутнікаў эпохі бронзы і да іх спадкаемцаў, у тым ліку і да касой штрыхоўкі ромбаў — як аб’екта ўжо іншай «планіроўкі». Тым больш, што «перыядам узнікнення» падобных сімвалаў лічыцца «перыяд ранняй вытворчай гаспадаркі, перыяд стыхійна-дэманічнага светапогляду», калі склалася касмаганічнае ўяўленне «пра маці-зямлю як аснову ўсяго існага і пра яе мужчыну-спадарожніка і мужа» [Амброз А. К., 1966, с. 23].

Культавы сасуд эпохі бронзы з Паўночнай Украіны будуе двух’ярусную кампазіцыю, дзе ніжні шэраг складаюць косаштрыхаваныя ромбы, у верхнім шэрагу яны ж фланкуюць шасціпялёсткавую разетку з салярным і ўраджайным сэнсам (мал. 1: 21). Сасуд, магчыма, быў прызначаны для вясновага абраду «абуджэння зямлі». Бачны фрагмент кампазіцыі з Роднага Краю-1 — тры косаштрыхаваныя ромбы з супрацьпастаўленым ім «зерневым» ромбам (мал. 1: 12). Патройны зварот да сімвала зямлі хтанічнай з «вывадам» ромба, напоўненага зернем, не падаецца выпадковым.

Яшчэ адна кампазіцыя з паселішча Родны край-1 — «падвойная фраза» (мал. 1: 12). Знакі першай: ромб-«ніва» папярэднічае адмысловаму «глухому» косаму крыжу, за якім ідзе вернутая ў хтанічны і дзікі стан зямля. Аналагі «запоўненага», «закрытага» (?) косага крыжа на этнаграфічных тканінах звычайна таксама падзяляюць сімвалы зямлі (часцей за ўсё «некранутай», неразаранай) [Навуковыя запіскі Веткаўскага музея… іл. № 61, 62, 79]. Археалагічны помнік, магчыма, дазваляе зразумець сэнсавую розніцу ў двух відах падзяляльнікаў-«казлоў» этнаграфічных тканін. Раней мы лічылі іх дэкаратыўным развіццём зыходнага косага крыжа. Аднак цяпер «зачыненасць» косых крыжоў выяўляецца як важная семантычная прыкмета: адсутнасць узаемадзеяння з ромбамі. Пры паўторы ў паласе арнаменту ўзнікае тэма: абарона і прыкрыццё рамбічных фігур, вобраз *змяшчэння* (адна з мясцовых назваў такіх знакаў — «стоўпцы»). Абрадавы аналаг — восеньскае «замыканне» зямлі. Сімвалічны — знаходжанне ў «ніжняй» частцы свету і года.

Другая «фраза» бандарыхінскага помніка (мал. 1: 10) аб’ядноўвае ромбы ў адваротным парадку: ад хтанічнага і дзікага да засеянага. Яна працягвае першую, гэта — веснавое абуджэнне зямлі і пасеў. Ва ўсялякім выпадку абодва перыяды адзначаны абрадамі вельмі старажытнага паходжання.

«Сінтагма» ромбаў — старажытная з'ява. Так, ланцугі з пяці рамбічных знакаў выведзеныя на кераміцы эпохі сярэдняй бронзы Паўночнай Украіны [Березанская С.С., 1982, с. 187, рис. 72, 9, 10]. Living Рознае запаўненне ромбаў даводзіць, што «арнамент» поўны семантыкі і што «гаворка ідзе» пра ўваходжанне ў сімвалы зямлі «мужчынскіх» сімвалаў і знакаў насення. Такімі паказаныя косыя (вялікія і малыя) крыжы і кропкі-насенне, ромбікі-зярняткі, а таксама левыя свастыкі. Першая — тры варыянты знака «засеянага поля». Гэта, па-першае, запаўненне клетак раскрыжаванага ромба крыжападобнымі групамі кропак (яны ж — і на іншых сасудах: 1) цэлы шэраг над паяском, 2) паміж косаштрыхаваных трохкутнікаў нібы «ўваходзяць» у зямлю). У этнаграфічных тканінах падобную функцыю выконваюць маленькія прамыя крыжыкі-«вераб'і». Магчыма, да значэння «сяўбы» тут дадаецца семантыка крыжа як агню (пачатку жыцця?). У першым ланцугу апошні, «выніковы» ромб — тое ж «засеянае поле», але з вялікімі ромбікамі ўнутры клетак, магчыма, гэта тэма набракання семя, зярняці. Першы ромб другога ланцуга пацвярджае важнасць адмысловай семантыкі: у ім — тры маленькія крыжыкі і адзін ромбік-зярнятка. Другая група — ромбы са свастычнымі знакамі ўнутры, з мужчынскай і ўрадлівай семантыкай «дабра». Трэцяя група — «няпоўныя», «косыя» знакі ўнутры ромбаў. У абодвух выпадках яны займаюць цэнтральныя пазіцыі, падзяляючы кампазіцыю на дзве часткі. Магчыма, так падзяляюцца фазы пасеву і паспявання. Спалучэнне ромбаў-«засеяных палёў» і ромба са свастыкай у пазіцыі паміж імі — прысутнічае ў археалагічнай тканіне з Дарагабужскага раёна Смаленскай вобласці [Левинсон-Нечаева М. Н., 1959, рис. 10].

Косаштрыхаваныя ромбы з адросткамі (мал. 1: 3) — тэма арнаменту гаршчка пачэпскай культуры з Сінькава. Прысвячэнне сасуда сімвалу вясновай зямлі адпавядае падобнаму арнаменту на «дзявочых» кампазіцыях этнаграфічных узорных тканін. На тканінах са смаленскіх курганоў таксама ёсць ромбікі з адросткамі. Зрэшты, своеасаблівасць знакаў на пачэпскай кераміцы можа ставіць іх у шэраг сімволікі і прарослых зярнятак… Солад — у вышэйшай ступені рытуальны. Варта ўзгадаць, што варэнне піва, паводле этнаграфічных матэрыялаў, прысвячаецца Святому Мікалаю.

У парадыгму рамбічных знакаў у Сінькаве ўваходзяць яшчэ косаштрыхаваныя ромбы (сумы трохкутнікаў) і два віды крукаватых ромбаў — так званых сімвалаў зямлі ўраджайнай, пладаноснай, бажаства саспелага поля. Раней мы выказалі здагадку, што наяўнасць «ураджайных» знакаў з «*культурным*» і «*хтанічным*» асяродкам нагадвае абрадавае адрозніванне і супрацьпастаўленне зімовай жытняй нівы і яравай пшанічнай, згадаўшы і беларускае: «жыта — дзеўка, пшаніца — маладзіца». Магчыма, азімая жытняя ніва мае прыкметы новага адраджэння пасля зімы — смерці і, вынікаючы з гэтага, сімвалічнага абнаўлення цнатлівасці. Вядома, што зарубінцы ведалі і пшаніцу, і жыта. У рэгіёне памежжа



*Пераборны ручнік. Чырвоная Буда Добрушскага раёна. 1930-я. У цэнтры кампазіцыі — старадаўні ромб, знак зямлі. КП 1406-1.*

Гомельскай і Бранскай абласцей менавіта ў жытнім полі праходзяць і вясновы абрад «Страла», і абрады перыяду жніва.

Два рожанічныя (ураджайныя) знакі, адзін з якіх — загадкавы «дзявоцкі» крукаваты ромб з косай штрыхоўкай, прысутнічаюць разам у сінькаўскім археалагічным артэфакце ў адным ланцугу. Знакі з Пачэпа — ромбы з вертыкальна размешчанымі крукамі (умоўна «арлы») таксама маюць косаштрыхаваную сярэдзіну. Гэта звяртае нашу ўвагу на супрацьпастаўленне дзвюх сістэм рамбічных знакаў. Ёсць раскрыжаваныя

ромбы і «цэлыя». Прычым апошнія — альбо з «косымі» элементамі ўнутры (косая штрыхоўка, косыя свастыкі), альбо канцэнтрычныя (у коле нашага матэрыялу яны спалучаюцца са свастыкай на культавых сасудах эпохі бронзы (мал. 1: 20, 22). Падабенства «цэлых ромбаў», магчыма, у тым, што яны працягваюць і разнастаяць «стыхійную» сімволіку. У ручніках гэта пацвярджаецца тым, што непадзелены, канцэнтрычны «цёмны» ромб мае «стыхійныя», «хтанічныя» варыянты мясцовых назваў: «глухоўка», «глухая», «глухая-сляпая» [Арнаменты Падняпроўя, с. 73—163]. Канцэнтрычныя і раскрыжаваныя ромбы прысутнічаюць і на тканіне XI—XIII стст., і на кераміцы XVII—XVIII стст. Паводле нашых «ткацкіх» традыцый вядомыя ўсе іх «стадыі»: простыя, з адросткамі, крукаватыя. Часам мы знаходзім парадыгму ў адной і той жа традыцыі ручнікоў (няглюбская, бабіцкая, бабовіцкая). Ёсць ручнікі, якія супастаўляюць, падобна да сінькаўскага ланцуга, абодва віды ўраджайных крукаватых ромбаў у адной кампазіцыі (праўда, яны размешчаныя па розных палосах арнаменту, пры магчымасці «каляндарнага» чытання). Варта дадаць і развіццё ў тканых узорах розных «дзявоцкіх» форм ромба і адпаведнай сімволікі. Так, менавіта ў бабіцкай традыцыі замацоўваецца ў якасці ўраджайнага крукаваты ромб з шасціпялёсткавай кветкай унутры. Яго мясцовая назва «балонка» падкрэслівае значэнне «болого-полого», белага, цнатлівага [Арнаменты Падняпроўя, с. 489, № 95, 96]. У міжрэччы Сожа-Іпуці захоўваецца просты ромб з косым свастычным элементам унутры, умоўна званым намі «птушкай». Ён супрацьпастаўлены крукаватаму раскрыжаванаму ромбу. Апошні знак падзелены не косым крыжам, а дыяганальнай рашоткай на дзевяць клетак — так жа, як у Сінікава. Традыцыі ручнікоў захоўваюць абедзве галіны развіцця «культурных» ромбаў. Так, менавіта ў бок Іпуці павялічваецца «дробнасць» дзялення ромбаў.

Ручнік з в. Раманавічы Гомельскага раёна адлюстроўвае ўсе належныя фазы і склад паслядоўных вясельна-вясновых дзеянняў на земляробчым кодзе. Ад знакаў насення ў верхняй палосцы ён пераходзіць да «карагоднага» чаргавання дзявочых і юнацкіх знакаў, затым узмацняе чырвоную ўрадлівую моц косых крыжоў і называе тэмы «задумы» (белыя знакі). Ручнік паўтарае гэтую тэму падобна да прыпева, пасля кожнай шырокай паласы галоўных сімвалаў. Пары прамяністых крыжоў у наступнай і апошняй палосах пераасэнсаваныя, але захоўваюць непарушную традыцыю абазначэння святасці ад часоў індаеўрапейства. Гэта патэнцыяльна сонечныя знакі, прычым парнасць узыходзіць да тэмы сонечнай калясніцы і сонечнага вяселля, вядомай па балта-славянскай міфалагеме «дождж пры сонцы», па тэме выклікання дажджу падчас абраду «Страла». Зрэшты, гэтую ж тэму знаходзім і ў «Рыгведзе». «Сонечныя колы» вязуць засеяную зямлю. Парнасць сімвалаў перагукваецца і з рэальнай вясельнай сімволікай — парай коней і беларускім параўнаннем родаў жаніха і нявесты з сонцам і месяцам. Вялікі сярэднік кампазіцыі звязаны з узаемным рухам насустрач адзін аднаму тых жа зямных і салярных знакаў, сімвалізуючы ўзаемапранікненне і запаўненне энергіяй урадлівасці прасторы ад зямлі да неба і наадварот. Знакі выступаюць як варыянты мужчынскіх і жаночых сімвалаў.

Пераборны ручнік з в. Красная буда Добрушскага раёна выкарыстоўвае тэмы геаметрычнага чыну, перакладаючы іх на мову, зразумелую новаму пакаленню ткачых — тут спалучаюцца трохкутнікі, ромбы, ланцугі ромбаў — з выяўленчымі элементамі. Прычым пападанне дзіўнае. У цэнтр космасу пастаўлены ромб зямлі са знакам калодзежа ўнутры. Але з ромба растуць рэалістычныя парасткі з кветкамі. Салярныя знакі-колы коцяцца вакол гэтага цэнтра сусвету, гарызантальныя ланцугі злітых у брую ромбаў нагадваюць пра верхнія і ніжнія воды. Самыя верхнія трохкутнікі — належаць стыхіі неба, яны падобныя да «гукання», паўслова, няскончаных слоў вясновых беларускіх песень «Стралы», якімі заканчваецца кожная страфа формульнага напеву. У цэлым такая кампазіцыя ўжо наўпрост суадносіцца з тэмай выклікання дажджу. Аднак і склад нябеснага вяселля тут у наяўнасці. Спосабы перадачы красавання і ўрадлівасці аб'ядналі ў гэтай кампазіцыі прыёмы і сімвалы некалькіх тысячагоддзяў — значыць, іх зусім нядаўна разумелі?

Нарэшце, звернемся да самога «каляндарнага» ручніка са знакамітай Няглюбкі Веткаўскага раёна, якая захавала звыш двухсот назваў для сваіх арнаментаў, запісаных намі яшчэ напрыканцы ХХ ст. Па краях сваёй сіметрычнай мадэлі свету ён ставіць узор «мядзведзі (вядзьмедзікі, мядзьведзікі)». Падобна да абрадаў, арнамент захоўвае ролю мядзведзя як вясновага і восеньскага сімвала. Далей, бліжэй да цэнтра, ідзе «маленне аб ураджаі». Потым — ланцуг салярных сімвалаў, што цякуць вакол Цэнтра. У ім — сцвярджэнне ўраджайнай, пладаноснай і дзетароднай магутнасці жыцця. Чаргаванне дзявочых і жаночых знакаў — акурат для вяселля і для жніва — самага Цэнтра года і перыяду ў жыцці чалавека, калі ён — «на крясу».

Праведзенае намі параўнанне археалагічных помнікаў з прыцягненнем аналагаў этнаграфічных матэрыялаў можа спрыяць пераводу даследаванняў на новы ўзровень: з фіксацыі супадзення асобных знакаў да разгляду іх «сінтагмаў». Пры гэтым рэгіянальны прынцып прыцягнення матэрыялаў і выкарыстанне помнікаў, звязаных магчымасцю гістарычнага развіцця, прадугледжвае і пераемнасць сімвалічных значэнняў у іх «геаметрычных тэкстах».

Амброз, А. К. К истории Верхнего Подесенья в I тысячелетии н. э. // СА. — М., 1964. — № 1. С. 56—71.

Амброз, А. К. Раннеземледельческий культовый символ («ромб с крючками») // СА. — М., 1966. — № 3. С. 14—24.

Арнаменты Падняпроўя. — Мн., 2004.

Березанская, С. С. Северная Украина в эпоху бронзы. — Киев, 1982.

Богаевский, Б. Л. Земледельческая религия Афин. I. — Пгр., 1916.

Буйнов, Ю. В. К вопросу об исторических судьбах племён бондарихинской культуры // РА. — М., 2006. — № 2. С. 39—50.

Дробушевский, А. И., Нечаева Г. Г. Ромбы «целинные» и «засеянные». Геометрический чин знаков в археологических и этнографических памятниках // Деснинские древности. Материалы межгосударственной научной конференции, посвященной памяти Ф.М.Заверняева. Вып.5. Брянск, 2008. — С. 24—33;

Дробушевский, А. И., Нечаева Г. Г. Ветка, Республика Беларусь. «Иранский компонент» у северян и особенности этнографических тканей междуречья Сожа — Ипути // Российско-Белорусско-Украинское пограничье: проблемы формирования единого социокультурного пространства — история и перспективы: Материалы международной научно-практической конференции. — Брянск: ООО «Ладомир», 2008. — 295 с. С. 57 — 62.

Заверняев, Ф. М. Почепское селище // Новые данные о зарубинецкой культуре в Поднепровье. — МИА. — М., 1969. — № 160. С. 88—118.

Левенок, В. П. Юхновская культура (её происхождение и развитие) // СА. — М., 1963. — № 2. С. 79—96.

Левинсон-Нечаева, М. Н. Ткачество // Труды ГИМ. Вып. 33. — М., 1959.

Лявонцьева, С. І., Нячаева Г. Р., Новікава Л.А. Алфавіты арнаментальных элементаў на ткацкіх вырабах. Мясцовыя назвы Няглюбскай традыцыі. Кашуля, платок, абрус (в соавторстве с Леонтьевой С. И. и другими) // Навуковыя запіскі Веткаўскага музея народнай творчасці. — Гомель, 2004.

Навуковыя запіскі Веткаўскага музея народнай творчасці. — Гомель, 2004.

Нечаева, Г. Г. Судьба одного знака. Археология Почепа и современная этнография. // Сб. научных статей «Деснинские древности». Брянск, 2006, с.362 — 372.

Нячаева, Г. Р. Архаічныя імпульсы ўзорнага ткацтва на памежжы Беларусі-Украіны-Расіі (в соавторстве с Штанкиной И. В. (Чернигов) // Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Усходняга Палесся. Материалы международной научной конференции (Гомель, 20—21мая 2004 г.). Частка I. — Гомель, 2004.

Славянская мифология. — М., 1995.

Славянские древности. — М., 1995.

Успенский, Б. А. Филологические разыскания в области славянских древностей. — М., 1982.

Шмидт, Я. А. Курганы XI — XIII вв. у дер. Харлапово в Смоленском Поднепровье // Материалы по изучению Смоленской области. Вып. 2. — Смоленск, 1957.

*Ганна ШПІЛЕЎСКАЯ*

# ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА



***Ганна ШПІЛЕЎСКАЯ нарадзілася ў 1990-м годзе ў Роўне, жыве ў Львове. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Міхайлы Дубава (2013), пераможца конкурсу «Лепшая кніга Роўненшчыны» (2014). Піша міні-эсэ, навелы, спрабавала сябе ў жанры аповесці і гуцульскай містэрыі. Захапляецца журналістыкай, этнаграфіяй, збірае народныя песні, спявае ў этна-гурце. Акурат дзякуючы гэтаму запісала некалькі легенд на Гуцульшчыне, што і стала штуршком да напісання гуцульскай містэрыі «Папараць-кветка, або Кветка жыцця» з дыялектам карпацкіх тубыльцаў.***

Фанізм пранізлівага акорда адбіваў яго крокі. Мэрыен ішоў па-англійску, не развітваючыся, трымаючы ў руках старую пакоцаную дрымбу, якою толькі што зачэрпаў ноту свайго сэрца. Яго дзіўнае імя сярод украінскіх «прасталюдзінаў» гучала як вырак. Мужчыну гадоў сарака не ўспрымалі як асобу. У гуцульскім сяле, дзе ўся грамада вырашала лёс кожнага, прытрымліваліся думкі, што ён адзінец і мусіць выжываць сам. Мужчына прывык да несправядлівасці, бо палову жыцця сам дапамагаў не толькі сабе, але і людзям то думкай, то словам, а то і справай. Бывала, сыдуцца ў вышыні шырокія хмары — і няма на тое рады. Гуцулы збіраліся разам і думалі-гадалі: як уратаваць ураджай ад вялікіх дажджоў. Ажно тут за гадзіну-дзве хмары разганяліся самі сабой і непагадзь мінала іх даліны. Аўчары зноў выходзілі пасвіць худобу, а ваўкі, што навастрылі зубы на авечак, ціха і мірна абыходзілі няшчасных жывёл бокам. Ніхто ў сяле не ведаў, што гэта Мэрыен даваў рады непагадзі. Ён сапраўды быў мальфарам, ды толькі нейкі чалавек бачыў нядобры дымок, што масціўся над яго хатай, шызы і слізкі, быццам гаспадар дома ўходжваецца і знаецца са злымі духамі. Пра гэта даўно забылі ўсе, толькі старажылы памяталі, як гэта было. Колькі Мэрыену гадоў, чаму дагэтуль на свеце трымаецца ды сівізной не пакрыта яго светлая галава — нікому не было цікава. За сваё жыццё Мар’ян (бо так «па-людску» называлі мужчыну) пабываў і ва Украіне, і ў Польшчу, Румынію, Малдову, Венгрыю ездзіў. Ды што там, у Англіі быў, бачыў Эйфелеву вежу і Елісейскія палі ў Парыжы, бач, нават любаваўся Статуяй Свабоды ў ЗША. Іншыя жыхары сяла, бывала, і з роднай мясціны рэдка выходзілі і тыя гарады толькі на карцінках бачылі. А ён быў даследчыкам. Ніхто ўцямна не ведаў, што сабе задумаў даследаваць Мэрыен, ды ўсе

ведалі, адкуль ён браў грошы на падарожжы. Мужчына «калаціў» дрымбы, сапілкі ды флейты Пана і прадаваў іх на кірмашы за шалёныя грошы турыстам.

Людзі ўжо не здзіўляліся, якім чынам адну сапілку можна прадаць так дорага. Ды і дзіўным захапленнем Мар'яна — вышываннем — не цікавіліся. Было прынята, што шыюць, вышываюць, а таксама вяжуць толькі жанчыны… А ён вось як сядзе ўвечары — ды й да раніцы вышывае… А за тыдзень ужо й кашуля дзесь знайшлася… І крыжыкам, і гладдзю, і мярэжкі любіў рабіць. Ды толькі мужчынскія ўзоры траплялiся ў яго работах, жаночыя ж баяўся рабіць… Цураўся жанчын… Хоць людзі й не цікавіліся яго жыццём, ды паважаць — паважалі. Халера на яго, дзе тое ўбачыш — вышываць, па шалёных коштах прадаваць ды яшчэ й цану набіваць. Магія ды й годзе.

А людзі. Яны злыя. Яны ні капеечкі не падаруюць… І колькі падарожнічаў — усё больш расчароўваўся ў стаўленні… Аднак у розных краінах, дзякуючы імені, яго прымалі за свайго. У Іспаніі, калі намагаўся патлумачыць, што ён — украінец да кончыкаў пальцаў, яму даводзілі, што ён — чысты іспанец. Італьянцы «заграбалі» гісторыю яго жыцця на свой капыл, а венгры, дзякуючы вымаўленню, лічылі Мэрыена родным братам ды прапаноўвалі застацца… Ды дзе б ні быў Мар'ян, усюды яму не падабалася ў поўнай меры, бо цягнула дадому, да роднага карэння…

Яго абражалі, яго ігнаравалі, яго, у рэшце рэшт, ганьбілі, а ён не мог знікнуць з роднага куточка.

Дрымба ціха плакала ў яго самотных руках…

— Ой, зайграй, чалавеча добры! Ды й так, каб аж сэрца калацілася!

— Хто тут? — азваўся Мэрыен і палахліва агледзеў мясціну.

На прагаліне нікога не было. Меней за ўсё ён хацеў бы з кім-небудзь размаўляць, бо самотнасць — гэта было яго другое «я». Ды яшчэ з дзяўчынай, голас якой гучаў зніадкуль. «А каб яе халера, — падумаў, — лепей маўка, чым тая жанчына…»

— Гэй, дзядзька Мэрыен! — і зноў ані мурмур.

— Хто тут ёсць? Пакажыся! — і, пераджагнаўшыся, спакойна падышоў да ручая, што біў з-пад каменя.

— Ты не бачыш мяне? Я — нябачная? Паслухай уважліва і ты пачуеш мяне…

Чароўны спеў разліўся навакол, нібы нехта зачапіў пяшчотныя струны арфы…

— Я чую цябе… І хай гэта будзе нядобра гучаць, але твая музыка лепшая за маю…

— А, хай бы ты быў здаровы! Паглядзі ў крынічку, там ты пабачыш маё адлюстраванне.

Мэрыен глянуў у ваду і ледзь не самлеў. Поруч стаяла чарнявая дзяўчына, проста прыгажуняй была, падперазаная чырвоным паясом з чырвонымі пацеркамі, у markдакалыровай вышыванцы, што закрывала палову доўгага стану прыгажуні.

— Я маўка, Мар'янчыку. Калісьці я была дзяўчынай, ды каханне загубіла мяне. Цяпер мяне можаш бачыць толькі ты.

— Але чаму толькі я? Няўжо ніхто больш не чуе твайго голасу?

— Чаму не? Сляпы Міхайла чуе мой спеў, а глухі Васіль бачыць маё адлюстраванне. Ды пра гэта нікому не кажуць, бо іншыя людзі з такімі дзівакамі не маюць зносінаў.

— А як цябе клічуць, царэўна?

— Кветкаю ў жыцці маці назвала, а як утапілася я, то ўсе духі маўкаю клічуць. Я адна тут такая маладая.

— Дзяўчына міла. Ці звар'яцела, ці розум ты згубіла? Ды як такой маладой, прыгожай прыйшло ў галаву тапіцца? Ды ты ж у росквіце сіл пайшла з жыцця, і я не ў стане даўмецца, чаму гэтак стала?

— Ой, Мар'яне-Мар'янчык, чорны жупанчык. Мне так добра з табою. Ды гэтую таямніцу ніхто не павінен раскрыць…

І яна знікла, а разам з ёю — і спеў, чароўны спеў, што лунаў, здавалася, з глыбіні лесу. Мэрыен граў на дрымбе, граў думкі свае ды й не мог ніяк даўмецца — што гэта было… Ці казка, ці прыказка, а ці, можа, Боская ласка?

Вечарэла. Трэба было гатаваць вячэру, а дадому шлях доўгі… І як яно будзе? Аж страшна стала Мэрыену, ды ён пераджагнаўся і сам сабе ўцяміў: пакуль Кветка з ім — яму нічога не пагражае.

І як гэта жанчыны паводзяцца? Жах дый годзе. Упершыню за шмат гадоў падумаў пра жаночую долю і красу.

Калі месяц спусціўся да небакраю, да далёкіх ялін, што ўздымаліся над далінаю, тады, скончыўшы вячэраць, узяў у

рукі іголку з каляровымі ніткамі. Ой, няхай бы тое не з ім трапілася! Пачаў вышываць ручнік, узгадалася песня «Родная маці мая», і слёзы градам пакаціліся па яго шчоках, бо ж мама яго цяпер жыла на ўсходняй Украіне, лічыла капейкі пенсіі ды не ведала, што яе сын жывы. Некалі даўно, калі яна жыла яшчэ ў гэтым сяле, ён пайшоў на паляванне і не вярнуўся. Шукалі пяць сутак, а яго ўсё не было ды не было. Каб так не балела па роднай крывіначцы, паляцела ў Харкаў. Забыла пра роднае карэнне, захавала рубец на сэрцы ды й пачала новае жыццё. А сыночак увесь гэты час бачыў яе пакуты, ды нейкая сіла ўсярэдзіне яго крычала: «Не тузайся! Мусіш быць самотнікам. І каб людзі не пазналі цябе». У сяле праз год з'явіўся новы хлопец, прыгожы, чарнабровы, з доўгімі вусамі ды чорнымі вачыма, загартаваны ды вытрыманы. І зусім не той Мар'янка, што мама ахрысціла, а тата калыхаў, прымаўляючы: «Эх, Мар'яне-Мар'яне. Вялікім ты будзеш чалавекам». Бацька пайшоў у далёкую дарогу, ды й не вярнуўся. Знайшлі яго ў бурлівай рацэ, адпелі ў царкве і развіталіся, як належала. Але гэта было ў мінулым жыцці. Цяпер ён — Мэрыен. Прыйшоў з далёкага сяла, амаль не распавядаючы пра сябе нічога. Хто нешта пра яго ведаў, хто «даплятаў» сваю версію яго жыцця, хто баяўся самотніка, хто шкадаваў. Але калектыўная нянавісць аб'ядала яго натуру, сачылася тысячамі дакораў і праклёнаў.

«Я вазьму той ручнік, пасцялю, нібы долю»… — маміны рукі, цёплыя і мяккія, загарнулі яго свядомасць у нейкае іншае вымярэнне. Дзе цяпер мая матуля? Ці пазнала б сыночка?

І раптам сарваўся і зарыдаў, як дзіця. Не было каму суцешыць, не было каму, бо жонкі ці дзяцей не меў, а каханак заводзіць не выпадала. У галаве — адна думка… Матуля, матуля… Як у пяцігадовага хлопчыка. Ледзь прычакаўшы раніцу, пабег да бабы Кіліны па параду, бо толькі яна, старажылка, магла ведаць, дзе цяпер яго мамка… Нешта набрахаў ёй, вось як сабакі ў двары брэшуць, хто хоча, маўляў, пачаць кашулі вышываць, у Харкаве прадаваць, ды чуў, што з іхняга сяла была такая цётачка — Парфірыя.

— А чаго не дам, — азвалася баба, — і тэлефона маю. Ты не глядзі, што я старая карчага, зара ўмею ой як багата, і па тэлефоне гаварыць. А во, гэта, нядаўна гаварыла з Парфірыяй. Ой, пагана бабе, пагана. Кажа, тужыць па родным кавалку зямлі, змарнелая, бедная. Ды ўсё сыночка, Мар'янчыка ў снах бачыць, ды з такой краляй! Свят-свят, як нячыстая яна, то й хай Бог бароніць. І ў царкву хадзіла, і думала, мо свечку паставе, ды не вера яна, што яе сын прапаў… Ой, чуе сэрца маё, нешта робіцца. А ты знаеш тую Парфірыю? Шо то як от сын прапаў, забілі яго дзесь у лесе, то й змарнела баба, у Харкаў падалася, моліцца і ў Бога паратунку просіць. Ужо й дзеці ад другога мужа. І ўнукі, а яна... Ой-гой… Шо то за халера, людское сэрца? Хай бы зусім нічога не адчувала. Ай шо то ты слухаешся старую, от гавару без астаноўкі, а ты сабе маўчыш. Мо табе недаспадобы старыя брэдні выслухаць?

— Ой, баба Кіліна, памаглі вы мне, вавек благадарным буду…

— Гэй, хлопча. Добры ты чалавек, ды от бяда — апроч мяне, душу тваю ніхто не бачэ. Ой, то дзела паганае. Паганае. Трэба нешта рабіць. Паедзь, сынку, мо штось памяняецца.

— Дзякую Вам, баба, як то кажуць — файна падзеньковаў і паеду я…

— Хай цябе Бог баслаўляе! — І первжагнала.

Дарогай дадому пракручваў падзеі ў галаве ды ўсё думаў, як дабрацца да Харкава. Надумаў, што трэба маршруткай да Кіева, а там на самалёт — і да мамкі даедзе. Ды не так лёгка ўсё робіцца, як здавалася б. Два тыдні прамаяўся з квіткамі. Ды ў рэшце рэшт паляцеў. Адрас баба Кіліна сказала. Знайшоўшы вуліцу і дом, стаяў і думаў, што сказаць маме. Ды неяк яно само сабою пайшло. Знайшоўшы кватэру, падняўся па лесвіцы на трэці паверх, пазваніў. Дзверы адчыніла малеча гадоў сямі.

— Дядя, а Вы к кому? Меня бабушка учила с чужими не разговаривать!

— Ой, доню, ды я да бабы Парфірыі.

— Баб Фира! К вам дяденька!

— Хто-хто?

Старэнькая бабулька вызірнула з-за дзвярэй. У руках трымала кубачак з кавай. Ды як трымала — так і ўпусціла.

— Божа літасцівы! Мар'янчыку! Ты? — і пержагналася.

— Я, мама, я! Прабачце мне.

Як доўга матуля цёплымі абдымкамі адагравала лёд у сэрцы самотніка, як плакала і дзякавала Богу, што ён знайшоўся. Мэрыен расказаў усю прыкрую гісторыю ад пачатку. Мама здзівілася, але потым усё стала на свае месцы, і яна даравала. Пазнаёміла яго са сваімі дзецьмі, унукамі.

— Мамка, мамачка! Ой, як жа я доўга думаў, як да Вас падступіцца! — і прыгарнуўся да сівой жанчыны. — Мама! Прабачце мяне! Я — мальфар. Я… — і не змог сказаць, бо рыданні скаланулі канвульсіямі цела, а ў горле быў нейкі клубок горычы. — Мама, я вышыў Вам ручнік! Паедзьце са мною дадому, згадаеце роднае карэнне.

— Ой, сыну-сыну… Як гэта цяжка ўсвядоміць, але я прымаю цябе такім, які ты ёсць.

За некалькі дзён знаходжання ў Харкаве Мэрыен зразумеў вельмі шмат рэчаў і асэнсаваў шэраг падзей, што адбыліся ў ягоным жыцці. Потым развітаўся са сваёй новай раднёй ды й павандравалі яны з маці дадому. Пералёт быў бяспечным, і вось праз некалькі тыдняў у сяле ўжо ўсе ведалі праўду. Мэрыена цяпер звалі Мар'янчыкам, віталіся, запрашалі на радзіны, калачыны, хрэсьбіны, заручыны, вяселлі, пахаванні. Грамада вярнула яму сваю прыхільнасць.

Ды надышоў час падумаць пра спадарожніцу жыцця. Ой, як жа не хацеў ён гэтага, ды ўсё ж выбраў цудоўную жанчыну — пані Аксану. Мела 35 гадоў, а была непачатая, працавітая, прыгожая, ой, а добрая!

Любіў бы ён яе ўсё жыццё, а сэрца да маўкі прыкіпела. Аднаго разу, калі заручыны справілі, спытаў Ксеню:

— Ой, любая мая Ксенечка, ты і толькі ты дапаможаш мне ў прыгодзе. Як той казаў, трэ трохі грошай да вяселля падзарабіць. А на тое трэ мне пару легенд гуцульскіх, каб мог я іх з вышыванкай расказаць, цану набіць. Але каб такіх хвацкіх ды, барані Божа, не вясёлых. У цябе баба ўсё тут ведае, мо шо раскажа пра пярэваратняў, русалак, а ці, можа, мавак.

— Мар'янчыку, сэрца маё. Усё зраблю для цябе. Вось зараз хлеб дапяку, дапамагу тваёй маме па хаце ўправіцца ды й разведаю.

Скончыла Аксана работу і вунь — пабегла. Толькі яе й бачылі. Да бабы Волі — у суседняе сяло.

Парфірыя як заплача!

— Ой, мамачка, што з Вамі?

— Сыначку, я так рада, што ты шчаслівы. Вось і нявестачка ў хаце і ўпраўляецца, і варыць, і смажыць, і да работы ўдалая, і да танцаў, і табе ўсміхнецца. Шчаслівая я, сынку, каля цябе. А шчэ ты тое мальфарства сваё закінуў. Хай Бог бароніць, шо тое за напасць, не ад Бога тое. Нарэшце ты пакаяўся, сыне!

— Матуля, ды я сам рады. Калі маю такіх двух цудоўных жанчын — Вас і Аксанку. Шчаслівы буду, пакуль вы будзеце са мною.

У хату ўбегла Ксеня, задыханая і ўстрывожаная.

— Мар'янчыку… Мар'янчыку! Ведаю я такую гісторыю. Хай Бог абароніць і заступіць! Ой, пасля яе лепей у царкву схадзіць, бо адчуваю я — вялікі грэх такое казаць.

— Кветачка мая, зорачка. Раскажы! Вось і маці паслухае.

— Кажы, дзіця, — азвалася Парфірыя.

— Ой, ды каб ты мяне больш кветкаю не называў, чалавеча!

Сэрца яго праваліласяў пяткі, бо зразумеў, што тут нешта нячыстае.

— Кажу табе: грэх вялікі гэта расказваць, але калі табе трэ яно… Была такая дзяўчына, чарнабровая, карыя вочы… Ой, а прыгажуня! І мела яна хлопца такога, шо аж гай шумеў, такога прыкрага. Любіла, вось як я цябе люблю! А ён, суччын сын, ёй здрадзіў і сораму на ўсё сяло нарабіў. Ды й дзяўчына з роспачы шабоўсь — і ў хуткую рэчку. Насмерць… Кветкаю клікалі. Ды не знайшлі яе, кажуць, маўкай зрабілася. Ай, ды яно табе такое трэ? Хай мне Гасподзь даруе, што такое кажу!

— Ой сыне-сыне. Чуе мацярынскае сэрца, бяда будзе, як тая гісторыя выйдзе за межы нашага сяла. Бо то прыгадваю, як я шчэ дзівілася, мне бабуля расказвала, шо то такое было. Нядобрая гісторыя.

— Не зважайце, мама. І ты, Аксанка. Дзякую табе, мая зорка, што свеціш мне і грэеш.

Ды й пачалі размаўляць пра звыклыя рэчы: гаспадарку, худобу, сялянскія хітрыкі. Забылі тое жанчыны, а Мар'яну ўночы не спіцца. Прачнуўся ў халодным поце, бо бачыў сон пра маўку, і крычыць: «Кветка… Кветачка…»

Аксанка прачнулася каля яго ды й сабе ўзяла да душы, а ён:

— Што ты, зорка, прычапілася? Снілася мне прагаліна кветак. І ты пасярод іх — найпрыгажэйшая. Спі!

— А ты? — і прытулілася ўсім нагім целам, салодка пацалаваўшы.

— А я? Прайдуся я. Цудоўная ноч.

— Ой, не хадзі… Няхай цябе Бог блаславіць… Толькі нядоўга, бо я ж буду перажываць.

— Добра, зорка. Ксеня, на пяць хвілінак, і ўсё.

Ноч размаілася на зоркі, накідала іх, як кропу на свежую бульбу, — пахнуць вясной іх срэбраныя куточкі. А цяпер жа лета.

Эх, зайграў Мар'ян на дрымбе ды ўсё на лес глядзіць. Ці не чуваць дзе тае песні? Аж вось дачакаўся ён маўку. Прыйшла Кветка, а ён ужо й бачыць і чуе яе адначасова.

— Дык што, магутны мальфар, кажуць, будзеш жаніцца?

— Ой, усё табе цікава. Пэўна так, але… Зачаравала ты мяне, што не магу жыць без цябе. І жонка мне не жонка, бо Кветкаю яе клічу.

— А ты, Мар'янчыку, сам вінаваты, бо не маю я чараў, мацнейшых за цябе, ты сам сцежкаю хібнай пайшоў.

— Як то мы цяпер будзем, Кветка? То ж нельга ўночы бачыцца, а ўдзень з жонкай гаспадарыць.

— Ой, мальфарчыку. Я табе скажу такое: стамілася мая душа тут век векаваць. Калі б ты мне дапамог — згасла б твая любоў і жарсць твая, а я ператварылася б у птушку і паляцела б на нябёсы. Мо Гасподзь Усёбачны прабачыў бы мне і ўзяў да сябе.

— А што я зраблю, кветачка? Я ўжо не мальфар.

— Ды хіба табе цяжка, Мар'янчыку? Зараз чацвер, а ў суботу ноч на Івана Купалу, і, калі не паспееш — буду маўкай яшчэ 50 гадоў. Ой, гэта так цяжка.

— Кветка-Кветка… Занапасціла ты сябе калісьці ды й мяне вось цяпер з сабою. Ведаю я тваю гісторыю. Пайду падумаю, а да наступнае ночы скажу.

— Добра, мальфарчыку. Буду чакаць тваіх вачэй.

Сон прыйшоў за паўімгнення, ды неспакойны, нудны, уедлівы. Дзень наступны смугою здаваўся, бо Мар'ян толькі хадзіў ды слухаў жанчын, а думаў пра Кветку.

Ночы ён дачакаўся з высілкамі, важка, нібы цяжар апусцілі на плечы, а рукі закавалі ў кайданы і яшчэ прыхапілі сэрца, каб не вырашала.

— Угаварыла ты мяне, Кветка, — у цішы пралунаў голас, і скрозь прыцемкі ён ўбачыў маўку. — Буду я тваім, бо інакай навекі буду тут у пакутах.

— Ёсць адзін спосаб, — азвалася Кветка. — Трэба скочыць праз купальскае вогнішча, назбіраць попелу, змяшаць яго з пэўнымі зёлкамі, і тады станеш птушкаю. Ці згодны ты ўтапіцца са мною ў гэтае вечнасці? Але цяжка будзе, ой, даруй Божа…

— Гэта так. Але я ўчыню сабе смерць, як не буду з табою.

— Ой, Мар'янчыку, загубленая твая душа. Як паляціш са мною, то ўдвох прасіцьмем у Бога долі, а гэта ўжо цяжэй.

— Ды нічога! Дай мне трошачкі часу.

— У цябе ёсць час, пакуль сонца не сядзе заўтра. Развітвайся…

Ой, як нялёгка было рыхтаваць паляванне, на якое меўся пайсці. Ой, як скрушна развітваўся ён з каханаю пасля таго, як скочылі праз вогнішча купальскае. Як балюча развітваўся з матуляй, што аж сэрца сціскалася, ды ведаў, што зелле ўжо гатовае і дарогі назад няма. Бо ў яго наперадзе — іншае жыццё. Маўка чакала яго каля ручая. Ён зноў бачыў толькі яе адлюстраванне. І чуў толькі голас…

— Не перадумаў, мальфарчыку?

— Не, Кветка. Хай вечнасць — ды з табою. Пі.

Даў зелле, выпіў сам. Ды з разгону — шабоўсь у ваду… Рэчка, што цякла каля лесу, забрала дзве постаці.

А раніцай людзі знайшлі два целы, мужчыны і маладой дзяўчыны, падобна, нетутэйшай. Як галасілі Парфірыя ды ўдавіца Аксана, а гора свайго так і не залілі… Пад іхнімі вокнамі і дагэтуль лётаюць два галубкі, варкочучы пяшчотна між сабою і просячы ў Бога долі, што так патрэбная ім абодвум… А хто ведае, мо дзесь і вы іх сустракалі? То скажыце, няхай заспяваюць у садзе тую песню, што фанізмам пранізлівага жалю грае на дрымбе маленькі Мар'янка і чакае, што татка пачуе яго…

***Пераклад з украінскай Ліды НАЛІЎКА***



Максім ЭДЭЛЬ

# ЁСЦЬ ТОЛЬКІ АДНА ПРАБЛЕМА — ТЫ Ў МЯНЕ НЕ ВЕРЫШ

***«Бяздзейнасць у пэўнай ступені таксама дзейнасць. Усякая літаратура, якую чытаеш перад сном, — родная і блізкая. З іншага — вакзалы і аўтастанцыі».***

* * *

Цягнікі кіруюць на Поўдзень,
патрэбны прыходзіць па часе.
Калі ты памёр у поўдзень —
такія сыходзяць часта.

Глядзець, адчуваць, існаваць,
вісець і слупам стаяць ля хаты
Лёгка. Бо ранкам папросіць устаць
голас або дзяўчаты.

І ты ўстаеш, бо страта
сну, — нецяжкая параза.
Лёгка прыходзіць травень,
так як і ўсё — адразу.

* * *

Гісторыя дыму такая,
што звычайна праз дым рака працякае,
як ты праз мяне цячэш.

Пакуль жа не сыдуць усё і ўсе,
наш свет, што праз акуляры нясе
цябе, маладую яшчэ,

не спыніцца ўраз, ані.
Не спыняцца й нашыя дні,
А мо і шпарчэй рушаць.

Застанецца табе і мне
Усяго толькі пара планет,
і дыван, і вада, і суша.

* * *

Апошнім часам я расслабіўся настолькі,
што веру ў гараскопы, прагнозы надвор'я
і ў будучыню, зазвычай, таксама.
Цяпер, шчыра кажучы,
са мной у жыцці прыгожыя і дужыя людзі.
Аж вольнага месца ад іх няма.

Зараз я абсалютна ўпэўнены,
што свет уратуе калі не краса,
то Чалавек-Павук, Чалавек-Менеджар, або
Чалавек-Капірайтар.

Зараз шмат чаго застаецца
па-за маёй увагай,
уявай і стомай,
па-за маёй прасторай і ложкам.
Асабіста мяне ўратаваў Чалавек-Карма.

Шмат усяго раскідана наўкола
маіх квадратных метраў.
Калі на вуліцы прыбрана
і даспявае чэрвень,
ёсць толькі адна праблема —
ты ў мяне не верыш.

* * *

з імёнаў тых хто мяне забыў
можна ўзвесці прыгажуню-царкву
пайсці ў яе ў нядзелю зранку
і запаліць свечку
і ў наступную нядзелю пайсці
і запаліць свечку
і ў наступную нядзелю запаліць свечку
і ў наступную
аж пакуль яны ўсе не згараць
і свечкі
і нядзелі

***Пераклад з украінскай Міколы АЛЯХНОВІЧА***

*Алена ПЕТРАВЕЦ*

# ВЕЧНАСЦІ КОЛЫ…



***Жыве ў вёсцы Пераброды Дубровіцкага раёна Ровенскай вобласці. Член народнага літаратурнага аб'яднання «Поетарх» (Роўна). Творы друкаваліся ў часопісе «Дняпро», анталогіі сучаснай інтэрнэт-паэзіі «На вістрі курсора» (2010), у зборніку апавяданняў «Озброені словом» (2010). Пераможца Усеўкраінскага конкурса паэзіі «Вітер змін» (2012).***

* * *

я навучылася любіць кветкі
як лічыш — ці гэта ўзаемна
хто б змог майму сэрцу давесці
як гэта дрэва па венах
падымае ўгору ваду
да самай высокай пупышкі
можа так здабываюць свабоду сваю?
можа гэта ёсць кропкай адліку?
дарасці каб да неба ад глебы
быць між зорак высокай маланкай
і вось так узнікае патрэба
паздымаць у пакоі фіранкі

* * *

між безлічы словаў
незлічонасці галактык
на планеце маленькай Зямля
запарваю ранішні чай для цябе,
называю тваё імя…

* * *

у табе ёсць неабходная мне глыбіня
колькасць Сонца, смеху й сур'ёзнасці
і ніколі ў табе не знайду я дна
гэта застанецца ў падсвядомасці

ноччу бязважкасць, пунктырнасць удзень
робіць прастору празрыстай наўкола
я кажу цяпер «Так!» — не «чаму б і не»
і малююцца Вечнасці колы…

* * *

Калі грае гэтая музыка…
Ты пачынаеш рабіць усё надзвычай
абачліва
вельмі спакойна, павольна і быццам
танчыш…

Калі грае гэтая музыка…
Ты ўсміхаешся
адным толькі паглядам
скіраваным кудысьці ўсярэдзіну…

Калі грае гэтая музыка…
Ты забываешся на час і адлегласць
Існуюць толькі дотыкі з'яднаных нот
да душы
быццам пальцаў яго да цела твайго…

асабліва, калі менш за ўсё гэтага чакаеш

У ім, як у джазе,
найбольш прывабныя для цябе
неспадзёўкі…
І яшчэ, калі ён не пытае, куды вам ісці

а проста бярэ за руку тваю і вядзе,
як у танцы…
А ты… Ты і сонечна верыш яму,
і усміхаешся, быццам дзіця,

калі грае гэтая музыка…

* * *

Божа, зноўку, бы немаўля,
шукаю вялікую далонь Тваю,
заснуць каб на ёй, каб спаць
на ёй спакваля…

зноўку, Божа, прыходзяць коні штоночы,
павольна ядуць канюшыну,
а потым знянацку нахіляцца да твару дзяціны,
і я крычу: «Мама! коні!» і плачу

але калі-небудзь у жыцці
бывае, што мама далёка,
і коней насамрэч няма тут…

я ведаю, Божа, усё праміне…
але ці можна, прашу я на сёння,
пасплю на Тваёй я далоні?..

*Пераклад з украінскай Адама ШОСТАКА*

Анна НЯВЕРКАВЕЦ

# І ЯШЧЭ КРЫХУ ПЕРЦУ



***Працуе эканамістам, але паралельна займаецца правядзеннем літаратурных сустрэч у ГГА «Літаратура.РВ». Любіць смяяцца, падарожнічаць па Украіне, чытаць сучасную літаратуру і наведваць культурныя мерапрыемствы.***

* * *

з табою так добра,
што хочацца памерці —
вось тут, проста на асфальце, знікнуць;
пабыць у абдымках і назаўсёды пакінуць
усе мясціны, якія калісьці ведаў ты.
пабудзь яшчэ трохі і таксама знікай —
як мага далей ад мяне, бо мне
так цяжка цябе адпусціць,
што зараз, проста вось зараз,
я, заплюшчыўшы вочы,
папрашу ў мяне стрэліць —
каб апошняю згадкай маёй
стаў твой твар.
такая ненармальная.
трымай, вось дастала
зараджаны пісталет
спецыяльна для нас, зрэшты, для мяне,
але ўсё ж для нас дваіх —
там роўна дзве кулі:
мне і
зноўку мне
(на ўсякі выпадак).

* * *

ды яна і радая была б ужываць
у вершах слова «коханий»,
радая была б дадаваць цукру да кавы,
але штосьці не так,
нешта ёй не дазваляла…
магчыма, гэтае «кох» — як адзнака вірусу,
а можа, гэта цукар проста псуе смак.
і таму яна да ўсяго дадае перцу.
і яшчэ крыху перцу,
каб папякло й перастала.
а потым звыкаеш.

бачыш, каханы, у яе так не выходзіць.
выходзіць толькі на ганак,

каб бачыць, як ты ідзеш,
каб пераканацца —
у вершах ніколі не ўжываць «коханий».
што заўгодна, хоць наркотыкі ці алкаголь,
толькі не «кох» —
бо ад гэтага паміраюць.

* * *

мы адбудуем гэту абхазію
малітвамі левых паэтаў
я буду яе песціць
і дыхаць некім як ты
ты недзе за рогам будзеш забывацца
на мяне
ды нічога не выйдзе бо мяне не было
але як сутыкнемся
дзесьці а 5-й зранку ў нядзелю
выбухаць будуць міны
нямыя мы станем
бачыць як знікаюць будынкі
як сцены падаюць кудысьці ўніз
каб нам можна было гаварыць
але мы маўчым
я вазьму тваё рукі
і пакладу сабе на жывот
а ты скажаш «жывіце»
і станеш паветрам
каб вышэйшай расла тут трава
каб зніжэлі пакоі з бетону
але ўсё што хацелі мы хутка забудзецца
а ўсё што любілі мы — рэінкарнуецца
і мы ўжо мурашы ці птушкі
(якая для нас тут розніца?)
мы адлятаем
аднаўляць дзесьці нашу абхазію
і неба для нас ачысціцца
і рукі на жываце
ледзь даткнуўшыся скуры
нешта там намалююць
і з часам яно ажыве

***Пераклад з украінскай Міколы АЛЯХНОВІЧА***

# P. S.



***Жыве ў Кіеве, вучыцца на сацыёлага. Фіналіст і пераможца дзясяткаў літаратурных конкурсаў, фестываляў «ОМС», «Урба-скрыжаванне», «Гладыятары слова», «Фестываль Ї». Чытае лекцыі па тэме «Публічная дэкламацыя вершаў». Шмат падарожнічае аўтаспынам, чэрпае натхненне ў размовах.***

## Аляксандр ТКАЧЫНСКІ

**КАНДЫДАТ**

Я — Дарт Вейдар, м*а*ю місію ясную:
Дарвацца да ўлады і красці найперш.
Гэтую высокую мэту я нясу
У масы: дзе мячом, а дзе і праз верш.

Мая імперская ўлада расце,
ТБ і газеты чакаюць нагоды.
Яны публікуюць: «Дарт Вейдар — мэн»,
«Вейдар — апошні напрамак моды».

Дзеці купляюць лялькі з маім імем,
(На ўсе іншыя лялькі —
забаронены продаж).
За паклёп на мяне атрымліваеш бан,
Міліцыя — мой антывірус і старож.

Паверце, я — лепшы дыктатар з усіх,
Са мною вам будзе настолькі пагана,
Што лішніх думак не з'явіцца ў галаве,
А толькі жаданне «ішачыць на пана».

P. S. Вейдар — найпразрысты кандыдат.

**ВЕЛАСІПЕД**

Доля — веласіпед, што нясецца з гары,
Ты ж — павінен ім кіраваць.
Не найлепшай маркі ён і стары,
Ды другога няма дзе ўзяць.
Мусіш аб'ехаць ямы, старыя карчы,
Каб руль не выпусціь зноў.
Яшчэ й два анёлы сварацца на плячы
Словамі з мёртвых моў.

Рэалістычны камп'ютарны свет.
Маўляў, унікальны шанс.
Рынг, дзе так хутка з гары нясе —
Гэта лепей, чым Tour de Franse.
Лепей за найэратычны сон,
Нават за ўладу цароў,
Цескеля, што ў латэксным трыко
Адсейвае слабакоў.

Забараняю падаць. Там ушчэнт
Цябе разарвуць вятры.
Ты вольналюбівы стары дысідэнт.
Прынамсі, ў вачах гары.
Калі ты лічыш, што й праўда жывеш,
Наперад імчыш як след,
Хутчэй падымайся, калі і ўпадзеш,
Трымай свой веласіпед.

P. S. Слабасць — гэта нежаданне вучыцца
і развівацца.

**ПТУШКА**

Ці магу я табе давяраць? —
Ціха спытала прыгажуня-дзяўчына.
У цябе вялікі і цёплы бярлог,
Травы і зоркі падаюць да тваіх ног,
Слова тваё праліваецца песняю.

Я восем стагоддзяў зберагала ў сабе зару,
Ты чуеш, у сцены пяшчота ўпіваецца?
Я адмаўляла ў пяшчоце нат каралю,
Здавалася, часам, што перагару,
Але і па сёння так не адбываецца.

Забудзь ад вярхоўных жрацоў рацэпт —
Поўнач раскрытай лілеяй прыўкрашана,
Няхай сабе плавае у рацэ.
Мераеш пульс на гарачай руцэ
Там, дзе сыходзяцца лініі нашыя.

Ціха й ўрачыста спявае вячэрні пляж.
Сонца зайшло, ды святла, як ніколі, многа.
Забудзь стогадовы маральны стаж,
Зараз так добра, што верыцца аж:
У нашым дыханні прысутнасць Бога.

P. S. Каханне — гэта тое, што трэба
дарыць, калі яно ў цябе ёсць.

*Пераклад з украінскай*
*Міколы АЛЯХНОВІЧА*

*Віктар ШУПЕР*

# СУСВЕТЫ



***Нарадзіўся на Роўненшчыне. Захапляецца псіхалогіяй і філасофіяй. У лірыцы пераважаюць песімістычныя настроі.***

**ШТОДЗЕНЬ**

штодзень, калі прачынаюся,
прымушаю сваё сэрца біцца
па-новаму,
нібы заводжу іржавы рухавік
даўно разбітага аўто,
які заўсёды гадавалі
нізкаякасным палівам
і безнадзейна кепскай
змазкай для рухавіка.
аўто ездзіла кепскімі дарогамі
і ніколі не шукала

найпростых шляхоў да мэтаў.
яно разбівала падвеску,
сцірала шыны да дзірак:
спадзявалася,
што аднойчы
прыедзе да таго,
да каго імкнецца
ўвесь свой час
ад моманту свайго стварэння.

**БЕЗДАНІ**

бездані існуюць, каб вырасталі крылы,
калі крылаў няма, стаеш, быццам камень,
ператвараешся ў камень, чэрствы
з сярэдзіны,
і камень гэты сонца промнем разаб'е
на дзве часткі:
на чорнае ды белае
на сумнае ды шчаслівае
на цябе і мяне

**СУСВЕТЫ**

я ёсць
і ёсць ты
і яшчэ між намі сусветы
загадкавыя,
маляўнічыя,
зорныя,
напоеныя водарам,
шчырасцю падпярэзаныя,
мроямі зашнураваныя.
мы маем іх адрасы,
іх зусім не складана знайсці,
апранацца не трэба,
абувацца не трэба таксама —
проста вочы расплюшчыць,
зазірнуць у начное неба.
дарогі свабодныя
для тых, хто хоча ісці,
хто хоча пабачыць,
што там далей,
каму не выстачыць
святу ў сабе.
патрэбная ты,
свет у сабе
і сусветы між намі
лёгка так дыхаць
і лёгка да мэты дайсці
калі ў жыцці
я ёсць
і ёсць ты
і яшчэ між намі сусветы

**ДА МЯНЕ ДАЙШОЎ ТЫ**

сябра мой пайшоў ад шэрых гмахаў.
ён зараз вольны, і дзесьці ён далёка
будуе ці то замкі, ці масты,
а можа проста трапна
ён лічыць на пяску сляды людзей,
што да цябе ішлі і ад цябе,
складае спісы вартасных і не,
бяздушных паварочвае назад
па ўласных іх слядах
у адваротны твайму бок.
ён пэўны, што на іх далёка
такія самыя бяздушныя чакаюць;
бяздушным у неба не зляцець.
і так штодзень, так кожны дзень
людзей, да нас што йдуць, сартуюць
на тых, што вартыя і не.
на тых, што чуюць і не чуюць.
глядзі, істотны кожны крок,
мажліва, і цябе звароцяць,
як не — абдымуць шчыра
і скажуць: «да мяне прыйшоў ты».

*Пераклад з украінскай*
***Адама ШОСТАКА***



Вікторыя БРУЦКАЯ

# ТРАНСКРЫПЦЫЯ БОЛЮ



*«Ніякіх творчых псеўданімаў. Я — гэта я, ніякіх дадатковых апісанняў». Жыве ў Луцку.*

* * *

дыназаўра пяшчота — тварам імкнуцца
ў луску.
не здольныя мы размаўляць,
у нас для абдымкаў — занадта
кароткія лапы.
сэрца дыяметрам з добрых паўметра,
а я да цябе ніяк не магу дацягнуцца,
давядзецца ісці супрацьлегла.
ды й што мне казаць? ты бачыш і сам:
неба развальваецца,
падаюць, палаюць аскепкі.
звар'яцелая спужаная зямля пячэ лапы.
што ты будзеш рабіць,
калі скончыцца вада?
па адным у нас шанец большы.
калі шчыра, збягаю я ў лес паміраць.
ці, можа, ад сцэны тваёй будучай смерці?
ці, можа, шукаць уцалелага неба шматок
і потым яшчэ нейкі даць табе знак?
і, можа, з табой падзяляць мне планету?
а зараз бывай. памром мы,
але маем надзею,
бо свет яшчэ мае наперадзе тысячы год —
і няхай гэта доўга надзвычай
на першы пагляд —
але ўсё ж мы
навучымся абдымкам.
мы эвалюцыянуем,
тады і паразмаўляем.

* * *

адкрытага сэрца не досыць,
адкрытай раны замала —
папраўдзе, усю нашую долю
хай вырашаць збегі абставін.
ты, што памрэш пад коламі
аўто ці нечага іншага,
глядзіш на мяне праз люстра
заспанымі вачыма.
я, што памру без цябе,
зараз пульсую курсорам:
тэкст на празрыстай паверхні —
транскрыпцыя майго болю.
ты вырашы кінуць паліць,
не стой у чарзе ля кіёска,
бо ты яшчэ мусіш паспець
патрапіць пад аўтобус.

## ВАЙНА ПАЦЫФІСТА

Перадусім ты хочаш, каб скончылася вайна. А па начах табе сніцца снег. Гэта так сумна, што нават смешна. Людзі дзяруць адзін аднаго, як у старажытныя часы, і гэта быццам нармальна, такая прырода... І ты адчуваеш сябе чужым. У тыя ночы, калі атрымліваецца паспаць, табе сніцца снег. Ты выходзіш з хаты, трымаючы за руку маму, і глядзіш на чорныя сляды, у якіх збіраецца вада. Усё настолькі проста: белы снег, цёмныя сляды, цёплая рука матулі, любоў.

Ты прачынаешся рэзаць і зашываць, глядзець на людзей, якія паміраюць на тваіх руках. Даўжэй можна пражыць без рукі ці без нагі, а ты глядзіш на іх, не пускаеш у галаву думкі аб тым, што, можа, ім сапраўды варта было памерці.

Выратоўваеш жыцці. Часам пад тваімі рукамі цела, што страляла «нашых». Але ў табе ніколі не прачынаўся той жудасны падступны звер, які шапоча: «забі! забі! забі!». Зрэшты, кожнае цела ў тваіх руках калісьці кідалася на іншыя такія ж целы з намерам раздзерці.

Калі табе сніцца снег, ты не памятаеш, што здарылася потым. Нават на яве не можаш узгадаць той пераломны момант, калі свет стаў складаным. У нейкую хвіліну ты даведаўся, што каханне можа хварэць. Бег на вайну. Вайсковым лекарам. Можа, будуць бамбіць лагер, і цябе не стане...

Перадусім ты хочаш, каб для цябе скончылася вайна. Парадокс, але для пацыфіста ўсё жыццё — вайна. Амаль штодня даводзіцца змагацца супраць сістэмы, якая імкнецца зрабіць з цябе забойцу. Звера. І ты з упартасцю пачаў рэзаць, каб ратаваць жыццё.

Гэта так сумна, да смеху. Людзі падымаюць мільёны пар рук, каб тыя ўчапіліся ў мільёны глотак і шматавалі. Дзеля чаго? Каб мець больш грошай, больш улады? І куды ты з гэтым?

Ты ледзь не засынаеш над аперацыйным сталом. Добра, што варта прыходзіць і гарлапаніць на цябе. Агромністыя кавалкі мяса, якія некалі былі часткай чалавека, даводзіцца адразаць, каб захаваць жыццё астатняй частцы. Захаваць жыццё чамунебудзь, што, нядоўга думаючы, гатова адабраць яго ў чагосьці іншага. Але ты — выратоўваеш, табе не даводзіцца сумнявацца ў іх правах.

Табе сніцца снег, і ў гэты час твар твайго целаззяе мірнай усмешкай. Хоць навокал вайна. Свет стаў складаным. Дзе ў ім — тая, што ніколі не стане бліжэй, чым апошняя ваша зіма. На тых самых сумных вачах ужо зусім іншыя думкі, вы абодва выраслі і пасталелі за гэты кароткі перыяд. Яна, мабыць, памятае цябе са спіны, калі памятае наогул. Прымаць рашэнні, проста ўзважваючы плюсы і мінусы, можна толькі тады, калі ўсё адно. А ў гэтай гісторыі так ці інакш цябе рве на кавалкі. Парвала.

Прывозяць параненых, людзі — проста мяса, камусьці зноў адшматавала канцавіну. Калі шмат параненых — гэта добра, калі іх мала — гэта значыць, што большасць складаюць забітыя. Ты зноў рэжаш і шыеш, уся ўвага сканцэнтравана на іх, яшчэ цёплых. Цяпло іх крыві, якую ты адчуваеш сваімі пальцамі, узгадваецца табе пасля, калі ты зноў вымыкаешся. Будзе нагадваць рукі матулі. Гэта ж трэба, каб патэнцыял шчасця кагосьці разменьваўся на жорсткасць звера.

Тая, вачэй якой ты болей не можаш бачыць, ды й не ўбачыш ніколі, засталася там, дзе вечна будзе падаць снег. Ты меў магчымасць застацца. Але ты не мог учыніць інакш. Бо калі сэрца чалавека адкрытае для шчасця, сапраўдны сябар не павінен стаць баластам. Ён хутчэй запомніцца ўцекачом ці здраднікам, ніж чым будзе каменем на шыі. Так здарылася, што ў яе жыцці з'явілася святло, і гэтым святлом быў не ты. Ты не меў права яго захіляць. У тваёй памяці вечна падае снег.

У лагеры падняўся гвалт. Чуваць дзікі гул знішчальнікаў. Параненых трэба эвакуіраваць.

ВЫБУХ

ПЯЧЭ!

Ляжыш, перабіраючы ў думках усіх сваіх апошніх пацыентаў, выратаванага ваеннапалоннага, якога (ты ведаеш) асудзяць смяротным пакараннем, маладога сяржанта, які прасіў пакінуць сабе хаця б адну руку, каб трымаць сына... Яны ж дзеці кагосьці, у іх таксама ёсць дзеці. Што яны робяць тут, дзе толькі адна смерць?

Ногі мёрзнуць. Пэўна, мароз… На цябе пачынае падаць снег. Лёгка. Свабодна. Вайна скончылася.

***Пераклад з украінскай***
***Адама ШОСТАКА***



Аня ЯБЛУЧНА



***«Яблык-вершалюб». Арганізатар універсітэцкіх літаратурных сустрэч «Літ-Ра», удзельнік разнастайных мастацкіх імпрэз, складальнік паэтычнага зборніка «Трылітры» (адначасова — «Крок», 2014).***

* * *

Насыціўшыся яго вершамі
Дзе трава і мышы
Поўны роў вады
Цэлы коўш рыбін
Дзе плоць камянёў
Прыціскае сны
яна дзеліць пяшчоту
напалову, на склады
прапускае ў скуру
прамяні святла
каб потым у пальцах
адчуць цеплыню
неабходную роўна
на адну страфу
якую ён напіша
не згадаўшы тое
у каго пакінуў
ён пісьмяно святое
дзе яе імя, яе запіскі
выпадковыя згадкі
менструальныя дні
ды агульныя сумы
ўсіх жыццёвых страт
мегабайты фота
спосабы разладу
і абрысы-лініі
ўсіх каардынатаў

# ЕСЦІ ЯГО ВЕРШЫ

па якіх да яго
пракладала шлях
пакуль будзе ён пісаць
яшчэ адну страфу
яна будзе выцясняць
з сябе цемру
правядзе не першы
ўнутраны паход
адбудуе горад
адкрые ўваход
страціць ці даруе
і падправіць дах
каб пад вечар зноўку
мець вольны час
есці яго вершы
дзе трава і мышы
поўны роў вады
і іншага дабра
і краіны й гарады
ў якіх не была
ды й наўрад ці будзе
ён або яна

* * *

абсалютысты ёсць абсалютнымі
пасля трэцяй партыі ў косці
пасля перадвелікоднага посту
ці раптоўных мусонных слёз
юныя грэшніцы ў звыклай размове
пакідаюць цукровыя камы
і сіропам пераліваецца
звабная хроніка спелых целаў
На высокіх альпійскіх лугах
адчуваецца некім расстанне
даспявае ў эдэльвейсах
і з расой утварае смарагд
А каханне жыве ў абсалютах
пераброджвае так у атруту
закрывае паветра тромбам
пераможна гучыць трамбон
Юныя грэшніцы, абсалютысты
пратэстанты, сепаратысты
паступова заўчасна старэюць
недапіўшы былога кахання

* * *

Легчы на пясок тварам да сонца і не думаць ні пра што
і не цікавіцца нават паходжаннем гэтага ліману
не прымушаць нутро слухаць шэпт хваляў
толькі як прысак пясок і гульня святла па краі

бо зрэшты ўсе твае пытанні недасведчаныя чайкі
знахабнілі, як сведкі іеговы, галодныя, як твой жывот
у першага сустрэчнага хапануць абы-якую праўду
гатовыя прадаць яе ў любы з базарных дзён

І зноў  выгараюць твае валасы, вяснушкі, памяць
выпадае з сеткі яшчэ адзін летні дзень
ты зноў адкрыты для таго, што будзе / не будзе потым
ляжыш на пяску тварам да сонца
і не думаеш
ні пра што.

*Пераклад з украінскай Міколы АЛЯХНОВІЧА*

Вікторыя СЕЛЯЗЕНЬ

# ХОЧАШ ВЕРЫЦЬ У ЛЕПШАЕ — ВЕР



***«Месца майго нараджэння асаблівае для мяне. Вёска Бярэжкі — ускраіна маленькае выспачкі Роўненскай вобласці Дубровіцкага раёна. Выспачкі Надзеі, Душэўных скарбаў і Красы. Я вельмі люблю неардынарнасць і непрадказальнасць. У свае 17 год цвёрда ведаю, што маляваць словам — гэта асаблівы дар, які трэба ўзбагачаць кніжнымі тропамі, асацыяцыямі, таму і лічу кнігу лепшым сябрам. Ісціну можна знайсці паўсюль, было б жаданне заўважаць прыўкраснае ў гэтым свеце. Я ў захапленні ад Ліны Кастэнка, Тараса Шаўчэнкі, Марыны Цвятаевай. Гэта нібы трыяда маёй душы. Магчыма, сярод нас таксама ходзяць будучыя геніі, але колькі яшчэ трэба ім адкрыць нязведанага, колькі намаляваць слоўных карцін... Я мару стаць годным вучнем свайго нязломнага духам народа(!), бо так цяжка маўчаць, калі сэрца размаўляе па-ўкраінску...»***

**1**

Мой кот разумее мяне.
Ведаеш, ён прыходзіць заўсёды, калі боль акоўвае знямелыя рукі,
Укладваецца каля сэрца. Яму не важна, колькі ў чалавеку пылюкі.
А можа… Не, ён дакладна ведае пра душэўныя мукі.
Іначай — як? Як бы лекаваў нас ад разлукі?

Мой кот разумее мяне.
Хай гэта будзе зімовы халодны вечар ці восеньская затуманеная карціна,
Ён нешта ведае. Я вазьму гэты футраны клубок. Ён скруціцца так дзяцінна…
Усё вуркоча і спела будзіць зацішша. Цёплая часціна.
Не тужы са мною… перажыву. Для гэтага ёсць радзіна.

Мой кот разумее мяне.
Усё хоча залезці ў сон. І там вуркатаннем заліць мой боль.
Я праганяю яго. Не патрэбна табе мая соль.
Вось цукар на стале, бяры і ўцякай. Каціная ўпартасць… Прыемная золь…
Усе вырываюць па старонцы, а ты сшываеш міжволь.

Мой кот разумее мяне.
Любоў — яна ёсць, толькі не ў цябе… і не ў мяне. Тваё маўчанне такое ўтрапёнае.
Адгарадзіўся ад святла? Кажаш, баліць? Бачыш, лісце не зялёнае,
Яно пажоўкла, развеялася па закутках душы, як лядовая завеса. Усё студзёнае.
Адкуль у людзях столькі холаду? Мой кот ведае, што наша існаванне — шалёнае.

Мой кот разумее мяне.
Кветкі ў дарунак — просты знак увагі. Не! Гэта звышнатуральнае. Успрыму як падзею.
Такія балючыя ружы. Як такія кветкі могуць усяляць надзею?
Засоўваю рукі ў футраны мех, мне халодна, чуеш? Што з гэтым зробіш... Не адагрэю.
Стрымліваю ў сабе ўсё, быццам трымаю стыхію. Колькі сумею…

Мой кот разумее мяне.
Ты проста паслухай, як б'ецца сэрца ў той, чые рукі грэе лёд.
Ты ўстаў і пайшоў, не абдумаўшы правільны ход.
А кот застаўся. Не дзіўна! Ён і далей вуркоча табе ўслед. Мой кот —
Такі футраны пластыр ад усіх ран, праціяддзе ад маіх згрызот.

**2**

Маё нябачнае, маё жывое слова,
О колькі перлінаў і фарбаў у табе.
Вырошчваеш дзяцей, лябёдка-мова,
Гадуеш у любові, не ў журбе.

Ва ўсе часы было дзве мовы: адна — мова сэрца, другая — розуму…

***Мова сэрца…***

Калі баліць — гарнуся да Яе. Велічная, пяшчотная каралева нябачных літар саграе халодныя рукі вясёлкаю з думак. «У мяне заўжды такія ледзяныя рукі», — думаю пра сябе. Зноў адчувальна цішэе бязгучная песня сэрца. Я ведаю, што вытрымаць такую восеньскую сумную сімфонію цяжка, таму не чакаю цеплыні. Ды дарма… Яна каторы раз накрывае змерзлыя крохкія плечы велічным пачуццём, майструе вячэрнюю цішу… Мае заезджаныя думкі, зацёртыя водгуллем змярцвелай прыроды… Чаму ўсё такое шэрае? Адкуль узялася гэтая салодкая горыч і куды падзеўся мастак са сваёй каляровай палітрай? Яна ведае ўсё, ды чамусьці акурат цяпер маўчыць, імітуе спакой. Мастак пакінуў сваю карціну… Але вось віднеецца нясмелая пэндзліка галоўка. Быццам хлопчык-мезенчык у парыку нябачаных колераў, ён усміхаецца мне і кліча ў светлую казку, дзе Мроя крочыць поруч, ахоўваючы ад жыццёвага болю. Я размалюю фарбамі будзённасць гэтых шэрых сценаў! А Яна заўсёды

будзе паліваць маю кветку надзеі, каб не звяла, будзе вырошчваць светлавалосыя каласы слоўных палёў. Яна… мая Мова сэрца.

***Мова розуму…***

Гэтая царыца скептычна ставіцца да маіх меланхалічных нот. Не грэе, не! Прагне есці штодня і шмат. А сілкуецца Яна не хлебам ці мясам, а кнігамі. Занурваецца між радкоў папяровых носьбітаў святой думкі і там жыве. Мы з Ёю часам на «ты». Непрыступная цытадэль цвярозасці і жыццесцвярджальных фарбаў, няўлоўная птушка, што сваю залатую клетку можа пераплавіць у жалезнае слова. І ведаеш, мне здаецца, што я часам прачынаюся пасярод ночы ад Яе спеваў. Зрываюся і шыбую ў свет, які не чакае гасцей, але ўсё ж… Я давяраю Ёй і іду наперад, перагортваючы тоненькія старонкі тоўстай кнігі пад назвай «Жыццё».

Хочаш верыць у лепшае — вер, хочаш пісаць вершы — пішы, толькі не забывай пра гармонію душы і цела, сэрца і розуму. Палівай свой сад, будзь дбайным садоўнікам, бо… ва ўсе часы было дзве мовы: адна — мова сэрца, другая — розуму… неаддзельныя адна ад адной святыні.

**3**

Запраторылі душы за краты,
Затуманілі водбліскі мрой.
Дзе шукаць цеплынёю багатых?
Дзе ад лютых стыхій супакой?
Можа, ў неба высока ўзляцець мне?
Ці на дно зеляное пайсці?
Без падтрымкі нішто не гарэцьме,
Без падтрымкі сябе не знайсці.
А ты дыхай, я гэта адчую.
Сотні стомленых, млявых вачэй…
У тваіх — патану, заначую.
Яны лепш ад усіх панацэй.
Зберагу свае мроі ў канвертах,
Каб застаўся ад сонца глыток.
Кожны дзень без надзеі — зацерты.
Зруйнаваны таненькі масток…
Падарунак згубіў сваю стужку,
Подпіс «Л.» крые веліч драбніц.
Ты навучыўся заходзіць без стуку
Ды не бачыць для шчасця крыніц.
Я адчую, як дыхаюць зоры.
Яны любяць, калі я пішу.
Гэты вечар схаваю ў каморы,
З імі сэрца пакіну, душу.
А сама не загіну я ў моры,
Для мяне — дык яго ўжо няма.
Светлы будзень мінулым не хворы,
Светлы будзень… А хутка зіма…
Я жыццё сваё ціха чытаю,
Так не хочацца жыць надарма…
Штосьці ў людзях нястомна шукаю,

А што ўласна? Не знаю сама…
Холад душыць! А можа, так трэба?
Пасля снегу прыходзіць вясна.
Патрабую у людзях я неба…
А замест яго — яма адна.

…Толькі дыхай. Я гэта адчую.

**4**

***Думка — кветка, слова — завязь, дзея — плод***

***Твая думка — кветка***

Палівай яе штораніцы, як устаеш. Гарні да сябе нават тады, калі, скруціўшыся на ложку клубком, перабіраеш вясёлкі ў галаве. І, выйшаўшы на вуліцу, не пакідай пачэсную гаспаданю твайго ўнутранага дзеяння недзе там, у пустым закрытым пакоі. Не абразай крылыпялёсткі гэтай чараўніцы, бо няма на свеце такога месца, куды б не даляцела думка. Бывае, салодкі прысмак горычы напаўняе нас, і тады — адкрываюцца дзеры ў прасторы шафы нязведаных, але адначасова — такіх знаёмых таямніц… Куды ж ляціць гэтая лябёдка? Мая наіўная, магутная сіротка…

***Тваё слова — завязь***

Разгарні прасціну карцін з літар і ўбачыш, як прарастае з зямлі-душы тоненькі нясмелы парастак — мова. Ён працягне свае маленькія ручкі да сонца і папросіць паболей чытаць. Наша мова — нашы кнігі. І дзе было б слова без папяровых каралёў красамоўства? Співаюць нямыя артысты жывым духам і памяццю, пераліваюцца колерамі прамовістых струн. А іх песня такая пяшчотная на дотык і прыемная на смак, што ўсё больш і больш хочацца захутацца ў гэтую прасціну і грэць там свае халодныя рукі. Не будзе нам волі, пакуль мы не вызвалім мрой. Завязвайся слова — вазніца надзеі святой…

***Твая дзея — плод***

Не зрывай яго, пакуль не саспеў. Прыйдзе час і нальецца сокам нават костка. А пакуль — не чапай. Колькі ў свеце зламана дрэў, а колькі яшчэ зламае неасцярожнае, нябачнае слова — творца і знішчальнік, бунтар і пакорлівы сабака. Сёння мы выпешчваем свой сад, каб заўтра гуляць цудоўнымі сцежкамі дробненькіх рухавікоў фантазіі. Сёння мы засеем свет учынкамі, каб заўтра зжаць каласы гарачых месяцовых вечароў. Вырошчвай у садзе плеяду слоў. Каб безліч дзён раскіданых сабраць наноў… Будзь дбайным садоўнікам!

***Пераклад з украінскай Ліды НАЛІЎКА***



# МАКС КІДРУК: «БО АВІЯЦЫЯ — ДАЛЁКА НЕ САМАЯ ЦІКАВАЯ РЭЧ У СУСВЕЦЕ»



***Наш госць Макс Кідрук — украінскі пісьменнік, вандроўнік, па адукацыі — інжынер-энергетык. Вучыўся ў Швецыі. Напісаў 12 кніг: 8 мастацкіх і 4 — на тэхнічную тэматыку. Аўтар першага ўкраінскага тэхнатрылера «Бот» і рубрыкі ў часопісе «XXL». Пабываў больш чым у трох дзясятках краін, сярод якіх Мексіка, Эквадор, Перу, Кітай, Чылі, Бразілія, Ангола, Намібія, Новая Зеландыя.***

**— Тэхнічная адукацыя для пісьменніка: гэта добра ці кепска?**

— Я лічу, што для любога пісьменніка тэхнічная адукацыя — гэта велізарны плюс. Таму што арфаграфіі і пунктуацыі можна навучыцца, ды і рэдактар на тое існуе. А вось вывучаць асновы канструявання дэталяў машын у 30 гадоў — гэта ўжо іншае: я сумняюся, што такое можна засвоіць без спецыяльнага курса і без людзей, якія цябе вучаць.

Мяне тэхнічная адукацыя прывучыла шукаць інфармацыю і самастойна разбірацца ў складаных рэчах. Цяпер гэта нейкі наркотык. Я з абсалютнай упэўненасцю магу сказаць, што на дадзены момант чытаю навукова-папулярных кніг не менш, чым мастацкіх. І вось тая база тэхнічных ведаў, якую я атрымаў падчас навучання на інжынера ва Украіне і Швецыі, дазваляе мне разумець шмат сумежных галін. Напрыклад, авіяцыя. Я пішу калонку ў «XXL» на гэтую тэматыку, рубрыка завецца «Аэра». І напісаў раман пра авіяцыю. То бок, асабіста для мяне тэхнічная адукацыя — гэта той падмурак, дзякуючы якому я магу пісаць пра значна большую колькасць рэчаў.

**— Ты ўжо адыходзіш ад вобраза пісьменніка-вандроўніка. Гэта спланавана ці выпадкова?**

— Ну, скажам, я рады, што так адбываецца. Гэта не значыць, што я перахацеў падарожнічаць, але нарэшце мне перасталі тэлефанаваць як пісьменніку-вандроўніку і прасіць парад, напрыклад, для турыстычных часопісаў.

Я ўвайшоў у сучасную ўкраінскую літаратуру дзякуючы трэвелогам. Але гэта была магчымасць хутка зайсці, паказаць сябе, замацавацца на плацдарме. А далей ужо будаваць тое, што я сапраўды хацеў будаваць. Я буду і далей падарожнічаць, калі закрыю два свае вялікія сёлетнія праекты. Калі тур пройдзе паспяхова, то я паеду ўзімку ў якія-небудзь цёплыя мясціны. Але гэта будзе хутчэй нейкая змена *writing-house* — я буду пісаць не тут, у Роўне ці ў Кіеве, а ў якой-небудзь хатачцы на беразе мора ў Камбоджы. Буду там штосьці арэндаваць, цалкам адарваны ад свету. І — там няма сеціва. Таму падарожжы будуць і надалей важнымі ў маім жыцці.

**— Раскажы фабулу свайго будучага рамана «Жорсткае неба». Гэта проста трылер?**

— Нядрэнна сфармулявалі яго жанр у выдавецтве: сумесь тэхнатрылера і дэтэктыўнай гісторыі. Так яно, у прынцыпе, і ёсць.

«Жорсткае неба» — гэта першы ўкраінскі раман пра ўкраінскую авіяцыю. Гісторыя пачынаецца з таго, што вялікі ўкраінскі авіябудаўнічы канцэрн «Аронаў» упершыню ў гісторыі прадаў выробленыя ім самалёты ў еўрапейскую краіну, а менавіта ў Францыю. Самалёты добрыя, усё нармальна. Але вось падчас другога вылету адзін з гэтых самалётаў разбіваецца ў аэрапорце «Парыж-Поўнач». На першы погляд, віна за авіякатастрофу ляжыць цалкам і поўнасцю на авіядыспетчарах, бо падчас пасадкі самалёт уляцеў у снегаачышчальнік, які выпадкова апынуўся не на той паласе. Так, вядома, людзі загінулі, гэта трагедыя. Але з пункта гледжання камерцыйнага складніка ўсё ў парадку — віны на вытворцах няма. Нягледзячы на гэта павінна быць праведзена расследаванне. І ствараецца міжнародная следчая група, у якую ўваходзяць французскі бок і прадстаўнікі вытворцы. У Францыю адпраўляюць маладую жанчыну — Дыяну Столяр. Яе бацька кіраваў распрацоўкай гэтага самалёта, але памёр год таму. І Дыяна, маючы мноства сваіх праблем, двух малалетніх дзяцей, канфлікты з мужам, пісьменнікам-недарэкам, мусіць ляцець у Францыю. Там ёй даручана правесці расследаванне, а дакладней — імітацыю расследавання, таму што яна павінна абараняць самалёт. У нейкі момант жанчына высвятляе, што на самой справе там не ўсё так проста. Так, віна за катастрофу ляжыць на аэрапортных службах. Але яе можна было пазбегнуць, калі б адсутнічалі пэўныя нюансы з самалётам. І тут яна аказваецца перад вялікім выбарам — або падставіць памяць свайго бацькі, свой канцэрн, у рэшце рэшт, сваю краіну, або схаваць тое, што яна знайшла, і такім чынам выпусціць на рынак патэнцыйна небяспечны самалёт.



**— У тваіх кнігах шмат навуковых момантаў. Гэтым ты хочаш паказаць, што тэхніка і законы фізікі — гэта цікава?**

— Так, абсалютна правільна. Банальны прыклад: я столькі разоў ставіў пытанне перад аўдыторыяй — «Хто з вас ведае, чаму самалёт лётае?». Гэта не значыць, што людзі дурныя. Хтосьці там скажа, што «дзве турбіны яго штурхаюць і г.д.». А нармальна мала хто можа адказаць.

Вельмі шмат падобных прыкладаў ёсць у рэальным жыцці, і яны простыя. Людзі гэтага не ведаюць. Мне здаецца, што гэта цікава. Ну калі каму не цікава, то, магчыма, яму раман не спадабаецца. Але гэта вельмі цікавыя рэчы.

І яшчэ ўвосень стартуе ўнікальны праект з маім удзелам, бо авіяцыя — далёка не самая цікавая рэч у Сусвеце. Яна, вядома, захоплівае, але калі ты пачынаеш капаць углыб... Там мініяцюарызацыя матэрыі атамаў, электронаў, часціц... Або глядзіш уверх да касмічных маштабаў — там ёсць вельмі шмат цікавых рэчаў, якіх людзі не тое што не разумеюць, яны нават не ведаюць, што такое ёсць. У кнігах і ў гэтым праекце, які будзе праходзіць у фармаце лекцый, я хачу





падзяліцца такімі ведамі, таму што гэта прышпільна і пазнавальна.

**— Наколькі табе важны кантакт з чытачамі пасля прэзентацый?**

— Надзвычай важны. Мне сёння прыйшло тры паведамленні «Вконтакте». Проста, не ставяць пытанняў, не даймаюць, а пішуць і дзякуюць, хто за «Бот», хто за «Цвярдыню», хтосьці кажа, што чакае «Жорсткае неба». І адно паведамленне ў Facebook. Гэта вельмі важна. Асабліва гэта важна ў такія вось моманты, калі ты трохі буксуеш у працы над тэкстам. Ці, магчыма, ёсць праблемы ў асабістым жыцці. Ты павінен быць крышталёва спакойным, каб пісаць. Калі цябе штосьці грызе — ты не зможаш пісаць. Таму вось гэтыя рэчы даюць разуменне: ты нешта робіш, для нечага ты гэта робіш. І такія паведамленні, бясспрэчна, уздымаюць настрой, я гэтага не хаваю.

Я ўвайшоў у сучасную украінскую літаратуру дзякуючы трэвелогам. Але гэта была магчымасць хутка зайсці, паказаць сябе, замацавацца на плацдарме. А далей ужо будаваць тое, што я сапраўды хацеў будаваць

**— Ну і апошняе. Што ты адчуваў, калі дапісаў «Жорсткае неба»?**

— Калі шчыра, у гэты раз я адчуў, што, на жаль, у мяне не будзе нават тыднёвага перапынку. Калі я дапісаў свой папярэдні трылер «Цвярдыня», адчуў велізарнае знясіленне. Я пісаў яго ў шалёным тэмпе. А вось працэс працы над «Жорсткім небам» прайшоў значна гладзей — спатрэбіўся папярэдні досвед.

Я адчуваў задавальненне, разумеючы, што «Жорсткае неба» выйшла лепшым за «Бот» і за «Цвярдыню». І нейкую такую ўпэўненасць, што ў мяне атрымаецца, таму што «Жорсткае неба» адкрывае тройку маіх бранябойных раманаў. То бок, у мяне ёсць ідэі, якія я лічу вельмі-вельмі добрымі. «Жорсткае неба» было толькі першай з іх і не наймацнейшай. Другія дзве пойдуць па нарастаючай. Напісаўшы гэты трылер, я зразумеў, што пасяваю, што змагу напісаць усе астатнія.

*Размаўлялі*
***Марк ОПЛАЧКА і Ганна НЯВЕРКАВЕЦ***

***Пераклад з украінскай Рамана ЛАТУШКІ***

*Зместам украінскай часткі нумара «Маладосць» абавязана намесніку дырэктара Ровенскай абласной універсальнай навуковай бібліятэкі Аляксандры Промскай. Выказваем ёй шчырую падзяку.*

*Рубрыка кафедры*
*літаратурна-мастацкай крытыкі*
*Інстытута журналістыкі БДУ*

# КОЛЬКІ КУТОЎ У КВАДРАТА?

**Калі вы нават выдатна ведаеце матэматыку, не спяшайцеся з адказам. Таму што і ў прасторы «Чорнага квадрата» Казіміра Малевіча, як сцвярджаюць знаўцы, адкрываецца новая рэальнасць, дзе нешта неверагоднае дзеецца. Спазнаваць тую нерэальную рэальнасць першымі пачалі мастакі. І так захапіліся самім працэсам творчага, вобразнага спазнання неспазнанага, што і сёння толькі гукні — прыносяць на выставы творы не менш загадкавыя і незразумелыя, чым слынны «Чорны квадрат». Людзі сталыя часта не ўспрымаюць тое, што нязвыкла. Моладзь, асабліва творчая, прагне загадкавае разгадаць, а незразумелае — зразумець. Таму ўнікальны і грандыёзны па мерках нашай краіны праект з інтрыгуючай назвай «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта», які пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Мінскага гарвыканкама быў здзейснены Музеем сучаснага выяўленчага мастацтва і Цэнтрам сучасных мастацтваў да адкрыцця Чэмпіянату свету па хакеі, мы папрасілі асэнсаваць студэнтаў Інстытута журналістыкі БДУ.**

***Галіна БАГДАНАВА, дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі***

## ДЫХАННЕ ГОРАДА

…Некалькі слоў пра арыгінальна-творчы праект «Мастак і горад. BelART.by». Вы, магчыма, спытаеце, чаму менавіта на ім засяродзіла сваю ўвагу? Ды хаця б таму, што ў нашай рэспубліцы такі напрамак, як Pablic-art — мастацтва ў публічнай прасторы — робіцца сёння актыўным складнікам гарадскога жыцця. Месца для ўвасаблення праекта было выбрана гістарычнае — плошча Якуба Коласа. Тут ужо экспанаваліся творы Малевіча і Шагала. Гэтым разам мінчане мелі магчымасць пазнаёміцца з творамі беларускіх жывапісцаў і графікаў з калекцыі Музея сучаснага выяўленчага мастацтва.

### АВАНГАРД ВЫХОДЗІЦЬ НА ПЛОШЧЫ

***Наталля ШАРАНГОВІЧ, кіраўнік Цэнтра сучасных мастацтваў, куратар праекта «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта»:***

— Актыўнае засваенне гарадской прасторы — перспектыўны напрамак сучаснага мастацтва ў Беларусі, праца над якім толькі распачынаецца. Сучаснае беларускае выяўленчае мастацтва — яркая сацыякультурная з'ява, якая фарміруецца творцамі розных пакаленняў. Але найперш моладдзю, выпускнікамі творчых ВНУ рэспублікі. Моладзь актыўна працуе з прасторай і гэта абумоўлівае выхад выяўленчага мастацтва за межы выставачных залаў. Многія краіны сёння актыўна карыстаюцца такім спосабам інтэрактыўнага ўвядзення мастацтва ў сферу жыцця людзей. Гэта размяшчэнне рэпрадукцый карцін на сценах дамоў у Маскве і Санкт-Пецярбургу, больш кардынальнае выкарыстанне прасторы, калі аўтавакзалы, паркі і нават гістарычныя помнікі робяцца аб'ектамі для мастакоўскіх эксперыментаў.

У работах, прадстаўленых у праекце «Мастак і горад. BelART.by», не варта было шукаць стылёвага адзінства, падабенства формы, зместу, пластыкі. Творцаў яднала шматаблічнасць. А гледачоў зацікавіла ўнікальная магчымасць параўнаць, як розныя паводле сваіх мастацкіх прыярытэтаў аўтары вызначылі і інтэрпрэтавалі кола з'яў, актуальных сёння. Творы паказвалі, наколькі

айчыннае мастацтва, з аднаго боку, адкрытае для эксперыментаў, сэнсавых пераўтварэнняў, эстэтычных навацый, а з другога — захавала ярка выяўленыя адзнакі класічнай формы, абапіраецца на традыцыі айчыннай мастацкай школы, нацыянальныя прыярытэты.

### НЕСУМЯШЧАЛЬНАЕ Ў СУМЯШЧАЛЬНЫМ

Пэўна, менавіта так можна вызначыць, што такое папулярызаванае сучаснае мастацтва.

### ТВОРЧЫ ПОШУК. ГРАФІКА

Асабіста для мяне, як гледача, запамінальнай у гэтым відзе мастацтва стала работа **Аляксандра Вахрамеева «Ровар».** Вам цікава, як увасобіць ровар на сучасны лад? Мастак убачыў вялізнае белае кола, якое стварае ілюзію руху ў прасторы. Графічны аркуш выкананы ў аўтарскай тэхніцы. Бэзавы, жоўты, салатавы… Колеры змяняюцца, кола круціцца, змяняе сваё месцазнаходжанне… І людзі, і жыццё змяняюцца. Хіба што ўспрыманне гэтых колераў застаецца нязменным.

Яшчэ адзін твор — **«Foundation» Рамана Сустава**. Сур’ёзны з выгляду чалавек-мараплаўца, позірк якога нацэлены наперад, да спазнання яшчэ неспазнанага. Назва твора перакладаецца як «Аснова», аснова ўсяго, над чым думае, пра што разважае чалавек, на галаве якога размясціўся вялізны карабель. Можа, ён марыць пра далёкія марскія падарожжы і пра неспазнаныя краіны?

### ПОЛЕ ПРЫЦЯГНЕННЯ

**Вікторыя Ільіна. «Дом, што стаіць наводшыбе».** Пагадзіцеся, калі нам кажуць пра такі дом, то першае, што прыходзіць у галаву: забіты, нікому не патрэбны дом, са старымі стаўнямі, што ледзь трымаюцца на завесах. А вакол пустазелле, спарахнелыя дрэвы, і, як кажуць, ніякіх прыкмет жыцця. Дык вось, падобнае можна ўбачыць на карцінах мастакоў-рэалістаў, але ж тут іншае, тут — авангард. Мастачка, дзякуючы дакладнаму выкарыстанню колераў, зрабіла твор жывым і сімпатычным. На думку творцы, дом, што стаіць наводшыбе — гэта прыгожы дом, са сваёй гісторыяй і прыкметамі, разгалістымі дрэвамі і кустамі. У гэтага дома ёсць сваё ўласнае ўнутранае жыццё.

**Сяргей Рымашэўскі. «Пад сталом (Двое ў горадзе)».** Гэта карціна, у якой натуральна з’ядналіся простыя колеры, прадметнасць і для кожнага СВАЯ філасофія жыцця і мыслення ў прасторы горада.

Два хлопчыкі, седзячы пад сталом, размаўляюць пра сваё, «дзіцячае».

Яны нават не заўважаюць таго, што адбываецца ў горадзе на самой справе, іх не хвалюе жыццё мегаполіса з ягонымі турботамі, несупынным рухам, мітуснёй. Яны хочуць вось так уладкавацца пад сталом і спакойна, нікуды не спяшаючыся, піць каву ці гарбату, думаць, маўчаць, размаўляць, смяяцца, плакаць толькі ўдваіх… У гэтых малых свой свет, у якім наўрад ці знойдзецца месца для кагосьці трэцяга. А калі нават і знойдзецца, дык хіба што для ЯГО, асаблівага чалавека, які будзе звяном адзінага ланцужка думкі, ідэі, мары пра нейкае неверагоднае жыццё.

…Авангард — сукупнасць разнастайных наватарскіх кірункаў. Кожная работа ў авангардзе заслугоўвае асаблівай увагі. Бо дзякуючы ім мы, як пад павелічальным шклом, маем магчымасць разгледзець усю арыгінальнасць, крэатыў, сэнс звычайных жыццёвых праяў, кожная з якіх можа нарадзіць безліч асацыяцый…

*Дар’я ШОЦІК*

## СІМВАЛ НОВАГА ДНЯ

**Уладзімір Клімушка. «Уваход».** «Я жыву днём пазаўчарашнім, учарашнім і, нарэшце, сённяшнім…» Так гаварыў сучасны беларускі мастак Уладзімір Клімушка, аўтар працы «Уваход». Гэты твор вылучае тое, што ў ім увасоблены не пазаўчарашні, не ўчарашні і нават не сённяшні дзень. У ім увасоблены дзень заўтрашні. Сімвал новага дня, новага дня кожнага з нас. Магчыма, новага ўжо ў іншым свеце.

Кампазіцыя фармальная, колеравае вырашэнне, відавочна, знакавае. Карціна простая, абстрактная, мы бачым дакладныя лініі і формы… З першага погляду ў ёй няма нічога

прыкметнага. Але ў ёй спалучаюцца глыбінны сэнс і шматзначнасць яднання колераў. Я б сказала, што карціна мае не столькі мастацкую, колькі філасофскую каштоўнасць. У ёй увасоблена філасофія жыцця. Здавалася б, такая простая філасофія.

Чорны фон сімвалізуе бясконцыя праблемы, клопаты, выпрабаванні і няўдачы, ад якіх хочацца збегчы, але яны непазбежны на працягу ўсяго жыцця. Іх можна пераадолець. Яны робяць нас лепшымі.

Чырвоныя лініі — эмоцыі, якія натхнялі душу, тая палкасць, жаданне, адрэналін і энергія, што з'яўляюцца ў самыя пікавыя кропкі жыцця. Тая любоў, якую мы дорым свету і людзям.

Жоўтыя фігуры — перажытая радасць, пазітыў і шчасце, якое не перадасі. Усмешкі і сонца ў душы кожнага.

Зялёны колер — яго так мала, але ён такі неабходны. Гэта спакой, гармонія з сабою, адыход ад свету фізічнага і імкненне да свету абстрактнага, духоўнага.

І вось яны пасярэдзіне — дзверы. Блакітныя дзверы. Сімвал чыстай і цудоўнай будучыні. Мары пра далёкае і лепшае, якое ніколі не прыйдзе. Бо мы забываемся пра дзень сённяшні.

Людзі штодня шукаюць выхад. Выйсце з пэўнай сітуацыі, абставін, крызісу… І так па накатанай… У такіх людзей жыццё — гэта чарада выйсцяў, чарада выхадаў… І адзіным уваходам, адзінымі светлымі дзвярыма для іх робіцца сімвал нябёсаў. Уваход у іншы свет.

Прапаную вам сваю інтэрпрэтацыю карціны Уладзіміра Клімушкі «Уваход»: давайце зробім так, каб усё, што пануе за межамі блакітных дзвярэй, было нашым мінулым. У нейкай ступені дрэнным і адначасова цудоўным. А дзверы — гэта наш уваход у кожны новы дзень у гэтым жыцці. Жыцці на Зямлі. Уваход у будучыню, пра якую мы марым.

***Алёна ЧАРНЯЎСКАЯ***

## Я СТУПІЛА Ў ІМПРАВІЗАВАНЫ ПАКОЙ…

**Канстанцін Селіханаў. «Чарга».** Я ступіла ў імправізаваны пакой, увесь абклеены савецкімі шпалерамі. Як я вызначыла, што шпалеры савецкія? Не ведаю, па праўдзе кажучы, нават не апішу іх. Але ў мяне засталося адчуванне, быццам я зайшла кудысьці ў мінулае. Скажу шчыра, было чамусьці страшнавата. Можа таму, што мы з сяброўкай былі адны ў гэтай вялізнай выставачнай зале і яна, як на тое, блукала ў зусім іншым крыле…

І вось калі я ўсё ж такі рашылася зайсці ў гэты пакой, то адразу ж зразумела, што да чаго. Я ўбачыла бясконцую чаргу з бронзавых людзей і падумала, што, пэўна, натамілася за дзень. І доўга не магла зразумець, куды і якім чынам цягнецца гэтая чарга. Я паспрабавала адшукаць шыльдачку, якая б патлумачыла мне штосьці. Узрадавала тое, што я ўсё ж такі, напэўна здагадалася, што хацеў паказаць аўтар. Скульптурная кампазіцыя Канстанціна Селіханава так і называецца «Чарга». У гэтай чарзе, як я ўжо гаварыла, стаяць бронзавыя людзі, якія адлюстроўваюцца ў люстэрку. Утвараецца візуальны эфект бясконцай стужкі з людзей. Гэтыя людзі такія розныя і такія аднолькавыя. Кожны ў гэтай чарзе нібыта заняты сваёй справай, сваімі думкамі.

Яны выглядаюць як адзіная шэрая пляма. Але, калі прыгледзецца, у кожнай фігурцы можна ўбачыць тое, што адрознівае яе ад іншых. А можа, усё наадварот? Кожная фігурка — асоба. Але ў цэлым гэтая чарга з імправізаваных людзей — усяго толькі цёмная пляма. Халодная, бронзавая, змрочная пляма…

Кожны можа зразумець гэтую кампазіцыю па-рознаму. Але я ўпэўнена, што ніхто не пройдзе паўз гэты таемны пакой…

***Маргарыта МАНЬКО***

## ЧАГО ЧАКАЮЦЬ? ЧАГО ЖАДАЮЦЬ?

**Канстанцін Селіханаў. «Чарга».** Быццам застылыя кавалкі плоці ўсярэдзіне бронзавай абалонкі стаялі ў лінію гэтыя груба апрацаваныя фігуры, увасабляючы людзей. Навошта яны стаяць там? У бясконцай чарзе, утвараючы адзіную бронзава-



*Канстанцин Селіханаў. «Чарга».*

металічную шарэнгу. Чаго чакаюць? Чаго жадаюць? Пра што думаюць?

Ці можа быць такое, што гэтым бясконцым фігурам патрэбныя толькі прадукты ў краме? Ці яны жывуць у эпоху крызісу, калі людзі б'юцца за кавалак хлеба? А можа, гэта чарга на спаленне ў канцлагеры? Альбо ў нешта містычнае — чысцілішча, рай, пекла? Падобныя яны на бяздумных абывацеляў, якім патрэбны толькі фізічныя даброты? Чарга гэта за ежаю, сном і сексам? Альбо гэта высокадухоўныя людзі, гатовыя стаяць за сваю ідэю, за думку, народжаную адным і падхопленую хваляю чалавечых розумаў? Я — праўда — не ведаю. Але ж тым і вабіць мастацтва, што ты можаш сам вырашаць, навошта гэтая чарга, хто гэтыя людзі і чаго яны хочуць.

Ці можа быць такое, што гэта чарга з людзей, якія аджылі сваё? Стаяць яны бясполыя. У маўклівым чаканні сваёй апошняй долі. У надзеі, што ім адкрыецца іншасвет, больш прыгожы, альбо наадварот… страціўшы смак жыцця. Яны пакорліва пасоўваюцца ў бясконцай плыні, руцінна выконваючы адно і тое ж дзейства — размераны рух у нікуды. Праца, дом, праца, дом. Праца. Дом. Крок за крокам. Ці не чарга гэта з былых летуценнікаў, даследчыкаў, што ўжо страцілі тое самае прыемнае прадчуванне падзей, што ўжо не хочуць глядзець годна, бо расчараваліся ва ўсім. Ці не тыя гэта людзі, што каштавалі па кавалачку ад кожнага торціка, усвядоміўшы ў канцы, што смачныя кавалачкі скончыліся, а спячы іншыя ўжо нестае сіл. Хто, як не яны, могуць быць у гэтай чарзе…

Гэтыя людзі, магчыма, калісьці спрабавалі скарыць свой Эверэст, дасягнуць чагосьці жаданага. У іх былі эмоцыі, памкненні, мэты. Яны самі выбіралі, па якіх дарогах ім крочыць. Але з кожным з іх здарылася нешта, што вымусіла прыйсці ў гэтую чаргу. Без пачатку і без канца. Хтосьці спатыкнуўся, аступіўся і не змог знайсці свой шлях. Хтосьці знайшоў, але зразумеў, што на скрыжаванні павярнуў не ў той бок.

Хтосьці так доўга ішоў, што стаптаў сабе ногі і ўжо не можа больш зрабіць ніводнага кроку, каб прасунуцца ў чарзе. А хтосьці проста глядзеў на дарогу. Доўга выбіраючы, куды яму пайсці, але так і не зрабіў свайго выбару. Цяпер усе яны стаяць у адной чарзе, у якой выбар ужо няважны, у якой яго проста не існуе. Часам яны рухаюцца, але гэты рух эфемерны. Бо ў чаргі няма ні пачатку, ні канца.

І хто б ні былі гэтыя людзі, па што яны б ні стаялі, чаго б ні хацелі, усе яны трапілі туды невыпадкова. Усе яны стаяць там дастаткова доўга, каб страціць лік часу. І можа быць, у іх галовах дагэтуль цепліцца думка пра тое, што яны яшчэ могуць зрабіць свой выбар, пайсці назад, кінуць гэтую чаргу. Яны злёгку паварочваюць галовы, некаторыя ўжо збіраюцца выйсці і паварочваюцца, быццам пойдуць убок ад гэтай жахлівай бясконцай шарэнгі. Але прыходзіць час рабіць чарговы кароткі крок, каб прасунуцца на некалькі сантыметраў, якія тут не іграюць ніякае ролі. І яны пакорліва робяць крок. А за ім яшчэ адзін. І яшчэ. У гэтай чаргі няма ні пачатку, ні канца. І апошняе пытанне, якое тут можна паставіць, толькі адно: ці ўсе мы апынемся ў гэтай чарзе рана ці позна?

***Фёдар ГУСЕЎ***

## НАПАЧАТКУ БЫЛО СЛОВА. І ГЭТАЕ СЛОВА ЛЮБОЎ...

**Жана Капуснікава. «Кветка любові».** Нават скептыкі і цынікі кагосьці любяць. Ката Ваську, маму з татам або сябе. Таму на творы, прысвечаныя любові, заўсёды звяртаеш асаблівую ўвагу. Вельмі цікава, як іншыя сапіенсы адгукаюцца пра гэтае неадназначнае пачуццё. Беларускі авангард у асобе Жаны Капуснікавай паказаў любоў з дапамогаю папулярнага сімвала. Кветка — банальнае і даволі чаканае ўвасабленне любові ў мастацтве. На жаль (а можа, на шчасце!), любоў у маёй свядомасці ніколі не будзе асацыіравацца з іншапланетным кактусам на паласатым чырвона-сінім фоне. Калі прыгледзецца, у кветцы можна разгледзець прымітыўны «генітальны» пачатак: некаторыя яе часткі аддалена нагадваюць яйцаклеткі і сперматазоіды. «Кветка любові» — карціна экспрэсіўная, яна літаральна насычана фарбамі. Але яна не заварожвае. Чырвона-сіні паласаты фон напружвае вока. Пасля дэтальнага разгляду карціны яе хочацца закрыць. І не адкрываць. Каб не раздражняцца лішні раз. Некаторыя крытыкі кажуць што ў гэтым творы пульсуе жыццё. Маўляў, сучаснае каханне такое — яно крычыць, яно падобнае да вар'яцтва. У такім выпадку яно не для мяне. І карціна. І любоў. І мастачка.

*Алеся ШАРШНЁВА*

## ПЛАНЕТА КАХАННЯ

**Жана Капуснікава. «Кветка любові».** Калі б не назва работы, аб'ект на фоне чырвоных і блакітных палосак можна было б прыняць за што заўгодна — касмічную станцыю, каштоўны выкапень. Зрэшты, і пасля асэнсавання назвы ўсе гэтыя варыянты не знікаюць. Хіба каханне не можа быць у космасе? Хіба крышталь рэдкага мінерала сам па сабе не можа быць кветкаю гэтага пачуцця?

Абсалютна незразумелы і памер гэтай кветкі. Што гэта: галактыка ці малекула? З аднаго боку, павінна была б быць галактыка, бо схільнасць да гігантаманіі прачынаецца ва ўсіх закаханых, але з іншага, жаданне замкнуцца ў сабе таксама ўласцівае людзям са змененым станам свядомасці. Немагчыма зразумець, малады гэта бутон або пажоўклая кветка, расце яна альбо зрэзана? Што за геаметрыя прасторы, у якой яна апынулася?

Мне здаецца, гэтая кветка — адметная планета кахання. Давер, пяшчота, клопат, ласка, надзейнасць, упэўненасць, вера, пачуцці, мары, радасць… Менавіта гэтая кветка ўбірае ў сябе ўсё тое, без чаго не можа быць кахання. Убірае ў сябе цалкам фундамент, на якім усё будуецца. Гэта можа быць не толькі каханне, але і любоў да блізкіх і родных.

Цікава, што ствол, ды і сам бутон — у калючках. Пэўна, аўтар спрабуе паказаць, што любоў можа быць прыгожай і шчаслівай, а можна, на жаль, аб яе балюча ўкалоцца, апячыся. А вам не здаецца, што аб'ект на карціне жывы? Тут дарэчы даць вызначэнне. Жывое — гэта штосьці, што можа капіраваць само сябе. І кветка, безумоўна, можа. Зрабіце просты эксперымент. Паглядзіце на карціну ўважліва. А цяпер заплюсніце вочы. Яна жывая. А яшчэ. Калі доўга глядзець на карціну, то з'яўляецца адчуванне таго, што фон з палосак пачынае імгліцца.

Чырвона-блакітны колер фона выклікае адчуванне, што гэта колер-крык. Усім вядома, што чырвоны — колер-выклік, а блакітны — колер спакою. Атрымліваецца двайны эфект. Карціна нас узбуджае і адначасова супакойвае. Дзіўна!

*Вікторыя ХАДАСОК*



*Георгій Скрыпнічэнка. «Тата, паглядзі!»*



*Уладзімір Цэслер, Сяргей Войчанка. «Ракавіна».*

## ТАТА, ПАГЛЯДЗІ!

**Георгій Скрыпнічэнка. «Тата, пагля- дзі!»** «Людзі забіваюць адно аднаго! Тата, паглядзі!» — Георгій Скрыпнічэнка трапна заўважыў — мастацтву смерці людзей вучыць жыццё. На карціне мы бачым пяцёра чалавек. Трое з іх — ахвяры. Муж, жонка і дзіця знемагаюць ад скразных ран. Але чым нанесены гэтыя раны? Трохі наводдаль мы бачым яшчэ дваіх. Гэта забойцы. Але яны ж і ахвяры. У іх руках — флейты — музычныя інструменты, якія, дзякуючы чалавеку, гучаць. Гук — гэта і ёсць зброя. Слова, якое мы прамаўляем, часам падобнае на смяротна атручаную стралу. Страла ў руках ахвяры. Чаму ахвяры, калі яна ж забівае? Ды таму, што нанесена іншаму шкода вяртаецца з яшчэ большаю сілай.

Рэдка каму ўдаецца схавацца ад гэтай смяротнай машыны. Мы бачым маці і дзіця, якія адлятаюць далей ад смерці на крылатай ракавіне. Ды толькі ці далёка яны адляцяць? Ці здолеюць схавацца? На жаль, гэта немагчыма. Немагчыма жыць па-за грамадствам. Ды і ці існуюць дзе крылатыя ракавіны? Іх няма. Гэта падобна да магіі. Прыхаваны сюррэалістычны падтэкст нібыта сцвярджае: толькі магія здольна ўратаваць чалавека ад чалавека.

***Артур ГРЫГАРАН***

## КАРЦІНА Ў КАРЦІНЕ

**Уладзімір Куфко. «Палёт ДВП».** Гэты твор я выбрала бо мне здаецца, што ў ім закладзены глыбокі сэнс. Мы бачым «ракету» за цаглянай сцяною. Цагляная сцяна — зняволенне. Але ў ёй ёсць маленькі прасвет — воля, лёгкасць. Калі прыгледзецца, у святле яшчэ адна карціна — лес і яркі месяц. Ракета пралятае праз, паўз гэтае святло і страчвае магчымасць прыляцець туды, дзе ёсць свабода, радасць і любоў.

Аўтар увасобіў усё вельмі дэталёва. Калі адысці, ствараецца ўражанне, што бачыш рэальную цагляную сцяну. Самае ж цікавае для мяне — ракета. Большасць людзей звяртаюць увагу на святло. А я бачу ракету. Яна ўвасоблена так, быццам дзіця намалявала яе крэйдаю. Ёсць нават «курыныя лапкі». Такім чынам, у карціне я бачу два сэнсы. Першы — гэта адзінота (Святло і цагляная сцяна. Ракета, пралятаючы праз свабоду, радасць, любоў застаецца ў няволі). Другі — свет дзяцінства (крэйдаю намаляваная ракета з курынымі лапкамі).

***Вераніка РЫЖОВА***

## АДНА З НАМАЛЯВАНЫХ ЗАГАДАК

**Уладзімір Цэслер, Сяргей Войчанка. «Ракавіна».** На марской ракавіне адбіваюцца пластамі пясок, соль, скамянелыя водарасці… Па гэтых пластах можна вызначыць, колькі ракавіне гадоў, у якіх марскіх водах і на якой глыбіні яна была… Мастакі трансфармуюць сваю ракавіну ў адмысловую стужку часу чалавечага жыцця, гісторыю Беларусі. За вобразамі, ценямі, матывамі, накідамі праступаюць самыя значныя падзеі, праступае сам час.

***Марына ЕЛІСТРАТАВА***

***Цалкам тэкст чытайце на www.maladost.lim.by у праекце «Каляровая «Маладосць»***

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

# АРХІЎ ПІСЬМЕННІКА З ПУХАВІЧ: ІВАН ПАДБЯРЭЖСКІ



*Іван Іванавіч Падбярэжскі.*




Жыццё даволі часта падкідвае сюжэты, якія і раней былі побач з табою, але па нейкіх прычынах да канца не ўяўляліся, магчыма, не ўражвалі, не чаплялі за жывое. Ведаючы Івана Іванавіча Падбярэжскага яшчэ са школьнай пары (сярэдзіна 1970 — пачатак 1980-х), я мала задумваўся пра лёс гэтага сапраўды неардынарнага, таленавітага чалавека. Жыў сабе ён побач і жыў, сутыкаліся мы з ім у школе і сутыкаліся, што з таго… У школьныя гады я ведаў Івана Іванавіча як лабаранта ў кабінеце фізікі. Заўсёды ў акуратным халаце, ён дапамагаў настаўніку і вучням праводзіць лабараторныя заняткі. Вось і ўсе, прызнацца, ўражанні. Але неяк, калі гутарыў з настаўнікам Львом Іванавічам Пілатовічам, збіраючыся напісаць пра яго артыкул для раённай газеты, пачуў ад яго шмат добрых слоў пра Падбярэжскага. Ды ўжо не хапіла часу прыглядацца да чалавека, знаёмствам з якім сапраўды можна было б ганарыцца. Закончыўшы школу, я выправіўся ў розныя вандроўкі па блізкім і далёкім свеце. Ды ўяўленне пра Івана Іванавіча, канешне ж, склалася. Як пра чалавека, цікаўнага да літаратуры і музыкі, гарманіста і арганізатара мастацкай самадзейнасці ў настаўніцкім асяродку.

Прайшлі гады. Я працаваў у «Чырвонай змене». Гэта ўжо пасля жніўня 1998-га. Выдаў да гэтага часу кніжачкай невялікі нарыс пра родную вёску Зацітава Слабада, а праз год — кнігу «Літаратурная карта Пухаўшчыны». Сустрэч з Іванам Іванавічам было некалькі. Адна з іх, здаецца, у дзясятай бальніцы. Падбярэжскі губляў зрок. І ўжо мала

***Пухавіцкі раён. Вёска Пухавічы. Вядомасць мае з XVI стагоддзя. Была цэнтрам воласці ў Ігуменскім павеце. У 1924—1925 гг. — цэнтр Пухавіцкага раёна. З Пухавічамі звязаны лёс пісьменнікаў Уладзіміра Ляўданскага, Алеся Пальчэўскага, Вольгі Савасцюк. У 2014 г. Пухавіцкай СШ перададзена бібліятэка кніг беларускіх пісьменнікаў з аўтографамі ў колькасці болей 60 асобнікаў. Літаратурнай творчасцю займаліся ў 1960—1980-я гг. настаўнікі Пухавіцкай СШ Васіль Лапка, Леў Пілатовіч, Ала Ралькевіч.***



*Шырокая пухавіцкая вуліца.*

што дапамагала спыніць гэтую хваробу. Мы яшчэ некалькі разоў перазвоньваліся. Па просьбе Івана Іванавіча я цікавіўся ў рэдакцыі часопіса «Маладосць» лёсам з яго рамана «Закляты востраў». Урывак яго ўдалося надрукаваць у газеце «Чырвоная змена». А ў кніжачку «Літаратурная карта Пухаўшчыны» я ўставіў абзац і пра Івана Іванавіча: «У мястэчку і зараз жыве былы работнік школы, а пасля — рабочы Пухавіцкай ПМК-70 меліярацыі Іван Іванавіч Падбярэжскі, паэт, байкапісец, аўтар музыкі і слоў многіх песень, рамана пра жыццё меліяратараў. На вялікі жаль, пакручасты жыццёвы лёс не дазволіў Івану Іванавічу актыўна друкавацца, пазбавіў шанца займець аднудзве-тры, а то і болей кніг. Але ж не ўсё яшчэ страчана. Мо Іван Падбярэжскі атрымае шырокую ўвагу чытачоў пры жыцці. Будзем спадзявацца».

Паспеў даслаць гэтую невялікую кніжачку Івану Іванавічу. Праз некалькі гадоў завяршыўся яго зямны лёс, так і не спраўдзіліся спадзяванні на публікацыі... Пасля смерці пісьменніка час ад часу яго пачалі згадваць на радзіме, у вёсцы Пухавічы і Пухавіцкім раёне. Найперш — дзякуючы намаганням загадчыцы Пухавіцкай сельскай бібліятэкі. У Мар’інай Горцы выдалі і біябібліяграфічны паказальнік. Такая ўвага да мясцовых літаратараў стала ў Пухавіцкім раёне добрай традыцыяй. Дырэктар раённай бібліятэкі Ганна Лабастава са сваімі памагатымі не забываецца ні на адзін юбілей, імкнецца арганізаваць шырокую літаратурна-краязнаўчую работу.

Па вялікім рахунку, можна было б выдаць і кнігу мастацкіх твораў Івана Падбярэжскага, куды варта было б уключыць яго раман, паэтычныя творы, пераклады з нямецкай паэзіі, публіцыстычныя матэрыялы. А што падставы на тое ёсць, сумнявацца не даводзіцца. Пераканаўся я ў гэтым, сустрэўшыся з дачкою і зяцем Івана Іванавіча — Тамарай і Уладзімірам, якія вельмі беражліва захоўваюць архіў блізкага ім чалавека. Разам з дачкою і зяцем у пухавіцкім доме нумар 57 па вуліцы Фрунзэ і разбіраем папкі, рупліва складзеныя, падпісаныя самім пісьменнікам.

— Бацькоўскі дом тут недалёка — нумар 20, — расказвае Тамара Іванаўна. — Нам жа гэтая хата дасталася ў спадчыну ад родзічаў. А ў татавым доме жывуць іншыя людзі… Усе паперы, як памяць пра бацьку, мы перанеслі да сябе.

Зяць Уладзімір уключае магнітафон — і мы слухаем песню пра настаўнікаў, словы і музыку да якой напісаў Івана Іванавіч. Пакуль слых настройваецца на знаёмства з цёплым, жартаўлівым і разам з тым, мусіць, крышачку мінорным тэкстам, Уладзімір тлумачыць, што спявае мясцовы настаўнік Уладзімір Каханоўскі. Раней ён працаваў у Пухавіцкай школе. Цяпер выкладае гісторыю ў Чырванакастрычніцкай базавай школе. Уладзімір мне расказваў пра рукапісную спадчыну Падбярэжскага, пра яго пухавіцкую паэму. Не паспяваю запытацца пра гэты тэкст, які, відаць, павінен утрымліваць шмат рэгіянальнай, краязнаўчай інфармацыі, як на вочы трапляецца папка з «Развітальнай паэмай». Так Іван Іванавіч назваў паэтычны твор, аб’ём якога складаюць 64 машынапісныя старонкі. Усяго ў паэме — 7 раздзелаў: «Пухавічы», «Катастрофа», «Трагедыя», «Вайна», «Выхаванне», «Людзі», «Развітанне». Тэматычную прастору твора вызначаюць самі назвы. «Пухавічы» — знаёмства з вёскай ці старажытным мястэчкам. «Катастрофа» — сацыяльныя пераўтварэнні пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. «Трагедыя» — балючы расповед пра пачатак Вялікай Айчыннай і знішчэнне яўрэяў паблі-

зу Пухавіч. «Вайна» — будзённае жыццё местачкоўцаў у палымяныя гады, матывы тых ці іншых паводзін простых людзей. «Выхаванне» — вельмі цікавы па задуме раздзел, у ім выяўляецца жаданне расказаць пра тое, якой свядомасцю кіраваліся землякі ў памкненнях да ўладкавання сваіх лёсаў. Апошняя частка раздзела — пра пухавіцкіх настаўнікаў. Шосты раздзел — «Людзі». І. Падбярэжскі згадвае самых розных пухавічан. Як галоўны лейтматыў гучаць наступныя радкі: «Яшчэ паспею, можа, трапных / Сказаць хоць колькі добрых слоў / Пра землякоў сваіх выдатных, / Пра сваякоў і пра сяброў». Нельга без хвалявання чытаць раздзел «Развітанне»… Развітваючыся з жыццём, аўтар выказвае самую сваю глыбінную шчырасць, праўдзіва гаворыць пра час і пра сябе ў часе. Магчыма, кампазіцыйна твор носіць характар расхрыстаны, раздзелы зніітаваны паміж сабой хіба што тэмай. З-за гэтага ў мастацкім плане паэма прайграе, нагадвае хутчэй вершаказ пра тое, што пражыў і што ведаў з жыцця сваіх землякоў таленавіты чалавек, сучаснік многіх пераломных, вартых мастацкага асэнсавання падзей. І ўсё ж «Развітальная паэма» уражвае, бярэ за душу. А ці не гэта павінна быць адной з галоўных праяў літаратуры?..

А што да рэгіянальнай інфармацыі, то твор з'яўляецца ўнікальнай мастацкай крыніцай краязнаўчага характару. «У міжрэччы Цітаўкі і Свіслачы, / Праўда, Цітаўка — зусім малая рэчка, / Свой узрост стагоддзямі лічачы, / Разляглося слыннае мястэчка», — так пачынаецца паэма. Ужо з першай старонкі мы даведваемся пра тое, што паселішча «мела з дзесяць вуліц, хоць і вузкіх, / Да таго ж нямала і завулкаў». Праз мястэчка ішла дарога з Мінска на Бабруйск. Меўся паром праз Свіслач. Цэнтральная вуліца, якая ішла з губернскага горада, брукавалася каменнем. Яшчэ ў 1970-я каменне ляжала на вуліцы Кастрычніцкай, якая цяпер ужо заасфальтавана. А дарога цэнтральная ішла па вуліцы Савецкай. Значыць, мяркуючы па змесце паэмы, раней цэнтральны шлях, які выводзіў да Свіслачы з паромам, праходзіў па цяперашняй Кастрычніцкай.

Важная тапанімічная акалічнасць дакументуецца вершаваным радком: «Спрадвеку звалася Пуховічы, / Ды нібы з намёкам на абразу, / Чужакі, усё на лад свой ломячы, / Пухавічы месту далі назву». І далей: «І пайшло — у паперах і ў газетах — / Пухаўшчына, людзі — пухаўчане…»

Іван Падбярэжскі, трымаючы перад вачыма з дзіцячай памяці 1920-я гады, гаворыць пра перыяд НЭПа як пра самы лепшы час для сяляніна. «Працавалі людзі без прынукі, / Бо народ наш працавіты, дбайны, / Калі ёсць к чаму прыкласці рукі. / І дзяржава хутка багацела, / На рубель каштоўны банк узбіўся, / Срэбныя рублі пайшлі ў дзела / І чырвонец залаты з'явіўся. / Магазінаў і ларкоў нямала / Ў мястэчку скрозь наадчыняліі…» Асобна апісвае аўтар местачковыя кірмашы, якія, праўда, з даўніх часоў ладзіліся ў Пухавічах — «На Пятра і Паўла ды Міколу, /Але вось пры НЭПе расквітнелі…»

Але ж нядоўга сялянам давялося пасмакаваць добрага жыцця. І ў «Катастрофе» ўжо апісваюцца няпростыя для землякоў гады. Вось тут якраз і згадваюцца многія прозвішчы. І мясцовага праваслаўнага святара Перапечына: «У царкве ён кожным часам / Бэсціць голасна калгасы, / да чаго той лад даставіць, / Ён камуны ў прыклад ставіць. / Раіць да канца стаяць, / А зямлю не аддаваць…» Пратаіерэй Георгій Перапечын за сваю шчырую пазіцыю, за яе агучванне на службах у царкве быў арыштаваны і пасля прысудам ад 2 красавіка 1933 года расстраляны. Дарэчы, тым жа прысудам жыцця былі пазбаўлены яшчэ дзясяткі святароў Мінскай епархіі. А зачыненыя храмы ператвараліся ў канюшні, амбары, склады. Пухавіцкая праваслаўная царква была пераабсталявана ў клуб. Абвінавачванні ж у дачыненні да Геор-



*Старая паштоўка з выявай Пухавіч.*



*Дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч вельмі ўважлівы да літаратурнай гісторыі края.*

гія Васільевіча былі вылучаны па артыкулах 64, 72, 76 Крымінальнага Кодэкса БССР — як да члена контррэвалюцыйнай арганізацыі «Партыя вызвалення сялян», найперш за антысавецкую агітацыю. Рэабілітавалі пухавіцкага святара 5 лістапада 1956 года.

І. Падбярэжскі згадвае з тых 1930-х і наступных жыхароў мястэчка: хірурга Шышэя, фельчара Гельмана, завуча Сіняка, селяніна Татура… «За такімі цікавалі / Нейк ноччу ўсіх забралі, / Пастралялі вінаватых, / Мабыць, недзе ў Курапатах…» І яшчэ называе ў «Развітальнай паэме» імёны рэпрэсіраваных землякоў: Свірыдовіча Паўла, Сухадольскага Івана, Вераскоўскага Максіма, Какуру Міколу, Салаўянчыка Максіма… На сайце Пухавіцкага райвыканкама ёсць добрая гістарычная даведка пра першыя крокі медыцыны ў Пухавіцкім краі. Згадваецца і тое, што ў 1918 годзе ў шпіталь быў прызначаны кваліфікаваны лекар Шышэй Канстанцін Цімафеевіч (1888—1933), які працаваў да 1932 года. «Чалавек быў адмысловы, / Да сялян заўжды з парадай, / Ды не ладзіў штось з уладай, / Доктарам выдатным быў, / А падману не любіў…» Вось дзе толькі ён падзеўся пасля… Проста згубіўся ў часе альбо ў 40 «з хвосцікам» падаўся на пенсію? На справе ж усё было вось як. Загадчыка шпіталя ў мястэчку Пухавічы арыштавалі 7 лютага 1933 года. Прыблізна ў адзін час са святаром Перапечыным. 2 красавіка 1933-га Канстанціна Цімафеевіча тройкай НКВД асудзілі за «антысавецкую агітацыю». Па адной справе з лекарам праходзіла 115 чалавек. І Перапечын — таксама… А што да фельчара, то Льва-Рафаіла Эмануілавіча Гельмана (1898—1938) арыштавалі ў лютым 1938-га. Асудзілі 26 мая 1938-га пастановай НКВД і пракурора СССР за «шпіянаж на карысць польскай разведкі» — да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітавалі пухавіцкага фельчара 16 красавіка 1964 года.

Асабліва хвалюючымі ўражаннямі напаўняешся, чытаючы раздзел «Трагедыя» — пра тое, як фашысцкія карнікі знішчалі яўрэйскае насельніцтва. З павагай піша І. Падбярэжскі пра добрасуседства беларусаў з яўрэямі. «А яўрэі мо стагоддзі / Тут, на гэтай вось зямлі, / З намі ў ладзе , у добрай згодзе / Нібы родныя жылі…» Механік Есель, старшыня сельсавета Кагановіч Бэрка, дарожнікі Нохум і яго брат Лейба (каменем масцілі дарогі)… Пісьменнік расказвае пра тое, як немцы адгарадзілі за вёскай гета, згадвае першы расстрэл — «Днём, калі прыйшлі бандыты, /Кроках, мабыць у сямі / Ад шашы, былі забіты / Тры яўрэйскія сям'і». І далей апісвае той чорны дзень, калі ў зласвесным лесе на страшнай Паповай Горцы расстралялі сотні яўрэяў з Пухавіч. Нібы жывыя, сведчыць І. Падбярэжскі, паўстаюць перад вачыма яго школьныя сябры — Гіршык Пеця, Арон Слабадзёр, Даня Гарэлік, Мацвей Пінхасік, Хаім Сухман, Дора Фрыд, Клара Гелер, Берта Вайман, Хана Левіна…

Прыйдзе час — і ў цэнтры мястэчка пабудуюць помнік ахвярам Вялікай Айчыннай вайны, землякам, якія загінулі ў партызанах альбо на фронце. Прозвішчы жыхароў яўрэйскай нацыянальнасці там проста абыйдуць увагай. І пра гэта скажа ў «Развітальнай паэме» Іван Падбярэжскі….

Не пераказваю далей змест шырокага эпічнага твора пухавіцкага літаратара. Усё

ж спадзяюся, што гэтымі маімі цытаваннямі жыццё тэкста не завершыцца, а знойдзецца яшчэ нехта руплівы (мо і са спадчыннікаў Івана Іванавіча), хто падрыхтуе і выдасць кнігу Івана Падбярэжскага.

Разам з роднымі літаратара пераглядаем далей архіў… Асобную яго частку складае некалькі агульных сшыткаў ці нават альбомаў з наклеенымі выразкамі. Спачатку я крыху скептычна аглядаю гэтую частку хатняга збора. Маўляў, што толькі ў ранейшыя дзесяцігоддзі не выразалі з газет і часопісаў. Сам некалі пераплятаў цалкам «перабудовачныя» нумары часопіса «Огонёк». І ўжо болей як два дзесяцігоддзі трымаю іх у вясковай частцы ўласнага кнігазбору. А адна знаёмая расказала, што яе бацька дзесяцігоддзямі збіраў камплекты «Вожыка». Іван Іванавіч выразаў анекдоты, афарызмы, рознажанравыя гумарыстычныя публікацыі. І, што характэрна, класіфікаваў выразкі па тэмах. У характары Падбярэжскага аснову складаў педагог, інтэлігентны чалавек, які, несумненна, верыў у сілу слова. Таму і піша ён у лістападзе 1993-га нататку «Ад складальніка» і звяртаецца з ёю ў выдавецтва «Мастацкая літаратура»: «Няма сярод людзей такіх простых, прымітыўных і адначасова складаных, часта невырашальна-заблытаных адносін, як паміж мужам і жонкай. Так было заўсёды, ва ўсіх народаў. Спецыфіка сучаснасці не змяніла сутнасці праблем гэтых адносін. Трагедыя, камізм і парадаксальнасць сямейнага жыцця часта вельмі дакладна і трапна выказана ў шматлікіх анекдотах на гэтую тэму. Бывае, два-тры радкі гэтага народнага твора даюць параду альбо адказ на праблему, якую ў сям'і, здараецца, немагчыма вырашыць. У гэтай кніжцы звыш паўтысячы лепшых, выбраных з многіх тысяч, анекдотаў. Думаецца, што яны хоць у нейкай меры адлюстроўваюць сапраўдныя адносіны паміж мужам і жонкай у розныя часы ў розных народаў…» Заяўка так і засталася заяўкай. І ўжо праз год — 4 снежня 1994-га — Іван Іванавіч піша ў рэдакцыю: «Паважаныя вожыкаўцы! За сваё кароткае жыццё (усяго 70 гадоў) я назбіраў крыху анекдотаў. Цяпер іх у мяне 16 уласнаручна пераплеценых кніжак. Я надумаўся размеркаваць іх па тэмах (пра паляўнічых, вайскоўцаў, дурняў, п'яніц і г. д.) і прапанаваць у друк. Спачатку выбраў з паўтысячы лепшых пра мужа і жонку, пераклаў усе іх на беларускую мову ды перадаў у выдавецтва "Мастацкая літаратура". Аказалася, што яны з такой дробяззю не займаюцца. Прапанавалі даць ім паўнамерную аповесць або, у крайнім выпадку, раман. Я з цяжкасцю рухаюся нават па хаце, бегаць на сваіх хворых нагах па розных выдавецтвах не магу. Дарую вам гэты зборнік "безвозмездно" (па-нашаму гэта будзе, як быццам, бязвыплатна). Вы ж змяшчаеце ў часопісе падборкі анекдотаў. Вось і карыстайцеся імі на здароўе. Заадно дасылаю сваё новае апавяданне "Цікавае пра вайну"…»

Такі лёс у аднаго з важкіх, з пункта гледжання пухавіцкага аматара прыгожага пісьменства, клопату. Справа выдавецтва — самому прымаць рашэнні… Адно заўважу. Ва Украіне ці не год-два назад пабачыла свет падрыхтаваная Рыгорам Кананенкам анталогія анекдотаў, здаецца, у пяці ці шасці тамах. Асобны том — якраз пра мужа і жонку.

Гумар, сатыра — паўсядзённыя спадарожнікі жыцця Івана Іванавіча. Ён і як літаратар найболей рэалізаваўся ў гэтым накірунку. У 1963 годзе ў «Бібліятэцы часопіса «Вожык» пабачыла свет кніга Юрыя Лялікава і Івана Падбярэжскага «Звычайны дзед». Кожны аўтар быў прадстаўлены чатырма апавяданнямі. Назву кнізе даў твор з даборкі Падбярэжскага. Яшчэ былі змешчаны апавяданні Івана Іванавіча «Нячыстая сіла», «Кнігі, жонка і я», «Выйгрыш». Што цікава, на наступны год у «Бібліятэцы…» пабачылі свет кнігі адразу двух землякоў — пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў Пухавіцкім раёне: «Амурскія карасі» Макара Паслядовіча і «Лайдак і кнопкі» Генадзя Кляўко. Сённяшняе прачытанне «вожыкаўскіх» апавяданняў пераконвае: Іван Падбярэжскі быў уважлівым у назіраннях за жыццём вяскоўцаў, жыхароў мястэчка, сваіх суседзяў. І прозвішчы ў герояў — пухавіцкія ў большасці сваёй: Баешка, Качура, Рылік… Праўда, поруч з імі ў творах дзейнічалі і Віцік Пачухонец, і Яўхім Наўздагад… Іван Іванавіч, валодаючы ад прыроды пачуццём гумару, стараўся камічнае, смешнае вылучаць з жыцця і ўзводзіць у ранг важкіх мастацкіх катэгорый, вобраза, сімвалаў. І ў асноўным гэта яму ўдавалася.



*У вёсцы Блонь, зусім паблізу ад Пухавіч, была сапраўдная літаратурная Мекка. Пакой сядзібнага дома Анатоля Бонч-Асмалоўскага, да якога прыязджалі і Леся Украінка, і Рыгор Мачтэт, і Яўген Чырыкаў.*

Хаця і часу столькі прайшло пасля нараджэння многіх твораў, чытаюцца яны цікава, трымаюць увагу. Праўда, калі меркаваць па бібліяграфіі, то не ўсе перыяды ў творчым жыцці пухавіцкага сатырыка аднолькава ўдалыя. Былі і перапынкі, калі апавяданні падоўгу ляжалі без руху. Асобнай папкай у архіве пісьменніка вылучаны лісты з рэдакцый. У большасці сваёй — з «Вожыка»: ад Нэлі Тулупавай, Івана Стадольніка. З часопіса «Беларусь» — ад Хрысціны Лялько. З «Мінскай праўды» — ад Міхася Пянкрата. Як правіла, вельмі лаканічныя, дзелавыя лісты…

Перагортваючы пажоўклыя старонкі іншых твораў (напрыклад, нарыса «Першая мотамылічная» — ён друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва»), бачыш, колькі ў іх камічнага. Нават у тых тэкстах, якія з'яўляюцца адлюстраваннем драматычных і часам трагічных падзей.

Сярод іншых рукапісаў вылучаецца маленькая аповесць «Роднасная душа». «Гэтак празваў нашага суседа Сымона Канавальчыка старшыня сельсавета Міхаіл Сысаў. Нярэдка на Сымона ў сельсавет даходзілі скаргі, але Сысаў на іх не звяртаў увагі.

— Гэта сапраўдны наш чалавек, роднасная душа! Паходзіць з самай беднай сям'і, гадаваўся ў чужых людзей, не мае ўласніцкага характару, будзе сапраўдны будаўнік новага жыцця…»

Нічога складанага ў пабудове гэтай аповесці няма. Ідзе расповед пра тое, як чалавек, пазбаўлены прынцыпаў элементарнай маралі, выбудаваў сваё жыццё сквапніка, злодзея і бандыта. Эпізоды, з якіх складаецца твор, нанізаны на галоўны стрыжань. Ім з'яўляецца пазіцыя аўтара. Яна не выпячваецца, не носіць характар пустой дыдактыкі ці псеўдапедагогікі. Не, аўтар спакойна і разважліва, асобнымі слоўцамі, фразамі-штрыхамі падштурхоўвае чытача да ўзважлівых ацэнак паводзін Сымона Канавальчыка. А напрыканцы расказвае, як завершыўся яго зямны лёс. Ды і які гэта лёс?! У восемдзесят пяць гадоў Сымона забіраюць у турму пасля таго, як забіў уласнага сына — ноччу, сякерай!.. І ў турме старога Сымона проста задушылі падушкай: «…у зэкаў свая расправа для тых, хто забівае сваіх бацькоў або дзяцей».

Галоўным творам свайго жыцця Іван Іванавіч, відавочна, лічыў раман «Заклятыя востраў». На жаль, не ведаю, ці рабіў ён спробы прапанаваць яго ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Але вось у «Маладосці» твор гэты чыталі. Вядома ж, памер — не для часопіснай публікацыі. На крайні выпадак — не для публікацыі ў «Маладосці»… А тэмай сваёй, як нішто іншае, раман, несумненна, падыходзіць для часопіса, адрасаванага маладому чытачу. Вось якой аўтарскай анатацыяй суправаджаецца рукапіс: «…гэта твор прыгодніцкага жанру, якіх не гэтак і шмат у беларускай мастацкай літаратуры. Разам з тым падзеі і абставіны адлюстраваны ў рамане праўдзіва і рэальна.

Галоўная тэма рамана — прыгоды невялікай кампаніі школьнікаў-васьмікласнікаў, кінутых на волю лёсу дзяржавай пад уладу аку-

пантаў у першыя дні вайны. Яны, пад кіраўніцтвам крыху старэйшага і больш практычнага аднакласніка, самі шукаюць выхад з драматычнага становішча. Змагаюцца з нямецкімі дэсантнікамі, пасля знаходзяць прытулак на лясным возеры. Востраў, на якім спыняюцца ўцекачы, у старажытнасці таксама быў месцам барацьбы з захопнікамі. Водгулле тых далёкіх падзей дасягае і нашых герояў. Не ўсе яны перажывуць цяжкія часы вайны.

Раман, як і павінна быць, шматпланавы. Праўдзіва адлюстраваны гераічныя і трагічныя моманты адступлення Чырвонай арміі ў пачатку вайны, станаўленне акупацыйнага рэжыму на Беларусі, трагедыя яўрэйскага народа. Вобразна паказана высакародства і подласць асобных людзей, учынкі і памылкі незагартаваных маладых характараў, чыстае і моцнае пачуццё першага кахання.

Праўдзівае, непрадузятае апісанне падзей тых далёкіх і жорсткіх часоў дапаможа маладым і старэйшым чытачам зразумець прычыны і характар учынкаў людзей у той сітуацыі. Усё тады было не так адназначна і проста, як падаецца ў многіх творах і мемуарах савецкіх часоў…»

Ужо знаёмства з анатацыяй тлумачыць, чаму раман у ранейшыя, больш спрыяльныя для публікацыі гады, не прапаноўваўся аўтарам у друк. Відаць, чарнавы тэкст рамана (ці асноўная яго частка) усё ж такі быў завершаны недзе да сярэдзіны 1980-х. Магчыма, больш інтэнсіўна Іван Іванавіч працаваў над творам, калі пайшоў на пенсію. Як інвалід Вялікай Айчыннай вайны, ён меў на яе права ў 55 гадоў.

Першая частка рамана — «Дом у засені лістоўніц». Так характарызуецца будынак школы, у якім напаткалі старшакласнікі сваё першае выпрабаванне, сутыкнуўшыся з нямецкімі дэсантнікамі. Хлопцы вядуць сябе, як сапраўдныя героі. Не раздумваючы, заступаюцца за дзяўчыну Раю, якая аказалася выпадкова ў іх асяродку. Смела кідаюцца на варожых салдат. І перамагаюць. Далей падзеі разварочваюцца драматычна. Падлеткі вымушаны хавацца ў лесе. Фашысты, карыстаючыся падтрымкай мясцовага зброду і панскага спадчынніка, які прыехаў з немцамі перакладчыкам, вылічваюць іх і адпраўляюцца да бацькоў смелых мсціўцаў… Пухавічы ў рамане носяць назву Пясковічы. Рака Свіслач — рака Лоча. Падрабязна апісваюцца ваколіцы мястэчка. Ёсць і рэчка Танька. У даведніках яна абазначана як Пухавіцкі канал («… меліярацыйны канал у Пухавіцкім раёне, левы прыток р. Цітаўка (бас. Дняпра). Даўжыня 5,3 км. Пачынаецца за 1 км на паўднёвы захад ад вёскі Зацішша, упадае ў Цітаўку каля вёскі Пухавічы…»). А за гэтым каналам, як высвятляецца, цёплы і, магчыма, з пэўным знакам гідронім — Танька… Ізноў, чытаючы раман, думаеш пра прывязанасць пісьменніка да роднай старонкі, пра яго надзвычай уважлівае стаўленне да вобразаў і сімвалаў роднай мясцовасці.

Архіў Івана Іванавіча Падбярэжскага багаты на паэтычныя рукапісы. Чытаючы некаторыя тэксты, думаеш, што яны пісаліся з разлікам, што павінны стаць песнямі. Захопленасць аўтара музыкай, песеннымі народнымі скарбамі, ды і адпаведная адукацыя (пісьменнік завочна закончыў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча) — вось аснова такой скіраванасці.

Некалькі слоў пра чалавека, які шмат у чым дапамог фарміраванню, развіццю творчых зацікаўленняў Падбярэжскага. Пачынаючы яшчэ з сярэдзіны 1940-х гг. побач з Іванам Іванавічам была яго «другая палова» — жонка Марыя Ігнатаўна. Памятаю гэтую сціплую, спакойную жанчыну як загадчыцу кнігарні ў вёсцы Пухавічы ў 1970-х — пачатку 1980-х. Творчая праца заўсёды патрабуе паразумення з боку родных. Асабліва няпроста прыйшлося Івану Іванавічу, калі ён страціў зрок. Тады Марыя Ігнатаўна і машыністкай была, бо па-ранейшаму свядомасць пісьменніка турбавалі сюжэты, ім кіравала жаданне яшчэ нешта сказаць, давесці да свайго сучасніка. Творчы архіў літаратара сведчыць, што ён імкнуўся працаваць да апошняга свайго дня.

Сёння цяжка нешта загадваць у дачыненні да выдавецкіх планаў. Даволі складанай уяўляецца любая дарога да друкаванай кнігі. І ўсё ж назапашанае і не страчанае з творчых вышукаў Івана Падбярэжскага трэба захаваць. Мо першым крокам павінна стаць перадача яго архіва ў фонды Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея?..

***Фота Наталлі АСМОЛЫ***

Рубрыка гістфакаў краіны

Эдвард Тамаш МАСАЛЬСКІ

# З УСПАМІНАЎ (1799—1824)*

## VI

Усе ведалі, што ў Вільні існавала наша таварыства і адкрытае, і таемнае, і што яно мела на мэце адраджэнне нацыі. Заставалася толькі крыху абвастрыць фармулёўкі, і з таго адраджэння нацыі вынікаў намер падрыхтоўкі паўстання супраць урада. Аднак і тое было вядома, што філарэты сваё таварыства ў адпаведнасці з урадавым загадам скасавалі, таму патрэбна было давесці, што нашы задумы і дух, варожы ўраду, пануе ў выхаванні моладзі; для доказу таго магла прыдацца найменшая нагода. Навасільцаў даў сваім агентам таемны загад, каб даносілі пра самы мізэрны выбрык моладзі. Чакаць яму давялося нядоўга.

У чацвёртым класе віленскай гімназіі нейкі смаркач, здаецца Плятэр[1], калі адзін выкладчык выйшаў і пакуль прыйшоў другі, з пустога свавольніцтва накрэмзаў на дошцы крэйдай: «Віват Канстанцыя». Другі, здаецца, Чэховіч, паправіў: «Віват Канстытуцыя»; трэці дадаў клічнік, чацвёрты яшчэ нешта дапісаў; тут увайшоў настаўнік рускай мовы Астроўскі. Убачыўшы гурт каля дошкі і той надпіс, ён спытаў, хто тое напісаў. І адразу пайшоў да генерал-губернатара Корсакава[2] з даносам, што ў школе бунт. Бунтаўшчыкі напісалі тое і тое, увесь клас ім пляскаў, а класны цэнзар нічога пра тое не сказаў. Корсакаў тэрмінова кур'ерам, нібыта справа мела дачыненне да лёсу манархіі, той данос пераслаў Вялікаму князю Канстанціну. Навасільцаў, прадстаўляючы дэпешу, не пашкадаваў фарбаў у выяўленні, як яны выславіліся. Вялікі князь, у сваю чаргу, таксама праз адмысловага кур'ера даслаў загад: неадкладна арыштаваць увесь чацвёрты клас, каб з імі ніхто не меў ніякіх кантактаў; рэктара Віленскага ўніверсітэта і цэнзара чацвёртага класа зняволіць на казіміраўскай гаўптвахце, загадаўшы, адпаведна іх чыну, даць абодвум па пяць пакояў. І так усіх трымаць пакуль не прыедзе Навасільцаў на следства і не вырашыць далейшы іх лёс. Вільню ахапіла жудасць, бо ўсе былі ўпэўнены, што з таго дзіцячага свавольніцтва будуць сумныя наступствы. Аднак і смеху хапала разам праз тое, што Вялікі князь смаркача, часовага дзяжурнага па класе, якога на старасвецкі манер называлі цэнзарам, палічыў, відаць, за цэнзурнага чыноўніка, што мае генеральскі або чацвёртага класа чын.

Праз некалькі дзён пасля зняволення гэтых злачынцаў, толькі я выправіў дадому Караля, як да мяне забеглі калегі з навіной, што майго Юзафа арыштавалі і павезлі ў Варшаву. За што? Ніхто не ведаў. Апавядалі толькі, што ён быў у кавярні, дзе граў у більярд і смяяўся з памылкі Вялікага князя наконт цэнзара і арышту дзяцей, а напрыканцы сказаў: «О, калі б я мог бачыць Вялікага князя, то сказаў бы яму, каго сапраўды варта пасадзіць у вязніцу!»

Меў на ўвазе прайдзісвета Астроўскага, як мне сам потым тлумачыў; усё гэтае балабонства ў кавярні было звыклай з'явай сярод віленскіх студэнтаў, вядомых сваім легкадумствам. Аднак, калі ён збіраўся ўжо выходзіць, у дзвярах з'явіўся паліцмайстар[3] Шлыкаў і, спытаўшы, хто з прысутных Юзаф

* *Заканчэнне. Пачатак у № 6, 7, 8, 2014 г.*

[1] Плятэр Міхал — граф, вучыўся ў 1823 годзе ў Віленскай гімназіі.

[2] Рымскі-Корсакаў Аляксандр Міхайлавіч (1753—1840) — рускі военачальнік, у 1806—1809 і 1812—1830 гадах літоўскі генерал-губернатар.

[3] Паліцмайстар — у Расійскай імперыі начальнік паліцыі ва ўсіх губернскіх і буйных гарадах.

Масальскі, загадаў яму садзіцца ў свае дрожкі, а потым павёз да Корсакава. Праз палову гадзіны яго павезлі адтуль у Варшаву. Мінуў тыдзень, яго прывезлі назад і таксама пасадзілі на гаўптвахту побач з цэнзарам чацвёртага класа.

Я непакоіўся за брата і адразу па яго вяртанні паехаў на гаўптвахту прасіць дазволу сустрэцца з ім. Афіцэр на варце не меў права самастойна дазволіць гэта, але, калі даведаўся ў дзяжурнага капітана, што няма загаду не пускаць да зняволенага, дазволіў і сам праводзіў мяне да брата. Тут я даведаўся, што Корсакаў пытаўся ў яго, што ён хацеў данесці Вялікаму князю, як тое казаў у кавярні. Юзаф адказаў, што нічога не збіраўся даносіць, а толькі пажартаваў крыху. «Няпраўда, мусіш нешта ведаць, прызнавайся». Юзаф, мусіць, каб ад яго адчапіліся, і адказаў: «Калі б меўся данесці нешта Вялікаму князю, то паведаміў бы толькі яму, а не губернатару». «Калі так, павязём цябе да Вялікага князя». І загадаў напісаць рапарт, падаць паштовых коней і з часным приставам[1], Машынскім, справадзіў яго да Варшавы.

Машынскі завёз яго да генерала Куруты[2], які, распытаўшы Юзафа, загадаў яму затрымацца ў сябе, а сам паехаў да Вялікага князя. Пасля вяртання яшчэ два дні пастаянна ў яго выпытваў пра ўсё жыццё, пра віленскія кантакты, пра знаёмых, іншымі словамі, разнастайныя падрабязнасці, ставячыся да яго прыстойна. Пераканаўся на падставе шчырых аповедаў Юзафа, што за ім нічога таемнага не стаіць, ацаніў відавочна яго розум і досціп, бо сказаў: «Я веру, што ты нічога не ведаеш такога, што б мог данесці, і што толькі праз нелюбоў да Астроўскага такім капылам вырваліся ў цябе тыя словы. Аднак Вялікаму князю гэта будзе цяжка растлумачыць. Таму мушу адвезці цябе да яго». І адразу павёз у Бельведэр[3]. Там, пакінуўшы ў зале, зайшоў у кабінет да Вялікага князя, дзе, відаць, дакладваў пра яго. Праз хвіліну з пазалочанай цыгарай у зубах хуткімі крокамі выйшаў Вялікі князь і, наблізіўшыся да Юзафа так, што амаль датыкаўся да яго грудзямі, як гаркне: «Говори!» Юзаф, убачыўшы такую анекдатычную фігуру перад сабой, усміхнуўся. Князь адскочыў ад яго і крычыць: «Щенок! Щенок! В солдаты, скотина!», — і вярнуўся ў кабінет. Курута выбег на першы выкрык Вялікага князя ў залу, убачыў, што адбываецца, і холадна звярнуўся да Юзафа: «Прошу за мной», завёз да сябе. Там з дакорам пачаў яму выгаворваць за недазваляльныя паводзіны з князем. «Сказаў адаслаць цябе ў Вільню і трымаць там пад арыштам да прыбыцця Навасільцава, які туды едзе на следства па справе тых школяроў, а разам і наконт цябе вырашыць; мусіць, будзеш адпраўлены ў войска, але не страчвай надзею, можа і выратуешся», — мовіў Курута. Потым, паабедаўшы разам з Юзафам, выправіў яго з тым жа Машынскім у Вільню.

Прыехаў абяцаны Навасільцаў і пачаў нібыта дазнанне перад следствам; аднак насамрэч ён выдатна разумеў, што ўсё гэта дзяцінства і там няма чаго дазнавацца, але яму было патрэбна інтрыгаваць супраць Чартарыйскага. Як тая інтрыга скончылася б, невядома, магчыма ўся гэтая справа з дзецьмі, з філарэтамі не працягвалася б так доўга і з такім уціскам, калі б яго не паланілі ў Вільні прыгожыя вочы пані Зубавай, якая абрала Навасільцава сваім апекуном і ўблытала яго ў свае сеці для дапамогі ў справе з сям'ёй мужа.

Усё гэта адбывалася напярэдадні святога Яна, тэрмін арэнды памяшкання майго ў доме Гута заканчваўся, выпадала мне або ехаць на вакацыі, або здымаць новае памяшканне. Выехаць я не мог, бо затрымлівалі мяне ў Вільні справы Юзафа, аднак і най-

[1] Часны прыстаў — паліцэйская пасада (да 1867 г.), падначальваўся обер-паліцмайстру, у сваю чаргу кіраваў квартальнымі наглядчыкамі, квартальнымі паручнікамі і гарадавымі.

[2] Курута Дзмітры Дзмітрыевіч (1769—1833) — палкоўнік, ад'ютант Вялікага князя Канстанціна Паўлавіча, герой вайны 1812 года, пасля бітвы пры Красным (снежань 1812) яму быў прысвоены чын генерал-маёра.

[3] Бельведэр — палац у Варшаве на Бельведэрскай алеі. У палацы жыў Вялікі князь Канстанцін Паўлавіч.

маць памяшканне на вялікі тэрмін таксама не збіраўся, бо меркаваў пасля заканчэння той справы выехаць з Вільні.

Так здарылася, што Тамаш Зан, які меў побач у доме Кукевіча знятае на наступны год жытло, выязджаў на вакацыі. Таму дазволіў мне пасяліцца там на час сваёй адсутнасці. Я пераехаў да яго і ледзь крыху ўладкаваўся, як з'явіўся паліцмайстар Шлыкаў і вельмі ветліва папрасіў мяне паказаць мае паперы. Апячатаў іх і забраў, сказаўшы, што гэтага вымагае следства па справе Юзафа. Праз пару дзён мяне выклікалі да Навасільцава. Ён сядзеў на канапе, і я на ўваходзе ветліва яму пакланіўся; аднак з яго боку прывітання не атрымаў і таму не застаўся стаяць ля дзвярэй, а перайшоў бліжэй да канапы і стаў ля акна. Ён хутка на мяне зірнуў і прыняў той мой крок за нахабства, за якое вырашыў мне адплаціць, але тады нічога не заўважыў і пачаў распытваць пра Юзафа і што ён бы мог адкрыць Вялікаму князю. Я расказаў, што думаў сам пра гэта і ведаў з размовы з братам. Ён на тое: «Адкуль ведаеш пра тыя падрабязнасці, калі не быў ні ў той кампаніі ў кавярні, ні ў Корсакава». «Брат мне расказаў». «Калі і дзе?» «У яго камеры». «Хіба быў там?» «Быў». «Хто пусціў?» «Дзяжурны афіцэр дазволіў». «Гэта кепска, гэта вельмі кепска, можаш ісці». «Ці можна забраць мае паперы і ці свабодны я?» «Паперы табе аддадуць, можаш ехаць, куды табе трэба». На гэтым скончыўся прыём, як мне здалося, досыць памяркоўна, але ён паіншаму думаў.

Паперы аддалі цалкам, нічога кампраметуючага ў іх не было, але я не выехаў з Вільні, чакаючы вырашэння справы Юзафа. Нарэшце пасля двух тыдняў мне паведамілі, што ёсць вырак Вялікага князя: выслаць Юзафа жаўнерам у житомірскі полк, які стаяў ва Уладзіміры на Валыні. Назаўтра праводзіў яго за горад, везлі пад вартай, развіталіся мы з любімым братам у слязах.

Яму не было кепска ў палку; як прыбыў, хутка знайшоў спагаду ва ўсіх сваіх начальнікаў; любілі яго там і песцілі; да службы не змушалі. Толькі калі сталі ў лагеры і мусіў быць нейкі агляд з удзелам Вялікага князя альбо інспектараў, павінен быў станавіцца ў шыхт. Рэшта часу праходзіла для Юзафа весела; яго амаль ірвалі адно ў адна-го мясцовае грамадства, а найбольш звычайна шляхта, і яго капітан, і палкоўнік, і іншыя пасля іх камандзіры; ён усюды стаў сваім, заўжды знаходзіўся ў натоўпе прыяцеляў. Так было на працягу сямі год, пасля якіх яму не далі па выслузе афіцэрскі чын, і ён, ужо свабодны, дэмабілізаваўся.

Я тым часам, развітаўшыся з братам, наняў коней і са слугой Сцёпкам выехаў у Менск, пабыўшы пару дзён, выехаў адтуль у Мазалёва. Праз пару тыдняў атрымаў ліст ад пані Храпавіцкай з паведамленнем, што яе брат, Оўбрыл (*Oubril*), уведзены ў ранг пасла ў Іспаніі і прымае мяне на службу чыноўнікам пасольства і я мушу на працягу колькіх тыдняў выехаць у Мадрыд, таму трэба ехаць у Якубава і з ім разам выязджаць. Паехаў таму ў Вільню, каб забраць атэстат з універсітэта.

Мінаючы Наваградак, заехаў да Ігельстромаў і ад іх даведаўся, што нехта, нядаўна праязджаючы з Вільні, паведаміў ім, што адтуль з загадам Вялікага князя высланы квартальны ў Ігуменскае, каб адшукаць мяне і прывезці ў Вільню для зняволення. Тая навіна мяне збянтэжыла, не мог сабе і ўявіць, каб мяне мог спаткаць такі лёс, тым больш, што Навасільцаў пасля прагляду маіх папер сцвярджаў, што я свабодны і магу ехаць, куды захачу. Вырашыў, што не варта хавацца, і калі так мусіць быць, хай хутчэй тое адбудзецца, і, каб пазбегнуць вяртання ў Вільню пад вартай, сам тэрмінова выехаў.

Пасля прыезду ў Вільню даведаўся ад прыяцеляў, што Вялікі князь сапраўды загадаў мяне арыштаваць на шэсць тыдняў за тое нібы, што я бачыўся з братам, калі ён сядзеў у вязніцы. Тут адкрыліся мне вочы, я зразумеў, што гэта помста Навасільцава за тое, што не стаяў у яго ля дзвярэй і размаўляў з такім магнатам без асаблівай цырымоніі, бо з братам я бачыўся з дазволу варты, таму не было тут маёй правіны. Бачыў ужо, што мая кар'ера пры Оўбрыле пахіснулася: ён меўся ў некалькі тыдняў ад даты ліста Храпавіцкай выехаць у Іспанію, а тут ужо мінула два тыдні, і яшчэ шэсць трэба было прасядзець у вязніцы. Аднак, не страціўшы цалкам надзею, хацеў атрымаць на рукі атэстат, каб пасля тэрміна зняволення мог адразу выехаць ці ў Якубава, ці за Оўбрылам наўздагон, калі яго ўжо там не будзе. Рушыў да паліц-

майстра Шлыкава і паведаміў, што пачуў у Наваградку аб росшуках мяне ў Ігуменскім па загадзе Вялікага князя і таму прыбыў сам у Вільню, каб падпарадкавацца рашэнню ўрада, але прашу тры дні для афармлення свайго атэстата, а потым ужо пайду пад арышт. Шлыкаў з разуменнем тое выслухаў і дазволіў мне пабыць нібыта свабодным тры дні ў Вільні, хоць, напэўна, таемная паліцыя сачыла за мной. На другі дзень атрымаў ужо той атэстат і, каб прыспешыць тэрмін майго зняволення, не страціўшы ані адной хвіліны, у той жа дзень з'явіўся да Шлыкава з паведамленнем, што ўжо гатовы да адбывання пакарання. Ён даручыў мяне часнаму прыставу Дэпертэсу, які быў годным чалавекам. Ён завёз мяне спачатку да сябе на абед, а ўжо потым у вязніцу. Уязджаючы пад нізкія скляпенні брамы ў турэмным замку, адчуў такую ж самую жудасць, як у 1812 годзе, калі першы раз пасля французаў убачыў у нас у Белічанах казакоў. Толькі цяпер выразна ўцяміў, чым ёсць дэспатызм. Кінуты, як злачынец, у астрог, паламаная кар'ера, магчыма, на ўсё жыццё, і без суда, без віны, толькі за тое, што з любові да брата наведаў яго ў няшчасці з дазволу ўлады. А колькі нашых суайчыннікаў спазналі такі ці яшчэ стакроць горшы лёс!

Дэпертэс перадаў мяне наглядчыку астрога капітану Панеўскаму, які паводле загада Шлыкава адвёў мяне ў астрог, што стаяў на сярэдзіне двара, каля яго пакоя ў браме, у залу пасяджэнняў турэмнага камітэта. У той зале мелася шмат месца для шпацыру, утульныя лавы, сталы, прылады для пісання і ложак, які там заўжды стаяў; тая зала на працягу ўсіх гадоў кіравання Вялікага князя, мусіць, ніколі не заставалася без пастаяльцаў, такіх жа злачынцаў, як я. Толькі перада мной шэсць тыдняў тут знаходзіўся Марціноўскі[1], рэдактар Dziennika Wileńskiego[2], за нейкі неасцярожны выраз у тым выданні. Панеўскі, мой новы апякун, адразу пасябраваў са мной; відаць, Бог паспрыяў у гэтым для дапамогі нашым братам філарэтам, як тое потым аказалася. З гэтага пункту гледжання і мой арышт быў боскай ласкай, бо я стаў карысным для сваіх калег, і тое варта лічыць за шчаслівы лёс, што мая бліскучая кар'ера з-за таго арышту ляснулася.

Панеўскі паходзіў з Мазырскага павета, тыповы дабрак, не знайшоў шчасця на вайсковай службе, якой трымаўся дзеля сціплай аплаты, гарантуючай беднае жыццё. Пільны на службе, уважлівы, заўжды ў добрым гуморы, жыў на селядцы і сырой капусце, якія заўжды былі ў яго на стале каля пляшкі з гарэлкай, бо і ёй не пагарджаў, хоць і не напіваўся, ветлівы са сваімі наведвальнікамі, прастадушны і, нягледзячы на ўдаваную суровасць, меў чулае сэрца.

Справа вучняў чацвёртага класа гімназіі была скончана яшчэ перад маім прыездам; рэктара Віленскага ўніверсітэта, не знайшоўшы ніводнай яго правіны ў той справе, вызвалілі з-пад арышту; аднак у хуткім часе, можа і не за тое, яго пазбавілі пасады. Шаноўнага цэнзара чацвёртага класа прызналі павінным у недаглядзе, але міласціва палічылі, што тыя дні арышту будуць яму дастатковым пакараннем, і вызвалілі; чатырох злачынцаў, якія пасмелі крэмзаць на дошцы, як заражаных небяспечным для ўрада духам, аддалі ў жаўнеры, паламаўшы ім кар'еру; астатніх шкаляроў, настрашаных і згаладалых, велікадушна выпусцілі з-пад арышту. Кажу велікадушна, бо ў іншых школах неўзабаве нават дзеці, якія не вучыліся ў адным класе з абвінавачанымі, і не маглі іх ведаць, зазналі значна больш жорсткі пераслед. У той віленскай справе з вучнямі мэта Навасільцава яшчэ не была дасягнута. Справа аказалася настолькі дзіцячай, што нават з яго спрактыкаванасцю ў макіявелізме немагчыма было заснаваць на ёй абвінавачанне супраць Чартарыйскага. Заставалася толькі скарыстаць для гэтага студэнцкія таварыствы. Тут было больш магчымасці для інтрыгі, але, на няшчасце, тыя таварыствы даўно ўжо былі або забаронены ўніверсітэцкімі ўладамі, або добра-

[1] Марціноўскі Антон (1781—1855) — віленскі выдавец і публіцыст, рэдактар Dziennika Wileńskiego (1818—1830).

[2] Dziennik Wileński — польскі навукова-літаратурны часопіс, выходзіў у Вільні на працягу 1805—1806 і 1815—1830 гадоў.

ахвотна самараспушчаныя. Не маючы нічога іншага пад рукой, трэба было схавацца за тую мінуўшчыну і прыцягнуць яе да сучаснасці, ублытаць у яе і прафесараў і тым нарадзіць хоць бы падазрэнні аб уплыве Чартарыйскага, што было б дастатковым для пазбаўлення яго ад куратарства. Аднак узнікалі цяжкасці ў тым, што ранейшыя выказванні моладзі аб адраджэнні нацыянальнага і патрыятызме, як і мэты тых таварыстваў, не былі палітычнымі, а толькі маральнымі, пра гэта ўсе вельмі добра ведалі. Але гэта ўжо была дробязь для такога майстра, як Навасільцаў; маральнае так шчыльна датыкалася з нацыянальным, а тое — з палітыкай, што, калі спрытна праводзіць допыт, можна лёгка памяняць месцамі адно з другім. Яму патрэбны быў ударны пачатак, які б уразіў уяўленне Вялікага князя, што ён і здолеў спрытна арганізаваць.

Пры праверцы папер тых чатырох гімназічных злачынцаў[1] натрапілі ў пакоі аднаго з іх на куфар студэнта Віленскага ўніверсітэта Янкоўскага[2], у якім адшукалі нейкі агідны вершык пра імператрыцу Кацярыну. Навасільцаў, усцешаны тым адкрыццём, адразу ж распрацаваў план, як змусіць Янкоўскага да такіх прызнанняў, якія былі яму патрэбны. Пагатоў, ён даведаўся, што Янкоўскі быў філарэтам. На той час ён выехаў у Варшаву, але Навасільцаў паслаў за ім; калі яго прывезлі пад арыштам, адразу пачаў яго застрашваць, маўляў, за такія вершы магчыма цяжкае пакаранне; ад вершаў Янкоўскі адмовіцца не мог, бо напісаны былі яны яго рукой. Навасільцаў рабіў выгляд, што шкадуе яго і даў зразумець, што існуе вратаванне, а менавіта неабходнасць раззброіцца перад урадам, адкрыўшы сапраўдную мэту ў працы філарэтаў са студэнцкай моладдзю. Падказаў яму ідэю, што верагоднай мэтай існавання таварыства быў антыўрадавы супраціў, інакш навошта філарэтам быць таемнай арганізацыяй. Калі Янкоўскі дапаможа выкрыць задумы, ён будзе памілаваны; інакш нават сам Навасільцаў, хоць і паспеў яго вельмі палюбіць і жадае дапамагчы, не будзе мець магчымасць таго дабіцца. Янкоўскі з абурэннем адхіліў усе інсінуацыі і запабяганні, цвёрда стаяў на тым, што ў дачыненні філарэтаў падобныя меркаванні з'яўляюцца паклёпам. Нават калі Навасільцаў, паказваючы вялікі смутак, абвясціў яму, што ёсць ужо загад Вялікага князя аб расстрэле, аднак можна таго пазбегнуць, калі Янкоўскі зробіць прызнанне, юнак не пайшоў на паклёп дзеля захавання свайго жыцця; можна з упэўненасцю сцвярджаць, што калі ён заставаўся б фізічна здаровы, прыняў бы абяцаную смерць, чым ганьбу хлуслівага прызнання. Навасільцаў, убачыўшы, што пагрозамі нічога не дасягне, звярнуўся да больш дзейсных сродкаў. Найперш загадаў не даваць яму ежы на працягу двух дзён, а на трэці дзень выдалі моцна пасолены селядзец. Згаладаўшыся, Янкоўскі яго з'еў, пасля папрасіў вады, але яму не далі. Прага павялічвалася, уводзячы яго ў роспач, але вартавы былі глухі да крыкаў і енку, вады не давалі. Тым часам яго вызывае Навасільцаў і абяцае аблягчэнне з умовай прызнання. Закатаваны Янкоўскі, не з'яўляючыся ўжо гаспадаром сябе, піша пад дыктоўку Навасільцава прызнанне, маўляў, мэтай прамяністых, а найбольш філарэтаў, з'яўлялася знішчэнне царскай сям'і, падбухторванне рэвалюцыі ў Расіі і паўстанне на землях колішняй Рэчы Паспалітай, і да таго падобныя прыдумкі.

Потым Навасільцаў загадаў яму скласці спіс сяброў усіх тых таварыстваў, якіх Янкоўскі ведаў; схапіўшы тыя спісы і прызнанне, упэўнены, што дасягнуў сваёй галоўнай мэты, аднак хацеў дамагчыся і другой, а менавіта — застацца ў Вільні, каб мець час цешыцца грацыяй Зубавай і заслужыць яе руку. Ён адразу даслаў тыя спісы і прызнанне да Вялікага князя кур'ерам, пераконваючы яго, што такія важныя адкрыцці вымагаюць пільнага даследавання, а таму вялікай працы і немалога часу, тым больш, што да тых таварыстваў непасрэдна або

[1] Вучні старшых класаў і гувернёры Свіслацкай гімназіі Франц і Леон Гельтманы з Вярховічаў, Людвік Малахоўскі з Кобрына і Андрэй Кургановіч з Пружан.

[2] Янкоўскі Ян — студэнт Віленскага ўніверсітэта, філарэт і сябра таемнай арганізацыі ў Свіслацкай гімназіі, сын уніяцкага светара.

ўскосна належала моладзь усяго краю, пляліся нейкія відавочна небяспечныя планы, не без уплыву старэйшых. У той жа час быў выдадзены загад арыштаваць усіх са спісу Янкоўскага, каго можна было знайсці ў Вільні; у адносінах тых, хто знаходзіўся па-за горадам, у краю або на службе ў Расіі, для паліцыі і мясцовых улад былі разасланы загады, каб іх тэрмінова арыштоўвалі і пад вартай адпраўлялі ў Вільню.

Для правядзення следства Навасільцаў заснаваў камісію, у склад якой уваходзіў начальнік яго канцылярыі Байкоў, пракурор Вільні Батвінка[1], радца губернскага праўлення Лаўрыновіч, паліцмайстар Шлыкаў і прафесар хірургіі Пелікан[2], які своечасова зразумеў планы Навасільцава адносна ўніверсітэта і паспяшаўся паслужыць яму. Камісія хутка прыступіла да следства і пачала свае пасяджэнні ў губернскім палацы, дзе жыў на той час Навасільцаў, у той самай зале, дзе год таму Мікалай муштраваў сваіх жаўнераў. Схопленыя ў Вільні ці ў краі філаматы, прамяністыя і філарэты былі зняволены ў кляштарах, якіх у горадзе дужа многа. Каля ста пласторных келляў былі прыстасаваны да гэтых мэт, у кожным памяшканні ўтрымліваўся адзін чалавек, вокны былі забелены вапнай і забіты звонку дошкамі, а дзверы зачыняліся на замок. Па калідорах хадзілі вартавыя са стрэльбамі, не дазваляючы нікому набліжацца да камер, у кожным кляштары для змены той варты заснавалі гаўптвахты пад ачолай унтэр-афіцэра; афіцэры мелі загад як мага часцей інспектаваць кляштары, каб варта пільна выконвала свае абавязкі. Філарэты, што знаходзіліся ў Вільні, былі пільнымі з самага прыезду Навасільцава. Таму хутка даведаліся аб прызнанні Янкоўскага; тыя, каго ён забыўся назваць, утварылі на волі камітэт для назірання за разгортваннем справы, каб ратаваць сябе і, наколькі магчыма, сваіх калег. Найперш абдумалі спосаб сувязі з арыштаванымі, а таксама магчымасць выйсця на следчую камісію; тая хоць і захоўвала надзвычайную сакрэтнасць, але, як гэта звычайна здараецца ў Расіі, знайшліся каналы для атрымання дакладнай інфармацыі праз пэўных чыноўнікаў канцылярыі Навасільцава. Калі б не прадажнасць чыноўнікаў, на якую звычайна скардзімся, для прыгнечаных не было б ніякага ратунку. Праўда, прыгнятальнікі, разбэшчаныя карупцыяй, зашмат лупяць, аднак, чым хутчэй прыгнечаны заплаціць, тым меней страціць.

Пачалося следства. Каб падоўжыць дарагі для Навасільцава час знаходжання ў Вільні, да камісіі выклікалі па вязню і кожнаму загадвалі пісаць гісторыю свайго жыцця. Зразумела, справа пасоўвалася марудна, хоць кожны з іх, будучы яшчэ зусім зялёным, мала меў матэрыялу для мемуараў; потым настаў час апытання, таксама пісьмовага. Наш камітэт выпрацаваў інструкцыю для адказаў, каб усе спавядаліся аднолькава шчыра і пісалі, што ведалі аб мэтах і дзейнасці таварystваў: праз каго туды патрапілі, хто яшчэ належаў да суполак, іншыя падрабязнасці; не было падстаў, каб нешта хаваць перад законам і ўрадам. Часам нехта палохаўся і не хацеў прызнавацца, што належаў да таварыства. Таго хутка настаўлялі на розум вочнымі стаўкамі і прызнаннямі калег.

Здаралася, хтосьці знаходзіўся ў такіх сямейных акалічнасцях, што трэба было тэрмінова вызваляць або засцерагчы іх ад найменшых падазрэнняў урада. Пра тых наш камітэт папярэджваў калег, каб яны не згадваліся ў спісах, а калі хто ўжо быў згаданы, скасаваць падобнае прызнанне. У такіх выпадках на вочных стаўках калегі адмаўляліся ад сваіх слоў, сцвярджаючы, што з такім незнаёмыя або што запісалі яго памылкова. Падобным спосабам многім удалося пазбегнуць пакарання. Камісія падазравала, што тут ёсць змова, але ўпільнаваць, якім чынам вязні ва ўмовах шчыльнай аховы дамаўляюцца, не патрапіла. Здзіўляла іх і аднастайнасць прызнанняў; калі нехта адкрываў на допыце новую падрабязнасць, наступныя яе пацвярджалі і развівалі. Камісія паміж іншым цікавілася вядомымі песнямі прамяністых і філарэтаў, якія шырока разышліся

[1] Батвінка Іеранім — Віленскі губернскі пракурор.

[2] Пелікан Вацлаў (1790—1873) — хірург, выкладаў у Віленскім універсітэце хірургію і анатомію, у 1821—1831 гг. рэктар Віленскага ўніверсітэта.

па ўсяму краю і ўтрымлівалі шмат ліберальных ідэй. Камісія мералася прадставіць іх як заклік да бунту і загадвала Міцкевічу і Адынцу, якіх у напісанні тых песень абвінавачвала, запісваць іх тэксты на допыце; яны экспромтам уносілі ў строфы змены і даводзілі, што менавіта ў падобным выглядзе тыя вершы выходзілі з-пад іх пёрак і спяваліся калегамі. Камісія выклікала вязняў з розных кляштараў і ўсе згадвалі тыя песні з новымі зменененымі варыянтамі. Сябры камісіі, перакананыя ў тым, што гэта былі імправізацыі дзеля падману следства, здзіўляліся, якім чынам адбывалася такое хуткае паразуменне сярод усіх і ўсюды; аднак дазнацца не патрапілі. Божая ласка ніколі не пакідала нас, і ўсе іх захады і хітрыкі цярпелі паразу перад дасціпам і прадпрымальнасцю нашага камітэта. Калі нейкі канал сувязі закрываўся, адразу знаходзіўся яшчэ лепшы.

Аднойчы прафесар Бекю, які з дазволу Камісіі пазычаў кнігі Антону Камінскаму, былому гувернёру Славацкага, знайшоў у адной з іх напісаную алоўкам цыдулку з нейкай просьбай да сябе і праз боязь перадаў яе следству. (Бекю вінавацяць, нібыта ён з'яўляўся нашым ворагам і ліслівa дапамагаў Навасільцаву бэсціць выкладчыкаў, данёс на Камінскага; аднак гэта не зусім так; ён быў палахліўцам, але збольшага заставаўся прыстойным чалавекам. У тым жа 1824 годзе яго забіла маланка, нядобразычліўцы тады казалі, што гэта Божая кара, як і раптоўная смерць Байкова пад канец нашага следства: ён памёр ад апаплексіі прама ля дзвярэй панны Хлапіцкай, сваёй нарачонай. Ад гарачкі напрыканцы следства памёр таксама Лаўрыновіч, і яго смерць называлі Божым пакараннем; аднак і гэта няслушна, бо ён мусіў, як чыноўнік, выконваць свой абавязак, калі яго назначылі на следства; калі мог, ён дапамагаў нам, што я магу асабіста засведчыць; у некалькіх месцах пры апытанні ён мяне таемна засцерагаў, каб я пісаў больш абачліва і не спадзяваўся на справядлівасць урада да нашай справы. Калі б Бог караў вінаватых у тым следстве, найперш пакараў бы Пелікана ці Батвінку, якія з'яўляліся заядлымі нашымі ворагамі). Камісія пасля таго выпадку зразумела, што праз кнігі магла адбывацца сувязь; адразу было загадана забраць у вязняў кнігі і больш іх не даваць, акрамя таго, сталі лепш праглядаць бялізну, нават ежу. Але гэта не дапамагло, бо акрамя подкупу жаўнераў, якія самі разносілі лісты вязняў, калі справа была больш важная, камітэт знаходзіў спосаб хуткай сувязі, якая не была выкрыта.

Адным з галоўных пунктаў расследавання быў статут філарэтаў, пра які ўсіх апытвалі. Статут напісаў Т. Зан, пасля скасавання таварыства яго знішчылі. Большасць філарэтаў яго не чыталі. Філаматы, якія, як заснавальнікі таварыства філарэтаў, той статут разам з Т. Занам распрацавалі, памяталі тэкст і больш-менш дакладна на запыт Камісіі яго запісалі. Аднак Камісія, уважаючы тое за змову, дамагалася арыгінала, напісанага рукой Т. Зана, пра які ведала з допыту. Не давалі веры, што той арыгінал знішчылі; прыйшлі да перакананія, што ў тым статуце меліся антыўрадавыя палажэнні, таму насядалі на Т. Зана, каб назваў месцазнаходжанне арыгінала; пагражалі жорсткім пакараннем і судом на падставе абвінавачанняў Янкоўскага, калі ён не дапаможа следству ў пошуку арыгінала.

Я ў камеры быў з самага пачатку абазнаны ва ўсіх падрабязнасцях следства, бо арыштантаў, якія не трапілі пад яго, а толькі адбывалі свой ранейшы тэрмін зняволення, можна было наведваць. Калегі з асцярожнасці ў мяне не бывалі, і пасля ўтварэння камітэта сувязь паміж ім і мной адбывалася праз манашак-каталічак, прозвішчы якіх я пакляўся нідзе не згадваць; яны і раней часта аказвалі падтрымку вязням астрога. Бачыліся яны са мной у Панеўскага, у якога за ўвесь час майго зняволення мне бываць не забараняліı. Хоць Янкоўскі згадаў і маё прозвішча ў тым спісе, але я ўжо сядзеў у вязніцы і шукаць мяне не было патрэбы, забыліся, напэўна, павялічыць пільнасць нагляду за мной. На допыт мяне выклікалі не хутка, недзе тыдняў праз пяць пасля напісання прызнання Янкоўскага, напрыканцы сёмага тыдня майго зняволення. Я адказваў шчыра, як і ўсе. Пасля некалькіх гадзін прысутнасці ў следчай зале мяне адвялі і пакінулі на старым месцы. На той час я займеў праблемы са здароўем; на яго кепска ўплывалі брак руху і адсутнасць свежага паветра. Павялічвалася боль у грудзях і ўзнімаўся страх атрымаць праз кволасць

пасля веснавой хваробы сухоты. Аднак мяне ратавалі манашкі-апякункі. Адразу дасталі мне добрага малака, якое на працягу ўсяго зняволення заставалася маім амаль што адзіным харчаваннем; потым, калі той боль у грудзях з'явіўся і пачаў павялічвацца, далі нейкі пластыр — такі балючы, што ледзь трываў. Пластыр мяне і выратаваў: праз пару дзён пад ім густа высыпалі прышчы, і такім чынам хвароба выйшла.

Калі я пакутаваў аднойчы ноччу ў такім стане, да мяне пацíху з ліхтаром зазірнуў Панеўскі і паведаміў, што хвіліну таму Батвінка сам прывёз у астрог Тамаша Зана і пакінуў яго ў адной з камер сярэдняга корпуса, у якім вокны былі закратаваны і забіты дошкамі. Панеўскаму было загадана, каб трымаў яго ў вялікім сакрэце, не гаворачы нікому, нават паліцэйскім, што ён тут знаходзіцца. Забараніў пад пагрозай адказнасці пускаць да яго жаўнераў з варты, нават іх афіцэра, абавязкам якога было заглядаць штодня да ўсіх зняволеных. Ежу для Зана загадаў прыносіць самому Панеўскаму — толькі кавалак чорнага хлеба і агідную турэмную страву. Мы дамовіліся тады аб харчаванні, каб Панеўскі насіў яму, схаваўшы ў кішэнь, каву ў бутэльцы, белы хлеб і смажаніну; таксама, каб ён перадаваў нашы лісты, але з умовай, што Зан не будзе карыстацца чарнільніцай, бо яе могуць знайсці падчас неспадзяванай праверкі, аднак згодны занесці яму аловак і паперу. Пасля той размовы ён адразу пайшоў да Т. Зана і прынёс мне ад яго ўказанне, запісанае алоўкам, каб я паведаміў нашаму камітэту аб месцы яго зняволення. Гэта было вельмі важна, дзейнасць камітэта па ўзгадненні паказанняў каардынаваў менавіта Зан: як і ў кожным пачынанні, дакладнасць і поспех справы дасягаўся тым, што ёй кіравала адна галава. Урадавая Камісія, якая не ведала пра наш камітэт, здагадвалася аднак з-за аднастайнасці паказанняў, што ўсімі мусіў кіраваць Зан, як начальнік філарэтаў; і хоць не патрапілі высачыць спосаб паразумення паміж намі, вырашылі сакрэтна яго схаваць, каб перарэзаць нам не толькі магчымасць, але нават і думкі аб аднаўленні з ім сувязі; для гэтага распаўсюдзілі па горадзе пагалоску, што ён вывезены ў Варшаву.

Аб тым, што адбылося з Занам ноччу, камітэту паведамілі назаўтра. Камітэт быў надзвычай уражаны сакрэтнымі захадамі па ўтрыманні Зана; яны ўявілі сабе, што пачаліся выконвацца тыя пагрозы, якімі страшыла Камісія, дамагаючыся атрымання статута. Адразу да яго прыслалі праз мяне спачувальны ліст, а з ім пачак атруты, каб Зан мог лёгка пазбыцца пакут, калі яго будуць змушаць да ілжывых паказанняў, якія напэўна атрымалі б большую вагу ў вачах урада, чым паказанні Янкоўскага, абвергнутыя ўсімі зняволенымі, і ўпаўнаважылі б урад на жорсткія санкцыі. Найбольш яны баяліся, што Зан пад катаваннем згадае прозвішчы тых высокіх сяброў літоўскай моладзі, якія спачатку навучылі яго заснаваць таварыства, а потым, застаючыся невядомымі нам, кіравалі праз яго. Прачытаўшы ўсё гэта ў лісце да Зана, я скалануўся ад жуды, што яны збіраюцца выкарыстаць мяне для змушэння Зана да самагубства. Я ж высыпаў тую атруту за акно, спадзеючыся на волю Бога, а Зану параіў, каб ён напісаў той статут, арыгінал якога Камісія так настойліва дамагаецца, і, паклаўшы яго паміж папер аднаго з філарэтаў, якога збіраюцца арыштаваць, даць такім спосабам магчымасць следству знайсці рукапіс. Я вельмі спадзяваўся, што гэта не толькі не пагоршыць нашай справы, а, калі дойдзе да суда, у вачах урада будзе доказам нашай нявіннасці і праўдзівасці паказанняў. Даручыць жа той статут некаму, каго збіраюцца арыштаваць, было досыць проста, бо кожнаму падследнаму загадвалі скласці спіс таварышаў па арганізацыі, і ён папаўняўся бесперапынку; Янкоўскі не згадаў і паловы. Варта было толькі ўказаць камусьці з новых арыштантаў, каб пры складанні спісу ён згадаў таго, каму будзе даручаны статут, а таго папярэдзіць, як трэба адказваць, калі дакумент знойдуць сярод яго папер. Зан паслухаўся маёй парады. Па прычыне таго, што ён не мог мець чарнільніцу, а статут мусіў быць запісаны яго рукой, каб паходзіць на арыгінал, дамовіліся мы, што Зан запіша яго алоўкам, а я па алоўку абвяду літары атрамантам, захоўваючы як мага старанна асаблівасці яго почырку. Пачалася праца, якая вымагала перапісу некалькіх аркушаў, а таму патрэбна была некалькі дзён. З прыходам да мяне новых аркушаў, якія мне прыносіў

шаноўны Панеўскі, ён не меў акуляраў, а таму і не ведаў, што ў іх напісана, я абводзіў літары, а сляды алоўка потым знішчаў.

Пакуль за гэтай работай міналі дні і ночы, неспадзявана прыйшла навіна, што Вайніловіч, швагр майго дзядзькі Корбута, у той час прэзідэнт Радзівілаўскай Камісіі[1], даведаўшыся, што я нездаровы, падаў да следства просьбу, каб мяне адпусцілі з-пад арышту пад яго адказнасць. Было ўжо некалькі прыкладаў, калі пасля хадайніцтва сям'і вызвалялі на парукі тых, хто не належаў да кіраўніцтва таварыства і скончыў сваё прызнанні. Вызвалялі іх з карысцю для сябе, з таго меркавання, што на іх месцы можна было размясціць новых арыштантаў, для якіх ужо не хапала камер. Я адразу даслаў Вайніловічу ліст, просячы, каб ён скасаваў сваю просьбу; хоць быў хворы і жадаў хутчэй вызваліцца з надзеяй, што паспею яшчэ да Оўбрыла, адчуваў аднак, што воля Бога ў дадзенай справе вымагае маёй самаахвярнасці на карысць сяброў. Вайніловіч здзівіўся, аднак просьбу сваю скасаваў, і я мог скончыць пачатую работу. Пасля яе сканчэння я амаль не зрабіўся ахвярай Навасільцава праз тых самых таварышаў, з-за якіх вырашыў ахвяравацца і застаўся пад арыштам.

Калі мая работа набліжалася да сканчэння, я перадаў нашаму камітэту просьбу, каб нехта з яго ўдзельнікаў пад выглядам шляхціца, які ўздумаў прадаць у астрог харчы, падышоў увечары да Панеўскага, праз якога я перадам вельмі важныя паперы, і гэтую справу нельга даручаць выпадковым людзям. Хацеў, каб тая камбінацыя са статутам прайшла пад найвялікшым сакрэтам, бо апасаўся, што дакумент, праходзячы праз некалькі выпадковых рук, можа трапіць да следчай Камісіі. Калегі з нашага камітэта, не цямячы, што гэта могуць быць за такія важныя паперы, калі нават перапіска з Занам адбываецца без падобных засцярог, з-за празмернай асцярожнасці зрабілі глупства. Яны вырашылі, што тут можа быць здрада, бо, на іх думку, празмерна ўсё таямніча робіцца, магчыма, гэта пастка, каб схапіць некага на гарачым і выйсці праз яго на камітэт. Яны доўга раіліся, не даўшы мне адказу. У нецярпенні я пільнаваў іх прыбыццё і не мог для сябе вытлумачыць гэтае прамаруджванне. Калі мог бы прадбачыць падобныя падазрэнні, хутчэй знішчыў бы статут, чым пасылаў яго праз іх; аднак ні мне, ні Зану не прыходзіла ў галаву, што яны будуць нас падазраваць пасля апошніх нашых кантактаў.

Нарэшце, аж на трэці дзень, пасля паўторнага майго запыту Ксавер Высоцкі, адзін з сяброў камітэта, адважыўся пайсці ў астрог, аднак з той умовай, што паблізу яго будзе пільнаваць Ануфрый Петрашкевіч, яго калега, і выглядаць, ці не пойдуць у астрог паліцэйскія, калі там будзе знаходзіцца Высоцкі. Калі ён убачыць паліцыю, мусіць адразу ляцець да іх і аддаць ліст, напісаны загадзя Высоцкім, у якім было напісана, што ён, выкліканы мной для перадачы нейкіх важных папер, меркаваў для карысці ўрада не дапусціць, каб яны трапілі ў іншыя рукі, таму згадзіўся і прыйшоў да мяне, і пра тое даносіць паліцмайстру і просіць, каб паліцыя паспяшалася ў астрог і заспела іх на гарачым, забраўшы паперы. Міласцівы Бог злітаваўся над усімі намі, на той час аніводзін паліцэйскі каля астрога не паказаўся, хоць гэта была вялікая рэдкасць. Высоцкі прыцёгся да Панеўскага, назваўся аканомам, і я, ужо пільнуючы яго, адразу зайшоў і, не паказваючы, што ведаю Высоцкага, бо ў такой важнай справе не захацеў і Панеўскага мець за сведку, калі той адвярнуўся, сунуў Высоцкаму ў капялюш статут і ліст ад Зана з указаннямі, што з тым дакументам рабіць. Высоцкі выйшаў, і праз некалькі дзён усё было здзейснена па плане. Статут завезлі аднаму з філарэтаў у вёску, навучылі яго, што рабіць і як адказваць, калі паперы знойдзе паліцыя, разам з тым аднаму з новых вязняў было даручана назваць таго філарэта ў сваім спісе, урэшце ён быў арыштаваны, усе яго паперы і статут трапілі ў рукі Камісіі. Зан, калі яму паказалі той дакумент, нібыта згадаў, што арыгінал існаваў у двух асобніках, з якіх адзін, што быў у яго, ён знішчыў, а другі, пра які забыўся, хадзіў па руках кіраўнікоў грон, гэта, маўляў, ён і ёсць. Засведчылі тое адразу і правадыры грон, якіх зноў апыталі. Філарэт, у

[1] Радзівілаўская камісія (маса), сфарміраваная загадам Аляксандра I ад 6 красавіка 1815 года, павінна была вырашыць пытанне з пазыкамі, якія засталіся пасля смерці князя Дамініка Радзівіла.

якога знайшлі паперы, сцвярджаў, што яны яго ўласныя, узяў ён іх у аднаго з кіраўнікоў грон і пасля скасавання таварыства пакінуў сабе на памяць. Такім чынам, прызнанні Зана былі вытлумачаны без адступленняў ад папярэдніх сцвярджэнняў, а Камісія, атрымаўшы паперы, цалкам супакоілася, далей працягваўся допыт толькі новых вязняў.

Пасля Новага года Зан зноў быў пераведзены, цяпер ужо бліжэй да Камісіі, бо быў ім часта патрэбным для ўдакладнення і тлумачэння. Страціўшы надзею на пасаду пры Оўбрыле, як стала вядома, ён даўно ўжо выехаў у Іспанію, і, не маючы патрэбы знаходзіцца больш у астрозе, я парупіўся, каб мяне перавялі ў якісь з кляштараў, дзе было весялей з таварышамі. Спачатку мяне перавялі ў базыльянскі кляштар, а праз тры дні — да вострабрамскіх кармелітаў, дзе знаходзілася каля двух дзясяткаў маіх калег.

Днём мы ўсе былі зачынены па сваіх келлях; чыталі перададзеныя нам цішком кнігі або спалі; як толькі змяркалася, зачынялі кляштар, і вартавыя нашы знаходзіліся ўжо ў бяспецы ад афіцэрскіх праверак, адчынялі тады нашы пакоі, пачыналася бяседа, гамана і забавы праз усю ноч. Прыходзілі дэпутацыі з іншых кляштараў — і ўжо не праз веснічкі, а прама ў браму; мы таксама наведваліся да іншых; варта была цалкам падкуплена і праблем ніякіх не ўзнікала. Карацей, гулялі, як хацелі, некаторыя зняволеныя філарэты нават у тэатр хадзілі. Зранку, як пачынала днець, кожны вяртаўся да сваёй келлі, дзверы замыкаліся, і варта зноў рупна пільнавала нас, каб ніхто непатрэбны не перашкаджаў нам адсыпацца.

Навасільцаў у той час таксама добра бавіўся з Зубавай; каб Вялікі князь захоўваў перакананне, што ён яшчэ патрэбны ў Вільні, знаходзіліся штораз новыя спісы сярод літоўскай моладзі. Не патрапіўшы нічога даказаць у дачыненні паўналетніх, ён напаў на дзяцей. Адусюль сыпаліся даносы аб шкодным духу, што апанаваў школьнікаў. У Кейданах Молесан сын тамтэйшага пастара, дванаццацігадовы смаркач, пачуўшы, што ў Вільні чацвёрты клас узяты пад арышт і не наведвае заняткаў, напісаў дзёгцем на браме свайго дома: «Віват канстытуцыя» — дзеля пробы, ці атрымаецца ў іх дастаць падобных вакацый. Па даносе аб тым крымінале паляцелі Байкоў і Батвінка, пералупцавалі ўсю школу, некалькі сот вучняў, змушаючы іх да прызнання злачынных намераў супраць урада. Пад акрутнымі дубцамі яны адкрылі, што Молесан заснаваў таварыства дзеля забойства Вялікага князя, і ўся школа была атручана шкодным духам; нават настаўнікі не патрапілі адкупіцца. Па прадстаўленні Навасільцава да Вялікага князя за найвышэйшым загадам міласцівага Аляксандра чатыры настаўніка той школы і галоўны злачынец, Молесан, былі высланы на катаргу: на прымусовыя работы ў сібірскія рудні на ўсё жыццё; дзесяць таварышаў Молесана, якія з ім жылі, былі адданы ў жаўнеры, хоць яны, магчыма, і не ведалі аб канцэпцыі свайго суседа, астатніх вучняў той школы загадалі разагнаць па хатах і ніколі больш ні да школы, ні да аніводнай службы потым не дапускаць. Тое адбывалася адразу пасля навагодніх свят 1824 года.

Перад масленіцай падобная ж гульня Байкова і Батвінкі з дзецьмі паўтарылася ў Крожах. Падчас масленіцы Байкоў памёр, і той здзек працягвалі Батвінка і Гамзін, памагаты Навасільцава, у Панявежа і ў Свіслачы. А каб і віленскія школы пазбавіліся шкоднага духу, які апанаваў дзяцей ва ўсёй Літве, загадана было іх узорна пакараць, як сапраўдных злачынцаў. Асаблівую шкадобу выклікалі два хлопчыка з Крожаў: Віткевіч і Янчэўскі, і адзін з Панявежа — Вецьковіч, якіх у кайданах, як бунтаўшчыкоў, вадзілі па вуліцах Вільні з разлікам на эфект, а потым выправілі ў жаўнеры некуды ў Расію.

Наша следства працягвалася без упынку амаль да канца мая, пакуль Чартарыйскі, served зразумеўшы ў чым справа, не падаў у адстаўку, і на яго месца куратарам віленскай навучальнай акругі быў прызначаны Навасільцаў. Пасля гэтага нас ахвотней пачалі адпускаць на парукі; Навасільцаў пасля перамогі на працэсе Зубавай, якую ён апякаў, атрымаў ад яе адмову і выехаў у Пецярбург расследаваць нашу справу разам з генералам Аракчэевым[1] і адміралам Шышковым[2], з ліку якіх цар

[1] Аракчэеў Аляксей Андрэевіч (1769—1834) — рускі дзяржаўны і ваенны дзеяч.

[2] Шышкоў Аляксандр Сямёнавіч (1754—1841) — рускі дзяржаўны і ваенны дзеяч, дзяржаўны сакратар і міністр народнай асветы.

заснаваў найвышэйшую над намі Камісію. Відаць, нават з увагі намаганняў Навасільцава і вядомай жорсткасці Аракчэева, немагчыма было знайсці ва ўсёй нашай справе нічога, за што нас можна было б абвінаваціць, нават меней, чым у тых школьнікаў. Таму ў дэкрэце, які выдала тая Камісія і зацвердзіў цар, абвінавачваўся толькі дух часу, які нас змусіў да стварэння таемнага таварыства; але аб мэце таго таварыства або аб злачынных намерах ці ўчынках нашых — ані слова ў дэкрэце не было. Аднак, каб у свеце не думалі, што ўрад дарэмна пераследаваў моладзь, у дэкрэце паведамлялася, што нам залічваецца час зняволення ў кошт пакарання (за што, невядома).

Дваццаць філаматаў і філарэтаў, а менавіта: Тамаша Зана, Яна Чачота, Адама Сузіна, Францішка Малеўскага, Юзафа Яжоўскага, Адама Міцкевіча, Юзафа Кавалеўскага, Яна Вернікоўскага, Тодара Лазінскага, Яна Сабалеўскага, Ануфрыя Петрашкевіча (ён здолеў за час следства не трапіць пад арышт, удзельнічаючы ў нашым камітэце, хоць і быў названы ў некалькіх спісах), Вінцэнта Будрэвіча, Мікалая Казлоўскага, Яна Гейдатэля, Яна Міхалевіча, Яна Крыніцкага, Фелікса Кулакоўскага, Цыпрыяна Дашкевіча, Гіляра Лукашэўскага і ў якасці ўзнагароды за выдачу ўсіх да тых дзевятнаццаці найсвятлейшых далучылі дваццатага, Янкоўскага, — іх загадана было выслаць у вялікарускія губерні, прадставіўшы адпаведныя пасады, пратрымаўшы аднак Зана год у крэпасці, а Сузіна і Чачота — палову года. Першага за тое, што ўтварыў таварыства, двух іншых — за падазроныя вершы і прамовы (насамрэч за тое, што падчас следства, калі ў дачыненні іх выяўлялі грубасць і пагражалі, яны плацілі сябрам Камісіі пагардай). Усе астатнія вызваліліся ад усялякай адказнасці, з нас утрымалі толькі выдаткі, панесеныя ўрадам на правядзенне следства.

Паводле таго ж дэкрэта былі пакараныя таксама і некалькі ўніверсітэцкіх выкладчыкаў, якія не праходзілі па следству і не згадваліся ў паказаннях зняволеных. На іх конт беспадстаўна было сказана наступнае: «Для выкаранення шкоднага ўплыву, які супрацьпастаўляў сябе кіраўніцтву ўніверсітэта, пазбавіць абавязкаў выкладчыкаў Лялевеля, ксяндза Баброўскага[1] і Даніловіча[2]; з-за містычнай скіраванасці лекцый вызваліць ад пасады Галухоўскага». Лялевелю загадана было потым выехаць у Польшчу, Галухоўскаму — у Галіцыю, Даніловічу — у глыб Расіі, ксёндз Баброўскі быў даручаны нагляду яго духоўнага кіраўніцтва з тым, каб ён не заставаўся ў Вільні.

Мы вельмі добра разумелі, што азначала тое «супрацьпастаўленне кіраўніцтву ўніверсітэта». Калі Пелікан, як найбольш зручны для адшуквання даходаў Навасільцаву, зрабіўся рэктарам Віленскага ўніверсітэта і, каб задаволіць драпежнасць свайго шэфа, наклаў буйны падатак на ўсіх выкладчыкаў за ўтрыманне іх на кафедрах, пералічаныя ў дэкрэце былі гатовыя самі сысці з пасады, чым падпасці такому ганебнаму гвалту. Абдзіранне выкладчыкаў — не апошняя грэнка, якая была спечаная Навасільцавым на нашай справе. Яшчэ на працягу следства ён выцягнуў у пэўных нашых калег шмат грошай за вызваленне. Многія бачылі пераслед нявінных дзяцей і апасаліся падобнага, а мо і горшага лёсу. Багацейшыя бацькі намагаліся выкупіць сваіх сыноў. Адзін Гедройц аддаў за сына Адольфа дзве тысячы дукатаў; Макавецкі, памешчык з-пад Магілёва, за сваіх дваіх дзяцей — дваццаць пяць тысяч рублёў асігнацыямі. Падобныя выкупы адбываліся сакрэтна, таму пра большасць выпадкаў мы не можам пэўна сцвярджаць, але даход ад іх мусіў быць значны, — шмат багатыроў было вызвалена раней за іншых. Тыя ж выдаткі на следства, якія загадана было з нас вылічыць, Навасільцаў налічыў на восемдзясят з ліш-

[1] Баброўскі Міхаіл Кірылавіч — (1784 /1785 — 1848) — славіст, арыенталіст, багаслоў, адзін з пачынальнікаў скарыназнаўства, доктар тэалогіі (1823). У 1822—1824 і 1826—1833 гг. прафесар Віленскага ўніверсітэта. Абвінавачаны ў падтрымцы філаматаў і сасланы ў базыльянскі манастыр у Жыровічы (1824—1826).

[2] У 1824 г. мусіў пакінуць Вільню ў сувязі са справай філаматаў і стаў выкладчыкам, а пасля дэканам у Харкаўскім універсітэце.

кам тысяч срэбных рублёў. Насамрэч выдаткаваць на нас маглі хіба некалькі тысяч, што ўжываліся на дастаўку абвінавачаных у Вільню. Утрыманне наша нічога ні ўраду, ні Навасільцаву не каштавала; мы знаходзіліся ў кляштарах, вартавых прадастаўляла армія, кожны з нас за ўласныя грошы аплачваў харчаванне або, калі быў бедняком, утрымліваўся за кошт міласціны, якую збіраў наш камітэт. Таму тая сума дасталася Навасільцаву. Сваю частку выплаціў кожны; калі хто не меў такой магчымасці, яго долю паліцыя спаганяла праз сваякоў і суседзяў.

Куратарства Навасільцава таксама было непасрэдным плёнам нашай справы; наколькі гэта было выгодна з пункта гледжання розных інтарэсаў, нават акрамя кіравання даходамі Віленскага ўніверсітэта, можна меркаваць на падставе факта набыцця ім фальварка Замачак, што было зроблена ў наступным годзе. Пелікан, едучы аднойчы на шпацыр за горад, спаткаў адваката Кукевіча, уласніка таго фальварка, што месціўся недалёка ад Вільні. Ведаючы яго, Пелікан запытаўся, чаму ён такі засмучаны. Кукевіч пачаў скардзіцца на сваю гаспадарку ў Замачку, на тое, што шмат выдаткоўвае, а даходу не мае, толькі клопаты. Прадай — адказаў Пелікан, — той фальварак Віленскаму ўніверсітэту; ён будзе нам карысны для агранамічных вопытаў. «Ахвотна». «Колькі за яго хочаш?» «Сто пяцьдзясят тысяч». «Гэта мала; падобны фальварак большага варты; мы дамо ўдвая больш». «Дзякуй, дабрадзею!» «Тэрмінова напішу міністру, каб зацвердзіў набытак». Пелікан даслаў насамрэч пасыльнага не да міністра, а ў Варшаву да Навасільцава. Той неадкладна звярнуўся да міністра з абгрунтаваннем патрэбы фальварка для практычных заняткаў па аграноміі, якую збіраліся выкладаць у Віленскім універсітэце, прасіў дазволіць набыццё Замачка для гэтых мэт. Разлічыўшы момант, калі можа быць зацверджана тая прапанова, прыбыў у той дзень у Вільню, атрымаў рэзалюцыю і выклікаў Кукевіча. «Васпан прадае свой Замачак і хоча за яго дзвесце тысяч?» «Так, яснавяльможны пан». «Вельмі добра: вось падрыхтаваны кантракт, вось грошы і квіт аб іх атрыманні, падпісвай, васпан». Кукевіч, ашаломлены неспадзяваным шчасцем і такім хуткім сканчэннем гандлю, падпісаў. Пасля чаго Навасільцаў аддаў кантракт і квіт Пелікану і адарваўшы з ляжачых на стале папераў скумат, накрэмзаў даўгавую распіску ў тым, што пазычыў у Кукевіча трыццаць тысяч рублёў серабром, і аддаў тую цыдулку яму. Кукевіч страціў прытомнасць. Аднак апамятаўшыся, як шляхціц мудры і кемлівы, кінуўся ў ногі Навасільцаву і папрасіў, каб той даў яму якую пасаду ў сваёй канцылярыі. Гэта было нескладана. Навасільцаў ведаў, якія здольнасці меў гэты чалавек, і ўзяў яго да сябе; Кукевіч мог цешыцца, што добра прадаў свой Замачак, у хуткім часе на сваёй новай пасадзе ён зарабляў у некалькі разоў больш, чым яму належала за фальварак, за тое ён вельмі шанаваў Навасільцава.

Скон Навасільцава адпавядаў яго талентам. Гісторыкі напэўна будуць апісваць яго варшаўскія і пецярбургскія справы, але пра смерць Навасільцава, магчыма, ніхто не згадае. Тое, што тут апавядаю, удакладню, чуў ад іншых і не гарантую цалкам праўдзівасць таго эпізоду.

Валодаў ён, як вядома, даручанымі яму ў кіраванне слонімскімі староствам і прыходам; у аграмадных лясных нетрах, што адносіліся да тых уладанняў, ён меў дазвол браць дрэва на будаўніцтва і гаспадарскія патрэбы, іншыя віды гаспадарчай дзейнасці заставаліся прэрагатывай дзяржаўнага скарбу. Навасільцаў пастараўся, каб нагляд за тымі лясамі даручылі Парадоўскаму. Даў яму ў бясплатную арэнду, нібыта з ласкі, фальварак у слонімскіх уладаннях, што называўся Міцкевічы. Абавязаны праз тое магнату і апасаючыся яго, Парадоўскі мусіў глядзець скрозь пальцы на злоўжыванні, што рабіў Навасільцаў у тых лясах. Пад маркай будаўніцтва ў фальварках і вёсках загадваў штогод рубіць некалькі дзясяткаў тысяч таварных бэлек і прадаваў яўрэям на вываз за мяжу, пазначаючы дрэва клеймамі суседзяў, нібыта тавар паходзіў з іх лясоў. Доўжыўся ў яго падобны шахер-махер гадамі, бо ні лясныя чыноўнікі, якія мелі ад яго ўзнагароды, ні хто іншы не адважваліся паскардзіцца на таго пана. Урэшце нехта асмеліўся данесці пра тое міністру фінансаў Канкрыну[1]. Той пабаяўся пакрыўдзіць Навасільцава без доказаў і

[1] Канкрын Ягор Францавіч (Георг Людвіг) (1774—1845) — генерал ад інфантэрыі, міністр фінансаў Расіі (1823—1844).

паслаў на месца пад выглядам нейкай іншай місіі давераных чыноўнікаў, якія выявілі ўсе акалічнасці: хто рубіў і вывозіў лес, якога гатунку, хто купляў, чые былі клеймы і гэтак далей. Канкрын, маючы тое ў руках, не пасмеў скардзіцца на Навасільцава Мікалаю і скарыстаў хітрасць. Ведаючы, што цар чытае ад дошкі да дошкі Гамбургскую газету, сакрэтна даслаў артыкул для друку ў тую газету пад іменем нейкага тамтэйшага купца. Паведамлялася, што можна спадзявацца на зніжэнне цэн на расійскае дрэва, бо паміж іншым у гэтым годзе, гэтаксама, як і ў папярэднія, былі закупленыя вялікія партыі бэлек са слонімскіх уладанняў у Навасільцава і ўжо знаходзяцца ў дарозе. Цар, заўважыўшы той артыкул, выклікаў Канкрына, паказаў яму тэкст і ўпікнуў за нядбаласць. Канкрын адказаў, што гэта, магчыма, дэзінфармацыя і варта праверыць. Тады цар загадаў Бенкендорфу[1] выбраць каго надзейнага з жандарскага штаба, каб яму цалкам можна было даручыць тое следства. Бенкендорф рэкамендаваў нейкага палкоўніка, паручыўшыся за яго. Палкоўнік прывёз тыя ж факты, што і чыноўнікі Канкрына. Цар выклікаў Навасільцава і напусціўся на яго; той спакойна адказаў, што гэта нагавор, што Канкрын і Бенкендорф у змове, каб знішчыць яго, што гэта нямецкая партыя хоча яго дыскрэдытаваць перад царом, як рускага чалавека, і ён просіць афіцыйнага расследавання, з умовай, каб цар выбраў людзей вядомых і не з нямецкай партыі. Цар завагаўся, каму даць веры, сам выбраў двух сенатараў і, не даўшы ім часу перамовіцца з Навасільцавым ці з Бенкендорфам, паслаў іх у тую ж хвіліну ў Слонім, даручыўшы правесці сумленнае следства. Тыя вярнуліся з інфармацыяй, якая цалкам апраўдвала Навасільцава. Цар у гневе выклікае Бенкендорфа. Гэта, — кажа, — інтрыга і змова супраць рускіх; вы, немцы, хацелі пазбавіць іх майго даверу. І загадвае таго палкоўніка разжалаваць у простыя жаўнеры. Бенкендорф прысягае, што палкоўнік не здраджваў, і просіць, каб цар часова ўстрымаўся ад прысуду па той справе і паслаў на следства Васільчыкава[2], які, сам рускі і карыстаўся неабмежаваным даверам у Мікалая. Цар згадзіўся, і аказалася, што сенатары былі апрацаваныя Навасільцавым, палкоўнік жа казаў праўду. Мікалай напаў на Навасільцава, аблаяў яго апошнімі словамі і выгнаў, як нявартага нягодніка. Ён, прыехаўшы дамоў, праглынуў пігулку і тым годна завяршыў сваё жыццё.

Вырак Камісіі па нашай справе атрымаў найвышэйшае зацвярджэнне сёмага жніўня і быў зачытаны нам напрыканцы таго ж месяца; узяўшы ад кожнага з нас аднолькавую распіску, што «нічога нікому не раскажам, пра што нас распытвалі і што адбывалася на следстве», адразу ўсіх вызвалілі, за выняткам тых, хто быў асуджаны да зняволення ў Расіі. Тым нават не дазволілі заехаць да сямей, каб развітацца, і хутка адправілі іх на месца прызначэння. Янкоўскага таксама выслалі, але, з гледзішча заслуг перад урадам, на пасаду квартальнага ў Волагдзе. Астатнім загадалі выплаціць налічаныя нам сумы за следства. Прыпала на кожнага па сто сорак рублёў серабром...

---

[1] Бенкендорф Аляксандр Хрыстафоравіч (1782—1844) — расійскі военачальнік, шэф жандараў і галоўны начальнік Трэцяга аддзялення (1826—1844).

[2] Васільчыкаў Іларыён Васільевіч (1776—1847) — расійскі дзяржаўны і вайсковы дзеяч, генерал ад кавалерыі.

***Пераклад з польскай і каментарыі Сяргея ШЫДЛОЎСКАГА,***
***Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт***













**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





# Вераснёўскім вечарком



## Павер і ты...

Калі ты лічыш, што спыніцца можна,
І хочаш рукі апусціць, замерці ўраз,
Успомні, што па кроках, асцярожна,
Стварыў аднойчы моцны Творца нас.
І гэта значыць, што ісці наперад —
Амаль адзінае, што трэба нам усім.
І неяк жыць...
Так, каб у сэрцы веру
У лепшае ніхто не загасіў.

Так, трэба верыць!
Ён жа ў нас паверыў!
Ён ведаў, што мы можам, і таму
Па нашых жа магчымасцях адмерыў
Усё, за што мы ўдзячныя Яму!
Павінны мы прайсці былі нягоды,
Адчай і смутак, гора і тугу...
Усе-ўсе адольваць перашкоды,
Ніколі не казаць: «Я не змагу».

Калі ў адчаі хочацца памерці,
А грудзі разрывае моцны боль
І з памяці, як з раны,
хочаш сцерці
Атрутных, горкіх успамінаў соль,
Калі міжволі апускаеш рукі,
І не ўзнімаеш да нябёс вачэй —
Тады знікаюць колеры і гукі,
І толькі сум становіцца ярчэй.

— Я болей не магу! —
з адчаем скажаш. —
Бо гэты свет бяздушны і пусты!

А Ён табе ціхенечка адкажа:
— Я веру ў цябе! Павер і ты...

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*11 клас, Дворнасельская СШ,*
*Міёрскі раён*



## Летні ўспамін



Растала лета,
Нібы й не было...
З брусніцамі спелымі
У восень сплыло.

Кляновым лісточкам
На сцежку лягло...
Растала лета,
У восень сплыло.

## Цуд



Вераснёўскім вечарком
Месяц выгнуўся сярпом.
Зоркі весела мігцелі,
Зверху на зямлю глядзелі.

Ветрык над зямлёй гуляў,
Дрэўцам косы заплятаў,
Потым з хмаркай паспрачаўся
І далей сабе памчаўся...

Вераснёўскім вечарком
Месяц выгнуўся сярпом.
Зоркі весела мігцелі
І з нябёс уніз ляцелі.

***Аляксандра НОВІК,***
***9 клас, Ждановіцкая СШ,***
***Мінскі раён***

***Малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ***

● **Конкурс**

# Казкі школьнага ранца

*Гэтай падборкай завяршаецца наш казачны конкурс. Прозвішчы пераможцаў шукайце ў кастрычніцкім нумары.*



## Стары Заяц

У адным дзіцячым пакоі сярод мноства іншых цацак жыў-быў стары плюшавы Заяц. Хоць яму было ўжо шмат гадоў, плюшавы Заяц быў усё яшчэ вельмі прыгожым, і ў яго былі вялікія добрыя вочы з доўгімі цёмнымі вейкамі. Апрануты ён быў у чырвоныя штонікі і блакітную кашульку.

Але ў дзяцей было шмат новых сучасных цацак, і яны даўно не заўважалі старога Зайца. Ён сядзеў на самай верхняй палічцы і пакрываўся пылам. Ад такой няўвагі Зайцу было вельмі крыўдна і самотна.

Кожную ноч, калі людзі засыналі, цацкі ажывалі, і кожная з іх хвалілася, як яе любяць гаспадары, а са старога Зайца ўсе толькі кпілі ды пасмейваліся.

І вось аднойчы ў госці да дзяцей прыйшла маленькая суседская дзяўчынка Аленачка. Яны доўга гулялі разам, і напрыканцы вечара Аленачка пахвалілася, што ў яе сёння дзень нараджэння. Дзеці вельмі ўзрадваліся і захацелі зрабіць Аленачцы які-небудзь падарунак. Яны паклікалі маці і, параіўшыся з ёй, вырашылі прапанаваць Аленачцы самой выбраць, што яна захоча з іх цацак.

Усе вельмі здзівіліся, калі дзяўчынка паказала на старога Зайца. А калі маці даставала яго з паліцы, то расказала, што гэта была яе самая любімая цацка ў дзяцінстве, і шкада, што дзеці яе нават не заўважаюць. Таму яна з задавальненнем дорыць цацку Аленачцы, каб і для яе плюшавы Заяц стаў сапраўдным добрым сябрам.

З таго часу плюшавы Заяц зноўку стаў шчаслівым, бо яго вельмі палюбіла новая гаспадыня. Ды і сам Заяц таксама вельмі палюбіў Аленачку.

*Ліза ПЕРАВОЗЧЫКАВА,*
*7 клас, гімназія № 1, Барысаў*



## Асабовы займеннік

Было гэта вельмі даўно. У казачнай краіне Лінгвістыцы жыла-была чараўніца. Звалі яе Марфалогія. Разам са сваёй сястрой Фанетыкай яна кіравала гэтай краінай. Звычайна ўсе валадары вельмі адзінокія, хоць вакол іх і тоўпіцца незлічоная колькасць прыдворных, целаахоўнікаў, прыслугі ды падхалімаў...

Марфалогіі таксама было б вельмі самотна, калі б не яе дзеці — часціны мовы. Кожная з іх мела свае абавязкі.

Старэйшым быў Назоўнік. Ён штодзень уставаў на досвітку і браўся за работу. Назоўнік вельмі ганарыўся тым, што амаль ніводны сказ не можа абысціся без яго, таму і задзіраў нос, лічачы сябе адметным, важнейшым за іншых. З гэтае прычыны ён часта сварыўся з братам Дзеясловам, які таксама пачуваў сябе самым-самым, лепшым нават за старэйшага брата.

Амаль кожны вечар Назоўнік і Дзеяслоў спрачаліся:

— Я галоўны, бо я абазначаю прадмет! — крычаў першы.

— А што твой прадмет без дзеяння? — распыляўся другі.

— Супакойся і ўспомні, чыё дзеянне ты абазначаеш?

— І тым не менш — я галоўны, што б ты там сабе ні думаў! — лемантаваў Дзеяслоў.

Іншы раз браты нават за чубы хапаліся, і тады ўсе астатнія часціны мовы расцягвалі іх у розныя бакі.

Трэці брат, Прыметнік, у спрэчку старэйшых не ўступаў, жыў ціха, у згодзе з Назоўнікам, пабойваўся і недалюбліваў Дзеяслова, таму ніколі не меў з ім аніякіх спраў. Прыметнік аддана абазначаў прыметы назоўніка і быў вельмі задаволены сваім жыццём.

А вось самы малодшы вылучаўся адметнасцю, быў не падобны да іншых. Нават імя ў яго доўга не было. Маці Марфалогія прыставіла немаўля да Назоўніка, каб тое вучылася ў старэйшага розуму.

Спачатку Назоўнік дужа зарадаваўся: «Вось які я разумны, да мяне нават вучыцца ідуць!» Але хутка радасць прайшла. Пачаў Назоўнік злавацца на брата, маці скардзіцца:

— Што ж гэта такое?! Не паспела ў гэтага выскачкі малако на вуснах высахнуць, а ён ужо намагаецца замест мяне ў сказ улезці, маё месца заняць, замест майго імя выступае! Займеннік! Займеннік брыдкі! Сам жа нічога з сябе не ўяўляе! Толькі і дзяўбе адно: Я, ТЫ, МЫ, ВЫ, ЁН, ЯНА, ЯНО, ЯНЫ! Бач ты, асоба важная! ЗАЙМЕННІК! АСАБОВЫ ЗАЙМЕННІК!

З лёгкай рукі Назоўніка і пачалі малодшага брата клікаць Займеннікам.



Канчаткова раззлаваўшыся на тое, што апошні выціскае яго са сказа, Назоўнік, калі маці Марфалогія некуды адхінулася, прагнаў Займенніка ад сябе і стаў працаваць адзін.

З гэтага атрымалася вось што: кніжкі стала нецікава чытаць. Ляжалі яны на паліцах, пакрываліся пылам. Занепакоілася Марфалогія і ўгаварыла старэйшага сына папрасіць прабачэння ў пакрыўджанага Займенніка, зноў прыняць яго ў тэксты. Паслухаўся маці ўпарты Назоўнік, хоць і вельмі цяжка было яму паступіцца сваімі прынцыпамі. Ды толькі маці ніколі сваім дзецям нічога дрэннага не параіць, таму яны заўсёды павінны яе слухацца!

З таго часу ўсе часціны мовы сталі жыць у згодзе і сяброўстве. І кніжкі больш не залежваліся на паліцах.

*Аляксандра БЕЛАЯ,*
*7 клас, Крывіцкая СШ, Мядзельскі раён*

## Кот Чарныш

Жылі на свеце дзед і баба. Жылі бедна. Дзед хадзіў на паляванне, баба лавіла рыбу.

Аднойчы дзед знайшоў у лесе ката, які быў чорны-чорны, бы цёмная ноч. І загаварыў той кот з дзедам па-чалавечы: «Дзеду, вазьмі мяне ў хату, прытулі, кармі рыбай, і я табе шчасце прынясу».

Здзівіўся стары, але ўзяў ката. Прынёс яго дадому, пасадзіў на печку і стаў бабу чакаць. Прыйшла тая, дзед ёй расказаў усё, як было, і баба прамовіла:

— Жыві, каток, у нас, еш рыбу, будзеш нам за сына, а імя табе дадзім Чарныш.

Так і сталася.

А ў хуткім часе захварэла дачка цара. Паклікаў ён дактароў з усяго свету, паабяцаў ім за лячэнне любімай дзяўчынкі паўцарства і выкананне любога жадання. Але царэўне лепей не станавілася...

Тады кот папрасіў дзеда з бабай адпусціць яго да цара. Яны дазволілі, і Чарныш пабег у палац. Прыбег і сказаў цару, што царэўна паправіцца, калі ён, Чарныш, правуркоча ёй на вуха сваю песеньку.

Паверыў цар кату, дазволіў яму для хворай царэўны песеньку сваю праспяваць...

Як сказаў Чарныш, так і адбылося. Царэўна выздаравела, а цар спытаў, чаго кот хоча за гэта. А той папрасіў толькі, каб царэўна на развітанне яго пацалавала.

Як толькі царэўна выканала просьбу ката, Чарныш адразу ж ператварыўся ў прыгожага юнака і прызнаўся дзяўчыне, што ён царэвіч з суседняй краіны і быў ператвораны ў ката злым ведьмаком. А яна сваім пацалункам зняла з яго тыя чары.

Царэвіч адразу ж закахаўся ў царэўну і яна таксама яго пакахала. А ў хуткім часе цар зладзіў вяселле. Царэвіч паклікаў жыць у палац дзеда з бабай, і тыя згадзіліся.

Усе сталі жыць-пажываць і дабра нажываць.

*Даніла ЛАТОШ,*
*6 клас, СШ № 1, Лагойск*



## Маленькія чараўнікі

Сярод шырокіх палёў, бязмежных лугоў, зялёных лясоў прытулілася да ракі маленькая вёсачка. А ў той вёсачцы, ва ўтульным дворыку з роўнымі дарожкамі і рознакаляровымі клумбамі, знаходзілася школа. Кожную раніцу запаўнялася яна звонкімі галасамі дзяцей. Спакойныя і гарэзлівыя, гаварлівыя і маўклівыя... але як толькі залівісты званок пакліча дзетак на ўрок, у класе адразу ж пануе цішыня. Бо зараз парог перaступіць яна, іх любімая настаўніца.

Цёплы позірк, ласкавы голас — усё гэта напаўняла школьныя ўрокі такой пяшчотай і дабрынёй, што нават самыя непаслухмяныя вучні супакойваліся. У вачах настаўніцы свяцілася радасць, бо ёй падабалася працаваць з гэтымі старраннымі дзеткамі.

Але аднойчы раніцай дзеці заўважылі: штосьці не так. І настаўніца тая ж, і голас па-ранейшаму ласкавы, і позірк лагодны, але ў вачах перастала свяціцца радасць.

Спачатку дзеці падумалі, што настаўніца проста незадаволена іх вучобай, і сталі яшчэ больш стараннымі, паслухмянымі, дапытлівымі. Але вочы настаўніцы ўсё роўна адбівалі смутак.

Тады дзеці звярнуліся да феі, якая жыла непадалёку:

— О паважаная фея, дапамажы нам вярнуць радасць нашай настаўніцы. Ты ўсё можаш, мы ведаем.

Фея ўздыхнула і сказала:

— Мілыя дзеці, мне таксама падабаецца ваша настаўніца. Але я нічым не магу ёй дапамагчы. Злы чараўнік зрабіў так, што сын настаўніцы ніколі не зможа размаўляць альбо чытаць кніжкі. І мацярынскае сэрца будзе балець да той пары, пакуль хтосьці з вас не захоча падарыць сваю здольнасць размаўляць і чытаць гэтаму хлопчыку.

Дзеці ў адзін голас закрычалі:

— Я аддам! І я таксама!

Але фея іх перапыніла:

— Але ў кожнага з вас ёсць бацькі, што стане тады з імі?

Задумаліся дзеці, засмуціліся. А фея ўсміхнулася і сказала:

— Вось вы і здзейснілі цуд, дзеці. Ніякі чараўнік не справіцца з цяплом вашых сэрцаў, з той радасцю, якую вы толькі што падарылі сыну вашай любімай настаўніцы!



А раніцай, калі дзеці прыйшлі ў школу, на школьным падворку іх сустракала настаўніца. Цёплы позірк, ласкавы голас, а ў вачах... Ніколі ў гэтых вачах не было столькі радасці!!!

*Віка ЦЯРЛЕЦКАЯ,*
*8 клас, Фядорская СШ,*
*Столінскі раён*



## Як Воўк і Лісіца перапалохаліся

Павячэраўшы падсмажанай курыцай, Лісіца з Ваўком пайшлі адпачываць. Лісіца прымасцілася на печы, а Воўк падаўся спаць у сенцы. Але толькі ён заплюшчыў вочы, як раптам пачуўся грукат у дзверы. Воўк спачатку падумаў, што яму здалося, але грукат паўтарыўся: бам-бам-бам. У Ваўка аж зубы заляскалі ад страху. Пабег ён хутчэй да Лісіцы:

— А мая ж ты кумачка, Лісачка, прачніся хутчэй! Там нехта ў дзверы моцна грукае. Мабыць, гэта Мядзведзь прыйшоў пакалаціць нас за той мёд, што мы ў яго на мінулым тыдні скралі.

Лісіца, прыгрэўшыся на печы і не жадаючы вылазіць з-пад цёплай коўдры, пазяхнула і сказала:

— Гэта ты, напэўна, пераеў. Я ж бачыла: ты большую палову куркі ўмяў, вось цяпер і заснуць не можаш. Будзеш другі раз ведаць, як маю долю хапаць.

І, перавярнуўшыся на другі бок, Лісіца засапла на ўсю хату, а Воўк, збянтэжаны, прымасціўся пад сталом, бо вельмі баяўся вяртацца зноўку ў сенцы.

Але толькі ён заплюшчыў вочы, як зноўку пачулася: бам-бам-бам. Воўк ад нечаканасці падскочыў ды як завые:

— Лісачка, прачніся, кумачка! Я ж баюся, каб з табой што не здарылася! Я ж за цябе хвалююся!

Лісіца расплюшчыла адно вока і таксама пачула грукат. Яна ўсхапілася з печы і кубарам скацілася на падлогу. Сядзяць Лісіца з Ваўком пад печчу, прыціхлі, толькі ў Ваўка зубы ляскаюць, а ў Лісіцы хвост аб падлогу б’ецца ад страху.

Нарэшце, вырашылі Воўк з Лісіцай схадзіць паглядзець, хто там грукае. Ціхенечка пракраліся ў сенцы і толькі хацелі адчыніць дзверы, як штосьці так моцна забарабаніла ў акно, што Воўк з Лісіцай не вытрымалі і, як шалёныя, кінуліся прэч з хаткі. І больш туды не вярнуліся, бо баяліся, што Мядзведзь усё сядзіць там і іх падпільноўвае...

З таго часу і не жывуць яны ў хатцы. Лісіца сабе нару вырыла, бо туды Мядзведзь аніяк пралезці не зможа, а Воўк наогул усю зімку па лесе халодным бадзяецца, ад Мядзведзя хаваючыся.

Аб тым забыліся і Воўк, і Лісіца, што восенню ў лесе вятры моцна бушуюць. Вось і тады не Мядзведзь, а вецер грукаў у дзверы, просячыся ў хатку. А Мядзведзь тым часам моцна спаў у сваім берлагу і казачныя сны бачыў...

*Настасся ФЕДАРЭЦ,*
*8 клас, Слабадская СШ, Мядзельскі раён*



## Самыя важныя




Насцечка прыбегла са школы, пакінула ранец у сваім пакоі, пераапранулася і пабегла гуляць да сябровак. А ў ранцы засталіся чатыры падручнікі: матэматыка, гісторыя, беларуская мова і беларуская літаратура. Надакучыла ім ляжаць без справы, і пачалі яны спрэчку. Матэматыка ганарліва заявіла:

— Я — царыца ўсіх навук. Мяне ведалі яшчэ ў старажытныя часы. Значыцца, я — найважнейшая!

— Не, я! — усклікнуў падручнік па гісторыі. — Я ўсё ведаю пра даўнія часы. Без мяне дзеці не дазналіся б, што рабілася тысячы гадоў таму.

— Нічога такога, я важнейшая за вас усіх, — вымавіла беларуская літаратура, — бо мяне стваралі таленавітыя пісьменнікі і паэты!

І тут раптам гучна засмяялася беларуская мова:

— Ды калі б не мае літары і правілы, літаратуры ў свеце не было б наогул, а ў падручніку па гісторыі засталіся толькі малюнкі! Каб не я, у матэматыцы не было б задачак, а толькі прыклады, але заданняў да іх таксама не існавала б.

Тут да спрэчкі далучыліся дзённік з пеналам:

— Я — самы галоўны! — крычыць дзённік. — Бо па маіх адзнаках можна даведацца, вучань выдатнік ці гультай!

— А я захоўваю ўсе прылады: ручкі, алоўкі, лінейкі і цыркулі! — даводзіць сваё пенал. — А без іх вучань не праявіць здольнасці, нічога не напіша і не накрэсліць.

Тут прыйшла Насцечка, дастала з ранца ўсе падручнікі, сшыткі, дзённік, пенал і пачала выконваць дамашнія заданні. Потым падышла маці, абняла дачку і сказала:

— Якая ты ў мяне разумніца. Будзь уважлівай і стараннай, выконвай заданні. Кожная навука асаблівая і цікавая, а з дапамогай падручнікаў ты даведаешся пра розныя падзеі і факты, вывучыш правілы і яшчэ шмат карыснага!

Тут падручнікі перасталі спрачацца, бо зразумелі, што кожны з іх па-свойму важны і неабходны, бо вучыць чаму-небудзь карыснаму.

*Андрэй ЖУКАВЕЦ,*
*8 клас, гімназія № 1, Старыя Дарогі*

*Малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ*

**● Зубронак**

# Тамтэйшы спеўнік — па-беларуску?



***Яшчэ не, але разам з вамі — магчыма! Абвяшчаем конкурс перакладчыкаў.***

Сярод шматлікасці традыцый нацыянальнага дзіцячага лагера «Зубронак» ёсць і традыцыя спеўная, а ў дадатак да яе — свой спеўнік. 11 тэкстаў, дарагі чытач, можаш знайсці на афіцыйнай старонцы лагера **www.zubronok.by**, там і музычныя запісы ёсць, і асобна далучаныя тэксты.

Увага, парада: перад тым, як ехаць адпачываць у «Зубронак», я думаю, не пашкодзіць некалькі з іх альбо вывучыць, альбо прыгадаць — калі хто не першы раз едзе. Потым прыдасца!

Усе спевы пададзены на рускай мове апрача адной — «Нарачанкі», але лагер наш «Зубронак» усё ж такі нацыянальны, а не міжнародны статус мае, дык і, здаецца, не стае яму спеваў па-беларуску. Прыедуць госці з іншых краін у лагер да беларусаў, а смак беларускай мовы ці змогуць па гэтых спевах адчуць?

Вось і вырашыла я, дарагі чытач, табе прапанову зрабіць: а што, калі б гэтыя песні ды паспрабаваць на беларускую перакласці, а раптам добра атрымаецца?

Конкурс перакладчыкаў працягнецца ад выхаду гэтага нумара і да Новага года. Можаце дасылаць свае варыянты на нашу скрыню **bjarozka@mail.ru.** Лепшыя пераклады будуць апублікаваны.

*З радасным чаканнем — ініцыятар конкурсу,*
*рэдактар аддзела школьнага жыцця*
***Аксана ЮЧКАВІЧ***



● **Літаратурныя старонкі**

Алена МАСЛА

# Жахліва-вясёлыя гісторыі, або Прыгоды легендарнага Цмока

***Гісторыя пра тое, як у аднаго Хлопчыка з'явілася паштовая скрыня для электроннага ліставання***




Гэта казачная гісторыя пачалася не за сінім морам, не за шырокім долам, не ў трыдзявятым царстве і не за часамі цара Гароха. Што праўда, то праўда: у тых мясцінах і за тым часам столькі чарадзейства і розных прыгод адбылося — да гэтай пары казачнікі перабаяць не могуць. Некаторыя людзі нават лічаць, што даўней, калі кісель у рэках з малочнымі берагамі быў смачнейшым, героі — больш гераічнымі, боты-хуткаходы бегалі шпарчэй за сучасныя аўтамабілі, а дываны-самалёты, у адрозненні ад звышхуткасных, лёталі і не псаваліся, — дык вось тады ўсе казкі і былі, тады ж усе і скончыліся.

Але ў тым-та і фокус, што казка жыве сама па сабе, незалежна ад таго, хто там што пра яе думае. І, здараецца, пачынаецца яна ў сённяшнім дні з нейкай зусім звыклай драбязы.

Вось, да прыкладу, скажыце, каго здівіш сёння электроннай поштай? Сядзяць людзі за камп'ютарамі ў розных месцах зямлі ды за імгненне адно аднаму лісты дасылаюць.

Але ж у аднаго Хлопчыка, які з Мамай, Татам, Старэйшым Братам і сваёй любімай бабуляй Ружай жыве ў Менску*, якраз і не было электроннай скрыні.

## Неабходная даведка*

***Галоўны герой гэтай гісторыі, пан Цмок, настойвае, каб горад зваўся падаўнейшаму — Менск, а не Мінск — бо так яму больш звыкла. Кажа, гэтае месца так звалася яшчэ ў часы, калі ён паўз яго лётаў да Серабранкі — срэбра браць, захаванае некалі прапрадзедам, Цмокам Дванаццацігаловым. І не істотна, як шмат у свеце ад той пары змянілася, і сама Серабранка стала часткай вялікага Менска. Пан Цмок за тое, каб трымацца гістарычнай праўдзівасці.***

Камп'ютар у іх сям'і быў, але Хлопчыку Мама дазваляла толькі два разы на тыдзень да яго падыходзіць і гуляць — нядоўга! — у якую-небудзь гульню. Астатні час ён вучыўся, бавіўся на двары, займаўся ў секцыях па каратэ і шахматах, ездзіў маляваць у выяўленчую студыю, а таксама чытаў кнігі. І хаця імкнуўся зразумець Маму, якая паўтарала, што доўгае сядзенне ля камп'ютара пагаршае здароўе, усё ж марыў займець сабе электронную пошту. Ведама: адна справа — з сябрам Максімам размаўляць па дарозе дадому са школы, і зусім іншая — напісаць яму ліст праз камп'ютар. Скажам, такога зместу: «Прывітанне, Максім! Я ўжо ў кватэры. А ты? Патэлефануй мне, дамовімся, калі на вуліцу пойдзем». Пагадзіцеся, што такую важную інфармацыю можна перадаць толькі праз электронную пошту.

Можа, гараваў бы наш Хлопчык і сёння, каб не яго Цётухна. Яна вельмі любіла свайго пляменніка і аднойчы заступілася за яго перад строгімі бацькамі. «Дайце вы яму ахвотку сагнаць, — сказала яна ім. — А то хлопец камп'ютарам трызніць».

Мама і Тата падумалі-падумалі ды паслухаліся Цётухну. Вырашылі, што лепей забараніць хлопчыку есці тварог, які ён дужа не любіць. Раптам ад забароны апетыт да яго з'явіцца? А ліставацца яму дазволілі па дваццаць хвілін на дзень — час, не катастрафічны для здароўя.

Старэйшы Брат дапамог Хлопчыку зарэгістраваць электронны адрас. І, натуральна, першы ліст, які Хлопчык напісаў, адрасаваўся Цётухне. «Прывітанне, дарагая Цётухна. Мне каля камп'ютара можна быць толькі 20 хвілін. Адказвай хутчэй! Пакуль!»

Хлопчык напісаў увечары, перад тым, як класціся спаць. Ніхто не стаў зважаць на тое, з якім нецярпеннем чакаў ён адказу. Мама строгім голасам нагадала, што, калі камп'ютар будзе ствараць праблемы, Хлопчык яго больш не пабачыць. І Хлопчык мусіў ісці ў ложак.

Спачатку ён доўга не мог заснуць з-за думак, ці правільна ўсё зрабіў і ці дайшоў той ліст Цётухне. Назаўтра ён адседзеў на занятках у школе, пасля адзаймаўся на ўсіх сваіх секцыях і выступіў з вершам на ранішніку, забіў гол у вароты каманды з суседняга двара, а яны ім — тры, пад'еў тонкіх мучных бліноў, напечаных бабуляй Ружай (і нават пакаштаваў тварагу), і толькі тады яму дазволілі сесці да камп'ютара. А там!..

Уласна, там пачыналася тое, чаго яшчэ не адбывалася нідзе і ні з кім. Ліст прыйшоў з адраса яго Цётухны. А вось пісалася ў ім…

Чакайце, усё па парадку!

## Ліст ПЕРШЫ — ад ЦМОКА. А таксама Гісторыя пра шкоду нялётнага надвор'я і непрыемнасці з прыемнасцямі, якія праз яго здараюцца

Прывітанне, Хлопчык!

Адкуль я цябе ведаю? О, я такі разумнік, такі спрытны, такі ўвішны і легендарны — што я ведаю усё! Ці амаль што ўсё. Хаця, канешне, хутчэй усё, чым амаль… Карацей, пра цябе я ведаю таксама. Зараз патлумачу, адкуль. Ды ад тваёй Цётухны, ад каго ж яшчэ!

Ляцеў я сёння раніцай над Серабранкай, акурат у Лошыцкім парку хацеў прызямліцца, паглядзець мясціны, дзе даўней родзіч мой, Свіслацкі Цмок, любіў адпачыць, пад месяцовым святлом апаляцца… І ўжо бачыў я шаты дрэваў у Лошыцкім парку, і ўжо нават зніжацца пачаў, як раптам — трам-тарарам! — урэзаўся ў нешта каменнае ўсімі сваімі галовамі. Дарэчы, сіноптыкаў не паслухаўся, а папярэджвалі ж: нялётнае надвор'е!.. Апошняе, што бачыў перад сабой, вялікую пухнатую хмару.

Колькі часу мінула — не ведаю. Апрытомнеў — на Сярэдняй Галаве гуз, як тое яйка, на Левай — зуб зламаны. Правая, яна заўжды нейкая больш асцярожная, дык толькі падрапалася (але пасля, дарэчы, галасіла, што ёй больш за ўсіх перапала)! Дык вось: ляжу я з усімі сваімі галовамі ў нейкай люльцы, падвязанай да высачэзнага хмарачоса, хвастом раўнавагу трымаю, каб з той люлькі не выкуліцца, аж раптам…

Раптам адчыняецца акно, і такая ладная пані — бландзінка ў целе, проста ягадка, а не пані, красачка, а не бландзінка, проста піражок (так і з'еў бы!). Адчыняе гэта яна мне акно і кажа:

— Эх, як жа вам не задалося, пан Цмок! Гэта хмара вінаватая, бо верхнія паверхі часцяком сабой прыкрывае. За ёй вы, пэўна, і не пабачылі нашага хмарачоса. Ну, ды нічога. Заходзьце хуценька, зараз вашыя раны апрацую, кавай вас напаю і пабягу: я да доктара спяшаюся! А вы тым часам у сеціве пасядзіце, мяне дачакаецеся. Інтэрв'ю з вамі зрабіць жадаю. Такога яшчэ свет не бачыў, каб Цмок у гарадскую кватэру завітаў! Толькі ўперад да доктара, з гэтым строга, бо інакш бальнічны ліст не закрые — на працы непрыемнасці будуць.

Я і апомніцца не паспеў, як сядзеў ужо ў мяккім фатэлі, гузак і драпіны былі абмазаны нейкім духмяным шмуравідлам з зёлкамі, на зламаны зуб пакладзена пігулка анальгіну, а на століку дыміліся тры вялізныя кубкі з чорнай кавай! Да іх на падносе былі пададзены: сыр, булачкі, слоік сочыва, вяндліна, цукеркі і цэлы пакунак тлустых вяршкоў!

Пакуль гаспадыня завіхалася і, здавалася, зусім не дзівілася майму з'яўленню, Левая Галава падступна шапнула:

— Бач ты, як людзі распусціліся, зусім страх згубілі! Вось бы цапнуць гэту пані за правае сцягно (вунь яно ў яе якое кругленькае, грэх нат не ўхапіць!) — адразу б смеласць сваю згубіла!

— Чаму ж за правае? — абурылася Правая Галава. — Можна і за левае, вялікай розніцы няма!

— Цыц! — крыкнула на іх Сярэдняя Галава. — Хіба не чулі, што пані да доктара збіраецца? Значыць, хварэе. А хварэе — значыць, лекуецца. А вы хіба не ведаеце, як сучасныя людзі лекуюцца, якое рознае паскудства, якую хімію п'юць? Патруціцца захацелі? Ды і нявэтліва так — яна нас, можна сказаць, ратавала, а мы яе — есці. Каву піце, нягоднікі!

Прысаромленыя галовы паслухмяна засёрбалі каву з кубкаў.

— Так, — зазірнула ў вітальню гаспадыня, — пан Цмок, я пайшла. Сеціва працуе, можаце глядзець, што пажадаеце. Адно прашу — не выторквайцеся з акна. Усё ж у мяне высокі паверх. Скуліцеся — галовы зноў паб'яце. Я праз гадзінку буду, тады як след вас пакармлю, качку з яблыкамі засмажу, — і пані адчыніла дзверы. — Ах, яшчэ забылася сказаць. Калі пабачыце ў вокнах



людзей у люльках — не палохайцеся. Гэта ў нас дом уцяпляюць, у спецыяльнае футра апранаюць. Вось будаўнікі-верхалазы па ўсім доме на люльках і коўзаюцца. Адна такая люлька вас, дарэчы, і ўратавала. Дык вы ўжо, зрабіце ласку, яшчэ і таму не выторквайцеся, каб будаўнікоў не напалохаць. І есці іх таксама не трэба, — строга прыгразіла яна пальчыкам Левай Галаве, — будаўнікоў у нас недахоп. Зацягнецца рамонт — жыхары дома будуць незадаволеныя, — дадала і знікла за парогам.

Каб цябе ліха! Пачула, аднак жа, шыпенне Левай Галавы гэта пані! Адна галава шыпела, а ўсім астатнім галовам сорам! Дасёрбалі каву, даелі ўсё, што было да яе пададзена.

— Бач ты, — летуценна сказала Правая Галава, — нават такая непрыемнасць, як аварыя ў нялётнае надвор'е, можа абярнуцца такім прыемным знаёмствам і смачным сняданкам!

На знак згоды Сярэдняя і Левая Галовы сыта зарохкалі і ўперыліся вачыма ў экран камп'ютара.

А там, Хлопчык, была адкрыта пошта з тваім лістом! Пішам табе і чакаем прыходу гаспадыні. Вельмі ўжо хочацца качкі з яблыкамі! А яшчэ хочацца даць інтэрв'ю! А найбольш — калі ўжо па шчырасці — хочацца зноў пабачыць тваю смелую Цётухну. Праўда-праўда, такіх больш за свой доўгі век ні разу не бачыў. Кабетам жа чарвяка пакажы, ці, да прыкладу, мыш або жабу — віскату наробяць такога, што бяды не абярэшся!

А то цэлага Цмока пабачыла — і хоць бы сабе што!..

І не толькі пабачыла, але і ратавала...

Ды яшчэ кавай напаіла...

Інтэрв'ю возьме...

У кватэры незнаёмца пакінула аднаго...

***Слухай, Хлопчык, хто твая Цётухна?!***

Раздумаўшыся над ейнай адвагай, можа, варта ўцякаць?

Падкажы, Хлопчык!

***Гэта небяспечна — чакаць тваю Цётухну?*** Цмок.

*Працяг у наступным нумары*

● **Літаратурныя старонкі**

*Міхайла СЛАБАШПІЦКІ*

# Ці далёка да Афрыкі?

***Казка***

Сядзеў Слаўка на яблыні і думаў пра Афрыку. Там у рэчках плаваюць кракадзілы, ходзяць пад спякотным сонцам сланы, ястрабамі гойсаюць па гушчарах тыгры, леапарды і пантэры...

Вось там сапраўднае жыццё!

Тут, у двары, сакочуць сонныя куры, мэкае на прывязі каза і нудзіцца ў будцы Пірат.

Тут адна самота і нуда!

Тут нават яблыкі не хутка саспеюць. Чакай і выглядай таго дня, калі ўжо іх нарэшце можна будзе есці. А там, за тысячы кіламетраў, мабыць, цэлы год яблыкі спелыя-спелыя вісяць сабе на дрэвах. Афрыка ўсё ж!..

Слаўка журботна пазяхнуў і заёрзаў. Галінка пад ім імгненна трэснула і хлапчына паляцеў долу.

Прызямліўся ў кукурузе, ды яшчэ з кіслым яблыкам у зубах.

З перапуду моцна яго прыкусіў, і аж сківіцы ў хлопца звяло. Быццам ад халоднай вады. Так звяло, што аж застагнаў Слаўка. Ажно Афрыку сапраўдную пабачыў. І кракадзілаў, і тыграў, і леапардаў, і пантэр — усіх пабачыў...

А тут яшчэ і пабіўся балюча. Заплакаў бы, але навокал нікога няма, каб пашкадавалі. Як быў бы хто побач, то, магчыма, і слёзы пайшлі б. А так, што дарэмна ваду ліць...

Самому, без увагі гледачоў і без спадзявання на спачуванне, чамусьці ніколі не хочацца плакаць.

Ляжаў у кукурузе, ажно пакуль пабітае месца не перастала балець і аскоміна з зубоў і сківіцы не сышла. І Афрыка яму ўжо не ўяўлялася. Ціха пагойдвала голлем яблыня, шапацела кукуруза. І пад гэтае шапаценне Слаўка задрамаў.

Разбудзіў яго голас Пірата.

Ён сярдзіта на некага гаўкаў.

Слаўка выпаўз з кукурузы і пайшоў на двор.

У веснічках стаяла незнаёмая жанчына.

— Гэта ты — Слаўка Бондар?

— Так.

— А я буду ў цябе настаўніцай. Мяне завуць Ганна Якаўлеўна.

Слаўка ведаў, што восенню пойдзе ў школу. Але ён не ведаў, навошта прыйшла настаўніца.

— А вы што, задаяце ўрокі? — спытаў Слаўка.

— Не, — усміхнулася настаўніца. — Да ўрокаў яшчэ рана. Я хаджу і знаёмлюся з тымі, каго буду вучыць.

Слаўка ажно ў струнку выцягнуўся пасля гэтых яе слоў. Нават на дыбачкі прыўзняўся, каб паказацца вышэйшым. Бо запераджываў, каб настаўніца не сказала: рана яшчэ ў школу. Такі ён ужо сярдзіты на сябе, што памалу расце. Самы нізкі ў дашкольнай групе. Але настаўніца не сказала, што Слаўка яшчэ малы.

— Хочацца вучыцца? — запыталася.

— Вельмі хочацца.

— А чаму вельмі хочацца?

— Бо ўсе мае сябры пойдуць у першы клас...

— І толькі з-за гэтага?

— Не толькі...

— Дык з-за чаго яшчэ?

Слаўка доўга думаў і адказаў:

— Бо ў школе пра Афрыку расказваюць.

— А цябе цікавіць Афрыка?

— Цікавіць, — адказаў Слаўка, і перад яго вачыма зноў паплылі ў рэчках кракадзілы, загойдаліся пад бліскучым, зіхоткім сонцам сланы, замільгацелі тыгры, леапарды і пантэры...

— Гэта вельмі добра, калі чалавека нешта цікавіць, — сказала Ганна Якаўлеўна. Сказала зусім па-даросламу. — А ты, як вырасцеш, Слаўка, можа быць, сапраўды некалі паедзеш у Афрыку...

— А да яе далёка? Да Афрыкі...

— Далёка, — адказала настаўніца і задумалася...

А пра што яшчэ яна думала, Слаўка не мог здагадацца.

— Да Афрыкі, хлопча, мусіць, гадоў з пятнаццаць твайго жыцця, — вымавіла Ганна Якаўлеўна словы, якіх ён зусім не зразумеў.

Ужо калі настаўніца пайшла, Слаўка пашкадаваў, што не спытаў, як гэта разумець.

Ён зноў залез на дрэва і думаў пра далёкую Афрыку.

А яго вусны раз за разам паўтаралі: «...гадоў з пятнаццаць твайго жыцця...»

Можа, вы падкажаце Слаўку, што значаць тыя загадкавыя словы настаўніцы?

***Пераклад з украінскай Алеся КАРЛЮКЕВІЧА***





● **Псі-факторыя**

# Сакрэты добрых узаемаадносін з настаўнікамі

Напэўна, ты не раз задумваўся пра свае ўзаемаадносіны з настаўнікамі. Яны ж маглі б быць і лепшымі, ці не так? І ты ведаеш, што дрэнным адносінам паміж вучнем і настаўнікам адпавядаюць не самыя лепшыя адзнакі... А калі паміж вучнем і настаўнікам сяброўства і ўзаемаразуменне — хочацца цягнуць руку, адказваць ля дошкі і нават рабіць хатняе заданне.

І наадварот, пасля канфлікту з настаўнікам не хочацца ісці на яго ўрок, не кажучы пра тое, каб вучыць прадмет на выдатна.

Як жа пазбегнуць канфліктаў і непаразуменняў з настаўнікам? Як зрабіць так, каб ён змяніў сваё меркаванне пра цябе ў лепшы бок, нават калі ты меў неасцярожнасць правініцца, напрыклад, пару разоў «забыўся» пра хатняе заданне альбо наогул прыйшоў на ўрок непадрыхтаваным? Як палепшыць у такім разе свае адносіны з настаўнікам?

Лёгка!



*Святлана СІТНІК.*

## Прытрымлівайся правілаў!

У любым грамадстве, куды б ты ні патрапіў, існуюць агульнапрынятыя правілы зносінаў. Незахаванне гэтых правілаў можа прывесці да не зусім прыемных наступстваў для парушальніка. Напрыклад, калі пастаянна перапыняць субяседніка, то, хутчэй за ўсё, ён неўзабаве знойдзе сабе іншага слухача. Грубасць выклікае грубасць, у адказ на пагардлівасць і непавагу мы таксама атрымаем мора негатыву. Чалавека, які пастаянна незадаволены жыццём і скардзіцца на ўсё і ўсіх, стараюцца абыходзіць бокам. Калі ты хочаш добрых адносінаў — прытрымлівайся простых правілаў этыкету. Гэта не складана.

Некаторыя вучні, да прыкладу, любяць размаўляць падчас урока. Так яны, па-першае, перабіваюць таго, хто ў гэты час гаворыць (таго ж настаўніка), па-другое, дэманструюць няўважлівасць да яго і да тых ведаў, якія настаўнік

спрабуе перадаць вучням. А ў адказ на заўвагу такія вучні могуць і агрызнуцца... а потым, на перапынку, скардзяцца на несправядлівы запіс у дзённіку альбо заніжаную (па іх меркаванні) адзнаку. Але ж усё гэта — адпаведныя наступствы неэтычных паводзін.

«Пастарайся адносіцца да людзей так, як хочаш, каб яны адносіліся да цябе» — мудрасць, правераная часам. Успамінай яе на ўроках — гэта дапаможа табе пазбегнуць непрыемных сітуацый ва ўзаемаадносінах з настаўнікамі. Вазьмі аркуш паперы і напішы, як бы ты жадаў, каб да цябе ставіліся настаўнікі. Напрыклад, ты хочаш, каб заўважалі твае здольнасці, паважалі тваё меркаванне, слухалі, не перабіваючы, не асуджалі цябе за стыль адзення, былі справядлівымі да цябе...

Складзі таксі спіс сваіх пажаданняў. Ён неабходны не для таго, каб потым прад'яўляць яго, напрыклад, настаўніцы геаграфіі. Паглядзі на яго ўважліва — гэта тое, што ты павінен зрабіць сам у адносінах да сваіх настаўнікаў.

## Праяўляй зацікаўленасць!

Калі ў цябе ёсць нейкае захапленне: футбол, напрыклад, ці камп'ютарныя гульні, табе прыемна, калі хтосьці падзяляе гэтае тваё захапленне ці проста праяўляе цікаўнасць да твайго хобі. Настаўнікі (за рэдкім выключэннем) любяць прадметы, якія выкладаюць. І ім таксама будзе прыемна, калі ты праявіш цікаўнасць да гістарычных падзей ці, скажам, хімічных злучэнняў.

Калі ты бачыш зацікаўленасць у вачах другога чалавека, як ты да гэтага адносішся? Зразумела ж, вельмі станоўча. Вывад? Хочаш добрых адносін з настаўнікам — праяві інтарэс да прадмета, які ён выкладае. Бо ў любой, нават самай, на першы погляд, нецікавай навуцы, заўсёды можна знайсці што-небудзь цікавае. Бо, калі б гэтага цікавага не было, які вучоны стаў бы вывучаць і развіваць гэтую суцэльную нудоту?

Як ты можаш праяўляць цікаўнасць да прадмета, каб твая настаўніца гэта заўважыла? Па-першае, своечасова выконваць хатняе заданне і здаваць яго ў тэрмін. Не лянуйся брацца за творчыя заданні — дарэчы, гэта добры спосаб атрымаць выдатную адзнаку. Па-другое, часцей задавай пытанні, удакладняй, а слухаючы адказы, згаджайся і злёгку ківай галавой: «Так, так, зразумела, вы маеце рацыю! Я поўнасцю з вамі згодны!»

Уважліва слухай настаўніка (альбо хоць выгляд рабі, што слухаеш!) Калі слухаеш — глядзі на настаўніка, а не ў акно. Навошта гэта патрэбна — ты зразумееш, калі правядзеш невялікі эксперымент са сваім сябрам альбо братам (сястрой), маці (бацькам). Сядзьце насупраць адно аднаго. Папрасі свайго субяседніка адвярнуцца ўбок (хай, напрыклад, ён разглядае шпалеры на сцяне ці фіранку на акне), і раскажы яму цікавую гісторыю, якая калісьці з табой адбылася. Паспрабуй — і ты зразумееш, як цяжка і непрыемна казаць, у той час, як твой субяседнік глядзіць не на цябе, а кудысьці ўбок.

Беражы свайго настаўніка — слухай яго ўважліва... ну, а ён, у сваю чаргу, гэта абавязкова заўважыць. І аднойчы пабераже твой дзённік ад заўвагі ці дрэннай адзнакі...

 

## Пазбягай канфліктаў

Ніякіх спрэчак, тым больш сварак з настаўнікам! Асобныя вучні лічаць прэстыжным нават паказаць сваю «крутасць» перад аднакласнікамі, калі пачынаюць спрачацца з настаўнікам на павышаных танах, адстойваючы свой пункт гледжання альбо нават спрабуючы навязаць настаўніку сваё меркаванне. Яны вельмі рызыкуюць, таму што могуць атрымаць адваротны вынік. Так, адна дзяўчынка 14-ці гадоў стала прад'яўляць свае прэтэнзіі да настаўніка гісторыі, лічачы, што ён заніжае ёй адзнакі. Тады настаўнік адразу ж выклікаў яе адказваць параграф. Высветлілася, што дзяўчынка вельмі дрэнна была падрыхтавана да ўрока і, вядома ж, атрымала яшчэ адну дрэнную адзнаку.

На наступным уроку канфлікт вучаніцы з настаўнікам атрымаў працяг... і, як вынік, у журнале з'явілася двойка. Так працягвалася некалькі ўрокаў, і кожны раз класны журнал насупраць прозвішча дзяўчынкі «папаўняўся» незадавальняючымі і дрэннымі адзнакамі. Потым надышоў канец чвэрці. І толькі тут наша «крутая» вучаніца апамяталася і зразумела сваю памылку. Цяпер яна ходзіць следам за настаўнікам і са слязьмі вымольвае ў яго магчымасць адказаць і выправіць свае адзнакі. О, гэта было вартае жалю відовішча!

Таму памятай: школа — не месца для войнаў паміж вучнямі і настаўнікамі. Мы прыходзім у школу дзеля таго, каб атрымаць веды, а настаўнік — каб гэтымі ведамі з намі падзяліцца. Магчыма, табе хочацца паказаць свой характар ці прадэманстраваць сваю смеласць перад аднакласнікамі. Для гэтага ёсць іншыя месцы — спартзал, да прыкладу. Настаўнік — чалавек мудры, вопытны, з нямалымі ведамі ў запасе — ён можа аказацца і разумнейшым, і хітрэйшым за цябе. Таму будзь асцярожным ды памятай, што лепш пазбегнуць канфлікту, чым потым пакутваць ад яго наступстваў.

Цяпер у цябе ёсць веды, якія дапамогуць табе ў адносінах з настаўнікамі. Але гэта быў толькі вусны ўрок — так сказаць, тэорыя. Надышоў час практычных заняткаў — дзейнічай, паважай сваіх настаўнікаў, цікаўся вучобай і не спрачайся па дробязях.

***Святлана СІТНІК, псіхолаг***



**● Настаўніцкая на праслушцы**

# Чым вучні настаўнікаў раздражняюць

*Інтэрактыўны праект новай «Бярозкі»!*
*Штомесяц з 2015-га!*
*Каб чытаць заўсёды, трэба падпісацца!*
*Індэкс: 74879.*

***Аднойчы мяне папрасілі прыйсці ў настаўніцкую, паставіць там дыктафон і запісаць, пра што гавораць настаўнікі.***

***Але ж было лета, і настаўніцкія не працавалі.***

***Тады я вырашыў запрасіць настаўнікаў маладых і старэйшых ды зрабіць так, каб яны пагаварылі паміж сабой.***

***Дзе ўзяць старэйшых? Вызваніць тых, якія яшчэ мяне вучылі!***

***А дзе малодшых? Го, дык у мяне палова ўніверсітэцкіх сяброў настаўнікамі працуе!***

***Старэйшыя настаўнікі ўсе як адзін не прыйшлі...***

***Так што суровы Віктар Лупасін у выніку сабраў настаўніцкую з трох сваіх сяброў: Сяргея Дубялевіча, Аксаны Ільіной і Бажэны Ганушкінай. Мы селі на ўтульныя канапы ў холе Нацыянальнай бібліятэкі і пачалі разважаць пра долю настаўніцкую і вучнёўскую.***

**А. І.:** У мяне так змянілася ўражанне: калі я была вучаніцай, я думала, што мае дасягненні, мае поспехі — гэта вынік працы настаўніка, а мае няўдачы — вынік маіх недапрацовак. Калі ж стала настаўніцай, я зразумела, што, магчыма, наадварот!

**Б. Г.:** Дазволю сабе не пагадзіцца, таму што любы поспех — гэта справа не аднаго чалавека, тым больш не справа аднаго вучня, таму што калі ты ўкладваеш у вучня душу, то і атрымліваеш больш поспехаў, чым у тым выпадку, калі проста назіраеш за тым, як ён рэалізуе сябе. А вось наконт няўдач — гэта, безумоўна, справа настаўніка, таму што альбо ты не змог раскрыць гэтага вучня, альбо пэўным чынам матываваць яго. Аднак і ў тым, і ў другім, выпадку гэта справа абодвух.

**С. Д.:** Вельмі было б добра, калі б гэта разумелі ўсе. Каб і бацькі так думалі, і вучні! Таму што цяпер ёсць такі спажывецкі пункт погляду, што калі штосьці дрэнна, то, значыць, настаўнік не навучыў: адказнасць з вучня ў нейкай ступені здымаецца. Гэта цалкам няправільна.

**А. І.:** Больш за ўсё раздражняе ў вучнях іх незацікаўленасць працэсам навучання, то бок калі я вучылася — магчыма, гэта была мая спецыфічная асаблівасць, але мне было лягчэй зрабіць хоць што-небудзь, каб атрымаць нешта адрознае ад двойкі. А цяпер вучням прасцей не рабіць нічога. Вельмі часта сустракаецца гэта нават у разумных вучняў. Мне сумна бачыць, калі вучань, які здольны на большыя вынікі, не імкнецца нічога для гэтага рабіць. Я разумею, што некаторым акадэмічная адукацыя нецікавая, яны праяўляюць сябе ў нейкіх іншых сферах. Але калі ты бачыш, што чалавек здольны паказаць больш, але не робіць гэтага, бо яго цікавасці далей гульняў на тэлефоне не заходзяць, то гэта... сумна насамрэч.

**С. Д.:** Я лічу, што самае дрэннае — гэта не тое, што чалавек чагосьці не ведае. Самае дрэннае — гэта агрэсіўнае, ваяўнічае няведанне. Нашто гэта наогул, маўляў, трэба, якая ад гэтага ўсяго карысць і гэтак далей. Я лічу, што ў пераважнай большасці выпадкаў вучань, які пачынае дыктаваць настаўнікам, як гэта прымяняць на практыцы і гэтак далей, — не чалавек з практычным складам розуму, а чалавек, якому не трэба нічога абсалютна, і ён прыдумляе сабе ўніверсальную адмазку. Агрэсіўнае няведанне, прынцыповае нежаданне ўспрымаць нейкую інфармацыю, апроч вельмі абмежаванай і самай прымітыўнай, — гэта самае дрэннае, я лічу. Калі чалавек чагосьці не ведае ці нават лянуецца, гэта не самае дрэннае.

**Б. Г.:** Я раптам задумалася: нягледзячы на тое, што рамантычны арэол маёй прафесіі ўжо даўно знік, я раптам зразумела, што мяне больш за ўсё раздражняе вузкая скіраванасць сучасных вучняў. Таму што, пачынаючы дзесьці з сёмага-восьмага класа (часцей у гімназіях), вучань абірае сабе адзін прадмет, рыхтуецца да алімпіяды па гэтым прадмеце, і яго не цікавяць іншыя бакі школьнага жыцця. І гэта актыўна падтрымліваецца. Калі ён юны хімік — лічыцца, што яму не патрэбна ведаць мову, калі матэматык — лічыцца, што яму не трэба ведаць хімію. Гэта сапраўды звужае кругагляд нашых дзяцей, таму раздражняе не толькі ў вучнях, але і ў самой сістэме.

**А. І.:** Раней я казала, што мяне раздражняе, калі вучні нічога не робяць для атрымання адзнакі, але калі вучань нешта робіць толькі для таго, каб атрымаць нейкую адзнаку, і калі ты чуеш пытанне: «А чаму дзевяць?» — ну гэта проста... *(смяецца)*. «А чаму дзевяць, я ж усё зрабіла?» Ну, ёсць такія добрыя вучні, якія звычайна добра робяць, добра працуюць, але, калі яны прывыкнуць да пэўнай адзнакі (асабліва ў маленькіх гэта сустракаецца часта), а потым ты яму ставіш «сем», нават не за кантрольную, то чуеш: «ЯК СЕМ?!» Во звер, во лютуе! *(агульны смех)*. Таксама не вельмі прыемна.

**С. Д.:** Што датычыцца такіх вось вузкапрофільных вучняў-алімпіяднікаў — так, гэтая праблема існуе, гэта праўда, але, канешне ж, у першую чаргу менавіта ў ліцэях і гімназіях, бо калі, дапусцім, такі во алімпіяднік у звычайнай сярэдняй школе вучыцца, то ён звычайна «шматпрофільны», бо робіцца ў кожнай бочцы затычкай, груба кажучы. А калі ўзяць такую навучальную ўстанову, дзе шмат алімпіяднікаў, то сапраўды — у адной вузкай галіне. Але да выхаду на горад — гэта не алімпіяднікі. Таму што для таго, каб прайсці на горад і заняць апошняе месца, амаль нічога рабіць не трэба. Па ідэі, калі чалавек кажа, што ён матэматык, то ў ідэале гэта павінна азначаць, што матэматыку ён ведае выдатна, матэматыкай ён займаецца заўзята, а астатнімі прадметамі ён займаецца нар-маль-на. Насамрэч атрымоўваецца так: матэматыкай ён хаця б як-небудзь займаецца, а астатнімі прадметамі не займаецца наогул. Гэта ў пераважнай большасці.

**Б. Г.:** На астатнія прадметы ён у лепшым выпадку ходзіць.

**С. Д.:** Цяпер з гэтай праблемай змагаюцца. Тое, што ўвялі сярэдні бал атэстата, гэта, канешне, нічога не вырашае, у вялікай ступені прафанацыя, але ж хаця б якіясьці намаганні трэба будзе прыкладаць. Так што ў плане вузкай накіраванасці — гэта не бяда сучасных школьнікаў, і з гэтым крыху спрабуюць змагацца.

**А. І.:** Я хацела б такую заўважыць дэталь: калі я была школьніцай, рыхтавацца з настаўнікам да алімпіяды было ганаровай справай, гэта было — ух! А цяпер ты падыходзіш да вучня, кажаш: ну, можа, пойдзеш на алімпіяду, а ён: «А што мне за гэта будзе? Можа, вы мяне адпросіце з заняткаў? Можа, вы мне дазволіце не пісаць нейкую працу?» То бок, гэта цяпер не гонар...

**С. Д.:** Гэта калі трэба заткнуць вакансію на раён. Сапраўдныя алімпіяднікі з такіх людзей не атрымліваюцца.

***З дыктафона Віктара ЛУПАСІНА***
***Пра што яшчэ размаўляюць настаўнікі, калі вучні іх не чуюць?***

***Даведайся на сайце* www.maladost.lim.by *(старонка «Бярозка»)***



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, у якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў
Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;
падпісная цана на 1 месяц — 56 200 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 22 900 руб.
Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 71 200 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.
Цана на 1 месяц — 16 200 руб.***


Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*

Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактары *Кацярына ГОЛУБ, Тамара САРАЧЫНСКАЯ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 09.09.2014. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,68. Тыраж 2118 экз. Заказ 2618. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.



**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**